Т-ВА „БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ“.

# РОДНЫ КРАЙ

## ТРЭЦЯЯ І ЧАЦЬВЕРТАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА КНІЖКА ДА ЧЫТАННЯ.

Уклала Л. ГАРЭЦКАЯ,
вучыцелька 1-ае Віленскае Беларускае Гімназіі.

Пад рэдакцыяй Я. Станкевіча

Цана 15

Друкарня «Віленскага Выдавецтва»
Б. Клецкіна, Вільня, М.-Сьцяпаноўская, 23.
1921.

# РОДНЫ КРАЙ

## ТРЭЦЯЯ І ЧАЦЬВЕРТАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА КНІЖКА ДА ЧЫТАНЬНЯ.

**Уклала Л. ГАРЭЦКАЯ,**
вучыцелька 1-ае Віленскае Беларускае Гімназіі.

Друкарня «Віленскага Выдаве́цтва»
Б. Кле́цкіна, Вільня, М.-Сьцяпаноўская, 23.
1921.



Я. Купала.

# Вучыся.

Вучыся, нябожа, вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожа,—
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай,
Нідзе́ і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, як цёмен ня будзеш.

Такая прынука, як праца й навука
Ці-ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І гора сваё зваяваці.

---

# Школа.

## I.

Ідучы па вуліцы, Міхась, сямігодні хлопчык, часта задзе́ржаваўся каля аднаго дома ў сяле́. Гэты дом быў шмат большы і вышэйшы за нізенькія мужыцкія дамкі і быў накрыты не саломаю, як усе́ будынкі, а гонтамі. Высокі ганак, на таўстых круглых слупох, значна выступаў ад страхі і таксама быў накрыты гонтамі. Вялікія сьве́тлыя вокны з бе́лаю шалёўкаю і такімі-ж вакенніцамі прыве́тна глядзе́лі на вуліцу. А над вокнамі, чуць не каля самае страхі, была прыбіта невялікая дошка. На дошцы стаялі не́йкія значкі роўненькім радочкам. Што гэта былі за значкі, Міхась ня ве́даў. Казалі, што гэта—літары, каторыя можа разьбіраць толькі той, хто будзе хадзіць у гэты дом, а дом той заве́цца школаю, і што літары гэтыя азначаюць цэлае слова. І Міхась усякі раз, як прахадзіў каля школы, чуў у сабе́ не́йкі страх, бо маці ня раз яго страшыла гэтаю школаю, як ён часамі пачне́ залішне гуляць у хаце.

— „Ось, хіба аддам я цябе́ ў школу!“—казала яна: „ось, ты там падурэеш—паадкручвае табе́ вушы вучыцель“.

А сябры яго, каторыя хадзілі ў школу, шмат расказвалі яму пра яе́ цікавага. Па іх расказу і школа і сам вучыцель зусім ня былі страшныя, як гэта пасьпе́ла ўжо злажыцца ў галаве́ Міхася. І ён сам на свае́ вочы бачыў кніжкі з усякімі маляванкамі, на каторых вучыліся хлапцы. Страх, як хаце́лася яму ме́ць гэткую кніжку. А як дастаць? Трэба йсьці ў школу: там толькі й можна дастаць кніжку. А дома пра школу і пра вучыцеля нагаварылі яму такіх страхаў, што Міхась, здалеку ўбачыўшы вучыцеля на вуліцы, бег, як мага, на гароды, у каноплі.

## II.

Прышла восень. Асыпалася лісьце з дрэў, агалілася зямля. Птушкі разьляце́ліся. Насталі кароткія туманныя асе́ннія дні.

Ў нядзе́льку, прышоўшы з царквы, сказаў Міхасёў бацька:

— „Заўтра пачынаецца вучэньне. Пара і нашаму Міхасю садзіцца за лемантар... Годзе, браце, табе́ бібікі біць, ганяць сабак па вуліцы, пара і за навуку“!

Апошнія словы бацька сказаў да Міхася.

Задрыжэлі ўсе́ жылкі ў Міхася. Цэлы рой думак разам пранёсься ў яго галаве́.

„Што-ж?“ падумаў ён сам сабе́: „вучыцца—дык вучыцца!“

Яму даўно хаце́лася ў школу, толькі баяўся ён вучыцеля, баяўся за свае́ вушы. Ён думаў, што ў школе яго пе́ршаю справаю абаб‘юць, як ката.

— „Тата! ці б'ецца вучыцель?“—папытаўся не бяз трывогі Міхась у бацькі.

— „Як будзеш дурэць у школе, ня будзеш слухаць вучыцеля, будзеш ленавацца вучыцца, то й будзе біць, дый я сам не пахвалю цябе́ за гэта“.ᶻ

„Ну, не, браце, дудкі!“ падумаў Міхась: „дурэць то я ня буду. А вось, старацца дык буду“.

І ў Міхася як каме́нь зваліўся з сэрца.

На заўтра ўстаў ён рана. Залапіла матка яго сярмяжку, ушыла гузікі; бацька справіў яму лапцікі.

Памыўся Міхась старанна, навет у вуха ўлажыў разы са два пальцы, каб выкалупаць адтуль гразь. (Бацька ня раз казаў яму, глянуўшы на яго вушы: „ну, брат, у цябе́ й вушы! хоць рэпу се́й!“).

Пасьне́даўшы на скорую руку і ўзяўшы ў адну кішаню лусту хлеба, у другую жме́ні тры гароху, Міхась памкнуўся ўжо йсьці.

— „Глядзі-ж, сынку“,—спыніў яго бацька,—„слухай вучыцеля, бо нявучоны—ўсё роўна, як сьляпы; а граматны чалаве́к нігдзе́ не прападзе́. Каб я з маткаю це́шыліся з цябе́... Дык глядзі-ж, сынку, ня траць дарма часу!“

Гэтыя простыя бацькавы словы разжалабілі Міхася, бо ў яго было добрае і мягкае сэрца.

У яго навет паказаліся на вочках сьлёзы...

Абцёршы твар рукавом сярмяжкі, ён вышаў з хаты і пабег у школу

## III.

Са страхам узышоў Міхась на ганак школы і нясьме́ла ўзяўся за клямку.

У школе яшчэ нікога ня бы о.

Школьная сьвятліца зд л ... Міхасю такім харастваом, што ён стаў пасярэдзіне і ня сьме́ў ступіць дале́й. Усё тут для яго было нова. Міхась азірнуўся і кашлянуў. Кожны куточак падхапіў яго кашаль і панёс па школе даўгім шумам. Міхась аж спалохаўся. Аслухаўшыся, ён кашлянуў яшчэ раз, ужо сумысьле, і йзноў па школе пайшоў шум. Міхась пасьмяле́ў. Ён падышоў да пе́чы. Высокая кахляная пе́ч хораша прытулілася да сьцяны, чыста і гладка выбеленае. Міхась павёў па печы рукою, пачуўся лёгкі сьвіст. Патрошку страх Міхасёў зусім разьве́яўся, і ён сьме́ла стаў пазіраць на ўсё, што было ў школе. Недалёка ад пе́чы стаяла чорная дошка на трох нагах. Між дзьвярмі і другою сьцяною прытулілася шафа са шклянымі ўве́рсе дзьве́рцамі, за каторымі стаялі кнігі роўненькімі радочкамі. На сьцяне́ ві́се́лі, як пасьцілкі, карты з стракатымі лапінамі, каторыя, як Міхась пазнаў многа пазьне́й, азначалі часьці сьве́ту, моры, акеяны, усякія губэрні, гаспадарствы, астравы. Над картамі ві́се́лі патрэты і ўсякія маляванкі. Большая палавіна школы была застаўлена даўгімі лаўкамі з скрынкамі, на каторых сядзяць вучанікі. Пасярэдзіне школы стаяў стол для вучыцеля.

На ганку затупала нéкалькі ног. Міхась схаваўся за пéч. У школу ўваліла цэлая куча хлапцоў, яго сябраў, і Міхась, пасьпéўшы ўжо аглéдзіцца і пазнаёміцца з клясаю, стаў паказаваць ім тое, што найбольш кідалася ў вочы яму самому. Гуртам яны судзілі і дагадаваліся, нашто і для чаго зроблена ў школе кожная рэч.

— „Зараз прыдзе вучыцель“,—сказаў ім сторож.

Хлапцы прыціхлі, і страхам забілася іх сэрца. Яны кучкаю зьбіліся каля пéчы і сталі чакаць вучыцеля, самага страшнага чалавéка на сьвéце, як ім здавалася.

## IV.

Пераз нéкалькі часін прышоў вучыцель.

Ён прынёс з сабою вялікую кнігу з чорнымі вокладкамі, з наклéенаю на адным боку бéлаю папéркаю, чэрню і ручку і, паздароўкаўшыся з хлапцамі, паставіў чэрню на стол.

— „Ну, што, браткі, вучыцца прышлі?“—вясёла і прывéтна папытаўся ў іх вучыцель.

Некаторыя хлапцы маўчалі, а другія і Міхась з імі сказалі: „Алé!“

— „Ну, малайцы, хлапцы! будзем вучыцца“.

Малады вучыцель з прывéтным тварам і вясёлым добрым сьмéхам адразу спадабаўся Міхасю.

„І чаго я хаваўся ад яго ў каноплі?“ падумаў ён.

— „Наўпéрад запішу я вас у журнал“.—Так назваў вучыцель кнігу з чорнымі вокладкамі.

Сéўшы за стол і ўзяўшы ручку, ён пытаў хлапцоў, як каго завуць, як завуць бацьку, якое прозьвішча, колькі каму гадоў, граматны ці не, і ўсё гэта запісаваў у кнігу.

Запісаўшы ўсіх, вучыцель пасадзіў іх на лаўкі (прышлі адны толькі першачкі, тыя, што вучацца з пéршае літары).

Пасадзіўшы, вучыцель сказаў, як называецца той дом, куды яны прышлі, расказаў пра кожную рэч, што была ў школе: як павінны знахадзіцца вучанікі ў школе, для чаго трэба вучыцца, якая карысьць ад навукі.

Потым ён пусьціў хлапцоў пагуляць.

Пабéгаўшы на дварэ, вучанікі ўзноў прышлі ў школу.

Яна ўжо ня страшыла іх сваёю навіною. Хлапцы сьмéла садзіліся на сваé мéсцы і слухалі пільна, што казаў вучыцель.

Міхась і ня прыцéміў, як прайшоў пéршы дзéнь навукі.

Вясёла пабег ён дамоў расказаць, што бачыў і чуў ён у школе.

---

# У школу.

Клумак з кніжкамі пад пахай,
Думак поўна галава,—
Там у школу даўным шляхам
Сыпе се́льская дзятва.
Гурмам сыпе да навукі,—
Знаць ахвоту, ўвагу знаць:
Знама: трэба знаньня штукі
Сходаць, ске́міць, пераняць.
Буквы з памяці той кле́це
Той „таблічку“ ў нос бурчыць;
Адным словам, яшчэ дзеці
Адным словам, трэба ўчыць.

Я. Купала.

---

# У школе.

Ў хаце сьве́тлай і прасторнай
Сьцюдзена бяз конца;
Праз вакно, хоць паглядае,
Ды ня грэе сонца.
А на лаўках, скачане́ўшы
Ціха сядзяць-дзе́ці:
Іх цікавіць, што вучыцель
Кажа ім аб сьве́це.
Дзе цяпло, зьвяры і птушкі,
Караблі ды мора,
Скуль багацьце і дастаткі,
Бедната і гора.
З чыстым сэрцам налягае,
Каб навукі се́мя
Бе́дным сельскім хлапчаняткам
Усадзіць у це́мя.
Ме́рзнуць дзе́ці і вучыцель
У сьцюдзёнай хаце;
Іх душа адным сагрэта—
„Навука—багацьце!“

А. Паўловіч.

---

# Міхаська.

Міхась вельмі не ахвотна на гэты сьве́т прыходзіў. Тры дні радзіўся. Людзі рукамі махнулі: „нічога ня будзе ні з мацеры, ні з дзіцяці“, казалі. Толькі на чацьве́рты дзе́нь: „угай, угай“, загаласіў на ўсю хату народжаны хлопчык.



Цётка.

Матка глянула: „Божа, які-ж брыдкі! хаця-б шчасьлівы быў...“ зашаптала бе́дная жанчына, хаце́ла пацалаваць дзіця, адчыніла вусны, але ня стала сілы... заціхла. Заціхла так, як пе́сьня часам ціхне на найжаласьне́йшым сваім слове...

У хлопчыка, насок з добрую бульбачку; барада—брылём закручана, пераз усе́нек ле́вы тварычак чырвоная пляма радзімая. Адно вочка глядзіць у правы бок, другое—ў ле́вы... „У Імя Айца і Сына, ось гдзе́ Божа кара!!“... ле́дзь здоляла пралапатаць бабуля, купаючы пе́ршы раз дзіця.

Міхася-сірату запіхнулі ў запечак; так ён там і рос, не мяркуючы, як тое дзікое зе́льлечка пад абваліўшымся тынком.

Адзін раз узіму парасяты, гуляючы, адкінулі качаргу, памяло і розны іншы гаспадынін рыштунак. Запечак разявіў чорны рот, а ў ім, як бе́лы зуб, паказалася сьветларусая галоўка Міхася. Сонейка на тую пару, пераз вакно ўле́зшы, блудзіла па хаце і, угле́дзіўшы Міхася, падумала: бе́дны хлопчык! Уле́зла на прыпечак, ды давай забаўляцца з Міхасём: лып, лып! па галоўцы дзіцяці не́калькімі косамі. Хлопчык у кудлачках аж паскрабе́цца з дзіву. А сонейка лып, лып! дрочыцца дале́й. Міхась пачаў лавіць—сонейка за косы, а тое з прыпечку—гоц, ды за дзьве́ры, Міхалюк у ваднэй се́рочцы ў дагонку на панадворак: пазаплоткамі ляціць, це́шыцца, сьмяе́цца. Ажно скуль ня вырвецца Воспа і ідзе́, брыдзе́, пад нос мармоча; сустрэўшы Міхася, аж заіржала з радасьці, нягодніца. „А мой ты сякі, а мой ты такі“... кінулася да Міхася цалаваць, абымаць... „Адхініся, лупатая!“... чуць ня выцяў яе́ Міхась, ды лататы ў хату.

Калі распаліць пасьля хлапца; мурашкі па скуры гіжаць і ў падошвы смаліць.

— „Гвалт“—крычыць мачыха, гэта-ж у Міхася воспа, ён і маé дзéткі заразіць“. Што тут рабіць? Параіліся, ды йшчэ глыбéй Міхася ў запечак засунулі.

Колькі хварэў Міхась, хіба сам час вéдае, ды тыя прусакі, што з хлопчыкам разам грэліся ў запечку. Толькі пасьля воспы, як паказаўся Міхась на хаце, дык ажно куры закудакталі з перапуду.

Пачаў Міхась у поле скаціну ганяць. Чураўся ўсіх, хадзіў насупіўшыся, ня вéрыў нікому. Як хто на яго глянуў, зараз Міхасю здавалася, што той аб ім думае „у-у які рабы, страшны хлапéц“. На тую пару якраз пасыпаліся прозьвішчы ад пастухоў: „Рабы, Галдабыр, Касьня“... куды—на валовай скуры тых прозьвішчаў усіх ня сьпішаш. Міхась маўчаў, зубы сьцяўшы, а ў патайне ўсіх ненавідзеў. Кожнаму мсьціў колькі мог: гдзе каторага пастуха птушку асочану з гнязда выпара, то торбачку з хлéбам у балота закіне і чужую скаціну ў шкоду нажанé.

І такая пéўне вырасла-б з Міхася цацка, каб не адно здарэньне.

Была ўжо позная восень: сьцюдзена, туманна і дробны дожджык сыпаў імглой і пачарнéлае поле і сенажаці ляжалі ў нейкім моташна-мёртвым сьнé...

Пастухі разлажылі агонь. Вялікае вогнішча рагатала і пяклася бульба. Янук, па прозьвішчу Даўгавязы, дзьмуў з усяé сілы ў трубу: „Тру-тру-ў-ў-ў... ішло рэхам па апусьцéлым полі, ды яшчэ сумнéйшай ставалася восень. Міхась сядзéў адзінока пры мокрай дарозе воддаль, ад пастухоў. Галоўка яму нéшта балéла, пылалі шчочкі. Скуліўся ў клубок, быццам тая шэрая купінка, наточаная кротам. Думкі яго былі невясёлыя поўныя сльёз, бы тыя восеньскія хмаркі, нявыплаканыя дажджом. Напару навет скардзіўся:—праўда, казаў, нягодны я хлапéц, усім прыдумаваю ліха, але, хто да мянé добры? Усé як на ліхога сабаку: „а ту... а та-та“!..

— „Дзяржы! бяры!.. Янук! Ігнат!.. лаві, а та-та!.. загрухацéлі цэлай грамадой хлапцы. Бéглі, гналіся ўпапярок загонаў за падстрэленым жоравам. Птушка ляцéла, падала, уздымалася, бéгла, з лéвага крыла капала кроў. Нага была перабіта. Хлапцы нямала што ўжо хапалі за пéр‘е акалéчаную птушку, але яна не давалася, уцякала, выбіваючыся з апошніх сіл. Углéдзіўшы Міхася, мо, падумала што куст, або што іншае... згадаеш птушку.

Але, толькі даляцéўшы да хлапца, выцялася ўсім цéлам у яго грудзі „Крр—крр“... жаласна запішчэла. Міхасю здалося быццам птушка просіць: „ратуй... ратуй“...

Шасьць—Міхась абхінуў жорава поламі ірванае сьвіткі і растапырыў рукі—„Аддавай!“—„Ня дам“,—„Аддавай“, закрычэлі пастухі, абступіўшы цéсным кругам, турзалі Міхасём, як высахшай галіной.

— „Адыдзéце, ня турзайце“—,застагнаў Міхась,—„пад сэрцам цісьне... Пусьцéце!“—Хлапéц хапіўся за грудзі...—„ёй... ёй... што-ж гэта... нне...“—не пасьпéў дагаварыць, зьбялéў, як палатно, і асу-

нуўся ў разору. Пастухі перапалохаліся.—„Вады!“—скамандаваў найстаршы!..—Міхась, Міхаська, братка, мы табé жорава аддамо“,—пачалі ўгавараваць, падымаць, калыхаць. Хлапéц, ляжаў, бы надломаная саломінка. Задыханы прыляцéў Янук з поўнай шапкай вады. Адчынілі складанчыкам зубы, улілі колькі капель вады.—„Міхась братка, ці чуеш?“ Цераз паўчасіны Міхась уздыхнуў, губы пачалі чырванéць.—„Перанясём“,—азваўся которысь з хлапцоў. Асьцярожна ўзялі пастухі Міхася на рукі і перанясьлі да вогнішча. Міхась, як расплюшчыў вочы, бачыць вогнішча палае, пастухі каля яго кратаюцца, кажушок пад галаву падлажылі, гальля ў вагонь падкідаюць, каб цяплей было; жораву крыльле падвязаваюць, хлéб крышаць;—„На—кажуць птушцы—éж, пасьля Міхась цябé накорміць ячмянём“. Міхася сірочае сэрца ўлёт дабрату хлапцоў сьцéміла. Хоча да іх загаварыць, падзякаваць, але галоўка цяжкая, вéкі ліпнуць, а нéшта ў нутры шэпча: пасьля, пасьля...

Лéдзь пастухі адвялі Міхася да хаты. Жорава забраў з сабой.—„А гэта што?“—накінулася мачыха, хапіла жорава за крыльле і выкінула ў сéнцы.—„Ты ўзноў хворы? Думаеш буду з табой цацкацца, дармаéдзе?!“

Мыхась прысланіўся ў качарэжніку, стаіць, бы асінавы пéньчык. „Спаць, спаць“... ласяцца думкі. „А гыля... а гыля“, выляцела мачыха гусéй адагнаць ад карыта.

Міхась, азірнуўся сонна, зачэрпнуў жмéняю гароху з апалушак, падняў жорава і палéз у запечак.

Цёмная, чэлюсьць скрыла дзьвé бясьсільныя крыўды.

Пастухі ўраіліся Міхасёву скаціну пасьвіць. Напару каторы з хлапцоў забягаў на птушку падзівіцца.

Птушка хутчэй папраўлялася за Міхася; але сядзéлі разам у запечку, не раз страшэнна галодныя, бо мачыха абодвух ненавідзела. Як выходзіў жораў, то зараз гналася з пожахам за ім.—„Бéдны, клыбачка, галодны“,—літуецца Міхась над жоравам.—„Кр.“,—як бы адказуе птушка.—„Нудна табé, сірата ты мой: радня выляцела далёка, пакінула цябé, аднаго. Ня плач! бо і я таксама адзін, як той калочак у плоце: матулька ў пясочку ляжыць, ня прыдзе сынка хвoранькага давéдацца. Як паздаравееш—узьнімемся на крыльле і паляцём далёка... далёка... аж пад сонейка яснае... Праўда, клыбачка?—„Кр.“—„Эх, ты, жораўка, братка ты мой родненькі“, цалуе па пéр'і хворы Міхась птушку.

Жораў Міхася слухае, аднак свой розум мае. Хутка прыглéдзіўся і зжыўся з хатнім парадкам. Гаспадыні пад ногі ня лезе. Парасят, як лішне прыстаюць да малога дзіцяці, так іх зараз дзёўбам карае. Над курмі стаў праўдзівым ваяводай: да парадку прыводзіць і ні адна не адважыцца ўзьляцéць на лаву.—„Каб ты здохла, якая ты разумная птушка“, падчас улашчыцца мачыха і падсуча жораву сьвінога цéста.

Ужо былі добрыя прымаразкі, як Міхась пачаў выхадзіць на хату. Бляды, як сьняжыначка, нічога не баліць, толькі напару закашляе. Зрабіўся паслухняны, спакойны, задуманы. Бульбу ма-

чысе скрабé і дзіця гадуе, хату падмятае. А жораў—быццам хвост хлапцоў: ззаду ходзіць—не адстае.

Аднэй лыжкай ядуць, разам сьпяць. Міхась, здаéцца, сваю сарочку ўзьдзéў-бы на жорава, каб гэта выпадала.

— „Жораўка, пацалуй!“ Міхась падстаўляе шчокі. Птушка грымзае дзёўбам па твары, а сірацé здаéцца, што яго і запраўды цалуе. Цéшыцца—не нацéшыцца хлапéц.—„Пачакай, клыбачка, прыдзе вясна, пажанём кароўкі ў поле і скруцім дудку, будзем іграць!!“ Жупяць не нажупяцца сабé два хваравякі.

Час ім борзда йдзé, быццам вада плывé. Вечаром бывае, што прыдуць вясковыя хлапцы паглядзéць на жорава, казкі напару расказаваюць...

Міхась пад вясну неяксьць стаé лянéйшым: усё яму хочацца болей паляжаць; з хлапцамі адпала ахвота кумпанства вадзіць. Работа, празначаная мачыхай часта ляжыць не пачынанай, а за гэта мачыха часьцéй куксае хлапца. Міхась з жоравам вытварылі сабé нéйкае асобнае жыцьцё; бяз слоў цéмяць адзін аднаго; з сабой не расстаюцца.

Хутка праляцéла зіма; павéяў цяплéйшы вéцер; пачаў сьнéг сходзіць і мухі забарабанілі на вокнах. Але Міхась ужо не прывітаў вясны, ня выбег на вуліцу. Ляжаў, як шчэпачка сухéнькі, таяў, як васковая сьвéчачка. Усé вéдалі, што Міхасёвы дні ўжо палічаны.

Мачысе сэрца падказавала: „Барждж эй-бы дайшоў“... Жораў не хадзіў, як калісь па хаце, але стаяў у кутку, крыльле апусьціўшы, і думаў нéйкую людзём незгаданую птушыную думу. Ня было каму птушку накарміць, ня было каму з птушкай пажупіць.

У чацьвéр раніцай сонейка цэлай галавой укацілася ў хату. Куры кудкудакталі з вялікай курынай радасьці. Кот Мацéй саскочыўшы з пéчы, пачаў мыцца. Гудзéлі на шыбах мухі.

Парсючок рабéнькі разваліўшыся ля парогу: „рох...—рох—рох славіў сьвінскім абычаем прышоўшую вясну. Мачыха набільніцамі—та—та, та—та—стукала, ажно рэха на вулицы ёй адгукавала—ткала шарак.

— „Мама“... азваўся зьмéненым голасам Міхась. У мачыхі сьціснулася горла ад страху. „Сьмéрць“—віхром праляцéла ў галавé жанчыны, бо Міхась ніколі яé ня зваў мамай: нéяксьць бяз гэтага абыходзіўся ў гутарцы.

— „Мама... мамачка!“, клікаў прысьпяшоным голасам.—Зараз, бягу, Міхаська, чаго хочаш?“—„Дай мне жорава“,—„Міхаська, а мо хочаш малачка?“...—„Нé, нічога не хачу, дай мнé толькі жорава“. Мачыха паднéсла жорава, паставіла на пасьцéлі, а сама бягом на вёску склікаць баб.

Пакуль зыйшліся жонкі, Міхась ужо ляжаў мёртвы. Жораў лапатаў крыльлем, тоўкся з кута ў кут... „крр-крр“ жаласна пішчэў, куры кудакталі... „куд-куда, куд-куда“; „а-у-у-ў“—ня вытраваў пад сталом Лыска і жаласна завыў і толькі падсьвінак ра-

бе́нькі ляжаў ля парогу і радасна „рох-рох“—хваліў сьвінскім абычаем вясну.

На хаўтуры сабраўся народ. Навет старая Алёна, у каторай калісь Міхась Рабчыку хвост адкруціў, стаяла пры мачысе, ды адчытавала аванэлю па нябожчыку-Міхасю.

— „Бе́дная ты, сусе́дачка, ото-ж табе́ смутак, гэтакі хлапе́ц удалы быў! Гэта-ж жарты? каб ён, каму ігрушачку зглуміў, або агурочак вырваў“...

Жораў, забіўшыся ў качарэжнік, прыплюснуў вочы. Хто яго ве́дае, ці ён спаў, ці яму было брыдка слухаць Алёніных слоў... а мо, хаце́ў сабе́ запамятаваць ноту хаўтурнай пе́сьні.

„Ве́чны пакой яго душачцы!!“ Загула ўся хата. Прыкрылі станам дамавіну і пачалі вынасіць на могілкі. Жораў заварушыўся, азірнуўся па ўсіх кутох і вышаў за дамавінай. Людзі дзівам задзівіліся і далі дарогу птушцы. Сумна, важна, як сплаканая маці, жораў пе́ршы пайшоў за Міхасём.

„А-у-у-у“, завылі бабы ад птушынай мудрасьці. Пастухі це́снай грамадкай дзяржаліся ўсю дарогу па блізкасьці жорава.

Прышлі на могілкі і апусьцілі дамавіну з Міхасём у выкапаны дол. Пачалі засыпаць.

„В-е ечны п-а-акой“... застагнала пе́сьня... над сье́жай магілай; жораў задрыжэў, колькі разоў пахіснуўся на нагах і лоп—лоп... узмахнуў шэрымі крыламі і ўзьняўся да лёту.

Памалу, цяжка птушка падымалася ў вобалакі, бо нясла з сабою вялікі жаль зоркам ясным, хмаркам бе́лым... „Крр—крр“, скардзілася гарачаму сонейку; „крр—крр“, расказавала стрэнутым брацейкам жоравам.

---

# Маё жыцьцё.

Я спамінаю мой перае́зд з ме́ста ў двор Вількішкі, генэралхі Максімовае. Самога пераезду я ня помню, але я добра помню, як прые́хаўшы туды, я цікавілася ўсім, што толькі мне́ на вочы пападалася. Удвор мы прые́халі не́як перад Калядамі. Бацька мой згадзіўся там за памагатыра аканома. Аканомам тады быў не́йкі не́мец. Ён мала ўме́ў гаманіць панашаму і казаў усё наадварот. Калі трэба было сказаць парабку „прывядзі каня“ ён казаў „прынясі каня“. Тыя парабкі, што нядаўна згадзіліся, адказалі, дзівячыся „Ліха-ж яго паночку прынясе́,—гэтакі вялікі“. Тады ён злаваўся, крычаў колькі меў сілы, пакуль той не здагадаваўся ў чым справа, і ня прыводзіў каня. Я хадзіла з бацькам усюды, дзе ён толькі йшоў, усё разглядала, аб усім пыталася, распытавалася, і троху-патроху зусім азнаёмілася з вясковым жыцьцём.

Надышла вясна, я ўжо знала ўсіх дзяцéй, знала дзéе хто жывé, хто што робіць. Знала ўсé палі, лясы, сенажаці і г. д. Мы ўвéсь час жылі ў малой хаце, вéдама як памагатыр. Але адзін раз генэраліха за нéшта вéльмі ўзлавалася на аканома і выгнала яго вон, а майго бацьку паставіла аканомам. Тады мы перайшлі ў, як там звалі, „вялікі дом". Дом быў, праўда, нішто: ён складаўся з сямёх пакояў, апрача варыстае хаты *) і канторы, дзé мой бацька выдаваў пэнсію парабком. Каля дому быў сад з аднаго боку, а парк з другога. Улéтку там было вéсела. У нас быў сабака, Салавéй, з каторым бацька мой хадзіў на паляваньне. Мы часта хадзілі ў грыбы, у ягады, а навет і ў краскі. Восень і зіма прайшлі спакойна, і я іх мала помню. Толькі адзін раз, нéяк увясну, бацька, прышоўшы з поля, дзé яны гаралі, прынёс мнé малéнькага зайца. Я вéльмі была рада і зараз-жа прынясла яму малака і сухаркоў. Ён упéрад нéяк баяўся, але скора асвойчыўся і стаў éсьці. Я яго выгадавала, а потым аддала сыну генэраліхі. Адзін раз пакаёўка генэраліхі, зачыняючы дзьвéры, зламала яму нагу. Генэраліха, давéдаўшыся аб гэтым, загадала залажыць каня і павéзла яго ў Вільню да доктара. Нагу яму нéяк там саставілі, і ён ачуняў, але трохі кульгаў. Генэраліха выяжджала на зіму ў Пецярбург, а зайца пакідала нам. Ён быў вéльмі дуроны і надта абрываў абоі. Адзін раз увясну матка мая на яго ўзлавалася і выпусьціла ў парк, а як вярнулася генэраліха, то матка сказала, што ён сам уцёк. У дварэ мы жылі мусіць гады тры або два. Потым пераéхалі ў нéякі фальварак, якога я зусім ня помню. З фальварку мы ўзноў прыéхалі ў Вільню.

Адзін раз я йдучы па вуліцы ўглéдзіла абвéстку, што адчыняецца I Віленская Беларуская гімназія. Я чым барждзэй падала просьбу і здала экзамен у II клясу.

**Марыя Шавель.**

---

# Маці.

(*Казка Андэрсэна*)

У сьцюдзёную зімовую ноч сядзéла маці над калыскай свайго хворага дзіцятка. Дзіцянё, зьбялéлае, з заплюшчанымі вачмі, лéдзь дыхала, і бéдная маці з вялікай тугою глядзéла на сваё малое і са страхам думала аб яго магчымай сьмéрці. Раптам нéхта пастукаўся ў дзьвéры.

У пакой увайшоў дзéд, захінаючыся ў нéйкую пасьцілку. Ён тросься ад сьцюжы, бо на вуліцы быў мароз і ёдкі вéцер.

---

*) Варыстая хата — кухня.

Маці, зацеміўшы, што дзіцянё пачало драмаць, адыйшлася ад калыскі і забавілася ля печы. А дзед падсеў да калыскі і пачаў яе ціханька калыхаць.

Маці села побач і, узяўшы дзіця за ручку, папыталася ў дзеда са сьлязьмі:

— Ён не памрэць, праўда? Бог не захоча ўзяць яго ад мяне?

Дзед—гэта была сама Сьмерць,—неяк дзіўна паківаў галавой, што ня можна было сьцеміць, згаджаецца ён ці не.

Маці была надта змучана, бо ня спала некалькі начэй,—яна схіліла галаву і заснула. Але цераз часіну яна прачнулася і задрыжэла ад сьцюжы.

— Што гэта?—закрычэла яна з жахам: у калысцы ня было дзіцятка, прапаў і дзед.

Гаротная маці выбегла з дома і, плачучы, з крыкам клікала сваё дзіця.

У сьнягу на вуліцы сядзела жонка, у чорнай вопратцы. Яна сказала маці: „У цябе была Сьмерць. Яна ўзяла тваё дзіцянё і нясла яго. Сьмерць ляціць скарэй за вецер і ніколі не аддаець што ўзяла“.

— Ты мне толькі пакажы, куды яна пайшла,—сказала маці. Пакажы дарогу, і я даганю Сьмерць.

— Добра, я скажу табе,—адказала жонка ў чорным,—але толькі ты перш павінна сьпяяць мне ўсе тыя песьні, каторыя ты пяяла свайму малому. Я люблю гэтыя песьні. Колькі разоў я чула—я-ж Ноч,—як ты пяяла іх і аблівалася сьлязьмі.

— Я ўсе свае песьні сьпяю табе,—адказала маці,—але толькі не цяпер. Мне-ж так трэба сьпяшацца. Скажы, куды мне йсьці?

Але Ноч маўчала.

І маці пачала пяяць. З плачам сьпяяла яна ўсе песьні; іх было шмат, але сьлёз было яшчэ балей.

— Ідзі направа, у лес, — сказала Ноч, праслухаўшы ўсе песьні.—Сьмерць пабегла туды.—І маці пайшла ў лес.

На росстаньні яна прыстоіла. Куды йсьці?—Тут было некалькі дарог.

На росстаньні стаяў куст шыпшыньніку бяз лісьця, замецены сьнегам, у лядзянках. Да яго зьвярнулася маці.

— Паслухай, можа ты бачыў Сьмерць з дзіцянём на руках? Скажы барждж[э]й, куды яна пайшла?

— Я скажу табе гэта,—адказаў куст, калі ты абагрэеш мяне на сваіх грудзёх. Паглядзі, я зусім замерз.

Маці хапаючыся прыціснула куст да сваіх грудзей. Калючкі ўпіліся ў цела, грудзі абліліся каплямі крыві, але затое куст зазелянеўся і на ім паказаліся краскі. Відаць цёплае было сэрца маці.

Пайшла яна паказаным шляхам і дайшла да вялікага возера. Чаўна ня было; лёд быў яшчэ слабы, а каб перайсьці ўброд, вада была занадта глыбака. Што робіць? Маці прыпала да во-

зера і пачала яго піць, быццам хацéла выпіць яго да дна, хоць і вéдала, што гэта немагчыма; яна спадзявалася дзіва.

— Не, нічога з гэтага ня будзе—сказала ёй возера.—Я магу перанясьці цябé на другі бéраг, дзе стаіць дом Сьмéрці, але затое ты павінна аддаць мне свае́ лёсыя *) вочы: яны блішчаць ляпéй за ўсé пэрлы, што ляжаць на маім днé.

— О, дык бяры іх! Я ўсё аддам, каб толькі вярнуць сваё дзіця! І маці выплакала свае́ вочы; на днé возера яны перавярнуліся ў пышныя пэрлы.

Тады возера падняло маці і як га перанясло яé на другі бéраг. Там стаяў дом Сьмéрці, падобны да вялікае гары, парослае лéсам і зрытае пячурамі. У пячурах расло шмат розных дрэў і красак.

— Як мне тутака знайсьці сваё дзіця?—сказала маці, увахо-дзячы ў гэтае жыльлё тугі.—Як адабраць яго ад Сьмéрці?

— Перш-на-перш табé трэба знайсьці яго сярод расьцінаў,— адказала ёй сівая брамніца. Ты, пéўне, вéдаеш, што ў кожнага чалавéка ёсьць сваё дрэва ці то краска жыцьця. На пагляд гэта самыя звычайныя расьціны, але ў кожнай з іх б'éцца сэрца. Можа ты здолееш пазнаць сэрца свайго дзіцяці. Сяньня ўначы шмат красак павяла. Сьмéрць павінна скора прыйсьці, каб перасадзіць іх. І тады... Але што-ж ты мнé дасі, калі я дазволю табé шукаць сваё дзіця і навучу, як бараніць яго ад Сьмéрці?

— У мянé нічога няма, каб табé даць,—сказала маці, але я, калі хочаш, пайду для цябé хоць на край сьвéту!

— Ну, гэта мнé зусім не патрэбна,—адказала старая.—А лéпш ты мнé аддай свае́ лёсыя чорныя валасы, а я табé ў мéнку дам свае́—сівыя; усё-ж ткі гэта ляпéй, чымся нічога.

— Толькі гэта?—усьцéшылася маці.—Бяры іх баржджэй.

Яны ўвайшлі ў цяпліцу.

Там было шмат разнавідных расьцінаў: красавалі далікатныя, пахнючыя гіацынты пад шклянымі пакрышкамі, буйныя гордыя півоніі, харашухі рожы. Высака ўзымаліся пышныя пальмы, магутныя дубы і платаны. Былі тут і водныя расьціны, і звычайная гароднiна,—пятрушка, кмін і іншыя.

Адны зварочвалі на сябé ўвагу сваім добрым выглядам, пышнасьцяй красак, другія былі нéйкія хваравітыя, слабыя. Некаторыя вялікія расьціны былі пасаджаны ў малéнькіх гаршчкох і ім было там цéсна, не ставала пажывы; наадварот другія—малéнькія, кволыя, сядзéлі ў вялікіх гаршчкох і старанна былі абложаны мохам і чорнай зямлёю.

І кожная з расьцінаў мéла сваё прозьвішча, і ў кожнай з іх білася сэрца жывога чалавéка. Кожная з расьцінаў была жыцьцём аднаго з людзéй, каторыя былі раькінуты па ўсім чыста сьвéце.

*) Вéльмі харошыя.

Маці-гаротніца падхадзіла да кожнае краскі, пільна прыслухалася, як б'ецца кожнае сэрца і, урэшце, застанавілася каля маленькага сіняватага крокуса, каторы смутна нахіліў сваю галоўку.

— Гэта маё дзіця!—сказала яна з радасьцяй. Я пазнала яго сэрца.

І яна хацела ўзяць краску.

— Кінь, не чапай,—адказала старая. Ты стань вось тут, і калі Сьмерць прыдзець сюды і захочаць яе высадзіць—прасі, малісту́й і, урэшце, скажы ёй, што калі яна зачэпіць тваё дзіця,—ты павырываеш другія краскі. Яна спалохаецца, бо адказвае перад Богам за кожную красачку.

Раптам маці пачула ледзяную сьцюжу і сьцеміла, што ля яе стаіць Сьмерць.

— Якім спосабам ты тут?—папыталася Сьмерць.—Як гэта ты выперадзіла мяне?

— Я маці,—адказала сьляпая. Сьмерць працягнула руку да сіняватага крокуса, але маці кінулася і закрыла яго сваймі рукамі так, каб яму не пашкодзіць.

Але Сьмерць дзьмухнула на яе рукі і яны адразу павісьлі бяз сілы.

— Бачыш, у мяне сілы балей за тваю,—сказала Сьмерць.— Ты павінна ўступіць мне.

— Бог дужэйшы за цябе,—сказала маці.

— Але я раблю Яго волю,—казала далей Сьмерць.—Я перасаджваю ў няведамыя староны толькі тыя краскі, каторым прысуджана гэта Богам.

— Аддай, аддай мне маё дзіця!—з адчаем прасілася маці,— а не—дык я вырву другія краскі, калі ты не пашкадуеш мяне.

І яна ўхапілася за нейкую краску.

— Не чапай яе,—сказала Сьмерць.—Ты хочаш, каб другая маці мучылася таксама, як мучышся цяпер ты!

— Маці?—сказала жонка і зараз-жа спусьціла рукі.

— Вось твае вочы,—сказала Сьмерць.

— Я выняла іх з возера, у каторым яны так блішчэлі. Вазьмі іх і глянь сюды, у калодзеж. Ты пабачыш там два жыцьці: адно з іх—жыцьцё твайго дзіцяці.

Маці з пасьпехам нахінулася над калодзежам. Жыцьцё аднаго было шчасьцем для яго самаго і для другіх, колькі сьвету, дабра ліло яно навокал,—жыцьцё другога было бязрадасным, цяжкім. Гора, туга, галіта.

— Баржджэй, баржджэй скажы, каторае жыцьцё павінна належацца майму дзіцяці?—са страхам папыталася маці.

— Гэтага я не скажу табе.

Бедная маці кінулася на калені і, ламаючы рукі, прасіла Бога:

— Божа! Калі маё дзіця чакаець у жыцьці толькі гора і бяды, то ня слухай мяне, забудзься на мае малітвы і сьлёзы! Уратуй яго ад таго мучэньня!..—І яна з пакорай апусьціла галаву.

А Сьмерць узяла дзіця на рукі і панясла яго ў няведамую старану.

# Калыханка.

Люлі, сынок, люлі-люлі!
Усе́ курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад крыламі сва́е маткі,
А ты чаго ня сьпіш, сынку,
Як-бы чуў ліху гадзінку?
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам,
А як матка прыйдзе ў госьці,
Ой то будзе ёй радосьці,
Сядзе матка ў кут на лаве,
Сын хлеб-соль прад ёй паставе,
Ручкі, ножкі пацалуе,
Памілуе, пажалуе;
Пачастуе мядком сытным,
Блінком мякінькім, падсітным,
Піражочкам і з начынкай
Верашчакай, гарачынкай...
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі.
Ось то будзе рада матка,—
Хоць і простая салдатка,
А усякі шапку здыме,
Як дазнаецца аб сыне.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам:
Людцаў Божых будзеш біці;
Цяжка будзе ў сьвеце жыці,
Будуць клясьці, як ліхога,
Прасіць сьме́ртухны ад Бога.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Тады матка прыдзе ў госьці,—
Сын выкіне стары косьці,
Жабруючы пойдзе ў вёску,
Будзе прасіць Матку Боску,
Каб забыцца ёй аб сыне,
Каб ня ве́даць, дзе ён згіне
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Ой, ня будзь ты ле́пей панам,
Ні вялікім капітанам,



Ф. Багушэвіч.

Будзь, чым матанька радзіла,
Каб у госьці не хадзіла,
Каб ве́к з табою векавала,
Гаравала, працавала...
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Усе́ курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад крыламі сва́е маткі...

---

# Сястрычка Галя.

Ужо павячэралі. Смутна павячэралі—пе́ршая вячэра бяз маці. Стары бацька лёг на пе́чы, дзе́ці пачалі класьціся спаць.

— Галя, разуй мяне́!—прасіў Васіль, се́дзячы на палку і працягаваючы да сястры абутую нагу.

— Зараз, Васілька, зараз!

— Галя, а мне́ спаднічку скінь, а то зацягнулася вузлом—не разьвяжаш,—аказалася Адарка.

І Галя ня могучы даць рады рукамі, стала зубамі разьвязаваць зацягнуты вузёл.

Урэшце паслаліся і паразьдзяваліся. Галя паўкладавала і паўкрывала дзяце́й.

— А ты, Галюся, ня хочаш спаць,—раскажы нам казачку,—прасілі яны.

— Аб трох сёстрах і аб калінавай дудачцы,—дадала Адарка.

І Галя, прымасьціўшыся каля іх на палку, пачала казку:

— Быў сабе́, жыў сабе́ дзе́д і баба і было ў іх тры дачкі, і самую ме́ншую Галяй звалі...

— Галяй? як цябе́?—перапыняе хлапе́ц.

— Але́, як мяне́.—Вось і пайшлі яны аднаго разу ўлетку ў ягады. Дык сёстры ірвуць ды ядуць, а Галя ірве́ць ды ў жбаночак сыпець, кажучы: „Панясу дамоў, тату і маме...“

— Так, які ты,—ізноў кажа хлапе́ц:—і ты як нарве́ш ягад, нам прыносіш. А ягадкі салодкія!

— Ну, ціха-ж, не перапыняй! Дык гэтыя сёстры і кажуць: „Як мы дамоў ве́рнемся? У яе́ гэтулькі ягад, а ў нас няма. Давай, заб'ём яе́, а ягады забяром...“ Расказавала Галя, а дзе́ці ўсё слухалі. Мале́нькая Адарка паднялася крыху, падпёршыся шчочкаю на руку, глядзе́ла задуманымі вачамі на сястру, а Васіль таксама прыціх, і, не адрываючы вачэй ад сястры, пільна слухаў, бо гэта такая харошая казка.

Вось Галя ўжо забітая,—бе́дная яна! і ў зямлю закопана. А на магілцы калінка вырасла. А пастух-аўчар дудачку з калінкі зрабіў і грае:

„Ой, памалу, памалу, пастушок, іграй,
„Майго бе́днага сэрцайка не ўражай!
„Мяне́ сястрычкі забілі,
„Пад кусточкам пахавалі,
„Яшчэ й нагамі прытапталі...“

Слухаюць дзе́ці, як Галя пяе́, а ўзноў ціхія словы казкі быццам ліюцца адно за адным у цудоўнай дзіцячай гутарцы. Доўга цягнецца казка, а там і другая. І памалу вочы заплюшчаваюцца, ціхі сон спавівае дзяце́й, і схінаецца Адарчына галоўка на падушку побач з братам, які таксама заснуў пад Галіну казку.

Заснулі дзе́ці, навет стары бацька заснуў. Толькі Галя ня сьпіць, гэтая мале́нькая худзе́нькая дзяўчынка з карымі вачынятамі, гэтая новая мама для дзяце́й. Яна ціха ўстае́ ды йдзе́ на сярэдзіну хаты. Яна яшчэ не малілася на-нач і зараз маліцца будзе. І становіцца дзяўчынка на кале́нкі, і ціха шэпча малітвы, не разуме́ючы іх, кале́чачы словы, але-ж безьме́рна ве́руючы, кажа іх. Вось яна пераказала Отча-наш, Багародзіцу. Больш яна ня ўме́е ніводнае малітвы. Яна цяпе́р так памоліцца, сама ад сябе́.

**Чайчэнка.**

# Доля сіраты.

Цяжка сіраціне
Адзінокай жыць,
Доля-весялуха
Зьнікуль не бяжыць.
За хатай і ў хаце
Цярпіць сірата:
То мароз марозе,
То золіць слата.
Ад брамы да брамы
Йдзé, зьбірае хлéб,
Ручачку працягне,
Кожны глух і сьлéп.
Кожны насьмяéцца
Над бéднаю éй,
Са зрэбнай кашулі,
З лазовых лапцéй.
Ой, цярпіш, сіротка,
Усё жыцьцё цярпіш;
Пойдзеш у магілку,—
Хто-ж паставіць крыж?
Хто, як ляжаш спаці
Навéкі ў зямлю
Пацеры згавора
За душу тваю?
Хіба гэты вéцер,
Што ў платох пяé,
Хіба з дажджом хмарка
Сьлязу пралié;
Хіба ночкай зоркі,
Што ў нéбе гараць,
Па сіротцы ўбогай
Будуць гараваць.

**Я. Купала.**

---

# Маці.

Няпрывéтна цераз вокны
Ночка пазірае.
Ціха ў хаце—ўся сямéйка
Сьпіць ды спачывае,
Натрудзіўшы добра рукі,
Натаміўшы плéчы.
Толькі матка з верацéнцам
Прытулілась к пéчы,
І прадзé, прадзé кудзéльку.
Скача верацéнца
І за ёй густыя цéні
Бéгаюць па сьцéнцы.

* * *

На камінку корч палае,
Злотам іскры скачуць.
За ваконцам вéцер ходзіць
Глуха вéрбы плачуць;
Зябнуць вéрбы на марозе,
Прытуліўшысь к стрэсе,
Сьнéгам вéцер сыпле ў дзьвéры;
Ходзіць шум па лéсе...
І пад гэты шум трывожны
Думае старая,
А ў сьлéд думкам неспакойна
Вéцер падпявае.

* * *

Ўсё прачнулась прад вачыма
Бéднае кабéты:
Маладыя дні дзяціны
Дзявоцкія лéты,
Радасьць жыцьця і нягоды,
Сваркі, трасяненьне—
Ўсё, чым жыцьце спатыкае
Кéпскую часіну,
Ўсё прыпомнілась старэнькай.
Горка бéднай стала—
Галаву на грудзь схіліла,
Прасьці перастала.

* * *

Муж нябожчык ўсплыў на думку—
Рана сьмéрць скасіла!

Дробных дзе́так ён пакінуў—
Без пары магіла.
Жыў ён б'е́дна. Спадзяваўся
Свой прыдбаць куточак:



Я. Колас.

Хату вывесьці, зяме́лькі
Прыкупіць шматочак.
Бо агоркнуў хле́б батрацкі,
Жыцьцё пад'ярэмна...
Ды ня вышаў з-пад няволі,
Біўся ве́к дарэмна.

* * *

Гасьне корчык на камінку
Пацямне́ла ў хаце.
Поўнач пе́ўн пракрычалі,
Ды ня сьпіць ўсё маці.
Цягне нітку, вераце́нца,
З рук упаўшы, грукне,
Ды ня сьме́ла, як убогі
Ве́цер ў дзьве́ры стукне.
Думкі думку падганяюць,
Не даюць пакою:
Ўсё лятаюць над кабе́тай
Нуднай чарадою.

* * *

Уздыхнула цяжка матка.
Аб сынку гадае,
Што ў турме́, у паняве́рцы
Кару адбывае.
І за што? У толк ня возьме
Бе́дная кабе́та,
Ні законаў гэтых мудрых,
Ні парадкаў сьве́та...

* * *

Ве́цер вые за вугламі,
У коміне галосіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць?
Зябнуць ве́рбы на марозе.
Глуха ле́с гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

---

# Сьляпы.

Адноўчы сьляпы хлопчык Пятрусь сядзе́ў адзін на ўзгорку над ракой і йграў на сваёй дудцы. Сонца спускалася, у паве́тры было ціха, толькі чуваць было, як мычэлі стадкі, каторыя варочаліся ў вёску. Хлопчык вось толькі перастаў іграць і адваліўся на траву. Ён забыўся на часінку, як не́чыя лёгкія крокі вывелі яго з задумы. Ён з няпрыемнасьцяй падняўся на локці і прыслухаўся. Крокі застанавіліся ўнізе́ ўзгорка. Хада была яму незнаёмая.

— Хлопчык!—пачуў ён раптам голас дзяўчынкі.—Ці ня ве́даеш, хто гэта тут цяпе́р іграў?

Сьляпы ня любіў, калі нарушалі яго адзіноцтва. Дзе́ля таго ён адказаў на пытаньне ня надта ве́тла.

— Гэта я...

— Як ты добра іграеш,—сказала дзяўчынка.

Сьляпы змаўчаў.

— Чаму-ж вы не адыходзіце?—папытаўся ён пасьля, чуючы, што дзяўчынка стаіць на ме́сцы.

— Нашто-ж ты мяне́ гоніш?—папыталася дзяўчынка сваім чыстым і прастадушна-зьдзіўлёным голасам.

Гукі гэтага спакойнага дзяцінага голасу сьляпы адчуў з прыемнасьцяю, але ўсё-ткі ён адказаў, як і пе́рш, жорстка.

— Я ня люблю, калі да мяне́ прыходзяць.

Дзяўчынка засьмяялася.—Вось яшчэ.

— Глядзе́це! Ці ўся зямля твая, і ты можаш каму-не́будзь забараніць хадзіць па зямлі.

— Мама не дазваляе ўсім, каб сюды да мяне́ прыхадзілі.

— Мама? перапыталася задумаўшыся дзяўчынка.—А мая мама дазволіла мне́ хадзіць ля ракі.

Хлопчык быў не прызвычаен да гэткіх пярэчаньняў. Выраз гне́ву прайшоў цераз яго твар; ён прыпадняўся і загаварыў борзда і абурона:

— Ідзе́це, ідзе́це, ідзе́це!

Няма ве́дама чым-бы ўсё гэта скончылася, калі-б у гэтую пару не пачуўся ад двору голас слугі, каторы гукаў *) хлопчыка піць гарбату. Ён борзда зьбе́г з узгорку.

Ах, які брыдкі хлопчык!—пачуў ён за сабою гняўлівы голас дзяўчынкі.

У чародны дзе́нь, се́дзячы на тым самым ме́сцы, хлопчык успамінаў аб учорашнім. У гэтых успамінах цяпе́р ня было прыкрасьці. Наадварот, яму аж захаце́лася, каб ізноў прыйшла тая дзяўчынка з гэтакім прыемным спакойным голасам, якога ён ніколі яшчэ пе́рш ня чуў. Знаёмыя яму дзе́ці так голасна крычалі, сьмяяліся, біліся і плакалі, але ніводзін з іх ня гукаў так прыемна. Яму забале́ла тое, што ён скрыўдзіў незнаёмую, каторая напе́ўна, больш ніколі ня ве́рнецца.

Запраўды, тры дні дзяўчынка зусім ня прыходзіла. Але на чацьве́рты дзе́нь Пятрусь пачуў яе́ крокі ўнізе́, на бе́разе ракі. Яна ішла ціха, упоў голаса пяючы сабе́ не́шта ціханька, і, відаць, зусім не зварочаваючы на яго ўвагі.

— Паслухайце!—гукнуў ён яе́, чуючы, што яна праходзіць міма.

— Гэта ізноў вы?

Спачатку дзяўчынка не адказала, дзеля таго, што яна была пакрыўджана пе́ршаю неласкаваю сустрэчаю, але, відаць, не́шта ў пытаньні хлопчыка здалося ёй дзіўным, і яна стала.

---

*) Клікаў

— Ці-ж вы ня бачыце, што гэта я?—папыталася яна з вялікім гонарам, папраўляючы ў руцэ пук палявых красак.

Гэтыя словы балюча адазваліся ў сэрцы сьляпога. Ён нічога не адказаў і адкінуўся на траву. Але гутарка ўжо пачалася, і дзяўчынка, усё стоячы на тым самым мéсцы і разглядаючы сваé краскі, ізноў папыталася:

— Хто цябé навучыў гэтак добра іграць на дудцы?

— Якім навучыў—адказаў Пятрусь.

— Вельмі добра. Толькі... чаму ты гэтакі злы?

— Я... ня злуюся на вас,—сказаў хлопчык ціха.

— Ну, дык і я ня злуюся. Давай гуляць разам.

— Я ня ўмéю гуляць з вамі,—сказаў ён, утупіўшыся.

— Ня ўмéеш гуляць? Чаму?

— Так.

— Не, але чаму-ж?

— Так,—адказаў ён лéдзь чутна і яшчэ больш утупіўся.

Яму ніколі яшчэ ня прыходзілася гутарыць з кім-нéбудзь аб сваёй сьлепацé і яму так балюча было пачуць гэтае пытаньне.

Дзяўчынка ўсё не разумéла, што ён сьляпы.

— Які ты сьмéшны!—загукала яна, і сéла побач з ім на травé.

— Гэта ты, пéўна, гэткі, што са мной незнаёмы. Вось пазнаеш мянé, тады перастанеш баяцца.

— А я не баюся нікога.

Яна казала гэта вясёла, перабіраючы тым часам васількі і фіалкі.

Тым часам сьляпому захацéлася таксама бліжэй пазнаць яé.

А распазнаваць выгляд людзéй ён прызвычаіўся толькі вошчупкам, дык і тут ён, узяўшы лéваю рукою дзяўчынку за плячо, правай стаў шчупаць яé валасы, потым вéкі і скоранька прабéгся пальцамі па твары, дзе-ня-дзе задзéржаваўся і ўважна завучаў незнаёмыя рысы.

Усё гэта было зроблена так неўспадзéўкі і скоранька, што зьдзіўлёная дзяўчынка не магла сказаць ані слова. Яна толькі глядзéла на яго шырока адчыненымі вачыма, у каторых відаць было страх. Толькі цяпéр яна прыцéміла, што ў твары хлопчыка ёсьць нéшта нязвычайнае. Твар у яго быў напружаны, а выгляд непарушны. Вочы хлопчыка глядзéлі нéкуды бяз усякага выразу, і ў іх дзіўна адбіваўся водблеск захадзіўшага сонца. Дзяўчынцы зрабілася жудасна. Асвабадзіўшы сваё плячо з рук хлопчыка, яна раптам ускочыла на ногі і заплакала.

— Што ты са мной робіш, гідкі хлопчык?—загукала яна злосна, скрозь сьлёзы.—Нашто ты мянé чапаеш? Што я табé зробіла? За што?

Ён сядзéў на тым самым мéсцы, з нізка спушчанаю галавою, і ўчуцьцё прыкрасьці, прыніжэньня палючым болем напоўніла яго сэрца. У пéршы яшчэ раз перачуў ён прыніжэньне калéкі; у пéршы раз давéдаўся ён, што яго цялéсная загана можаць натхнуць ня толькі жаласьць, але і перапужаньне. І яму надта ба-

ле́ла гэта. Учуцьцё палючага болю і крыўды падыйшло да горла хлопчыка, ён паваліўся на траву і заплакаў наўзрыд. Плач гэты усё большаў і трос усё яго мале́нькае це́ла.

Дзяўчынка, каторая зьбе́гла ўжо з узгорку, пачула гэты глухі плач і з зьдзіўле́ньнем павярнулася. Калі яна ўбачыла, што хлопчык ляжыць тварам да зямлі і гаруча плача, ёй зробілася шкада яго, і яна ціханька ўзыйшла на ўзгорак і стала над плачучым.

— Паслухай,—загутарыла яна сьціха,—аб чым ты плачаш? Ты, пе́ўна, думаеш, што я пажалюся? Ну, ня плач, я нікому не скажу.

Але, пачуўшы яе́ спагадны голас, хлопчык яшчэ больш заплакаў. Тады дзяўчынка прысе́ла каля яго і стала супакояваць яго паціху, гладзячы рукою яго валасы. Потым яна падняла яго галаву і стала выціраць хустачкай яго заплаканыя вочы, быццам маці, каторая супакоявае пакрыўджанае дзіця.

— Ну-ну,—казала яна.—Я даўно ня злую... Я бачу, ты шкадуеш, што напужаў мяне́...

— Я не хаце́ў напужаць цябе́,—адказаў ён, глыбака ўздыхнуўшы, каб задзе́ржыць плач.

— Ну, ну, добра. Я ня злуюся. Ты-ж больш ня будзеш,—казала яна, паднімаючы яго з зямлі і хочучы пасадзіць яго побач з сабой.

Цяпе́р хлопчык сядзе́ў, як і пе́рш, тварам у бок заходу, і калі дзяўчынка глянула ізноў на яго твар, на каторым адбівалася чырванаватае сьвятло сонца, ён ізноў здаўся ёй дзіўным. У вачох хлопчыка яшчэ стаялі сьлёзы, але вочы гэтыя, як і пе́рш, былі непарушны. Твар яго ўсё торгаўся ад дзяцінага плачу, але разам з тым у ім было відаць глыбокае, цяжкое недзяцінае гора.

— Які ты, праўда, дзіўны...—сказала яна з удумчывым спачуцьцём.

— Я ня дзіўны,—адказаў хлопчык смутна.—Не, я ня дзіўны... Я... я... сьляпы!

— Сьляпы-ы?—сказала яна спацягліва і голас яе́ задрыжэў быццам гэтае смутнае слова, якое ціха сказаў хлопчык, зрабіла ёй вялікі боль.

— Сьляпы-ы,—паўтарыла яна яшчэ больш дрыжачым голасам, і задрыжэўшы ўся ад жаласьці, яна раптам ашчапіла шыю хлопчыка рукамі, прытулілася да яго тварам і сама гаруча, няўсьце́шна заплакала.

Тым часам сонца ўжо хавалася за край не́ба. Замігаце́ў яшчэ раз залаты абрэз яго, потым брызнулі дзьве́-тры гарачыя іскры, і сонца зусім схавалася. З ракі пацягнула халадком.

Дзяўчынка перастала плакаць і толькі часамі яшчэ ўсхліпавала, змагаючыся. Пятрусь сядзе́ў з спушчонаю галавою і як-бы зьдзіўлёны гэтакаю жаласьцяю дзяўчынкі.

— Мне́... шкада...—усё яшчэ ўсхліпаваючы, выказала яна, урэшце. Потым, супакоіўшыся, яна сказала:

— Сонейка зайшло.

— Я ня ве́даю, якое яно,—смутна адказаў хлопчык.—Я яго толькі адчуваю...

— Ня ве́даеш сонейка?

— Але́.

— А... а сваю маму... таксама ня знаеш?

— Маму знаю... Я заўсёды здалеку пазнаю яе́ хаду.

— Але́, але́, гэта праўда! І я з заплюснутымі вачыма пазнаю сваю маму.

Дзе́ці гаманілі ўжо спакойна.

— Ве́даеш,—прагукаў сьляпы, я і сонца адчуваю і ве́даю, калі яно зайшло.

— Чаму ты ве́даеш?

— Таму што... Вось бачыш... Я сам ня ве́даю чаму...

— А-а!—працягнула дзяўчынка.

Яны абое памаўчалі.

— Я ўме́ю чытаць,—пе́ршы загукаў ізноў Пятрусь,—і скора навучуся пісаць.

— А як-жа ты... пачала дзяўчынка і раптам саромліва змоўкла, бо не хаце́ла ўспамінаць яму аб яго сьлепаце́.

Але ён яе́ сьце́міў.

— Я чытаю на сваёй кніжцы,—сказаў ён—пальцамі.

— Пальцамі? Я-бы ніколі не навучылася чытаць пальцамі... Я й вачмі ня добра чытаю.

— Я ўме́ю чытаць і пафранцуску,—сказаў сьляпы.

— Які ты разумны!—сказала яна.

— Аднак я баюся, як-бы ты не застудзіўся. Вун над ракой які туман!

— А ты сама?

— Я не баюся. Што мне́ зробіцца?

— Ну й я не баюся. Ці-ж можа быць каб мужчына застудзіўся барждзжэй за жанчыну. Дзядзька Максім кажа, што мужчына не павінен нічога баяцца: ні сьцюжы, ні голаду, ні пяруна, ні хмары.

— Максім?..—Гэта каторы на кастылёх? Я яго бачыла. Ён страшны.

— Не, ён нічагусенькі ня страшны. Ён добры.

— Не страшны!—з пераканаНьнем сказала яна ўдругі.—Ты ня ве́даеш, дзеля таго што ня бачыў яго.

— Я яго знаю. Ён мяне́ ўсяго вучыць.

— Ён цябе́ б'е́ць?—папыталася дзяўчынка.

— Ніколі ня б'е́ць і ня крычыць на мяне́... Ніколі...

— Гэта добра. Ці-ж можна біць сьляпога хлопчыка? Гэта быў-бы грэх.

— Ён і нікога ня б'е́ць,—сказаў Пятрусь і прыслухаўся.

Яго чуткае вуха пачула крокі Якіма.

І праўда, на ўзгорку паказаўся Якім.

— Па-ні-чо-о-ок!—крычэў ён.

— Цябé клікаюць,—сказала дзяўчынка і паднялася.

— Алé. А я не хацéў-бы йсьці.

— Ідзі, ідзі! Я да цябé заўтра прыду. Цяпéр цябé чакаюць, і мянé таксама.

Дзяўчынка прышла ранéй, чымся Пятрусь лічыў на гэтае. На другі дзéнь, сéдзячы ў сваім пакоі на лéкцы з дзядзькай Максімом, ён раптам падняў галаву, прыслухаўся і сказаў з ажыўлéньнем:

— Адпусьцéце мянé на часінку. Там прыйшла дзяўчынка.

— Якая яшчэ дзяўчынка?—падзівіўся дзядзька і пайшоў усьлéд за хлопчыкам да выхадных дзьвярэй. І запраўды, учарашняя знаёмая Пятруся ў гэтую самую пару ўвайшла на панадворак і, убачыўшы Ганну Міхайлаўну, матку хлопчыка, пайшла проста да яé.

— Чаго табé, любая дзяўчынка трэба?—папыталася Ганна Міхайлаўна, бо думала, што яé прыслалі з якой-нéбудзь патрэбай.

Дзяўчынка працягнула, быццам вялікая, ёй руку і папыталася:

— Гэта ў вас ёсьць сьляпы хлопчык? Алé?..

— У мянé любая, алé, у мянé!—адказала Ганна Міхайлаўна, цéшачыся выглядам яé ясных вачэй і любага тварыка.

— Вось бачыце... Мая мама пусьціла мянé да яго. Можна мнé яго бачыць?

У гэтую часіну Пятрусь сам падбéг да яé, а на ганку паказаўся дзядзька Максім.

— Гэта ўчарашняя дзяўчынка, мама! Я табé казаў,—сказаў хлопчык, вітаючыся.—Толькі ў мянé цяпéр лéкцыя.

— Ну, на гэты раз дзядзька Максім пусьціць цябé,—сказала Ганна Міхайлаўна. Я ў яго папрашу.

І дзéці прабылі ўвéсь дзéнь разам.

Адгэнуль дзяўчынка, яé звалі Эвэліна, стала кожны дзéнь прыходзіць у двор да сьляпога Пятруся. І гэтая дружба была вялікаю пацéхаю для Пятруся і вялікай радасьцяй для яго маткі.

**Караленка.**

---

# На службу.

У Алéся думак многа,
Ды ўсé думкі новы;
Твар сур'ёзны, як старога,
Нахмурыліcь бровы.
Кінуў ён гульню з сябрамі,—
Трэба дбаць на хату.
Памагаць ён будзе маме,
Бацьцы, сёстрам, брату:
Цяпéр бацька адзін б'éцца
З ранку аж да ночы,
Так працуе, што пот льлéцца,
Лéзуць на лоб вочы.
Гэтак сама адна маці—
Праўда, што сьціпная,—
Робіць ў полі і у хаце,
Корміць, абмывае.
Мала з дзéтак запамога—
Драбяза ўсé—дзéці!
Сам ён толькі, дзякуй Богу,
Зможа пражыць ў сьвéце

Без падмогі, сам сабою,—
Ён—дзяцюк, хлапчына:
Носіць ён вядро з вадою
Як стары мужчына!
Потым думкі няпрыкме́тна
Далей залятаюць,
Чужаніцы няпрыве́тна
З курганоў мігаюць.
Матка страхаў наказала
Пра жыцьцё з чужымі
І Але́ся навучала,
Як ужыцца з імі:
Трэба змоўкнуць, хоць часамі
Скрыўдзяць цябе́, ўшчуюць,
Хоць нядобрымі славамі
Злосна пажартуюць.
Будзь паслушны і цярплівы,
Ня лазь у гароды,
Не марнуй ты людзем нівы,
Не рабі ім шкоды...“
Адным словам, страх нагнала
На Але́ся матка.
І так міла яму стала
Родная іх хатка!
Ды нічога не парадзіш,
Калі служба трэба,
Калі бе́днасьць як паглядзіш
Сама просіць хле́ба
Так хлапчынка разважае,
З думкамі гамоніць,
То надзе́яй дух ўздымае,
То трывогу гоніць...
У вузе́льчык, вось, увязан
Скарб яго убогі;
Станік тонкі падпяразан,—
Жджэ Але́сь дарогі.

**Я. Колас.**

---

# На службе.

**Пастушок.**

Ў сваёй хатцы і пры матцы
Жыў ня жыў,
Бяда выпхнула бадзяцца,
У сьве́т пабрыў.
Кожын гоніць папіхае,
Свой, ня свой.
Ой, ты, служба, ой благая,
Божа мой!
Ой, ты, доля пустасе́йна!
Рад ня рад;
Далі кут, і той ня пеўна—
Да Каляд.
Нясуць хле́ба, ці да хле́ба,
І глядзяць:
Ве́дай е́сьці шмат ня трэба...
Узяць?.. ня ўзяць?
Воўк, ваўчыха за гарою
Завядзе́,
Ні пристаньня, ні спакою
Ой, нідзе́!

**Матка** (падходзячы).

Што ня ве́сел так сынулька,
Мой-жа ты?
Табе́ кланяўся, татулька
І браты.
Гавары-ж ты мне́, мой мілы,
Родны мой,
Як там служба, як там сілы,
Як з ядой?
Ці кусочак калі ласы?
Паднясуць?
Ці ня крыўдзяць калі часам
Ці ня б‘юць?
Калі-ж прыйдзе тое сьвятка
З ласкай той,
Не расстанешся ты з хаткай,
Са сваёй?

**Пастушок.**

Як у служкі сходзяць ле́ты—
Ў пастуха,

Пытай, маці, птушкі гэтай,
Канюха.
Папытайся гэтай хмары—
Гэтых сьлёз,
Гэтай кветкі на папары—
Гэтых лоз,
Гэтай грушы сярод поля,
І балот:
Яны ўсе аб маёй долі
Вядуць шчот.

**Матка.**

Не хачу я іх пытаці,
Мой сынок,
Не пацешаць яны маці,
Сакалок.
Калыхала, гадавала,
Як магла,
А цяпер што дачакала?
Што нашла?

**Пастушок.**

Ня плач, маці, і ня злуйся
На жыцьцё?
Як я ў сілачку ўбяруся,
Змагу ўсё.

**Я. Купала.**

---

# Гора.

У бабы-удавы памёр сын-адзінак, дваццацёх гадоў, першы рабачай на сяле.

Паня з двору, пачуўшы аб гэтакім няшчасьці бабы, пайшла яе даведацца ў дзень пасьля хаўтураў.

Баба была дома. Яна стаяла ля стала і, ня сьпяшаючыся, роўным рухам правае рукі (левая вісела бяз сілы) чэрпала капусту са дна закапцелага гаршка і ела лыжку за лыжкай.

Баба спала з твару і пацямнела; вочы пачырванелі і запухлі. Але яна дзяржалася проста, усё роўна, як у царкве.

— Божа мой!—падумала паня. Яна можа есьці ў гэткую часіну... Якія ў іх усіх недалікатныя ўчуцьці!

Паня спомніла, як некалькі гадоў таму назад у яе памёрла дачка дзевяцёх месяцаў і як яна з бяды адмовілася жыць на прынадным лецішчы *) ля Пецярбургу—і пражыла цэлае лета ў месьце!.. А баба ўсё сёрбала капусту.

Паня ня ўдзержылася, урэшце.

— Тацяна!—сказала яна... я дзіўлюся табе! Ці-ж ты свайго сына ня любіла? Як ты можаш цяпер есьці?

— Памёр мой Васілёк,—ціха адказала баба, і сьлёзы пасыпаліся з яе вочэй.—Значыцца і мне канец: з жывое галаву скінулі... А капусьце няма чага прападаць: яна-ж пасоленая.

Паня пацiснула плячмі—і вышла. Ёй соль даставалася танна.

**І. Тургенеў.**

---

*) Дача.

# Пяць лыжак заціркі.

— Агата! Агата!!
— Ну, чаго крычыш?
— Скора зацірка зварыцца?
— Маеш часу пачакаць трохі, не панясу прадаваць на кірмаш, пасьпе́еш насёрбацца!

Яшчэ не пасьпе́ла яна адказаць свайму Антасю, каторы ляжаў на пяколку і стагнаў ні то ад болю, ні то ад голаду, як з усіх бакоў апанавалі яе́ дзе́ткі, няма ве́дама хлопчыкі ці дзяўчынкі, бо яны былі апранены усе́ ў даўгія да пят кашулькі... Запішчэлі яны ўсе́ ў адзін голас:

— Мамка зацільку варыць!
— Мамка зацільку варыць!

І давай скакаць навакол маці і шчыпаць за хвартух і спадніцу, як галодныя ваўчаняты.

— Мамка, мне́ дасі!
— Мамка, мне́ дасі!

І блішчэлі іх галодныя вочы ад радасьці...

— Ці-і-іха, каб вы падохлі!—крыкнула Агата,—зварыць не даюць, хоць ты тут на кавалкі рассыпайся!—і адагнала іх вілачнікам ад прыпечка...

Гэта было ўвясну, як раз у тую пару, калі самая страшэнная галіта пануе ў бе́дных вёсках, калі няма чым і муху накарміць. Апошні запас вышаў, хоць зубамі ляпай—шчаўя яшчэ нямашака... Ня дай Бог, якое цяпе́р жыцьцё ў гэткага гаспадара, як у хворага Антася, каторы сам рабіць ня можа, а толькі жонка адна працуець на яго і дзяце́й.

Але ўчора Бог ёй шчасьце даў—яна не́як выенчыла ў блізкой пані з хунт мукі на зацірку.

Вось і варыць яна сваёй сяме́йцы гэтае панскае сьне́даньне... У цёмнай, малой хатцы пануець сьвята не́йкае...

Пазіраў усё Антон на прыпечак і ціха бурчэў, бо ён ве́даў, што цяпе́р то Агата валадарніца... Пазіралі дзе́ткі з-пад цёмнага тапчана на вясёлы агоньчык у пе́чы і шапталіся.

Агата ўсё падлівала вады і мяшала зацірку вялікай лыжкай, мяшала, мяшала і паставіла на стол.

— Гатова!—крыкнуў Антось, быццам п'яны, і давай карабкацца з пяколка.

— Гатова! гатова!—запішчэлі дзе́ткі і пусьціліся, як зайчыкі да стала, дзе́ ўжо стаяла вялікая паліўная міска, у каторую Агата пераліла зацірку з гаршчка. Толькі густая пахучая пара круцілася над міскай і ўмацовавала галодны апэтыт шчасьлівае ў гэтую часіну сям'і.

* * *

І шчасьлівая сямéйка хапалася за лыжкі.

Сёрб! сёрб! і—„ай! ай! ай!“ запішчэлі дзéткі. Антось маўчаў, толькі вылупіў вочы, быццам канаць сабраўся.

— А каб вы падохлі, я-ж вам казала, не хапайце, бо гарачая!—лаяла іх Агата.

Пазіралі, пазіралі яны на гарачую зацірку і ня вытрывалі—ізноў давай сёрбаць... Толькі сьлёзы каціліся ў іх ад шчырага сёрбаньня. Ня зьéлі яны яшчэ і трэцяе часткі, як накруцілася суседка Сьцёпчыха.

— Добры дзéнь!

— Добры дзéнь!

— Хлеб ды соль!

— Дзé тут хлéб—зацірку сёрбаем, просім на сьнéданьне!—кажа Агата.

— Ого! на зацірку і я ахвотніца—адказала Сьцёпчыха, пазіраючы маркотнымі і галоднымі вачыма. Узяла лыжку і спрытна падсéла да міскі...

Спахмурнéў Антось і толькі ніжэй апусьціў галаву да міскі са злосьці.

— Во, і нам самім мала,—падумаў ён.

Зьéла адну лыжку і давай сёрбаць другую.

— Ой, каб цябé паляруш!—чуць ня злаяў Антось, але стрымаўся, толькі давай старацца! Дзéткі таксама пачулі небясьпéку і, скоса пазіраючы на Сьцёпчыху, спрытна запрацавалі лыжкамі...

— Тры!—чуць ня крыкнуў Антось, як Сьцёпчыха сёрбала ўжо трэцюю лыжку.

— Ратуйце! Ратуйце!—здаéцца плакаў-бы ён, як яна ўзялася за чацьвéртую лыжку. А як зьéла пятую, то ўжо міска была пустая...

— Ой, разбойніца!—крыкнуў Антось на сваю Агатку, як ужо Сьцёпчыха падзякавала і пайшла—каб ты прапала з ёй разам!..

— Ці я вінавата, што яна гэткая сьвіньня!..—чуць ня плакала Агата.

І папсавалася сьвята ў бéднай сямéйцы, спахмурнéлі твары.

Кожын думаў.—Ого! каб гэта ляпéй я зьеў гэтых пяць лыжак заціркі...

---

# Роднае карэньне.

...Лéс кончыўся. Выехалі на поле. Дарога пайшла роўная. Архіп залюбаваўся прыгаством лéтняга вéчара. Сэрца забілася дужэй у маладых грудзёх яго. Навокал было так ціхамірна і так панябéснаму сьвяточна і прыгожа.

Цямнéла. На захадзе гарэла зара.

— Джу-нгу-у—паляцéў жук.

— Мэ-э-э—замаркатаў угарэ каля балота дзікі баран (чэпік); сéў нéйдзе на купіне.

Абапал дарогі было жыта ў копах і на карэньні, што не пасьпéлі яшчэ зжаць. З аржышча нёсься прыéмны жытні пах. З логу ціхі, цёплы вéтрык тхнуў сéнам. На нéбе паказалася зорачка, другая, трэцяя.

— Го-го-го,—каціласяя далёка па лéсе.

— Тпроля, тпроля, тпроля—клікаў нéхта жарабя.

Чутна ў пéрадзе па дарозе: „Скры--гы-ы... скрыгы-ы... вязуць нéшта, ці снапы, ці сéна, а можа й гальлё.—Нэ! нэ!—бадрыць коні паваждай; а яны цяжка йдуць па пыле, толькі: „шлёп-шлёп, шлёп-шлёп"—чуваць здалеку. Чарнéюцца вазы далёка, бліжэй, во адразу вынурнулі:



М. Гарэцкі.

— Добры вéчар! Ці далёка тут да Бéлі?

— А вёрст пяць набярэцца.

— З гакам,—дадаé з-за возу другі голас.

— Нэ-э-э!— паéхалі далéй, і ўзноў: „скры-гы-ы".

На дарозе гоман. Ідуць з поля людзі, за гэткі дзянёк пазамарыліся, напрацаваліся.

З-пад лéсу нясéцца, коціцца пéсня—жнéі йдуць ад Хаіма з падзёншчыны. І праца не бярэ маладых, красных на здароўе, круглавідых дзéвак... О! пéсьня; яны пяюць:

Загарэлася вячэрняя зара...

А з другога боку йдуць са свайго поля жнéі, там пяюць:

— Добры вéчар, гаспадынька мая!

Маладыя, зычныя галасы смакуюць сьпéў, і ён ірвéцца з здаровае душы ў дужым ня хворым цéле:

...Ці зрыхтована вячэрыца твая?
Водгалас доўга ляціць па лéсе.
Эх! і пагода-ж, пагода будзе на заўтрае.

І жнéі, і гоман, і пéсьні астаюцца патроху... Праяжджаюць ціхую вёску; агнёў няма, сабака нéйдзе гаўкнуў і змоўк; у пунях, хлявох жвуць каровы, а гаспадыні старыя, што заране з поля прыйшлі, там з даёнкамі: цур-цур, цур-цур... Праéхалі мосьцік, яр пайшоў, а на полі цямнéй ды цямнéй. Усё нéба зорамі гарыць, харошае, прынаднае!

Чароўнае хараство разьліта ў ім...

Усё ў полі супакоілася. Ані гуку. Архіп быў у добра-далікатным настрою. „Краіна родная мая...“—марматаў-пяяў ён ціханька і думаў-думаў, што будзе цераз дзьвесьце, трыста, чатырыста гадоў тут, наўкола? Калісь тут лясы былі драмучыя, непраходныя, у лясох людзі пнём маліліся і жылі са сваёй доляй-няд доляй. Ішло жыцьцё высякаліся лясы. Загарцавалі па тутэйшых мясцох людзі ваенныя-ратныя, шмат костачак маскоўскіх, польскіх, казацкіх палягло „паміж пустак, балот беларускай зямлі..“ Шведы, французы знаходзілі сабе тут вечны спакой. Божа, Божа, як гэта ўсё страшна і цікава!

— Паніч,—загаманіў балагольшчык з нейкім жахам,—вы, мусіць, ведаеце, што ў гэтым балоце, што налева, калісь у даўныя гады цэлы горад за нешта праваліўся скрозь-доньня. У ноч Купальскую чутны званы падземныя, а каля кургана, дзе манастыр *) быў даўней, іншыя чулі, як манахі ў скляпох абедню правяць...

— А хто-ж гэта чуў?—папытаўся студэнт.

— Усе. Як гэта-хто? Каму траплялася познай парой бываць тут, апынуцца... Бывае так яшчэ кажуць: агонь нейкі над балотам бегаець. Ты за ім—ён ад цябе, ты бліжэй—ён уцякаець. Сіненькі такі, невялічкі агоньчык. Кажуць грошы схавана тут шмат пад нейкім вялікім закляцьцем.

Ня кончыў балагольшчык свае гутаркі, як далёка на полі паказалася на самай зямлі полымя. Гарыць нешта. То шугае уверх яно, то ўбок, то бяз сілы зьбягаець уніз.

Чорны сьцень, як чалавецкая фігура, прабег па ім раз— другі. Праз некалькі часу полымя пыхнула ў другім, у трэцім месцы...

Балагольшчык змоўк ад страху. Коні вышэй паднялі галовы і закруцілі вушмі. Сам Архіп пачуў, як закалацілася ў яго сэрца і прыліплі на лобе валасы.

— Вось дык дзіва! у голас загаманіў ён,—каб разумна абмяркаваць, адкуль-жа тут агонь у толькіх мясцох: начлежнікаў на папары быць ня можа, а яшчэ што-ж?

Балагольшчык ціха зацмокаў на коні, дыргануў вожкі (лейцы) і нешта ціха шапнуў коням, а тыя пабеглі шпарчэй.

Архіп зьдзіўлена глядзеў у поле, у цямноту.

— Ось дык чартаўня! Ну й уцям тут, што за справа... І калі мне робіцца неяк ня добра, то што-б было з нашым батраком? І чэрці здаліся-б,—раздумляў студэнт, каб неяк выбачыць сабе сваё спужаньне. Ён яшчэ доўга, доўга ўглядаўся на полымя, а яно было ўжо цішэй, ня шугала так угару і патроху зьнікала зусім.

* * *

Архіп спаў доўга і смашна. Уначы сьніў нешта, хто яго ведае, якое, але прачнуўшыся нічагусенькі ня помпіў. У хаце ні-

*) Манастыр.

кога ня было, толькі чутна—у прысьце́нку за дзьвярмі матка ляпала ў качарэжніку вілкамі. Блінамі пахла. Сонейка гуляла снапамі сьвятла па настольніку, і на старэнькіх абразох. У куце́ гарэла лямпадка. На вуліцы, чутна гаманілі, се́дзячы на бярве́ньні, старыя і хлапцы.

„Ага, сяньня-ж сьвята“, успомніў Архіп, пацягнуўся і се́ў.

— Ці ўжо прачнуўся? Паспаў-бы ты, сынулька, болей: з дарогі замарыўся,—казала маці за сьцяною.

— І так выспаўся, як пяньку прадаўшы,—вясёла адгукнуўся Архіп і пачаў адзявацца.

У галаве́ таўпе́сіліся думкі аб горадзе, таварышах, да іх дадавалася дзіваваньне, што за зданьнё ўчора было. На сэрцы было ўсё-ж-ткі радасна і спакойна ад цёплае вясковае абставы.

— Ну й сыбірнікі, расколы!.. На галаве́ пачынаюць хадзіць,—голасна і сурова загаманіў не́хта на вуліцы, падышоўшы да кучы мужчын.

Архіп прыслухаўся.

— А што? Чаго ты?—папыталіся ў сярдзюка.

— А што-ж? Ну, ці можа гэта быць? Се́мдзесят гадоў на сьве́це пражыў, а гэткае пракуды ня бачыў. Вы тут во сядзіцё і нічога ня ве́даеце, а ў полі ўначы няма ве́дама што парабілі арыштанты не́йкія. Іванька, схадзі ў поле, пашукай сваё бароны... І ты, Самусь, і ты, Гаўрыла...

— А што? Якое там ліха яшчэ з баронамі?

— А такое, што не́йкія шэльмы іх уначы спалілі.

На вуліцы падняўся клум, крык, гоман.

Архіп уце́міў.

— Дык вун там якое полымя шугала. Добрае зданьнё!

Тымчасам матка заслала ўжо стол, прынясла бліны, паставіла скавараду з яе́чняю. Прышоў бацька, і хоць не хаце́лася грашыцца старым (абе́дня яшчэ не адыйшла), але дзеля дарагога любага госьціка і яны се́лі сьне́даць.

Пацякла бясконцая, прые́мная гутарка аб тым, аб сім і аба ўсім.

---

# Раніца ў нядзе́льку.

Дзе́нь быў сьвяты. Яшчэ ад
[раньня
Пяклісь аладкі на сьняданьне,
І ўжо пры пе́чы з чапялою
Стаяла маці. Пад рукою
Таўхалісь дзе́ці, заміналі,
Сьмяялісь, плакалі, пяялі.
Услон заняў сваё ўжо ме́ста;
На ім стаяла ражка це́ста
І апалоньнік то і дзе́ла
Па ражцы боўтаў жвава,
[сьме́ла,
І кідаў це́ста ў скавародкі;
Давала піск яно кароткі,
Па скавародах разьлівалась
І ў вочавідкі запякалась,

І ўжо адтуль рукою маткі
На зэдаль кідались аладкі,
А дзе́ці іх даўно чакалі
І наляту блінцы хапалі.
Ужо яны панаядались,
Гульнёй дзяцінаю займались:
Хто бе́гаў з кіем каля хаты,
Ганяў курэй. Як парасяты,
У пяску капались дзьве́
[сястрычкі.
Але́сь хадзіў каля крынічкі,
Што з ле́су тут-жа выцякала
І дужкай хату агібала.
Хадзіў, сьвістаў пад голас
[птушак,
Зьбіраў маліны ён ў гарнушак.
Параспаўзались усе́ вон з хаты,
І кожын дзе́лам быў заняты.
Хадзіў па ле́се зранку бацька,
У Нёмне рыбу вудзіў дзядзька,
А старшы хлопец пасьвіў
[стадка,—
А у хаце з дзяцьмі матка.
Яна ўжо з большага ўхадзілась,
Цяпе́р спаважней варушылась,
Скрышыла ў цэбры зе́льля
[сьвіньням
І ў гарод шла па бацьвіньне,
А ззаду, ўзяўшысь за спадніцу,
За ёй шоў Юзік-шаляніца,
Ахвотнік рэпкай пажывіцца,
Або ў садок у вішні ўбіцца.
Вярнулась маці з агарода.
— Але́сь—сынок! ідуць кароўкі,
Бяжы, скарэй, рассунь засоўкі,
Каб каля ве́сьніц не таў-
[хались!—
Кароўкі з ле́су паказались.
Трушком йшла ўпе́радзе
[Красуля,
За ёю Лысая, Рагуля.
Ды дзьве́ пярэзімкі-цялушкі
Йшлі згодна парай, як дзьве́
[дружкі,
А ззаду чмыхаў бык Мікіта,
Хвастом матаючы сярдзіта.
А авадні, як рой пчаліны,
Сьляпіцай ле́зьлі да скаціны
І тхнуць кароўкам не давалі,—
Галёпам бе́гчы запраўлялі.
І сам пастух бяжыць, гукае,
І заедзь гэту праклінае.
Загнаўшы ў хле́ў на ме́сца
[стадка
Насе́ўся Ўладзя на аладкі,
Шпурнуўшы лапці і анучы
Сярод двара ў пясок сыпучы.
Іх маці зараз падабрала,
Нічога сыну не сказала—
Пайшла ў крыніцу і памыла,
На прызьбе сохнуць палажыла.
— Унь дзядзька йдзе́!—гукаюць
[дзе́ці,
Забылі ўсё яны на сьве́це
І, як мага, бягуць, сьмяюцца,
Аж валасы у іх трасуцца.
— А, дзядзька, дзядзечка!—
[гукаюць,
Яго за кладкай сустракаюць.
А дзядзька важна так сьцігае,
Ідзе́ бяз шапкі, лоб жагнае,
І ў голас пацеры чытае.
І толькі дзядзька на двор
[ступіць,
Як кулаком ужо ў грудзі
[лупіць,
Тры разы хрысьціцца, уздыхае,
Тады ён шапку накладае
І ставіць вуды ўсе́ ў парадак.
— Ну, што, намазались
[аладак?—
Жартуе дзядзька тут з малымі,
Ідучы ў хату разам з імі.

**Я. Колас.**

# Лясьнікова пасада.

Мой родны кут! як ты мнé
[мілы!
Забыць цябé ня маю сілы.
Ня раз, утомлены дарогай—
Жыцьцём вясны маéй убогай—
К табé я ў думках залятаю
І там душой адпачываю.
Вось як цяпéр перада мною
Ўстаé куточак той прыгожы
Крынічкі вузенькае ложа!
І éлка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цéсна над вадою.
І бачу лéс я каля хаты,
Дзе колісь вéсела дзяўчаты
Пяялі пéсьні дружным хорам
З работ ідучы позна борам.
Нясьліся зыкі пéсень здольных,
У лясох раз-по-раз адбівалісь;
Ім ўсюды ўзгоркі адклікалісь,
І чулась радасьць у пéсьнях
[вольных.
А хвоі, éлкі векавыя,
Пад зыкі пéсень маладыя,
Маўчкі стаялі ў сумнай думе,
І ў іх ціхусенечкім шуме
Няслось вячорнае малéньне
Ўгару сьвятое аддалéньне.
Каля пасады лясьніковай
Цягнуўся зграбнаю падковай
Стары высокі лéс цяністы.
Тут вéрх асіны круглалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А éлкі хмурнымі крыжамі
Высока ў нéбе выдзялялісь
І сумна з хвоямі шапталісь.
Заўсёды смутныя, як удовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задумéныя галовы.
Лéс наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся,
А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сялібы,
Што проста-б імі любаваўся,
Ўнізé кустоўнік рассьцілаўся,
Ды густа з лéсам ён сплятаўся.
Глядзіш, бывала, і здаéцца,
Што скрозь галін сьцяну
[жывую,
Скрозь гэту тканку маладую,
Ні мыш, ні птушка не
[праб'éцца.
Цякла тут з лéсу невялічка
Травой заросшая крынічка,
Абодва бéрагі каторай
Лазьняк, алéшнік абступалі,
А ў іх цяньку бруілісь хвалі
І ў луг чуць значнаю разорай
Спакойна так йшлі між
[чаротаў,
Рабілі многа заваротаў,
Аж покі ў Нёман не ўцякалі.
Зялёны луг, як скінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Ад хаты зараз пачынаўся
І ўшыр і ўдоўж ён рассьцілаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З высокай мяккаю травою
І зьяў на сонцы ў пералівах
Прыгожых красак. Як на нівах
Жыта збажынка лёгка гнéцца
І людзям радасна сьмяéцца
Сваім прыятным дзіўным
[сьпéвам
Пад лёгкім вéтрыка павéвам,
Так гнуцца гойдаюцца травы,
Як пройме вéтрык іх ласкавы.
А каля хаты у садочку,
Схіліўшысь ціханька ў куточку,
Стаялі вéрбы дзьвé старыя.
А навакола маладыя
Дзярэўцы пышна разрасталісь
І згодна з вéтрыкам шапталісь.
Гальлё спусьціўшы над
[парканам,
Расла тут грушка з тонкім
[станам,
А ўдоўж паркана пышным
[валам
Стаяў вішняк густы, прыўдалы.

На прыгуме́ньні поруч з садам
Паве́ць з гумном стаяла радам.
А пад паве́ткай усе́ прылады:
Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы,
І вульлёў не́калькі на пчолы,
Яшчэ ня скончаных; судзінка,
Стары цабэрак, поўвасьмінка
І розны хлам і лом валяўся,
Ад сонца, дождждыка хаваўся.

Я. Колас.

---

# Горкі сьмех.

Бэрка, бе́дны хлапе́ц, хадзіў усю зіму ў парваных ботах. За доўгі час ён ня мог сабе́ сабраць двух рублёў на боты і дзеля гэтага яго ногі былі заўсёды мокрыя. Ён усё чакаў, каб прыйшло сьвята. Тады ён ужо будзе ме́ць новыя боты, будзе суха й цёпла яго нагам.

„Сьвята! сьвята!“ сьніў ён кожную ноч у школе за пе́чкай.

О! колькі салодкіх гадзін правадзіў ён у гэтым сьне́ньні, што калісь будзе сьвята.

Перад сьвятам,—думаў ён, буду я паднасіць пакункі паном, набяру паўтары рублі, а яшчэ паўрубля як-не́будзь ужо дастану, абы былі толькі гэтыя паўтары рублі.

І чым рабіўся ён на дзе́нь старэйшы, тым быў ён усё шчасьліве́йшы.

Вось і дажыў Бэрка да сьвята.

І Бог, што ўсіх корміць, не пакінуў і яго. Бэрка ме́ў шмат работы і бе́гаў зраньня да цёмнае ночы. Ён ня чуў, што яму мокра і дзьме́ць у ногі, яму было цёпла. Яго сэрца радасна білася, калі яму прыбывала яшчэ адна, дзьве́ капе́йкі. І чаму-ж не?— Калі з усіх бакоў растуць грошы, як крапіва.

Вечарэе. На вуліцы ідзе́ць дробны дождж. Ён даходзіць да самых касьце́й. Шмат людзе́й ужо схавалася ў хаты і зьбіраюцца сьвяткаваць. Але Бэрка яшчэ бе́гае, ня гле́дзячы на тое, што сьцюдзена і мокра. Ён думаець аб тым, колькі ў яго цяпе́р грошы. Ён баіцца навет і падумаць, што мае болей, як два рублі. Ад шчасьця ён бяжыць, як шалёны, не глядзіць на коўзкасьць і раптам—брык! ён паваліўся і разьбіў усе́ тале́ркі, што нёс з сабою, а з кішані высыпаліся грошы... Быў такі стук, што навакол яго сабралася шмат людзе́й. Хлапе́ц, расьцягнены ў балоце, кавалкі ад тале́рак і яшчэ ўдадатак грошы, што валяліся каля Бэркі— усё гэта выгукнула з закарэлых сэрцаў людзе́й рогат.

Усе́ сьмяюцца, а Бэрка плача, горка плача... Бе́дны хлапе́ц! Ня маючы бацькоў, ён заўсёды мадзе́ў у сьцюжы і голадзе. Ён ніколі ня мог быць роўны з усімі дзяцьмі. Другія дзе́ці думаюць, што яны ўсё павінны ме́ць, а ён ве́даў, што яму трэба цярпліва чакаць сьвята і зарабіць самому. А цяпе́р, калі прыйшло жаданае

сьвята, і ён спадзяваўся ўжо ме́ць тое, чаго ўве́сь год чакаў, Бог (як Бэрка пасьля сам казаў) раскаяўся, што надта яго расьпе́сьціў і пацягнуў назад лейцы. Ня гле́дзячы на сьме́х таўпы, Бэрка ле́дзь устаў і сабраў грошы, але не скарыстаў ён з гэтых грошы, бо трэба было заплаціць за пабітыя тале́ркі.

**Спэктар.**

---

# Малітва малога Габрусіка.

— А ве́даеш што, сынку?—казаў Ігнат свайму мале́нькаму Габрусіку,—рыхтуйся: абувай новыя лапці, бо пае́дзем на імшу! Няхай сягоньня Настуля ганяе ў поле,—патрапіць ужо; а мы з табой, каток, у царкву пае́дзем.

Гэта было ў нядзе́лю раніцай. Надта ўсьце́шыўся Габрусік: ніколі ён яшчэ ня быў нідзе́. Пад,е́ўшы аладкаў, насёрбаўшыся заціркі, надзе́ў ён новую кашулю, бацькаўскую суконную камізэльку, новыя лапці з бе́лымі анучамі і пае́хаў з бацькам на худой кабылцы ў мястэчка.

Новым і дзіўным здалося яму на дарозе ўсё: і вялікая вёска, і шырокія вуліцы мястэчка з вялікімі хатамі, і народ, каторы кішэў на рынку. Але ён маўчаў, вытапарашчыўшы вочы, быццам дзікі зьвярок.

Вось і царква... Яны ўжо стаяць у сярэдзіне, і дзіўна блішчаць Габрусёвы вочы. Бачыць ён: поп у рызе, шытай золатам, стаіць на амбоне і пяе́... Шмат агоньчыкаў сьве́ціць, як зоркі ў не́бе, а людзі бяз шапак стаяць і шэпчуцца, быццам ве́цер у бары... Зьвіняць званы пад вялікай брамай, як-бы грымоты ў страшэнную навальніцу на сенажаці.

Маўчыць Габрусік,—маліцца ня можа ён: ніхто яго ня вучыў; але ў яго маладым сэрцы ўжо даўно Бог жыве́... Даўно душа Габрусіка моліцца яму бяз слоў...

Бывала, раніцай, калі яшчэ ўсход чырвоным морам калыхаўся над сонным ле́сам, птушкі пялі над рэчкай, а ве́цер шаптаўся ў кустох і калыхаў залатыя хвалі на панскім жыце,—тады не́шта яго быццам рукамі хапала, і ён пускаўся бе́гчы, падбрыкаваючы, або клаў у губу пальцы і так моцна сьвістаў, ажно сам пасьля пужаўся зычных водклікаў шырокай і прасторнай ваколіцы.

Моляцца людзі і старыя, і маладыя, і бе́дныя, і багатыя—усе́ з паднятымі да не́ба вачамі... Моліцца і бацька яго, а Габрусік глядзіць ва ўсе́ бакі і маўчыць.

— Та-та, тата! кажа ён раптам. Бацька ня чуе.

— Та-а-та, ня вы-ы-трываю!..

— Ігнат штоўхае яго ў бок, каб ён маўчаў і моліцца йзноў.

Людзі апускаюцца на кале́ні, хінуцца ўсе́ ў адзін бок, як краскі да сонца...

— Та-а-тачка! сьвіс-ну!

Ігнат ізноў штоўхае яго ў бок і злосна кажа: „ціха“.

Гул ідзé ў царквé. Габрусік на ўсіх і на ўсё пазірае вялікімі сінімі вачамі, а бéлая, як лён, галоўка яго ня кратаецца, ня ківаецца, як ува ўсіх.

Ціш у царквé...

Цікаючыся, каб бацька ня ўглéдзіў, улажыў Габрусік па два пальцы кожнае рукі ў губы і... зычны, закацісты сьвіст раздаўся пад высокім скляпéньнем царквы...

Перапужаліся людзі, поп перастаў маліцца.

Што гэта? Хто гэта?

Але Габрусік ужо даўно сарваў лапцёнкі з ног і барждждэй кінуўся на ўцéкі.

А хрысьціяне і не дагадаліся, што гэта была пéршая шчырая малітва Малога Габрусіка ў царквé.

З. Бядуля.

---

# „Дзеравéншчына“.

Як яно будзе далéй, сказаць трудна. Скарэй усяго, што кéпска, і сам Міхалька так думае, стоячы на калéнках па нéкалькі разоў на дзéнь. Ён ужо кінуў і жаліцца сабé самому на сваю долю і пакорна згінаў калéні ў куточку. І гэты куточак стаўся яму навет блізкі, як-бы родны. У гэтым кутку Міхалька многа чаго перадумаў. І адзін толькі ён, гэты куток, вéдаў усé яго думкі, бо пагутарыць тут няма з кім...

Ох, гэты горад! На пакуту сюды ўзялі малога Міхальку. А горш за ўсё, дык гэта тое, што ніхто тут яго не шкадуе, ніхто за яго не закіне слова. А часамі, выскачыць ён на двор,—куды забяжыць зьнячэўку які сабака, можа такі самы няпрыхільнік у горадзе, як і сам Міхалька,—каб хоць з сабакам адвясьці душу. І толькі пачнé Міхалька заводзіць знаёмасьць з ім, кінуўшы яму перад гэтым кусочак хлéба, як ужо братавая барабаніць у шыбу.

Міхалька ўжо вéдае, што яму рабіць: ідзé ў хату і займае свой куточак. Сам Міхалька, калі хто выпадкам папытаецца, чаго ён стаіць на калéнках, тлумачыць так:

— Я яшчэ—„дзеравéншчына“, ня вéдаю гарадзкіх парадкаў і кéпска дзяржу сябé. Ось, з мянé і выбіваюць „дзеравéншчыну“.

— А ты любіш вёску? паéхаў-бы туды?

Ранéй чым адказаць, Міхалька баязьліва азірнéцца і ціханька скажа:

— Паéхаў-бы.

Праўда, Міхалька нядаўна прыéхаў з вёскі. Але гэта толькі гутарка адна „прыéхаў“. Проста забралі яго сюды і ўсё, бо дома ня было дзе дзéцца. Бацька памёр, маці памёрла, ось і забралі яго сюды. Цяпéр, дзякаваць Богу, ужо нічагутка—прывык; але

спачатку, дык было надта блага. Сядуць бывала за стол. На малéнькім століку каля дзьвярэй стаіць самавар; скавыча ён на ўсé галасы або пішчыць, як тая сьвіньня ў плоце, аж пара з яго вéрне. На сталé стаіць масла; тут-жа ў місцы ляжаць цэлыя кавалкі мягкае і бéлае булкі і такая, на яé ліха, цікавая, што Міхалька ня можа адарваць ад яé вачэй.

— Чаго ты ўталопіўся, як воўк на парасё?

Міхалька спускае вочкі і бярэцца за гарачую шклянку і тут-жа борзьдзенька адрывае ад яé апéчаную руку. Шклянка з гукам кідаецца на іспадак. Гарбата разьліваецца па сталé і на порткі Міхальку. Міхалька ўсхопляваецца з крэсла і стаіць расставіўшы рукі.

А калі абходзіцца без такога ліха, то, выпіўшы шклянку, Міхалька павінен быў падзякаваць. Тут ізноў не заўсёды абходзілася шчасьліва. Заміж „благодарю“ ляпне Міхалька ні к сялу, ні к гораду „дзякую“.

— Што за „дзякую“?!

Міхалька чуе, што вушы яго чырванéюць. Яму нéяк саромна сказаць „благодарю“,—здаéцца, усé яго на сьмéх падымуць.

Але ўсё гэта было ранéй. Цяпéр ён, дзякаваць Богу, навучыўся казаць „благодарю“, і „благодарыць“ і калі трэба і калі ня трэба. Ды ізноў-жа—з адным „благодарю“ на сьвéце не пражывéш—узноў знойдзецца якое-нéбудзь ліха.

Найгарэй было яму ўвясну і ўлéтку.

Міхалька доўга пазірае ў вакно. У канцы ў яго не хапае сілы працівіцца кліку, і ён азірнуўшыся, каб яго не задзяржаў хто, ціха выходзіць на двор. Прытуліўшыся дзе-нéбудзь каля вугла, доўга стаіць Міхалька. У гэтыя часіны ён нічога ня думае. Ён толькі чуе, як прыéмнае цяпло пéсьціць яго малéнькае цéльца. І добра так і радасна на сэрцы. А што робіцца на душы, то гэтага і ня скажаш. Толькі часамі замігацяцца ў вачох родныя зьявы далёкае вёскі, дзе Міхальку так вольна жылося, і сэрца нéяк ападзé, як успомніць ён сваё тут жыцьцё. Там, на вуліцы, чуваць, як тупаюць па ходзішчах*) ногі, як грукаюць капытамі па бруку коні, як шуміць і гудзіць многагалосы горад.

Доўга стаіць так Міхалька. Патым, ні з таго, ні з сяго, захочацца прабéгчыся, і ён, як куля, ірванéцца на двор, ганяецца за верабéйчыкамі, пакуль братавая ня крыкне на яго, каб ішоў забаўляць Лідачку.

Дом, дзе жыў Міхалька, стаяў на краю гораду. Глухаватая вуліца, наабапал каторай ляпіліся дзеравяныя дамы, скора выхадзіла за горад, у поле. Міхалька не адзін раз выбягаў на гэтую вуліцу і нюхам вясковага чалавéка ўгадаваў, што недалёка тут павінна быць поле. Раз ён, выбегшы на вуліцу, адышоўся ад дому. Тут ён ужо ня мог зьдзяржацца і пабéг да таго ўзгорка, што вясёла пазіраў жоўтым спахам сваіх пяскоў. Міхалька ўзьля-

*) Тротуарах.

цёў на гэты ўзгорак. Унізé расьцілаўся горад з бліскучымі вéжамі цэркваў і касьцёлаў. То там, то сям высака ў нéбе тырчэлі коміны хвабрыкаў і заводаў, распускаючы па вéтры даўгія хвасты чорнага дыму. А з другога боку раскінулася поле, чарнéўся лéс і вясёлыя пералéскі; а там, яшчэ далéй, чуць-чуць выступалі з сіневатае смагі стрэхі мужыцкіх хат. І так моцна пацягнула Міхальку туды, што аж душа яго млéла. І так ярка прыпомнілася яму свая вёска, што каб мéў крыльле, то ўзьняўся-б і паляцéў-бы. Міхалька ўсё цікаваўся ў адзін бок. Там, здавалася яму, павінна быць дарога да роднае вёскі. Божа мой! Як добра ў іх вёсцы! Ось Міхалька стаіць тут, на гэтым узгорку, а яна вось-вось здаéцца тут перад самымі яго вачыма. І так ясна, як цяпéр, ня бачыў ён яé і тады, як жыў у ёй. Вось высокі касагор над самым Нёмнам. Пад гэтым касагорам стаяць пахіленыя старыя вéрбы, дзе так многа калісь было ракаў. Там ляжыць зялёная сенажаць, а за сенажацяю цягнецца высокі і заўсёды пануры лéс. Гэтага лéсу Міхалька калісь баяўся. Асабліва нéшта страшнае і няпрывéтнае прыдаваў яму густы алéшнік, што зялёным даўгім валам цягнуўся каля самага лéсу. Цяпéр-жа гэты лéс быў такі мілы і жаданы, што каб пpымéў, то абняў-бы яго і цалаваў. Міхалька так задумаўся, што ня чуў, як да яго падышоў брат.

— Чаго ты тут, шыбельнік?—папытаў брат і крэпка пацягнуў Міхальку за вуха.

Міхалька задрыжэў увéсь, як злоўлены праступнік.

— Пайшоў дамоў!

Хлопчык, прылажыўшы руку да вуха, каторае быццам гарэла на агні, пабéг дамоў, ня сьмéючы зірнуць у бок.

За самадум забаранілі яму гуляць на дварэ.

Але Міхалька не паправіўся.

Куды там! ён задумаў такую рэч, што ўсé дзівіцца будуць. А пакуль што ціхачом ён рыхтаваўся споўніць тое, што задумаў. У самы глухі куток пад ложкам, дзе навет вéнік служанкі іх, Насты, рэдка калі зазіраў, складаў Міхалька розныя прыпасы на дарогу, бо Міхалька задумаў уцякаць адгэтуль. Тут ён прызапасіў з восем кусочкаў цукру, акрайчык хлéба з асушкам. Праўда, хлябок высахне, але Міхалька знойдзе ў дарозе крынічку і размочыць яго. Усé гэтыя прыпасы ляжалі на газэце, каторую Міхалька цішком узяў са стала. Разам з гэтымі прыпасамі ляжаў мячык і чалавéк з гумалястыкі, у каторага трэба было толькі дзьмухануць, каб ён загукаў, як жывы. Мячык і чалавéчка ён дасьць сваім сябром, бо хто-ж ідзé з гораду без гасьцінца? Асталося толькі пашыць торбачку, каб забраць увéсь скарб з-пад ложка. А там... ад аднаé гэтае думкі лёгка рабілася на сэрцы.

А наўпéрад ён яшчэ па дарозе зойдзе ў тую вёску, дзе яго брат служыў лéтась. У гэтай вёсцы Міхалька згубіў многа грошы— капéек пятнаццаць медзякамі. А найсьці іх лёгка, бо Міхалька, як цяпéр, бачыць тое мéсца, дзе згубіў іх, не знайшоў-жа іх тады

затым, што скора перабіраліся ў горад і ня было калі пашукаць, як налéжыць быць...

Доўга ня мог заснуць Міхалька ў суботу вечарам перад Сёмухай: заўтра рана, досьвіта, выберацца ён у дарогу. У тых думках, што цяпéр мятусіліся ў яго галавé, трудно было разабрацца... Э, ды што!

Устане і пойдзе; пойдзе пéрш да таго ўзгорка, адкуль ужо лёгка лучыць на дарогу... Скарэй-бы толькі заснуць ды ўстаць заўтра ранéй. Міхалька плюшчыў вочы, але сон, як сумысьля, ня йшоў да яго, і толькі можа пад поўнач заснуў Міхалька. Ня глéдзячы на гэта, устаў ён ранютка, асьцярожна падняў галоўку, разглéдзіўся, прыслухаўся. Брат і братавая спалі, навет Лідачка, і тая ня рушылася. Ціханька адзéўшыся, Міхалька памалéньку выцягнуў сваю торбачку, у каторую яшчэ з вéчара злажыў ён усé сваé манаткі. Прыгатаваўшыся, як мае быць, ён яшчэ раз азірнуўся і, трасучыся ўвéсь, прыцікаўся да дзьвярэй і ўзяўся за ключ. Павярнуў раз і абамлéў; ключ на яго ліха, так загрымéў, што напéўна ўсé абудзіліся. Са страху Міхалька выпусьціў з рук торбачку. Усё было ціха. Відаць, ніхто ня чуў. Узяўшы торбачку, Міхалька ціха скрыпнуў дзьвярмі і вышаў на двор.

Ня вéдаю: ці на дабро ці на няшчасьце Міхалькі вароты на дварэ былі замкнёны; агарожа-ж была такая высокая, дашчаная, што ўляпіцца ня было дзе. Колькі часін Міхалька парыўся на дварэ, шукаючы пералазу. І ня думаў ён ніколі, што гэтае здарэньне папсуé яму ўсю справу! Можа-б і пералéз як, але на бяду трэба было як раз цяпéр выйсьці на двор яго брату!

І што ты зробіш, калі ня шчасьціць? Міхалька, як і ўпéрад, жывé ў горадзе і толькі тым і цéшыць сябé, што тагды напéўна будзе яму палёгка, як выб'юць з яго—„дзеравéншчыну“.

Т. Гушча

---

# Іванька.

(*Чэхава*).

Іванька Жук, дзевяцёхгодні хлопчык, што тры мéсяцы назад адда ў навуку да шаўца Аляхіна, у ноч перад Калядамі ня клаўся спаць. Дачакаўшыся, калі гаспадары і работнікі пайшлі ў царкву, ён дастаў з гаспадарскае шафкі бутэлечку з чэрняю, абсадку з заржавéлым пяром і, расклаўшы перад сабою пакомканы ліст папéры, стаў пісаць. Перад тым як паставіць пéршую літару, ён нéкалькі разоў пужліва глянуў на дзьвéры і на вокны, скасурыўся на цёмны абраз, па абодва бакі якога цягнуліся паліцы з капыламі, і пярэрвіста ўздыхнуў. Папéра ляжала на лаўцы, а сам ён стаяў перад лаўкай на калéнах.

„Родненькі дзéдку, Канстантын Макаравіч! пісаў ён.—І пішу табé ліст. Віншую Вас з Калядамі і сулю табé ўсяго ад Госпада

Бога. Няма ў мяне ні таткі ні мамкі, толькі ты ў мяне адзін астаўся.

Іванька падняў вочы на цёмнае вакно, у якім адбівалася полымя сьвечкі, і выразьліва выявіў сабе свайго дзеда Канстантына Макаравіча, каторы ўначы вартаваў двор паноў Жываровых. Гэта быў маленькі, сухарлявенькі, але нязвычайна вёрткі дзядок, гадоў 65, з тварам, які ў яго заўсёды сьмяяўся. Удзень ён спаў у дворнай—варыстай хаце, уначы напратаваў шырокі кажух і ішоў хадзіць навакол двору, стукаючы ў сваю ляхотку. Цяпер, напеўна, дзед стаіць ля варот, плюшчыць вочы на ярка-чырвоныя вокны вясковае царквы і, прытупаваючы вайлакамі, строіць сьмешкі з чэлядзьдзю.

— Мо' табакі хочаце ўжыць? кажа ён, падсовуючы бабам табакерку.

Бабы нюхаюць і чхаюць. Дзед цешыцца і заходзіцца вясёлым сьмехам.

Даюць панюхаць табакі і сабакам. Каштанка чхаець, круціць мордай і пакрыўджаная адыходзіць убок. Уюн-жа з ветласьці ня чхаець і віхляець хвастом. А пагода надта добрая. Паветра ціхое, празрыстае і сьвежае. Ноч цёмная, але відаць усю вёску з яе белымі стрэхамі, клубамі дыму, што йдзець з комінаў, відаць дрэвы ў шэрані, гурбы.

Усё неба ўсыпана вясёла-мігаючымі зоркамі, малочная дарога відаць гэтак ясна, быццам яе перад сьвятам памылі і выцерлі сьнегам...

Іванька ўздыхнуў, памакнуў пяро і пісаў далей:

„Родненькі дзедку! зрабі ты мне сьвятую ласку, вазьмі мяне адсюль дамоў на вёску... Няма ніякае мае магчымасьці... Кланяюся табе ў ножкі і век буду за цябе Бога маліць, вывязі мяне адсюль...“

Іванька скрывіў вусны, пацёр вочы чорным кулаком і хліпнуў...

„Я буду табе табаку церці“ пісаў ён, „Богу маліцца... А калі думаеш, службы мне няма, дык Богам папрашуся даручнаму боты чысьціць, або заместа Хведара ў падпаскі пайду. Дзедку родненькі! Ня можна а ніяк проста сьмерць адна. Хацеў пехатою ў вёску бегчы, дык ботаў няма, марозу баюся. А калі вырасту вялікі, дык за гэта самае буду цябе карміць і пакрыўдзіць нікому не дазволю, а памрэш, дык буду за тваю душачку маліцца, усё роўна, як за мамку Паланею.

„А гэта места вялікае. Будынкі ўсе панскія, і коні многа, а авечак няма, і сабакі не сярдзітыя. Са зьвяздой тут хлапцы ня ходзяць і на клірась нікога пяяць ня пушчаюць, а раз я бачыў уваднэй краме, у вакне, кручкі прадаюцца разам з валасьнікам і на ўсякую рыбу ёсьць, ёсьць навет гэткі кручок, што сама ў пуд зьдзержыць. І бачыў крамы, дзе ёсьць стрэльбы розныя, падобныя да панскіх, відаць па рублёў сто кожная... А ў мясных радох і цецярукі, і рабцы, і зайцы, а дзе іх б'юць, пра тое даручныя ня ведаюць.

Дзядуля любанькі, а калі ў паноў будзе ёлка з гасьцінцамі, вазьмі мне́ пазалочаны гарэх і схавай у зялёную скрыначку. Папрасі ў пане́нкі Вольгі Ігнатаўны, скажы, што для Іванькі“.

Іванька сударжна ўздыхнуў і йзноў упёрся вачмі ў вакно... Ён успомніў, што па е́лку паном хадзіў заўсёды ў ле́с дзе́д і браў з сабою ўнука. Добрая была пара!.. Пе́рш чымся сьсячы е́лку, дзе́д курыць люльку, доўга нюхаець табаку, сьмяе́цца над азызлым Іванькам. Маладыя е́лкі ў хлопках сьне́гу, стаяць непарушна і чакаюць каторай з іх паміраць. Скуль ні ўзяўся, па гурбах ляціць, як страла, заяц. Дзе́д ня ўдзе́ржаваецца, каб ня крыкнуць:

— Дзяржы, дзяржы... дзяржы! Ах ты, куртаты! Сьсе́чаную е́лку дзе́д цягнуў у панскі дом, а там прыбіралі яе́.

Больш за другіх клапацілася пане́нка Вольга Ігнатаўна, яе́ любіў Іванька. Калі яшчэ жыла матка Іванькі, Палане́я і служыла ў паноў за пакаёўку, Вольга Ігнатаўна карміла Іваньку цуке́ркамі і, ня маючы работы, навучыла яго чытаць, пісаць, лічыць да сотні, навет скакаць кадрылю. А калі Палане́я памёрла, сірату Йваньку адаслалі ў варыстую хату к дзе́ду, а з варыстае хаты ў ме́ста да шаўца Аляхіна.

„Прыяжджай, дарагі дзе́дку“, пісаў Іванька, „Хрыстом-Богам прашуся, вазьмі мяне́ адсюль. Пашкадуй ты мяне́, сірату нешчасьлівага: нуда такая, што й выказаць ня можна, усё плачу... А яшчэ кланяюся Алёне, Юрцы і хурману, а гармонік мой нікому не аддавай. Астаюся твой унук, Іван Жук. Дзядулечка прые́дзь!..“

Іванька склаў у чатыры разы запісаны ліст і ўклаў яго ў канвэрт, каторы купіў ране́й за капе́йку. Падумаўшы крыху, ён памакнуў пяро і напісаў адрэс:

„На вёску дзе́ду“.

Потым падумаў і дадаў: „Канстантыну Макаравічу“. Здаволены тым, што яму не перашкодзілі пісаць, ён надзе́ў шапку і не накідаючы кажушка, проста ў кашулі, пабе́г на вуліцу...

Іванька дабе́г да пе́ршае паштовае скрынкі і ўкінуў свой дарагі ліст у шчаліну.

Укалыханы салодкімі надзе́ямі, ён цераз гадзіну ўжо спаў. Яму сьнілася пе́чка. На ёй сядзіць дзе́д, спусьціўшы босыя ногі, і чытаець ліст кухаркам... Ля пе́чы ходзіць Уюн і круціць хвастом.

---

# Рэха.

Я ішла дарогай, разьдзяляючай поле з гародамі невялікай вёскі, сярод пакрытых недасьпе́лым збожжам зусім у той час бязьлюдных палёў; дарога гэтая была пустой і бязьлюднай. Аднак, калі разам з ёй паднялася на невялікі ўзгорак, раптам, убачыла стаячае ўнізе́ дзіця. Малое, каля трох гадоў, босае, у грубой кашулі, зашпіленай каля шыі бліскучай шпількай, ме́ла яно на га-

лаве́ шапку з чырвонай воўны, каторая акрывала ўсю галаву навокал, ад броваў, ясных і рэдкіх, аж да таго ме́сца, дзе́ відаць было бе́ла-ільняныя валасы. Пасярэдзіне шапкі тырчэла досыць высака, штось падобнае да какарды і разам да грабяня пе́ўня. Зусім адно, стаяла яно, выпрастаўшыся, ня рушачыся, з малым пальцам у чырвоных, як маліна, вуснах і з вялікімі вачыма, каторыя заглéдзіліся нéкуды далёка. Сярод непарушнасьці твару, толькі гэтыя вочы блішчэлі жыцьцём; разагрэтыя сонцам, ігралі яны блéскам ціхое, у сабе́ сабранае, унутраным сьмяшком це́шучаеся вясёласьці.

Невядома чаму, але здавалася пе́ўным, што яму пагражала ў гэтым ме́сцы не́йкая небясьпе́ка. Параконныя вазы, завёзшыя се́на ў пуню, варочаліся назад на пожню і паказаваліся здалеку. І вось, са спуску дарогі маглі нае́хаць як раз на дзіця. Дадала крокаў, вочы дзіцяці памалу зьвярнуліся да мяне́ і ў тую самую часіну, як мігнуць вокам, зрабілася з ім дзіўная зьме́на. Напёрад з перапалохам уздрыгнула ўсім сваім це́лам, потым мале́нькія ручкі падняліся да галавы і сьціснулі чарвоную шапку сударажным рухам страху, каторы выкрывіў яму твар і да непазнаньня шырака рашчыніў яму вочы. Падумала, што хлопчык спалохаўся незнаёмае яму асобы. Нічога яшчэ ў гэтым ня было асаблівага. З усьме́хам і ласкавымі словамі падыйшла я да яго, калі зьняце́йку прабуджаны з свайго стаўбняка і аняме́ньня, ён крыкнуў дзіка і пачаў уцякаць, але так уцякаць, што аж мале́нькія ножкі перашкаджалі яму бе́гчы па пяшчыстай дарозе, аж заваліўся, зарыўшыся, і без таго чорным ад пылу, носікам у пясок, потым з неспадзяванай для яго шыбкасьцю падняўся з зямлі і пабе́г дале́й, расстаўляючы мале́нькія ручкі, і ўсё больш крычаў; сярод крыкаў можна было разабраць словы—Зье́сьць! Зье́сьць, мама! ой, зье́сьць. Да—душы зье́сьць! Мама! Мама!

Бе́г проста пад колы шыбка над'яжджаючых вазоў. Дагнаць яго, падхапіць і адсунуць на бок поля, парослага густым гарохам—было лёгка. Але тады страх хлапца ўзрос да гэткае ме́ры, што стаў дзіўным. Дарма я з ласкаю гладзіла яго па галаве́ і па твары, дарма сілілася ўлажыць у расхіленыя і пакрыўленыя вусны цуке́рку, вынятую з кішані, дарма прыкладала да малога чырвонага, як тульпан, вуха чыкаючы гадзіньнік, трывога яго ўсё расла, це́ла яго пачало дрыжэць, як у канвульсіях, залітыя ручаямі сьлёз шчокі дрыгаліся, у вачох адбівалася хваравітая няпрые́мнасьць. Ня бачыў, ня чуў, не адчуваў нічога. Ужо з нялюдзкім проста выглядам, з зьдзіўляючым высілкам, верашчэў усё адно:—Зье́сьць, зье́сьць! Да—душы зье́сьць! Мама, мама! Ой, ой! ой! зье́сьць!

Што тут рабіць? Хоць вазы ўжо і прае́халі, пакінуць гэтага малога сярод дарогі, здавалася не́йк нядобрым. Занясьці яго да вёскі таксама было цяжка: трэба было ме́ць больш сілы, каб удзяржаць яго цяпе́р на ўлоньні.

Як раз, з зялёнае гушчыні бліжэйшага гароду, паміж высокіх канапе́ль, лебяды, паказалася жонка. Яна была маладая, вы-

сокая, таўстая і румяная, і бéгла шыбка да нас, пераскокуючы цераз барозны.

Відаць,—мыла хусьце ў хаце, бо яé вялікія чырвоныя рукі былі мокрыя. З зьбіўшайся жоўтой хусткай на чорных валасох у кароткай спадніцы і паласатым хвартуху да нас даскочыла яна і якга падхапіла хлапца, прыціснула яго да сваіх шырокіх грудзéй, на якіх сярод зборак вілася чарвоная тасéмка з бранзовым крыжыкам на канцы. Прылажыўшы свой распалены і спатнéлы твар да галавы дзіцяці, абціраючы мокрай рукой ад сьлёз яго шчокі, яна гняўлівым голасам прамаўляла:

— Хвароба ты! каб цябé ўдушыла! Чаго ты верашчыш—аж у хаце чуваць? Ай, і спалохалася-ж я, аж мянé трэсьці пачало.

Супакоіўся ў матчыных абоймах, крычэць перастаў і толькі доўга яшчэ ціхога хліпаньня зьдзяржаць ня мог. Адвярнуўшыся ад мянé, абпёрся лобам аб шыю маткі, а свой чорны ад пяску нос зусім на грудзёх матчыных сплюшчыў, так дужа да іх тварам прыціснуўся. Яна шырокімі крокамі павярнулася да хаты, нізкая сьцяна каторай з прызбай і вузкім панадворкам паказаваліся з-за городу.

— Чаго ён так перапалохаўся? папыталася я.

— Дурны! Надта ён яшчэ дурнéнькі...—адказала.

— Ня вéдаеце, чаму ён крычаў: зьéсьць! зьéсьць! На каго ён думаў, што яго зьéсьць?

Кранула плячыма, але са зьмяшаньня яé твару я здагадалася, што вéдае, добра вéдае. Расказала, дзе стрэла хлопчыка, на пустой дарозе і ля над'яжджаючых вазоў. Пéўне перапалохаўся.

— Ах, Божа-ж мой!—загаманіла—усё здарыцца магло! Усякаму няшчасьцю—лёгка.

Яшчэ раз голасна пацалавала хлопчыка ў галаву і гняўлівым голасам пачала ізноў:

— Чаго ты туды йшоў, хвароба. Якое ліха цябé туды панясло!

— Як яго зваць?

— Прануком.

— Тры гады, пéўне, мае?

— На Пакровы яму будзе тры і дванаццаць тыдняў.

— Харошы хлопчык, якія ў яго прыгожанькія сінія вочы.

Засьмяялася шырака, здаволеная, пашлёпала хлапца даланёй па плячох і глянула на мянé з разьяснéлым тварам.

— Прыгожанькі сабé і разумненькі... Аж дзіва, які разумны, усё ўжо цéміць.

— А чаму-ж ён сяньня гэтак спалохаўся?

— Ось, бачыце, *дзед* страшыць.

— Які дзéд?

— А *майго*, значыцца бацька... добра ўжо стары. Працаваць ня можа, дык толькі й яго помачы, што ў хаце на пéчы ляжаць, ці там на прызьбе сéдзячы дзяцéй пілнаваць. Вось і дапілнаваў сяньня... каб яго.

— Чым-жа-ж ён дзяце́й страшыць.

Папытаўшыся аб гэтым, я паглядзе́ла ў твар Пранука, каторы ён пaціху пачаў падымаць ад грудзе́й маткі; вусны яго ізноў пачалі крывіцца, як да плачу, але я іх зараз-жа зачыніла уложанай у іх цуке́ркай.

Здаволеньне маткі ўзрасло яшчэ бале́й.

— Ве́дама, стары,—адказала—зусім здурне́ў... Умаўляе дзяцём, каб уцякалі, калі каго ў чорнай вопратцы ўбачаць.

— Чаму?

— Ве́дама, дурны. Зье́сьць, кажа.—Засьмяялася, але з не́йкім прымусам. Не хаце́ла адмаўляцца адказаваць на маё пытаньне, а чула сябе́ зьмяшанай.

— Хто зье́сьць?

— А быццам тыя людзі, што ў чорнае апраненыя ходзяць...

— Ня злуйцеся, калі ласка, ён ад старасьці зусім здурне́ў. Раз Пранук спрачаўся з ім. „А чаму, кажа, цябе́, дзе́дку, ня зье́лі?“

— „Елі, галубок, кажа, е́лі, толькі я гэткі цьвярды быў, што скуру і косьці заставіць мусілі“.

І *мой*, ня жарты, як часам злуе́ на яго. „Нашто ты, бацька, кажа, кажаш гэткае“. „Трэба, сынку, кажа, трэба; няхай загадзя ве́даюць, хто іх е́сьці будзе...“

Ля сьцяны хаты, на прызьбе, складзенай з буйнога, цьвёрда ўбітага пяску і паложанай на ім паўкруглай калоды дрэва, я ўбачыла се́дзячага старога. Выглядаў ён на гадоў 70, але ні друзлым, ні бязьсільным ня быў. Высокі, шыракапле́чы, худы, у грубой і досыць бруднай кашулі, якая была на шыі гэталькі адве́рнена, што паказвала значную частку яго грудзе́й, цёмных, як бронза, касьцістых, парослых даўгімі валасамі. Вялізарныя плоскія яго ногі, вышэй чымся да костак аголеныя, пакрытыя цёмным пылам, здаваліся ўрослымі ў жоўта-зялёную зямлю панадворка. Апіраўся локцямі аб кале́ні, рукі сплёў, і падаўшыся палавінаю це́ла напе́рад, так выцягаваў худую, цёмную, жылістую шыю, быццам зумысьля галаву сваю дзяржаў пад цёплымі мігатліва-ласкавымі косамі сонца. Галава гэтая была вялікая, угары сплюшчаная і блізу, што зусім без валасоў, якія толькі з канца чэрапу ад аднаго віска да другога, рабілі паўкруглы вянок, сьнегавымі, як срэбра, бліскучымі каслаўкамі (пасмамі) спускаліся на выступаючыя косткі патыліцы і на каўне́р грубое кашулі. Твар яго худы і даўгі, з запалымі шчокамі, зарос валасамі, падобнымі да цьвярдое, жаўтаватае шчоткі. Сярод гэтага зaросту вусны яго былі блізка што няпрыкме́тнымі, а над глыбака пасаджанымі вачыма зьвісалі з броваў даўгія, бе́лыя валасы. Лоб, узад уцякаючы а пашыраны лысінай, здаваўся вялікім і як поле, па катораму прайшла барана, пакрыты быў, удаўжкі, ушыркі і ўкосна, тоненькімі. як валасок, зморшчынкамі. Ве́кі ме́ў заплюснутыя: думаў, ці спаў. Быў падобны да струхле́лага дуба, яшчэ маючага сілы, з ве́рхам многа

разоў ве́трам ламаным з разьве́яным ліськом, але з пнём, які яшчэ крэпка дзяржаўся ў зямлі.

Ле́дзь толькі мы ўвайшлі ў вароты панадворку, Пранук вырваўся з абоймаў маткі і сваймі, як у качкі, валюхаючымі крокамі падбе́г да дзе́да. Аб сваім страху забыўся і сьмяяўся так голасна, як перад тым плакаў. З радасным і блізка што дзікім піскам прыпаў ён да дзе́да, каторы ве́кі падняў, рашчапіў паціху свае́ вялікія, проста як зямля чорныя, вузлаватыя рукі, і бяз усьме́ху, бяз слова, не парушыўшы хоць зьлёгка тварам, абняў дзіця. Выглядала яно ў гэтую часіну, як крохкая цацка ў руках волата. Выпрастаўся толькі крыху і адным плячом памог зьмясьціцца хлапцу на сваіх голых і валасатых грудзёх, даланёй другое рукі пакрыў блізка што ўсе́ яго пле́чы. Матка засьмяяўшыся гэтак шырака, што з-за мясістых і чырвоных вуснаў паказаўся ня толькі рад зубоў, белых, як пэрлы, але і дзёсны, чырвоныя, як кроў, прасіла мяне́, каб я адпачынула на прызьбе. Але стары, зірнуўшы на мяне́ поглядам, у каторым, падобна да дзьвюх іскраў, пралятаючых у зарасьніку, бліснулі на мяне́ з-пад зьвісаючых броваў вочы, не сказаў а нічога, галавой ня кіўнуў, це́лам не крануў і толькі ніжэй да ўнука галаву пахінуў. Магло здацца, што вось зараз, гэтай мале́нькай галоўцы, у круглай чырвонай шапцы, пачне́ расказаваць аб страхах, каторыя ходзяць у чорных вопратках.

Ой, дзе́дку, дзе́дку! па якіх цьвярдых і камяністых дарогах хадзілі твае́ ногі?

Якія гэта кусьлівыя і войстрыя зубы парабілі барозны на тваім лобе? Які, дасюль яшчэ не астыўшы боль і гне́ў напаўняе твае́ шырокія, бранзовыя грудзі?

**А. Арэшкі.**

---

# Сымон Музыка.

. . . Не падобны  
Быў Сымонка да другіх.  
Гэта быў хлапчук асобны:  
У вочках кругленькіх, жывых  
Заўсягды дума біскала;  
Уталопіцца—глядзіць,  
На губах сьмяшок, бывала,  
Заблукае, задрыжыць.  
Пазірае, замірае,  
Марам ўве́сь аддасца ён  
Ды зьнячэйку папытае:  
— Чаго, мама, стогне звон?  
Звон ў Сымонкі многа значыў,  
Звон надтрэснуты, стары,  
Што ў іх цэркве з даўніх часаў  
Бомкаў жаласна ўгары.  
І як толькі ў звон зазвоняць,  
Як застогне увышы  
Адгукнуцца, загамоняць  
Стрункі ўсе́ ў яго душы  
Сэрца ў хлопца страсяне́цца,  
Сам уве́сь ён, задрыжыць.  
І душа яго, здае́цца,  
Усьле́д за звонам паляціць,—  
Паляціць ў старонку тую,  
Дзе́ ён сумна заміраў.

Так звон душу маладую
Забіраў і калыхаў.
Ды ніхто ня знаў тых струнаў
Патайных ніцéй душы,
Што шчапляюць гук пярунаў
З нéмым голасам цішы.
Хлопчык бéдны ўсіх баяўся;
Кéпскі брат, ня любы сын,
Заўжды ён, бядак трымаўся
Ад ўсіх збоку і адзін.
Палюбіў ён адзіноту,—
Бо у гурце кéпска жыць:
А адзін ён мог ў ахвоту
Пéць, сьмяяцца, гаманіць.
Улéтку жыў Сымон раздольна:
Пойдзе з хаты ў поле, ў луг,—
Цёпла ўсюды і прывольна,—
Грае сэрца, грае дух.
Сядзе ён на камень ў збожжы,
Ня схінéцца і маўчыць,
Ловіць сэрцам сьпéў прыгожы,
Як жытцо загаманіць,
Як зазвоняць, заіграюць
Мушкі, конікі, жучкі,
І галоўкай заківаюць,
Засьмяюцца васількі.
У сэрцы сьпéў той адклікнуўся
І так добранька было,
Што Сымонька сам сьмяяўся,—
Усё сьмялялась ў ім, цьвіло.
Заміраў тады хлапчынка
І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць жытні колас,
І аб чым шуміць ячмéнь,
І чаго сьпявае ў голас
Мушка, конік, авадзéнь.
Млéў і таяў ўвéсь Сымонька,
Як увосень жураўлі
Сумны крык ранялі звонка
І хаваліся ўдалі,
Ды як потым прападалі
З крыкам жаласным яны,
Як-бы з плачам пакідалі
Родны край свой да вясны.
Хлопчык доўга, нярухомы,
Усё стаяў і ўсё глядзéў
У край далёкі, невядомы
Дзé той вырай паляцéў.
Так і жыў ён, гадаваўся,
Як пры сьцéжцы той гарох,
Сам з сабою забаўляўся,
Бéгаў, рэзьвіўся ў палёх,
І размову вёў з жытамі,
З матылёчкамі гуляў;
Так і жыў ён дні за днямі,
Так сябé ён разважаў.

Я. Колас.

---

# Дарагія грошы.

(*Пер. з украінскага*).

Жыў на сьвéце багаты чалавéк; багацьце сваё ён чэсна нажыў: шмат поту ў яго вылілася, пакуль завяліся ў яго капшуку чырванцы. Быў у яго ўсяго адзін сын; вырас ён сярод багацьця, працаваць не хацéў і грошы яму былі не дарагія. Колькі грошай яму бацька ні дасьць, ён іх усé адразу раскідае. Прабаваў яго бацька намаўляць, каб за працу браўся, — куды там, — і слухаць ня хоча.

Пайшлі раз бацька з сынам на рэчку, сéлі на бéражку, гутараць. Ідзéць каля іх нéйкі чалавéк і нясéць застрэленага вераб'я. Захацéлася сыну купіць таго вераб'я; адразу палéз у кішаню і выцягвае чырванéц.

Бацька кажа:—Дай мне́! Сын аддаў. Бацька замахнуўся, каб кінуць чырване́ц у рэчку і глядзіць на сына, што той скажа. А сын і не глядзіць. Бацька ў другі раз намэціўся, сын і на гэты раз увагі не зьвярнуў; бацька й кінуў чырване́ц у рэчку, Сын, навет, не пацікавіўся папытацца, на што бацька кінуў грошы ў раку, ізноў пале́з у кішаню і аддаў другі чырване́ц за вераб'я. Бацька бачыць, што сыну грошы зусім не дарагія і кажа яму: аддай мне́ каліту з грашмі. — Той аддаў. Тады бацька кажа: — Цяпе́р вось ідзі куды хочаш, як стаіш, бяз нічога, зарабі чырване́ц і толькі з ім варочайся да мяне́. Не прынясе́ш чырванца, дык жыві сам як хочаш, а я сваё багацьце ле́пш на сірот аддам.

Сыну аж сьме́шна стала, — Вось дык дзіва чырване́ц зарабіць. Пайду.

Пайшоў ён і думае:—Што-ж я ўме́ю рабіць? Пісаць хіба.— Прыйшоў ён у ме́ста і пачаў шукаць сабе́ пісарскае работы. Але куды ня прыйдзе, нідзе́ ён не патрэбен. Прышлося яму і кажух свой прадаць, бо е́сьці ня было на што купіць. А тут і восень падыйшла. Сьцюдзена яму.

Пайшоў ён у краму прасіцца, каб яго за даручнага ўзялі. Гаспадар у яго папытаўся:—А чым-жа вы пе́рш займаліся? Што вы ўме́еце?

— Я, — кажа, — жыў пры бацьку, пры гаспадарцы.

— Усяго таго? кажуць яму,—ну, нам гэтакіх ня трэба. Вы больш зьясьцё, чымся напрацуеце.

Пайшоў з нічым. Але сьцюдзена і е́сьці хочацца. Прыйшоў ён да ракі. Там ля прыстані шмат параходаў стаяла. Наняўся ён цяжары цягаць. Цягаў, аж, як лаза, гнуўся, ногі дрыжэлі, галава гарэла. Уве́чары, ад зьнямогі заваліўся на вуліцы і зьме́рз-бы каб яго паліцыянт не падняў.

Так працаваў ён цэлую зіму, пакуль не зарабіў толькі грашай, што стала іх вымяняць на чырване́ц. Тады пайшоў ён да бацькі. Падыходзіць да дому, бацька сустракае яго ля рэчкі.

— Дабрыдзень, тату!

— Здароў, сынку! — кажа бацька. — А што-ж, чырване́ц прынёс?

Пале́з сын у кішаню і ціханька, быццам што шкляное, выняў не́йкую рызіначку, разьвярнуў яе́ асьцярожна, там быў заве́рчаны ў папе́рку чырване́ц. Падае́ сын чырване́ц бацьку і аж рукі ў яго трасуцца. А бацька, узяўшы чырване́ц у руку, злажыўся кінуць яго ў рэчку. Сын, як ухопіць бацьку абе́дзьвюма рукамі за руку, як закрычыць: Ай, татачка, татачка! А сам як ня прытомны.

Засьмяяўся тады бацька і кажа: Цяпе́р я бачу, што і ты пазнаў цану грашам і працы. З таго часу астаўся сын жыць пры бацьку і быў на дзіва працавітым і гаспадарлівым.

---

# Каралеўская вопратка.

Жыў некалі на сьвеце кароль. Больш за ўсё ён любіў добра прыбірацца і на гэта йшлі усе яго грошы. Ён выхадзіў, ці езьдзіў куды толькі, каб паказаць сваю новую вопратку. Ён толькі і робіў, што апратаваўся ды распратаваўся і калі ён куды-небудзь спазьняўся, аб ім казалі: „Кароль перапратаваецца“.

Аднойчы ў тое самае месца, дзе жыў кароль, прыехалі два чужаземцы. Яны назваліся ткачамі і ўсюды расказвалі, што ўмеюць ткаць такую нязвычайную тканіну, якая апрача характва колеру, мае яшчэ асобліваcьць: дурны, ці нядобры чалавек яе ня ўбачыць. „Вось была-б вопратка!“—падумаў кароль.—Калі-б яна была ў мяне! Я-б адразу даведаўся, хто з маіх падданых працуе добра, хто разумны, а хто дурны.

Кароль зараз-жа гукнуў да сябе абодвух ткачоў, загадаў ім робіць сабе вопратку, для чаго даў ім шмат грошай і прасіў, каб яны не марудзілі.

Тыя зараз-жа селі за кросны і па цэлых днёх сядзелі за імі, прыкідваючыся быццам працуюць, а запраўды нічога ня робілі, толькі разводзілі ў паветры рукамі. Кожны дзень яны вымагалі новых нітак і золата, але ўсё гэта, клалі сабе ў кішаню і цешыліся, што так спрытна задурылі галаву каралю, седзячы за пустымі кроснамі. Каралю вельмі хацелася пайсьці паглядзець на работу, але ён памятаў, хто толькі можа ўбачыць тканіну, і віхаўся.

— Яно сабе, мне няма чаго баяцца,—казаў ён,—але ўсё-ткі няхай хто-небудзь перш за мяне пагледзіць. Няхай сходзіць да ткачоў мой першы міністар, ён такі паважаны чалавек, што напэўна лепш за каго ўбачыць тканіну.

Міністар, па загаду караля пайшоў туды, дзе сядзелі круцялі за пустымі кроснамі, прыкідваючыся, што працуюць. Падыйшоў міністар да іх, з цікавасьцяй глянуў на кросны і — нічога ня ўбачыў.

„Божухна Ты мой!“—падумаў з страхам міністар, праціраючы вочы.

— „Чаму-ж гэта я нічога ня бачу?“ Ці-ж гэта можа быць... Але казаць аб тым, што нічога ня бачыць, ён не адважываўся, і, нахінуўшыся над кроснамі, удаваў, быццам разглядае рысунак.

— Як вам падабаецца тканіна? — папыталіся ў яго хітрыя ткачы.

— Ах, вельмі хораша! На дзіва прыгожа падабраны колеры хварбаў!... лапатаў бедны міністар, з замяшаньнем гледзячы цераз свае акуляры. Тым часам ён думаў сам сабе: „Ці-ж я запраўды гэткі дурны? Вось чаго не спадзяваўся! Але ўсё-такі я не павінен прызнавацца, што нічога ня бачу, каб не падумалі, што я ня згодны да службы.

Гэткі сорам пад старасьць“... і ён яшчэ больш пачаў выхваляць тканіну.

Ткачы толькі гэтага й хаце́лі! Як толькі міністар пайшоў, яны ізноў загадалі даць ім нітак, золата і грошы, і ўсё гэта забралі сабе́ і нічога, як і пе́рш, ня робілі.

Ашуканы міністар, прыйшоўшы да караля сказаў:

А праўда, тканіна асабліва хараша выглядае.

Цераз не́калькі дзён кароль паслаў да ткачоў другога міністра даве́дацца, ці скора будзе зроблена вопратка.

З гэтым было тое самае, што і з пе́ршым. Ён таксама нічога ня ўбачыў на пустых кроснах, але ён, як і пе́ршы міністар, не хаце́ў, каб яго палічылі дурным, і ня выказаў таго, што ён нічога ня ўбачыў, наадварот, надта а надта хваліў рысунак і тканіну.

Каралю ён сказаў тое самае, што і пе́ршы.

У ме́сьце ўсе́ ўжо даве́даліся, што кароль шыець сабе́ вопратку з нязвычайнае тканіны і лічылі часіны, каб барджджэй убачыць яе́. Урэшце, сам кароль, адважыўся пайсьці паглядзе́ць на тканіну.

Са сваёй вялікай сьвітай ён зьявіўся да ткачоў. Ашуканцы сядзе́лі ля красён і шпарка снавалі ў паве́тры рукамі.

— Паглядзе́це, як прыгожа! — зьвярнулі ўвагу караля на кросны абодва міністры. Яны былі пе́ўны, што ўсе́, апрача іх, бачаць тканіну! Кароль падыйшоў да красён і, нічога ня ўбачыўшы, са страхам падумаў.

— А Божа-ж мой! Гэта-ж я нічога ня бачу. Але, ці я дурань? Што-б гэта магло быць?! Выходзіць, што я і каралём не магу быць. Не, я і думаць не хачу аб гэтым... Ён спагадна паківаў галавой ткачом і запрапанаваў сваёй сьвіце палюбавацца харастам тканіны.

Ніхто нічога ня ўбачыў, бо і бачыць ня было чаго, але кожны пасароміўся чым-не́будзь гэта выказаць і ўсе́ на ўсе́ галасы хвалілі такое прыгаство.

Аж кароль, хоць сам а нічагусенькі ня бачыў, усьце́шыўся і пастанавіў апрануць новую вопратку ў пе́ршае сьвята. Ён загадаў барджджэй канчаць работу і багата адарыў ткачоў.

Усю ноч перад сьвятам у вокнах ткачоў гарэў агонь: яны сьпяшаліся канчаць уборы

З сур‘ёзным выглядам яны здымалі з кроснаў тканіну, быццам кроілі яе́ ножніцамі і шылі пустымі іголкамі. Быццам скончыўшы шыць яны пайшлі да караля.

— Паглядзе́це на жупан,—казалі яны, падымаючы пустыя рукі.

— Бачыце якая лёгкая мантыя? Як вы апранецеся, вам будзе здавацца быццам вы разьдзе́ты, бо вопратка тонкая як павучыньне.

— Але́!—сказалі ўсе́, хоць а нічога ня бачылі.

Цяпéр, зрабéце ласку, разьдзéньцеся, каб мы маглі паглядзéць ці добра на вас будзе вопратка. Можа, што пераробіць патрэбна,—сказалі ткачы каралю.

Той разабраўся, а ашуканцы давай круціцца ля яго, быццам памагаючы яму напратавацца: прычапілі мантыю, каторай ня было, паправілі зборку, асьцярожна пераступаючы цераз яé хвост.

— На дзіва хараша!—хвалілі прыдворныя, тым часам як кароль разглядаў сябé ў люстры.

— Працэсія можа йсьці: усё гатова,—сказаў цэрамонімайстра.

Кароль яшчэ раз паглядзéўся ў люстра, яго камэргэры зробілі выгляд, што нясуць хвост мантыі і ўся працэсія пацягнулася па вуліцах мéста.

Важна йшоў кароль сярод вялікае чарады народу і з радасьцяй чуў, як усé дзівіліся яго прыгожай вопратцы. Кожны сам сабé вéдаў, што ніякае вопраткі на каралю няма, але ніхто аб гэтым не хацéў голасна прызнацца.

Аж тут малéнькі хлопчык закрычаў да свайго бацькі:

— Ай, татачка, кароль-жа-ж голы!!

— Праўду хлапчук сказаў—прашапацéў бацька свайму сусéду.

І ўвéсь народ сьпярша паціху, потым усё больш голасна, пачаў казаць: „Голы! Голы!“

— Мусіць яны праўду кажуць!—падумаў кароль, але зараз жа дадаў:—Ня трэба ўсё-ткі гэтага выказаваць! І ён важна і спакойна ступаў далéй, а камэргэры з яшчэ большай старанасьцяю нясьлі хвост, каторага запраўды ня было.

**Андэрсэн.**

---

# Жаба-падарожніца.

Жыла-была на сьвéце жаба-крактуха. Толькі й было ёй работы, што сядзéць на балоце, лавіць камары, мошкі і голасна крактаць. Цэлы вéк яна гэтак пражыла-б, каб ня здарылася вось што.

Аднойчы яна сядзéла на карчы, што вытаркнуўся з вады, цéшылася з цёплага малéнькага дожджычку. Раптам пачула, што нéшта засьвістала ў павéтры. Ёсьць такая парода качак: калі яны лятуць, то іх крыльле, сякучы павéтра, быццам пяé, ці лéпш сказаць, падсьвіставае: ф‘ю-ф‘ю-ф‘ю-ф‘ю. На гэты раз качкі, зрабіўшы вялікі круг, спусьціліся і сéлі як раз на тое самае балота, дзé жыла жаба.

— Кра-кра!—сказала адна з качак.—Ляцéць яшчэ далёка: трэба пад‘есьці.

Жаба адразу-ж схавалася. Хоць яна й добра вéдала, што качкі ня будуць éсьці яé, гэткую вялікую і таўстую, але ўсё-ткі, на ўсякі выпадак, занурылася пад корч. Крыху падумаўшы, яна адважылася высунуць з вады сваю лупавокую галаву: ёй было ельмі цікава вéдаць, куды лятуць качкі.

— Кра, кра—сказала другая качка.—Ужо сьцюдзена робіцца; Барджджэй на паўдзён! Барджджэй на паўдзён.

Усé качкі ў голас згадзіліся з словамі сяброўкі.

— Панечкі качкі!—асьмéлілася папытацца жаба.—На які гэта паўдзён вы хочаце ляцéць? Выбачайце, што трывожу.

І ўсé качкі павярнуліся да жабы.

Спачатку кожнай з іх захацéлася зьéсьці жабу, але ўбачыўшы, што гэткая вялікая жаба ня пройдзе цераз качынае горла, пачалі крычэць, лопаючы крыльлем:

— Добра на паўдні. Цяпéр там цёпла. Там ёсьць добрыя цёплыя балоты. Якія ў іх чарвякі. Добра на паўдні.

Яны так крычэлі, што блізка аглушылі жабу. Лéдзь-лéдзь яна іх умовіла сьціхнуць і папрасіла адну з іх, каторая здавалася ёй таўсьцéйшай і разумнéйшай за другіх, растлумачыць ёй, што гэта за паўдзён. І калі тая расказала ёй аб паўдні, то жаба вельмі ўсьцéшылася, але, як асьцярожная, у канцы ўсё-ткі папыталася:

— А ці многа там мошак і камароў?

— Цэлыя хмары!—адказала качка.

— Дык вазьмéце мянé з сабой!

— Дзіўна!—крыкнула качка.—Як-жа мы цябé возьмем: у цябé-ж няма крыльля.

— Калі вы думаеце ляцéць?—папыталася жаба.

— Скора, скора!—закрычэлі ўсé качкі. Кра! кра! кра! кра! Тут сьцюдзена. На паўдзён! На паўдзён.

— Дазвольце мнé падумаць толькі пяць часінак,—папрасілася жаба:—я зараз вярнуся; я, напéўна, прыдумаю нéшта добрае.

І яна хлёпнулася з сука, на каторым сядзéла, у ваду, нырнула ў ціну і зузім зарылася ў ёй, каб ніхто і нішто не перашкаджалі ёй думаць.

Прайшло пяць часін: качкі ўжо прыгатаваліся ляцéць, як раптам з вады паказалася жабяя морда з гэткім зьзяючым выразам, на які толькі здольна жаба.

— Я дадумалася! я знайшла!—сказала яна.—Няхай дзьвé з вас возьмуць у сваé глюгі пруточак, а я прычапляюся за яго пасярэдзіне. Вы паляціцё, а я паéду. Усё будзе як найлéпш!

Хоць маўчаць і цягнуць жабу тры тысячы вёрстаў, ня Бог вéдае якая прыéмнасьць, але розум жабы так спадабаўся качкам, што яны аднаголасна згадзіліся нясьці яé.

Пастанавілі мяняцца цераз кожныя дзьвé гадзіны, а дзеля таго, што качак, як кажацца ў загадцы, было, толькі, ды яшчэ толькі, ды палавіну таго, ды чэцьверць таго, а жаба была адна, то радоўка *) яé нясьці была нячастая. Знайшлі добры, крэпкі пруточак; дзьвé качкі ўзялі яго ў глюгі, жаба прычапілася ротам за сярэдзіну і ўсё стада ўзьнялося ў паветра.

*) Колея чарод.

У жабы дух заняло ад тае́ страшнае вышыні, на каторую яе́ паднялі; апрача гэтага качкі ляцелі няроўна і торгалі пруточак; бе́дная жабка боўталася ў паве́тры і з усяе́ сілы сьціскала свае́ шчэлепы, каб не адарвацца і ня хлёпнуцца аб зямлю. Але яна скора прызвычаілася і навет пачала разглядацца. Пад ёю нясьліся палі, лугі, рэкі і горы, которыя яна не надта добра магла разгле́дзіць, але ўсё-ткі што-не́будзь бачыла і це́шылася і гардзілася.

„Вось як я добра прыдумала“, думала яна сабе́.

А качкі, каторыя ляце́лі побач з парай, што нясла жабу, дзівіліся і хвалілі яе́

— Разумная галава ў нашай жабы!—казалі яны.—Навет паміж качак мала гэткіх знойдзецца.

Яна ле́дзь узьдзе́ржавалася, каб не падзякаваць ім, але, успомніўшы, што, разявіўшы рот, яна зваліцца з страшнае вышыні, яшчэ крапчэй сьціскала шчэлепы і цярпе́ла.

Цэлы дзе́нь яна боўталася гэтакім спосабам: качкі, што нясьлі яе́, пераменяліся лятучы, спрытна падхопліваючы пруточак; гэта таксама было страшна. Уве́чары ўся кампанія спусьцілася на не́йкае балота; з золакам качкі з жабай ізноў крануліся ў дарогу. Качкі ляце́лі над зжатымі палямі, над жоўтымі лясамі, над вёскамі, адкуль нёсься гоман людзе́й і стук цапоў, каторымі малацілі жыта. Людзі глядзе́лі на стада качак і, заце́мляваючы не́шта нязвычайнае, паказавалі на яго рукамі. Жабе страх як захаце́лася ляце́ць бліжэй да зямлі, сябе́ паказаць і паслухаць, што аб ёй кажуць. На чародным супачынку яна сказала:

— Ці ня можна ляце́ць крыху ніжэй. У мяне́ аж у галаве́ круціцца; баюся, каб не зваліцца, калі я самле́ю.

Добрыя качкі згадзіліся на яе́ просьбу. На другі дзе́нь яны ляце́лі так нізка, што чулі галасы.

— Глядзе́це, глядзе́це!—крычэлі дзе́ці ўваднэй вёсцы.—Качкі жабу нясуць.

Жаба чула гэта, і ў яе́ аж сэрца скакала.

— Глядзе́це, глядзе́це!--крычэлі ў другой вёсцы вырослыя людзі.

— Вось дзіва якое!

„Ці ве́даюць яны, што гэта я прыдумала, а ня качкі? падумала крактуха.

— Глядзе́це, глядзе́це!—крычэлі ў трэцяй вёсцы. Гэткае дзіва! І хто гэта прыдумаў такую хітрую штуку?

Тут ужо жаба ня ўдзе́ржылася і, забыўшыся на ўсякую асьцярожнасьць, закрычэла, што ме́ла сілы:

— Гэта я! я!

І з гэтым крыкам яна паляце́ла стоць галавой на зямлю. Качкі закрычэлі; адна з іх хаце́ла падхапіць бе́дную падарожніцу, але не ўдалося. Жаба, дрыгаючы ўсімі чатырма лапкамі, ляце́ла на зямлю і боўтнулася ў брудную сажалку з самага краю вёскі.

Яна скора высунулася з вады і зараз-жа ізноў закрычэла на ўсё горла:

— Гэта я! гэта я прыдумала!

Але навокал нікога ня было. Спужаныя неспадзяваным плёскам, тутэйшыя жабы ўсé пахаваліся ў ваду. Калі яны йзноў пачалі паказавацца, дык са зьдзіўле́ньнем глядзе́лі на новую.

А тая расказала ім дзіўную гісторыю аб тым, як яна думала ўсё жыцьцё і, урэшце, знайшла новы нязвычайны спосаб падарожы на качках; як у яé былі сваé качкі, каторыя насілі яé, куды ёй хаце́лася; як яна была на прынадным паўдні, дзé гэтак добра, дзé гэткія цёплыя балоты і дзé ёсьць шмат мошак і ўсякіх другіх жужлаў.

— Я заéхалася да вас паглядзе́ць, як вы жывіцё тут—сказала яна.—Я ў вас пражыву да вясны, пакуль ня ве́рнуцца маé качкі, каторых я адпусьціла.

Але качкі больш ужо не вярнуліся. Яны думалі, што жаба разьбілася воб зямлю і вельмі шкадавалі яé.

**В. Гаршын.**

---

# Страхацьцё.

Ня раз чуў я дзіўныя гутаркі аб страхацьцёх. Чуў аб дамавікох і лясунох; чуў аб нябожчыках, быццам у поўнач падымаюцца з магіл сваіх, паказаваюцца людзём і просяць у іх малітвы, што мае сілу зьме́ншыць ім мукі. Яшчэ малым дзіцяткам ня мала гэткіх казак наслухаўся я ад дзядзькі Антона — ён тады сьцярог сад. У начы заб‘е́шся ў куток будкі, а дзядзька сядзе і пачне́ казкі казаць. І дзіўныя рэчы апавядаў мне́ дзядзька: аб скарбах заклятых, што сінім агнём над балотам паказаваюцца людзём, аб ве́дзьмах і чараўніцах, ды мала чаго яшчэ ня баяў ён мне́.

Слухаеш яго гутаркі, а сам глядзіш у цямноту ночкі і здае́цца, што кожны куст, кожнае дрэўца, ле́с, поле, сьве́т цэлы— усё гэта поўна грамады духоў, дзіўных, няве́дамых нам стварэньняў. І ве́рыў я ўсяму гэтаму моцна, хоць сам ніякага страху ніколі ня бачыў. Але прышло адно здарэньне, ад якога ўся мая ве́ра ў духоў зусім прапала, ды навет сьме́х бярэ, успамінаючы дзядзькавы і людзкія байкі. Вось як гэта было.

Раз, гэтак пад восень, ішоў я вечарком з ме́ста дамоў. Дарога была далёкая і цяжкая, дык пакуль дайшоў да Мацюкоў, пристаў і змогся чыста. А тут, як на злосьць, не́ба зацягнула хмарамі, пачаў пырскаць дожджык; наляце́ў ве́цер і зашуме́ў мокрымі кустамі. Нічога ня зробіш, трэба зайсьці да кума Маце́я пагрэцца і пераждаць нягоду. Так і зрабіў.

Як раз у той час у Маце́евай хаце была вечарынка. Вясёлы сьме́х і гоман дзяўчат і дзяцюкоў мяшаўся з піскам іскрыпкі, тупаньнем ног і ляце́ў пераз дзьве́ры аж на вуліцу. Я ўвайшоў ў хату і стаў прыглядацца, як відны і дужы дзяцюк Юрка скакаў

таўкача. Ажно раптам адчыніліся дзьвéры ў хату і туды, як куля, уляцéў Ігнат.

— Ратуйце!—крыкнуў Ігнат,—ратуйце, чорт!..

Усé ўскочылі з сваіх мясцоў, але Ігнат, каторы, убягаючы ў хату, нéяк зачапіўся бравэркай за клямку, тарғануў і дзьвéры з трэскам зачыніліся. Ад гэтага агонь у газьніцы мігнуў раз, другі, бухнуў чырвоным полымем і пагас. Тут у хаце падняўся гвалт і крык. Запішчэлі дзеўкі, завылі бабы, закрычэлі дзяцюкі і дзяды: „Ратуйце! Чорт! Сярод гэтага крыку нéшта зазьвінéла, затупалі ногі; людзі, як шалёныя кідаліся з кута ў кут, баючыся выйсьці за дзьвéры, за якімі мéў стаяць чорт.

— Агню, агню дайце! крыкнуў нéхта.

Чыркнула сярнічка, асьвяціла хату і ўсё сьціхла. Толькі Ігнат, забіўшыся ў кут, маліўся на ўвéсь голас, зьбялéўшымі губамі, ды Мацéіха галасіла над пабітымі гаршчкамі.

— Ігнат, а дзé той чорт?—пыталіся людзі.

— Тутака, прыляцéў за мной,—кажа Ігнат.—Ланцугамі зьвініць і éнчыць.

— Божухна-Бацюхна! ланцугамі? І адкуль-жа ты прывёў яго сюды?!

— З магілак. Енчыць, ды ўсё ланцугамі зьвякае.

— Ды што брэшаш тут! гукнуў на Ігната Мацéй.—Які чорт?! Ціха, бабы, чаго выеце?! Дзé-ж той чорт? Давайце лучыны, пойдзем глядзéць, што там такое ёсьць! Вядзі, Ігнат!

— Нé, нé, нé! Не пайду, не пайду на згубу сваю! Божа, ратуй мянé з моцы чартоўскае... загаласіў Ігнат, і лéдзь удалося ўгаварыць яго йсьці разам з усімі.

Распалілі лучыну, пайшлі. Магілкі былі побач. Страх прайшоў; дзяцюкі жартавалі з Ігната і з сябé саміх. Але, як у цямноце забялéлі крыжы магілак, нéяк млосна зрабілася ўсім. Ішлі ціха, прыстаючы, паслухаваючы.

— Чулі?!.. зашаптаў нéхта.

Усé задзяржаліся. З магілак даляцéў якісь нялюдзкі стогн, ці крык і звон ланцугоў. Глянулі мы на Мацéя: лучыны дрыжэлі ў яго руках, і, зьняўшы шапку, пачаў ён хрысьціцца. Ізноў нéшта ёкнула; ізноў бразнулі ланцугі.

— Падыдзем бліжэй, сказаў Мацéй, можа душа пакутная бадзяецца па начы. Чаго спалохаліся? Хадзéма!

Пайшлі. Енкі і звон чутны бліжэй, зусім блізка. Здаéцца йдуць з-пад зямлі. Мацéй стаў і ўсé сталі.

— Чаго жадаеш, душа пакутная? папытаўся Мацéй. Мо' малітвы, ці чаго? Кажы, акажыся і не палохай людзéй па начы. Зробім, што хочаш.

Ня чутна ніякага адказу; толькі йзноў нéшта застагнала, ізноў зазьвінéлі ланцугі, ды так жаласьліва, так блізка, што я, хоць і не палахлівы, а шорах прайшоў па цéле. „Пайдзéма,—шапталі людзі,—пайдзéма дамоў“.

Відаць, спалохаўся й Мацéй. Яшчэ раз стаў пытацца, ізноў ніякага адказу...

— Дзядзенька,—аказаўся тут хлопчык,—тамака за кустом магілка сьвéжая выкапана. Гэта ў ёй éнчыць.

— Алé, у ёй,—адазваліся ўсé. Пайдзéма, паглядзім.

Мінулі куст. За ім яма. Там éнчыць—чутна добра.

Мацéй нагнуўся, пасьвяціў, глянуў у глыб ямы і... лéдзь не захіснуўся ад сьмéху. І было чаго: у яме ляжала кабыла акурат гэтага самага Ігната да гары нагамі, падкруціўшы шыю, у зялéзных путах...

— Вось табé і страхацьцё! Давайце барждджэй вяроўкі, а то прападзé жывёла!—камандаваў Мацéй, насьмяяўшыся даволі.

Прынясьлі вяроўкі і лéдзь дасталі напоў жывую сіўку.

Вось, цяпéр, як хто аб страхацьцёх акажацца, дык мнé ўсё кабыла здаéцца.

**Дзядзька Пранук**

---

# Гордая іголка.

Жыла калісь на сьвéце таўстая іголка. Але яна лічыла сябé вельмі тонкай.

— Глядзéце, дзяржэце мянé добра!—сказала іголка, зьвярнуўшыся да пальцаў, каторыя хацéліз я ўзяць.—Ня выкіньце мянé. Калі звалюся я—ніхто тады мянé ня ноéйдзе. Ці-ж вы ня бачыце, якая я тонкая?

— Супакойся,—сказалі пальцы, абхапіўшы яé навокал.

— Глядзéце-ж, я ня толькі сама, са мной сяньня мая слуга,—сказала іголка, цягнучы за сабой даўгую нітку.

Пальцы пакіравалі іголкай проста ў разарваны бот, на каторым трэба было зашыць лопнуўшую скуру.

— Якая грубая праца!—сказала іголка.—Я нізавошта не пралéзу: я зламлюся, я зламлюся

І запраўды, яна зламалася.

— Ну, не казала я?—наракае яна.—Я-ж гэткая тонкая!

Тады кухарка, у пальцах каторай іголка зламалася, даробіла да яé з ляку (сюргуча) галоўку і стала зашпіляваць ёю хустку.

Ну, вось я і брожка!—сказала іголка.—Я ўжо даўно вéдала, што дамагуся вялікае чэсьці. Я даўно вéдала, што я не прападу. Ды ці-ж гэтакія прападаюць калі?

І яна горда кідала погляды на ўсé бакі.

— Дазвольце ў вас папытацца,—зьвярнулася да яé яé суседка—шпілька,—ці вы з золата? У вас гэткі прынадны выгляд і такая цікаўная галоўка! Толькі яна ў вас нéшта малéнькая.

Тады нашая іголка горда глянула на шпільку і так высака задзéрла сваю галаву, што выскачыла з хусткі і лучыла ў вадасьцéчную канаву, якую ў гэтую пару чысьціла кухарка.

— Ага. Значыцца, цяпе́р мы будзем падарожнічаць!—сказала іголка.—Каб толькі мы не заблудзіліся.

І яна, запраўды, заблудзілася.

— Я занадта тонкая для гэтага сьве́ту!—думала яна, ле́жачы ў канаве. Але я ве́даю сабе́ цану і гэта мяне́ супакоявае.

Цэлыя кучкі трэсачак, саломінак, шкуматкоў старых газэт пераплывалі цераз яе́.

— Глядзе́це, як плыве́ць уся гэта драбяза!—кажа яна—І яны ня бачаць, хто пад імі. Я тутака. Чуеце? Я... Вось плыве́ць трэсачка; яна нешчасьлівая напе́ўна думае толькі аб самой сабе́. І ня ве́дае, што ўнізе́ ляжу я, гэткая рэдкасьць. А вось і саломінка нясе́цца не́куды. Бач, як круціцца! Якая яна неасьцярожная! Эй, ты, глядзі на ўсе́ бакі, а то як раз стукнешся аб каме́нь.

А, шкумяціна газэціны... Навет і тая задае́цца. Ужо даўно ўсе́ забыліся аб табе́. Адна я магу быць спакойнай, цярплівай. Я ве́даю сабе́ цану і дзеля таго буду гордай і важнай.

Раз угле́дзіла яна, што каля яе́ не́шта блішчыць. Іголка падумала, што гэта дарагі каме́нь. Вышла на тое, што гэта было простае шкло ад бутэлькі. Іголка, зьдзіўленая яго блісканьнем, распачала з ім гутарку:

— Вы, напе́ўна, дарагі каме́нь?—папыталася яна.

— Блізка каля таго,—адказала шкло.

І кожны з іх думаў, што мае справу з важнай асобай.

— Я жыла ў скрынцы ў аднэй пане́нкі. Гэна пане́нка была кухарка. На кожнай руцэ было ў яе́ па пяць пальцаў. Страшна капрысныя былі гэныя пальцы. Іх было пяць родных братоў. Але ўсе́ яны горда дзяржалі сябе́, ня гле́дзячы на тое, што былі ўсе́ рознага росту. Канцавы—вялікі палец, кароткі і таўсты, заўсёды дзяржаўся збоку; але ён заўсёды казаў, што калі хто-не́будзь страціць яго, таго ня возьмуць на вае́нную службу. Другі палец паспытаваў то смажэньне, то гарчыцу; ён паказаваў на сонца і на ме́сяц. Трэці глядзе́ў цераз пле́чы іншых. Чацьве́рты насіў залаты паяс, а апошні зусім нічога не рабіў і вельмі гэтым гардзіўся. Толькі гэта ў іх была адна хвальба і больш нічога. Гэта мяне́ разазлавала і я пакінула іх.

У гэтую часіну ў вадасьце́чную канаву налілі вады. Вада пацякла цераз берагі і пацягнула за сабой шкло разам з іголкай.

— Ну, урэшце, і мы крануліся!—сказала іголка.

Шкло паплыло дале́й, але іголка застанавілася ў ручаю.

— Будзе!—сказала яна,—бале́й не крануся ні на крок: я за тонкая і маю права гардзіцца гэтым.

І яна засталася ляжаць у канаве.

Раз хлапчукі, уле́зшы ў канаву, сталі капацца ў ёй.

Яны знайшлі там старыя цьвякі, медзяныя брындулькі і падобныя да гэтага дарагія рэчы.

Праца, праўда, была брудная, але дзе́ці былі здаволеныя і це́шыліся знаходкамі.

— Ой-ой-ой—закрычэў адзін, укалоўшыся аб іголку.

— Вось гадаўка!

— Зусім я ня гадаўка. Я—далікатная панéнка, — сказала іголка.

Але ніхто яé ня слухаў.

— Вось плывé шалупка ад яйца,—сказалі дзéці і ўторкнулі іголку ў шалупку.

— Ну, у добрую пару!—сказала яна. Цяпéр, мянé ўсé ўглéдзяць.

— Крак—крыкнула шалупа.

Цераз яé праéхаў воз.

— Божа, як мнé душна!—сказала іголка. Я зусім зламалася.

Але яна не зламалася, хоць воз і пераéхаў пераз яé. Яна, як і пéрш, ляжала ўдаўжкі ў ручаі.

Ну, і дзякаваць Богу,—няхай сабé ляжыць.

**Андэрсэн.**

---

# Воўк і авéчка.

Воўк і авечка.

Злавіў воўк ягнятка
І панёс жывое!
Плачуць сын і матка,
Як бабры абое.
Воўк над маткай зьлітаваўся,
Як які аконам,
У аўчынку перабраўся
Ды ідзéць з паклонам.
— Прышоў,--кажа,--я здалёчку
Расказаць пані авéчцы
Добру вéстку аб сыночку,—
Як яму цяпéр жывéцца.
Не пазнала-б ты ніколі:
Такі стаў дасужы,
І жывéць сабé на волі,
Без бяды, бяз нужы,
Зубы вырасьлі з клыкамі,
І адпалі рожкі,
Ножкі цяпéр з кіпцюрамі,
Хвост даўжэйшы трошкі.
І ўжо ваўка не баіцца,
Ў хлеў ніхто ня гоне;
Мае, чым абараніцца,
І другіх бароне!
Прыйдзі, імасьць, да нас ў госьці,
Справім сабé вечарынку:
Будзе мяса, будзе косьці,
Будзем éсьць без адпачынку"!
— „Дзякуй, дзякуй ягамосьці
За вéсьці такія!
Няхай прыйдзе сын у госьці,
Пагляджу ці вые?
Бо кажуць, між вамі
Трэба выць ваўкамі.
Я-ж павоўчу ня умéю
Ні выць, ні éсьці, ні лгаць.
Ды скінь скурку, дабрадзéю,
Бо... зубкі відаць".

* * *

І авéчка, хоць дурная,
А ваўка-ж пазнае!

**Мацéй Бурачок.**

---

# Справядлівы судзьдзя.

Адзін цар, Баўакас, захацеў сам даведацца, ці праўду яму казалі, што ў адным з местаў ёсьць справядлівы судзьдзя, які адразу пазнае праўду і ад якога ніводзін круцель не схаваецца. Баўакас адзеўся за купца і паехаў конна ў тое места, дзе жыў судзьдзя. Пад'язджаючы да места, сустрэў Баўакас калеку; той падыйшоў да яго і просіць надарыць чым-небудзь. Баўакас даў яму грошы і хацеў ехаць далей, але калека ўчапіўся за яго вопратку.

— Што табе трэба?—папытаўся Баўакас.—Ці-ж я ня даў табе грошы?

— Але, ты мяне надарыў—сказаў калека,—дык зрабі яшчэ ласку, давязі мяне на сваім кані да рынку, а то я баюся, каб коні і вярблюды не здратавалі мяне.

Баўакас пасадзіў калеку ззаду сябе і давёз яго да рынку. На рынку Баўакас зьдзяржаў каня, але старац ня злазіць. Баўакас кажа:

— Чаго ты сядзіш, злазь, мы прыехалі.

— А калека кажа:

— Чаму мне злазіць: конь мой, а ня хочаш дабром аддаць каня,— пойдзем да судзьдзі.

Людзі сабраліся навокал іх і слухалі, як яны спрачаюцца; усе закрычалі:

— Ідзеце да судзьдзі, ён вас рассудзіць.

Баўакас з калекай пайшлі да судзьдзі.

У судзе былі людзі, і судзьдзя па чародзе называў тых, каго судзіў. Перад тым, як чарод дайшоў да Баўакаса, судзьдзя судзіў мясьніка і масьляньніка. Мясьнік быў увесь у крыві, а масьляньнік—у масьле. Мясьнік дзяржаў у руцэ грошы, масьляньнік—руку мясьніка.

Мясьнік сказаў:

— Я купіў у гэтага чалавека масла і выняў капшук, каб заплаціць, а ён схапіў мяне за руку і хацеў адабраць грошы. Дык мы й прышлі да цябе.—Я дзяржу ў руцэ капшук, а ён дзяржыць мяне за руку. Але грошы мае, а ён—злодзей.

А масьляньнік сказаў:

— Гэта няпраўда. Мясьнік прыйшоў да мяне купляць масла. Калі я наклаў яму поўны жбан, ён папрасіў мяне разьмяняць яму залатнік. Я дастаў грошы і палажыў іх на лаўку, а ён узяў іх і хацеў бегчы. Я злавіў яго за руку і прывёў сюды.

Судзьдзя памаўчаў і сказаў:

— Пакіньце грошы ў мяне і прыхадзеце заўтра.

Калі дайшоў чарод да Баўакаса і да калекі, Баўакас расказаў у чым справа. Судзьдзя, выслухаўшы яго, папытаўся ў старца. Старац сказаў: Гэта ўсё няпраўда. Я ехаў конна цераз места, а ён

сядзе́ў на зямлі і папрасіў мяне́ падвязьці яго. Я пасадзіў яго на каня і давёз, куды яму было трэба, але ён не хаце́ў зьле́зьці і казаў, што конь яго. Гэта—няпраўда.

Судзьдзя падумаў і сказаў:

— Пакіньце каня ў мяне́ і прыхадзе́це заўтра.

На другі дзе́нь сабралася многа народу слухаць, як рассудзіць судзьдзя.

Судзьдзя гукнуў мясьніка.

— Грошы тває́,—сказаў ён мясьніку.

Тады гукнулі Баўакаса і кале́ку.

— Пазнаеш ты свайго каня сярод дваццацёх другіх?—папытаўся судзьдзя ў Баўакаса.

— Пазнаю.

— А ты?

— І я пазнаю—сказаў кале́ка.

— Ідзі за мной,—сказаў судзьдзя Баўакасу. Яны пайшлі ў стайню: Баўакас зараз-жа, паміж другіх дваццацёх кане́й, паказаў на свайго. Потым судзьдзя гукнуў кале́ку ў стайню і таксама загадаў яму паказаць на каня. Кале́ка пазнаў каня і паказаў яго. Тады судзьдзя се́ў на сваё ме́сца і сказаў Баўакасу:

— Конь твой, вазьмі яго.

Пасьля суду судзьдзя пайшоў дамоў, а Баўакас усьле́д за ім.

— Чаго-ж ты? Мо' ты нездаволен маім судом?—папытаўся судзьдзя.

— Не, я здаволен,—адказаў Баўакас.—Толькі мне́ хаце́лася-б ве́даць, як ты даве́даўся, што грошы мясьніка, а не масьляньніка, і што конь мой, а не кале́кі?

— Аб грошах я даве́даўся вось як: палажыў я грошы ў к… бак з вадой а сягоньня ўраньні паглядзе́ў—ці ўсплыло масл… на вадзе́. Каб грошы былі масьляньніка, то яны былі-б запэ… каны яго масьлянымі рукамі. На вадзе́-ж масла ня было, значыц… мясьнік казаў праўду. З канём было цяжэй. Кале́ка таксама, я… і ты, сярод дваццацёх кане́й зараз паказаў на каня. Але я н… дзеля таго прыводзіў вас абодвух у стайню, каб пабачыць, … пазнаеце вы каня, а дзеля таго, каб бачыць—каго з вас дво… пазнае конь. Калі ты падыйшоў да яго, ён павярнуў галаву, п… цягнуўся да цябе́, а калі кале́ка крануў яго, ён прыціснуў вуш… і падняў нагу. Вось як я даве́даўся, што гаспадар гэтага каня—т…

---

# Жыта.

Неспакойна зашуме́ла
Жыта маладое,
Зранку самага трывожна
Шэпча зяляное.

Каласочкі на саломках
Галавой качаюць,
Каплі роскі на іх лісьцю
Чыстым срэбрам зьзяюць.

Што шуміш так неспакойна,
Жыцейка у полі?
Ці ня чуеш, што пад градам
Зьляжаш у роўным доле?

Ды і сонца ў цёмных хмарах
Твар свой закрывае;
Ой відаць на навальніцу
Зранку прыпякае!

„Што то будзе! што то будзе!“
У мéжах шэпча жыта.
Даль ня ласкава туманам,
Смагаю закрыта.

Ой, няхай лéпш хмара з градам
Зьнікне ў чыстым полі
Няхай жыта, нашу ўцéху,
Не кранé ніколі.

Ня шумі-ж ты гэтак сумна,
Маладзéнькі колас,
Бо нам ў сэрцы смутак родзіць
Шуму твайго голас.

**Якуб Колас.**

---

# Ліпы старыя.

Ліпы старыя шумяць за
сьцяною;
Жаласна, глуха шумяць;
Нудна ківаюць яны галавою,
Нудна галіны скрыпяць.
Пышны убор іх—лісты—
пазрываны,
Віхр іх разьвéяў, разьнёс;
Бéлым марозам галіны затканы,
Сьнéг іх глыбока занёс.
Плачуць бязьлістыя ліпы
старыя
Плачуць на долю сваю:
Пышна расьлі мы, цьвілі,
маладыя
Добра было у гаю!
Вольныя птушкі ўвакруг
шчабяталі,
Божыя пчолкі гулі;
Вязы таўстыя ад буры хавалі,
Дубы нам сéткі плялі.
Бéлыя хмаркі па нéбе гулялі,
Бéглі ў нявéдамы край;
Чыстыя росы, як срэбра,
блішчалі,
Гоманам поўніўся гай...
Там бы хацéлась расьці,
красавацца
Дол дзе капае ральнік, *)
Родную пéсьню дзé ціха
сьпявае
Сын Беларусі—мужык.

**Я. Колас.**

---

# Восень.

Над пахмураю, мокраю зямлёю павісла шэра-цёмнае, нуднае восенскае нéба.

Пустая вуліца маўчыць. Людзі, калі ўдварэ, дык сядзяць па хатах. І коні ў пуні, бо ў полі зямля замéрзла, і толькі сяньня троху адтаяла і пакрылася зьвéрху ліпкаю гразьзю. А ў лагчынах яшчэ бялéецца па лагу і блізка лéсу бéленькі, рэдкі сьнегавы

*) Полёнізм, пабеларуску—араты, гартай.

налёт. Смутна гудзіць абголены гай на ўзгорку. У незахістанай ані сувалкаю, ані чым на зіму, пуні плятнёвай мычыць карова.

Не багаты хварбамі тутэйшыя малюнкі. Зусім бе́дна гукамі паве́тра глыбокае восені ў глухой вёсцы.

На вуліцы—груда, ліпкая зьве́рху ў пагодлівы дзе́нь. Пуста. Нікога. Рэдка дзе́ пад паўдзён пракандыбаець дзе́д з рэзьвінамі да старога гуме́нца. Накінуўшы паўсьвітак, шпарка прабяжыць дзяўчына да таварышкі з вышываньнем пад палою.

Вось і ўсё.

На рагу, ля канцавога двара, прывязан за аброць к баньцы ў шуле́, запрэжаны ў „бяду“ ціхі і спакойны гняды конь. Ён апуўсьціў галаву, зьве́сіў вушы і ня е́сьць. Жмуток балотнага се́на сіратліва рассыпаецца перад ім па ве́тры. На „бядзе́“ на пажоўклай сухой гарохавіне не́йкі ме́х, запэцканая, закачаная торба, аржавая асака гнядому каню.

М. Гарэцкі.

---

# У вастрозе.

Астрог, браткі, паглядзе́ўшы
Мімаходам, выглядае
І нічога: шак ня е́ўшы
І ў вастрозе ня бывае.
Але ле́пшы ў хаце голад,
У дарозе ве́лькі *) холад,
Найцяжэйша праца ў полі,
Як у тэй астрожнай долі!
Відзеў птушку я у кле́тцы,
Як галоўкай потуль б‘е́цца,
Аж скрыдэлкам затрапоча
І сканае... жыць ня хоча!..
Раз лісіцу адкапаўшы,
Прывязалі мы да кола:
Стала грызьці што папаўшы,
Сабе́ бруха распарола,
Растрыбушылась на часьці,
Каб ня жыць так, каб прапасьці!
Нашто—гадзіну, мядзянку,
Пусьці ў шклянае начыньне,—
Сама сябе́ без прастанку
Будзе жаліць, пакуль згіне!..
Як ужо-ж скаціна тая,
Або гадзіна праклята,
І та цану волі знае,
Што-ж для нашага то брата,
Ме́ўшы розум не скацінны,
Як знаць волю мы павінны?
А ў вастрозе няма волі,
Ні ў чым няма і ніколі!
У зяле́зе тыя дзьве́ры,
Пры дзьвярох стаяць жаўне́ры.
А народ усё сярдзіты,
Так, як-бы яшчэ ня сыты
Людзкіх сьлёзаў, мукі, е́нку;
Не гавораць памале́ньку,
А ўсё зыкам, а ўсё з лайкай,
А ўсё з боем, ўсё з нагайкай.
. . . . . . . . . . .
У дзядзінец нас як пхнулі,
Дзьвярмі тымі як грукнулі,
Дык і сьве́т мне́ тут закрыўся,
Як-бы у труну забіўся...
Нас піхнулі, як у яму
Ў цёмну хату чвараграну,
Далі хле́ба, вады ме́ру
І запёрлі, як за ве́ру
У цямніцах калісь гэта
Замыкаліся ад сьве́та.
Цёмна, зімна! Прытуліцца
Няма куды! А каганец
Як-бы ґубка толькі тліцца.

М. Бурачок.

---

*) Полёнізм, пабеларуску—вялікі.

# На полі бойкі.

Я помню, як бе́глі мы па ле́се, як гудзе́лі кулі, як адрывалі яны галіны ад кустоў, як мы праціскаліся скрозь кусты шыпшыньніку. Стрэлы сталі часьце́йшымі. З краю ле́су паказалася не́шта чырвонае, каторае мігаце́ла то тут, то там. Сідаровіч, маладзе́нькі салдат пе́ршае роты (як ён дастаўся ў наш ланцуг, праляце́ла ў мяне́ ў галаве́), раптам прысе́ў да зямлі і моўчкі глянуў на мяне́ вялікімі перапалоханымі вачамі. З роту ў яго цякла кроў. Я ўсё гэта добра памятаю. Я памятаю таксама, як ужо на ўскраю ле́су, у густых кустох я ўгле́дзіў турка. Ён быў вялізарны і таўсты, а я слабы і худы. Але я бе́г проста на яго. Не́шта стукнула, не́шта, як мне́ здалося, вялізарнае праляце́ла міма; у вушох зазьвіне́ла. — Гэта ён у мяне́ стрэліў, — падумаў я. А ён з жудасным крыкам прыціснуўся плячыма да густога куста шыпшыньніку. Можна было абыйсьці куст, але са страху ён нічога ня помніў і ле́з на калючыя галіны. Адным махам я выбіў у яго стрэльбу, другім, ткнуў не́куды свой штых. Не́шта ні то зарычэла, ні то застагнала. Потым я пабе́г дале́й. Салдаты крычэлі: гура! валіліся, стралялі. Памятаю, што і я выстраліў не́калькі разоў, ужо выйшаўшы з ле́су. Раптам „гура“ стала галасьне́й, і мы ўсе́ пасунуліся напе́рад, зн. ня мы, а салдаты, бо я застаўся. Мне́ гэта здалося дзіўным. Яшчэ дзіўне́й, было тое, што перада мной раптам усё шчэзла, усе́ крыкі і стрэлы змоўклі. Я ня чуў нічога, але бачыў не́шта сіняе, мусіць, гэта было не́ба. Потым і яно шчэзла. Я прышоў да памяці ў дывізійным лазарэце. Нада мною стаяць дактары, сёстры міласэрдзя, і, апрача іх, я бачу яшчэ знаёмы твар ве́дамага прафэсара, нахіненага над маймі нагамі. Яго рукі былі ў крыві. Ён не́шта робіць нядоўга з маймі нагамі і потым зварочваецца да мяне́.

— Ну, дзякуйце Богу, дзяцюк. Будзеце жыць. Адну ножку мы ад вас узялі: ну, але гэта драбяза.

**В. Гаршын.**

---

# Ян і маці.

Ты стамілася, змарне́ла, сьлёз праліла рэчку.
Што-ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, сьве́чку:
Мо‘ паможа Яну гэты сьве́т і пацер словы...
Асьвяціла съве́чка з воску хлопца твар васковы.
Тае воск і ўніз ціхутка капелькі сьцякаюць,
А ў вачох збале́лых Яна сьлёзы праступаюць.
Сьве́чка сьве́ціць, сьве́чка зьзяе, сьве́чка дагарае,
І ў панурай, це́снай хаце хлопец памірае.
Ой, ня ве́к-жа сьве́чцы тонкай зіхаце́ць гарэці,
Дагарыць яна і зьнікне, як і ўсё на сьве́це...

**М. Багдановіч.**

---

## Як кароль ў паход выходзіў...

Як кароль ў паход выходзіў,
Голас зычных труб праводзіў,
Залацісты сурмы йгралі
На пабе́ду ў добрай хвале.
А як Стах пайшоў на бітвы,
Зашаптаў яму малітвы
Цёмны ле́с ды жыта ў полю
На нудоту, на нядолю.
На вайне́ там кулі сьвішчуць,
Як касою людцоў нішчуць;
Каралі найле́пей б'юцца,
Мужыкі-ж найбольш кладуцца.
Шалясьцяць сьцягі шаўковы,
Не́йдзе крыж скрыпіць вясковы;
Стах ад раны памірае,
А кароль здароў вяртае.
У вароты як уе́хаў,
Выйшла зорка на паце́ху
І усе́ зайгралі звоны
На ўсе́ сьве́тавы староны.
Як дол мужыку капалі,
Зашуме́лі дрэвы ў далі,
Зашуме́лі праз дубровы
Тыя кве́тачкі ліле́вы.

**М. Канапніцкая.**

---

## Песьня вайны.

Выйшлі роднай вёскі дзе́ці
Паміраць на бе́лым сьве́це,
Расьсяваць па сьве́це косьці
Праз кагосьці, за кагосьці.
Асталіся нівы, сёлы
На той сум—жыць невясёлы,
Асталіся, ой, сіроты,
З горкім горам, з адзінотай.
Не палыне сошка ў полі
У добрай волі, з добрай волі,
Не пачуюць кос пакосы, —
Ржа пае́сьць сталёвы косы.
Ночкай, ве́чарам, заран̃ьня
Маці, ўдоўка, выйдзе, гляне,
Выйдзе, гляне,—стане досыць
Просіць Бога... не дапросіць!
На каго-ж Ты нас пакінуў?
Чаму-ж ле́пей дамавіну
За калыску, за ліпову
Ты ня даў нам дзеля хову?

**Я. Купала.**

---

## Сьвяткаваньне рэвалюцыі.

Грыміць марсэлье́за. І мора галоў
І мора бліскучых вачэй.
Штандары ад хварбаў багатых мігцяць,
Красуюць ярчэй і ярчэй.
Дзвізы на іх серабром адліваюць
І золатам пышным мялькаюць;
На мовах, на розных аб Волі сьвятой,
Аб дзіўным, аб заўтрашнім дне́!
Гавораць-гамоняць; ня ве́рацць сабе́.
І людзі, як быццам, у сьне́.
Гэй, Воля пануе на бе́лым, на сьве́це,

Аб Волі пяюць навет дзéці,
І чуюцца рытмы у гулкіх шагох;
Бы хвалі плывуць упярод
Старыя-малыя, бо сьвята усім,
Народы—у вялікі народ.
Грамадай куюць агняцьвéтную долю.
Усім адзін Бог—гэта Воля!
Ідуць і лікуюць. Бы рынуўся бор.
Рвануўся. Ідзéць у прастор...
Шыбае пад сонцам па грудзях зямлі,
Шыбае пад нéба да зор.
Усé уваскросьлі, падняліся з нéтраў,
Іх гімны зьвіняць у павéтры.
Іх шэсьцьвіе пышна. Усé сэрцы адно!
Цярпéлі усé пад ярмом.
І полымем душы палаюць, гарац,
Іх сіла вяліка, як гром.

**Ясакар.**

---

# Прысяга над крывавымі разорамі.

Быў цёплы васéньні дзéнь. Нівы ціха адпачывалі пасьля лéтняе працы. Цёмны лéс шаптаўся ў глыбокай задуме. Буслы тужліва ляцéлі на вырай.

Гэтага дня маркотны і згорблены пад цяжкою хмараю нявясёлых дум лéдзь - ледзь поўз стары Мацéй у поле. „Галава баліць, — рук ня зьняць“, — бурчэў ён, пацягаваючыся. „Дзяцéй дагадаваўся, а адпачыць і няма за кім“. Так ён сам сабé жаліўся.

Праўда, у Мацéя былі тры сыны: аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў у мéста шукаць хлéба, трэці пайшоў за парабка да двара, а бéдны Мацéй з жонкаю і дзьвюма малодшымі дзяўчаткамі астаўся ў хаце на сваёй гаспадарцы.

Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо ня тыя,—а рабі і рабі, працуй без канца... Мардасовічу за лён, Бізуноўскаму за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы што-дзéнь на адработках, так што сваё хоць і вузка, але і то нястача часу ў пару засéяць. Ось і цяпéр сусéдзі ўжо даўно пасéялі і пабаразьнілі, а Мацéй толькі пéршы дзéнь выйшаў на сваё і то быў хворы.

Аднак, перамагаючы сябé, насыпаў жыта ў хвартух, напляваў ў жмéню, чарпануў зярнят і са словамі „Радзі Божа!“ сыпануў зярнё на чорную глéбу.

Зярняты замігацéлі на ральлі. А Мацéй стаяў з пасалавéўшымі вачамі і шаптаў: „Не магу, — надта-ж галава баліць і сон морыць... І, не ўкладаючыся ані пасьцілаючыся, ён як стаяў, так і лёг, так і заснуў...

Спаў, як пласт, упапярок загону з раскінутымі рукамі. Твар быў бляды, вусны чорныя ад смагі; дыхаў ён часта і з якімсь хрыпам. Здалеку выглядаў на чалавéка, каторага вось-вось раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён памалу канае.

Мацéй спаў доўга і сьніў. Сьніў ён, што сабралася лёса *)

---

*) Вельмі шмат.

народу на яго ніве: былі там і маладыя і старыя, і мужчыны, і жонкі, і дзе́ці—у розных вопратках, і ўсе́ крычэлі „...Вузка! Це́сна! Мала!“ А Маце́ю здавалася, што і ён сам стаіць пасярод гэтага народу, і што ўсе́ чакаюць, што і ён сам, Маце́й, скажаць і што вось-вось к яго сэрцу падходзіць не́йкі жаль, і што ён таксама пачынае крычэць: „Вузка! це́сна! мала!“

Аж, здае́цца, выбягае суседʹ Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацне́й за Маце́я:

— А скуль узяць?! Скуль дастаць?! Кажы: скуль?...

Тады захістаўся народ і зароў:

— Глядзе́це: вось прасторы! Вось нівы, лясы, палі! Усё гэта—наша:

А Астап:

— Маніцё! Няпраўда! Не дадуць: то скарбовае, то дворнае,—ні я, ні вы ня маем права! Не дадуць, паб‘юць!..

Вось дале́й здае́цца Маце́ю, што з цьмы народу выходзяць яго тры сыны — і становяцца на кале́ні і прысягаюць голасна, ясна, памалу:

— Мы дамо! мы сіла! мы права.

Маце́й абліваецца потам, сэрца ў яго б‘е́цца... І здае́цца яму, што ўсё гэта спавіў туман: толькі разоры стаяць поўны крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваныя далоні... І раздае́цца ціхі, ясны голас.

— Мы сіла! Мы права!

**Цётка.**

---

# Дуб.

— То няўдалы,
Нехляме́жы быў дубок,
Сярод траў, ў глушы запалы,
І пахілены на бок.
Хто быў дужшы і праворны,
Той грунт ле́пшы карыстаў,
Для таго быў сьве́т прасторны;
А слабе́йшы і пакорны
Толькі жыцьце марнаваў.
Усе́ дубы расьлі, таўшчалі,
А закіданы дубок
За нівошта зьневажалі;
І ён быў там адзінок,
Зьмізарне́лы і адме́тны,
Для другіх дубоў чужы;
З ім быў кожны няпрыве́тны,
Як той камень на мяжы.
З боку глянуць, усім здавалась,
Што дубок той прападаў,
Што з яго трава сьмяялась,
Што дарма ён грунт займаў.
Так другія разважалі,
А што думаў сам бядак,
То таго яны ня знали,
Не дагадваліс ніяк.
А ў яго быў кут багаты
Ўсякіх думак, сьпе́ву, сноў,
Казак вугал непачаты,
З ім размову ве́цер вёў,
І яму сьмяялісь хмаркі
Ды віталісь моўчкі з ім,
Плывучы ў апратках яркіх
Тканых сонцам залатым.
З ім усё лета, дзе́нь і ночку

Булькаў сьве́тлы ручаёк,
А з лясоў, з палёў дубочку
Нёс навіны матылёк,
А ён слухаў, сам маркотны,
Усіх гатовы падтрымаць
І палёгку ўсім гаротным,
Як і сам ён, хацеў даць,
Каб ўсе́ чыста былі рады,
Каб ніхто не гараваў,
І каб крыўды, ліха, зрады
Больш ніхто не зазнаваў.
Углыбіўшысь ў думкі сьве́та,
Зьліўшысь з гэтым ўсім жы-
цьцём,
Ў горкі жаль яго адзе́ты,
Ён зрабіўся песьняром.
І пяяў ён так прыўдала,
У час, як сьве́т супачываў,
Што аж не́ба ўсё дрыжала,
І зямля ўся замірала,
І дух згоды ахінаў.
Ажывала ноч глухая,
Ўзноў займаўся ясны дзе́нь...
Здрыганулась сіла злая,
Чуе-ке́пска: згіне це́нь.
Сьціхла пе́сьня, цёмна стала,
Ўраз пагасьлі ўсе́ агні,
І сякéра заблішчала
Пры дубовым карані.
Сьсе́клі злыдні дзіва-дрэва,
Сэрца вынялі з яго,
Каб ня чулі ночы сьпе́ву
Найдзіўне́йшага таго;
А дубок без сарцавіны
Злосна кінулі на дол.
Змоўклі пе́сьні з той часіны,
Сумна стала навакол;
Толькі зрэдка, на сьвітаньні,
Як ўздымаўся вецярок,
Чулісь журба і стагнаньне:
Плакаў сьсе́чаны дубок.

Шоў тым ме́сцам падарожны
І спыніўся: чуе ён—
Ні-то голас чый прыве́тны,
Ні то струн балючы звон.
Агляну́ўся—нікагутка...
Бліжэй к дзе́раву ступіў—
Што за дзіва? Што за чутка?
Дуб жалобна галасіў,
Як-бы скаргу слаў да Бога
Ці на долю наракаў...
Падарожны з дуба тога
Дудку жыва змайстраваў.
І пайшоў у сьве́т ён Божы
З гэтай дудкай старцаваць,
Ды ужо ня так прыгожа
Гэта дудка стала граць,
Бо ня тое на ёй гралі,
Чым душа яе́ жыла,
Бо дар у ёй тамавалі,
Бо нявольніцай была.
І нудзілась дудка тая
Ўсё аб родных каранёх,
Аб праўдзівых пе́сьнях края,
Мілым лузе і палёх.
Толькі-ж раз яна пачула
Родны воклік, родны зык;
Воля, ласка ёй вярнула
Злымі выняты язык.
І за момант ласкі, волі
Ўсё гатова дараваць,
І за гэта сваю долю
Стала дудка выслаўляць,
А як волю ўсю пачуе—
Зноў, як колас, ажыве́,
Ды ўзноў пе́сьня запануе,
У сьве́т далёка паплыве́.
А на тых яе́ карэнях
Дрэвы новыя ўзрастуць
І другому пакале́ньню
Яе́ пе́сьню дапяюць.

Я. Колас.

---



М. Багдановіч.

## Зоркі.

Упалі з грудзе́й Пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў не́бе,
Усыпалі сіні прастор.
І стуль так маркотна і пільна
На край мой радзімы глядзяць...
Што-ж там яны, ясныя, бачаць?
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць?..

---

## Ля старога млыну.

Ціхі ве́чар; зьнікнула сьпякота,
Весяле́й струіцца між чарота
Рэчка, што ўцякае у ставок;
Ўкруг яго ідзе́ вярбін вянок
Йшчэ зялёных, сьве́жых, хоць
каравых;
Пле́сьня каля берагоў іржавых
Саматканым поясам ідзе́
І ляле́і расьцьвілі ў вадзе́;
Часам з візгам ластаўка малая
Пранясе́цца нізка, і чыркае
Крылечкам з разгону гладзь
стаўка,
Напужаўшы гэтым матылька.
Часам лін ці окунь усплюснуцца
І кругі шырока разыйдуцца;
Часам выпаўзаюць паляжаць
Тут вужакі шэрыя на гаць,
У канцы каторай млын схіліўся;
Спарахне́ў ён, ле́дзь не разваліўся.
Пачарне́ла кола і даўно
Мохам цёмным абрасло яно.
Але сяньня ходзіць кола млына,
Бо прыйшла да млынара
дзяўчына,
Каб мог сукруху з сэрца збыць,
У бе́лай вопратцы яна стаіць,
Нахіліла смуглую галоўку
І чуваць, як сэрца праз
шнуроўку
Часта б'е́цца. А стары млынар
Тройчы брызнуў ёй вадой на
твар
І, уставіўшы на хвалі вочы,
Прыглушоным голасам шапоча:
„Пакланюся я табе́, царыца,
Чыстая, сьцюдзёная вадзіца,
Ты цячэш балотамі, імхамі,
Жоўтымі сыпучымі пяскамі,
Берагі крутыя падрываеш,
Дрэвы, каме́ньне падмываеш

І нясе́ш іх к мору—акіяну,
К выклятаму востраву Буяну.
Там і ве́цер буйны ня гуляе,
Там і сонца краснае не зьзяе,
Там ня блішча ясна зараніца.
І прыносіш ты туды, вадзіца,
Важкі сум ад сэрца Кацярыны.
Я навокал абваджу тры тыны,
На замок іх моцна замыкаю,
Ключ у мора-акіян кідаю.
Як са дна ключу ўжо не
падняцца,
Так і гэтым словам ня мінацца“.
І падносіць млынару дзяўчына
Яек рэшата і палатніну.

**М. Багдановіч.**

---

# Шаптуха.

У якімсь сяле́ жыла старэнькая баба. Была яна адна, бы тая былінка ў полі. Усе́ яе́ родныя і сваякі даўно паўміралі, а яна як асталася, дык і ліпіць, як тое гнілое ды старое дрэва. Сяло было мале́нькае, мо‘ якіх дымоў з дзе́сяць. На самым канцы стаяла бабіная хатка. Яна была такая старэнькая, як і сама баба. Скрывілася ды зморшчылася баба, пакрывілася і яе́ хатка. Найшоўся якісь добры чалаве́к, што нарабіў у бабінай хаце падпорак ды абклаў яе́ загатаю; ось і стаіць старэнькая, аброслая мохам, бы яе́ гаспадыня, хатка, стаіць і не варухне́цца, бо ня ве́дае ў які бок паваліцца. Назьбірае баба шчэпачак ды цурбалкаў, падтопіць у пе́чцы дый апякаецца перад полымем. Ве́дама на старасьці дык і ўле́тку сьцюдзена. Ось так і жыве́ сабе́ старэнькая баба: калі ё што, то зье́сьць, а калі няма, дык так абойдзецца. Дый колькі ёй трэба? Дасьць хто-кольвек асушкаў хле́ба, або бульбы, ось баба размочыць скарынку дый пасмокча яе́ трохі бяззубым ротам, а бульбу сьпячэ ў прыску дый е́сьць. Ось гэтым і жывілася тая баба ўжо пе́ўна гадоў з сарачню.

Мо‘ яшчэ доўга-бы пражыла так тая баба, але ось раз е́хаў пераз тое сяло пан, угле́дзіў ён старэнькую бабу дый зьдзівіўся, што яна так доўга жыве́.

— Хіба-ж ты, бабка, яшчэ жыва?—пытае пан.

— Жыва, паночку, мой саколіку... От не дае́ Бог сьме́рці...

— Як-жа ты жыве́ш?

— Якое маё жыцьцё, паночак дараге́нькі! Як так жыць, дык ле́пей гніць: зарабіць ня ўздолею, а дзе́ткі і ўнукі ўсе́ даўно паўміралі. Не́каму й вады падаць.

— Чаму-ж ты, баба, ня шэпчаш, або не варожыш?

— Ня ўме́ю, мой ле́бедзіку.

— Слухай, баба, я цябе́ навучу.

— Навучы, мой саколе ясны, навучы, каб і я не дарма сьве́т займала.

Пан прыхіліўся к вуху дый кажа бабе: „Ось як гукнуць цябе́ к хвораму, дык ты пахукай трэйчы на яго дый шапчы—сіголаў жыў, сіголаў не.—Пашапчы гэтак трохі, дай яму выпіць вады, дыч

ён і паправіцца. А калі памрэ, дык сіголаў яго бяры. Ось за тое цябé будуць карміць і паважаць“.

Падзякавала баба пану дый пачала шаптаць, пачала людзéй ратаваць. Але каму ні пашэпча, кожын ачуняе.

Пайшла прачутка мо‘ па ўсім сьвéце, што аб‘явілася такая баба, такая шаптуха, што яна вéльмі добра лéчыць людзéй і гаўяда. Дый ня толькі лéчыць, але і ўсё адгадвае. Павалілі к бабе людзі адусюль; нясуць і вязуць тэй бабе ўсялякага дабра. Жывé сабé баба ані гадкі. Тым часам той пан, што навучыў бабу шаптаць, чуе аб тым ды толькі сьмяéцца сабé ціханька з дурных людзéй. Але ось пайшоў той пан нéяк на паляваньне, многа паляваў, спацéў ды пакрычаў проці вéтру, ось і зрабілася ў яго ў горле скула. Пан к дахтаром—куды там, ось, ось скула задушыць дый толькі. Жонка кажа, каб гукнулі тую слаўную бабу, а пан і слухаць ня хоча; але нарэшце, як прыпёрла ліха, дык згадзіўся, каб гукнулі і тую бабу. Прыйшла баба, а пан ужо чуць дыхае. Ось давай баба хукаць ды шаптаць—сіголаў жыў, сіголаў не.— Прыслухаўся пан, ды як учуў, што баба шэпча тое, што ён яé навучыў, дык апанаваў яго такі сьмéх, што аж ня можа вытрываць. А баба шэпча ды шэпча. Слухаў, слухаў пан ды як зарагоча, дык скула ў горле і трэснула. Ось і паздаравéў пан ды давай дзякаваць тэй бабе, што адратавала яго ад сьмéрці.

— Бач ты, бабка, усё так лéчыш?

— Алé-ж, мой саколіку, усё так.

— Ну, а як-жа ты, бабка, угадваеш?

— Угадваю, бо так Бог даé.

— Адгадай-жа, баба, што ў мянé ў руцэ?

— Папаўся жучку ў паньскую ручку,—шчыра прагукала баба. Яна, бачыце, спужалася, што ня вéдае, як адказаць пану на яго пытаньне. Тым часам пан раптоўне дый кажа: „А няхай цябé, баба, багавіца, як-жа ты добра адгадваеш!“ Пры гэтых словах пан рашчапіў руку дый паказаў, што ў яго ў жмéні жук.

Дык ось як шаптала і варажыла тая баба.

Перараказаў **Д. Кулеш.**

---

# Музыка і чэрці.

Быў адзін Музыка. Змалку ён нічога не рабіў. Яшчэ хлапчуком: пасé валы, альбо коні, зробіць з лазы дудачку ды як зайграе, дык валы пакінуць пасьціся, разьвéсяць вушы дый слухаюць; а ў лéсе птушкі прыціхнуць, навет жабы ня крумкаюць. А як павядзé коні на начлéг,—лéта, ночы цёплыя, аж парыць; папрыводзяць на дуброву коні хлопцы і дзéўкі з усяго сяла, дуроняць, сьмяюцца, пяюць пéсьні, вéдама маладосьць, заўсёды вéсела; а Музыка, як заграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсé прыціхнуць. Ось ім здаéцца, што якаясь салодкасьць улілася ім

у сэрца, а якаясь сіла ўхапіла за плéчы і нясé ўсё ўгору і ўгору, к ясным зоркам, у чыстае нéба, у чыстае сіняе шырокае нéба. Сядзяць яны, нічога ня думаюць, забыліся, што рукі й ногі млé-юць ад цяжкае работы, што ў жываце́ бурчыць ад голаду. Ся-дзяць і ўсё слухаюць. І хацéлася-б ім сядзéць гэтак усё жыцьцё і ўсё слухаць, як іграе Музыка. Ось ён замаўчыць. Але ніхто ня сьмéець паварухнуцца, каб ня спужаць таго голасу, што рассы-паўся па дуброве, па лéсе і паднімаецца ў самае нéба. Зайграе Музыка жаласьліва, і заплачуць і лéс і дуброва, набяжыць хмарка, і з нéба сьлёзкі так і паліюцца. Ідуць позна да гасподы му-жыкі й бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць, плачуць. Ось так усё іх горкае жыцьцё перад вачмі і стаіць, і такі іх апа-нуець жаль, што й мужыкі, старыя барадатыя мужыкі плачуць, як бабы над нябожчыкам, ці як праводзяць сынкоў у салдаты. Але па нямалым часе Музыка ад жаласьлівага ды на вясёлаіь зьвярнé. Пакідаюць мужыкі й бабы косы, граблі, вілы, гаршчке; возьмуцца ў бокі і давай скакаць. Скачуць малыя дзéці, скачуць коні, скачуць кусты і лéс, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — ус скача і сьмяéцца.

Ось такі быў Музыка-чарадзéйнік; што захоча, тое з сэрцам зробіць.

Падрос Музыка, зрабіў сабé йскрыпачку і пайшоў у сьвéт' куды прыйдзе — пайграе, а за тое яго накормяць, напояць, як самага лéпшага гасьця і яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так па сьвéце Музыка, весяліў добрых людзéй, а ліхім рэзаў па сэрцу. Бачаць чэрці, што куды Музыка прыдзе, там мéней людзі грашаць, і давай гастрыць на яго зубы. Ідзé раз Музыка церазлéс, а чэрці і нашлі на яго дванаццать галодных ваўкоў. Засту-пілі яны Музыцы ў лéсе дарогу, стаяць ды зубамі ляскаюць, а вочы гараць, як гарачае вугальле. Няма ў Музыкі нічога ў ру-ках, толькі пад пахаю ў мяшэчку йскрыпка. Што тут рабіць! Думае Музыка, што тут пачаць! Прышоў яму канéц. Дастаў ён з мяшэчка йскрыпку й смык, каб хаця яшчэ раз напасьлéдак пайграць, прысланіўся к дрэву дый пацёг смыкам на струнах. Як жывая загаварыла йскрыпка, рэздаўся пошчак па лéсе. Пры-таіўся лéс — і лістком не варухнé, а ваўкі, як стаялі разявіўшы горла, так і акамянéлі: стаяць ды слухаюць, а сьлёзы так і ця-куць з воўчых вачэй. Перастаў Музыка граць, а ваўкі, бы сон-ныя пасунулі ў лéс. Пайшоў Музыка далей. Ідзé ён ды йдзé; пад-ходзіць к рацэ. Сонейка ўжо закацілася за лéс, толькі яшчэ сьвé-ціць на самыя вярхі і як-бы аблівае іх пазалотаю. Ціха як у вусе, ніводзін лісток не варухнéцца. Вéльмі харошы вéчар. Сéў Музыка на камéнь на крутым бéразе каля ракі, дастаў сваю йскрыпачку і зайграў, ды так гожа, што яго заслухаліся і нéба, і зямля, і вада, і давай усё скакаць. Зоркі мітусяцца, як узімку сьнéг; хмаркі пла-ваюць па нéбе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так узгуля-лася, што рака кіпіць, як вада ў гаршку. Але ось падняўся ў рацэ вадзяны цар ды як пачаў скакаць, дык вада так заплёскала,

што заліла берагі, а чэрці спужаліся і павыскакалі з вады. Бачаць яны, што ім ад Музыкі нідзé супакою няма, ось яны давай думаць, як-бы яго згубіць. Бачыць Музыка, што вадзяны цар нарабіў людзём бяды, перастаў іграць, палажыў іскрыпачку ў мяшок і хацéў ісьці далей, але ось падходзяць да яго два панічы і просяць паіграць на йгрышчы, абяцаюць заплаціць, што захоча. Падумаў Музыка, што яму нéдзе начаваць дый грошы няма, паслухаў панічоў і пайшоў з імі йграць вечарынку. Прывялі панічы Музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і панéнак, хоць гаць гаці. Пакуль ён зьбіраўся йграць, бачыць, што гэта ўсé панічы— падбягуць к сталу, абмочаць палец у місу і мажуць сабé вочы. Памазаў і ён, ды як памазаў, дык бачыць, што гэта не паны, а чэрці й вéдзьмы і што ён не ў палацах, а ў пéкле. Ось зайграў ён ды так, што ўсё пéкла разьляцéлася ў шчэпкі, а чэрці разьбéгліся па ўсім сьвéце. Ось з таé пары чэрці й баяцца Музыкі й больш яго не чапаюць.

**Пераказаў Рэдкі.**

---

# Могільнік.

Колькі іх ляжыць на гаю, што знайшлі вéчны прыпынак, вéчны супакой.

Ляжаць старыя й маладыя, дзяды й дзéці, мужчыны й жонкі. Ляжаць ворагі і прыяцелі. Усé ляжаць тутака пад бярозамі, побач ляжаць.

Ноч, дзéнь, зіма, лéта. Люты мароз скуе могілкі, сумётамі глыбокімі засыплець іх. Бярозы ў шэрані прыгожай непарушна, не шалохаюць, над імі стаяць. Дзьмé замятуха, пішчыць, на полі круціцца; па шляху мужыцкія санкі паскрыпваюць; абмéрзлы конь цюхаець, а яны ляжаць ужо. Ні сьцюжы лютае, ні скрыпу, ні замятухі,—вéчны спакой. Зьвечарэець; у цямноце вéцер сьнéгам мяцéць, гудзéць; можа воўк дзé блізка прабяжыць, завыець і на вёсцы сабак спужаець—мёртва тут, на могільніку мёртва. Чорная ноч.

Павéе цяплом; зьбяжыць сьнéг у дол цуркамі веснавымі, зазьзяець сонейка, лог жоўтымі, бéлымі краскамі зацьвіцé; бярозы зазелянéюць; прыдуць людзі зраньня з сякéрамі, з грацоўкамі, бярозак маладзéнькіх з лéсу прынясуць і тут пасадзяць, дзярна наскрыляюць, ляпаць тут будуць. Ды глуха ў магіле. Ці чуеце вы там гэтае ляпаньне? А пасьля абéду прыдуць сюды жывыя, старыя, малыя, прынясуць гарэлкі, яéц сьвячоных і ўсякае яды: пампушак, драчон, яéшні, пячыстага, — загамоніць, зазьвініць гай. Пачнуць там-сям на сьвéжых курганкох выць жаноцкія зьніцлыя фігуры. Ці зайдзецца там сэрца ваша ад жаласьці; ці, можа, прыскорбна вам, вялікім, сьвятым зробіцца ад суяты нашае, жы-

вое суяты? Паплачуць, пад'ядуць; вас пачастуюць у словах прыгаворкамі—сьвятых радзіцелькаў—людзі жывыя. І пад ве́чар пойдуць усе́ да хат: там будуць скокі і пе́сьні, музыка, а тут ізноў усё заціхне, апусьце́е, ноч зьляціць ізноў чорная; у цямноце толькі лісточкі на галінках бярозавых пад ве́трам варухнуцца; у вас ізноў ве́чны пакой.

Так і ле́та надойдзе; жыта забуяе, на лядах гар дымны пойдзе, зазьвініць каса, се́рп шарпне; пе́сьня пакоціцца па полю, даляціць да гаю; бярозы, як вялізарны сгог се́на зялёнага, стаяць. А пад імі, укруг хаткі ўбогай і пустой—ве́чны сон.

Так і восень ізноў. Ліст сыплецца... Хто жывы, здаровы, шчасьлівы ўспомне аб вас, на заціхшыя могілкі?

Хіба часам рупліва дзяўчына прыбяжыць паглядзе́ць на матчыну магілу, сыпнець на засыхаючую траву буйнымі сьлёзкамі: „Мамулечка любая! Благаслаў на жыцьцё ў сяме́йцы чужой“.

Хіба часам хлопчык з дзяўчынкаю ад статка з пужкамі, з торбачкамі прыбягуць жаліцца: „Мамулечка родненькая! Узяў тата жану маладую, ах, у нас кашулькі нямытыя, у нас галоўкі нячэсаны, хрыбцінка худзе́нькая, вочкі запалыя“...

Хіба часам яшчэ каго на ве́чны спакой прынясуць з ладанам у паве́тры, плачам, ціхім гоманам; камкамі зямлі забарабаняць па бе́ленькай, звонкай сасновай труне́.

**М. Гарэцкі.**

---

# Успаміны.

Сталася канаючаму дужа цёмна ў вачох, і чуў ён, што сьме́рць набліжаецца,—дык пачаў глядзе́ці ўзад за сябе́, хочачы раз яшчэ ўгле́дзіць жыцьцё.

І праходзілі перад яго вачыма розныя твары, ціхім і даўгім сьцягам, а кожны твар нёс успаміны болю або ўце́хі. А таго дзеля, што спаміны болю шмат пераважавалі, уміраючы думаў: ня варта жале́ць, што твараў гэтых бале́й ня ўгле́дзіць.

Але раптам з грамады блiснула да яго двое вачэй, поўных сьлёз; спазнаў іх і, адагнаўшы іншыя мары, пачаў углядацца.

Былі гэта вочы старца (жабрака), якому ў маразяную ноч аддаў вопратку з плячэй сваіх.

І ўзяў яго жаль, што ўжо апошні раз мае перад сабой гэтых вачэй двое і што ня будзе магчы ўспамінаць іх па сьме́рці.

**К. Тэтмаер.**

---

Ж.

# Дуб-Дзядуля.

Амаль ня ўся вёска завідавала мне́ майго надзе́лу. Шнур быў, праўду кажучы, ані вялікшы, ані выгадне́йшы, ані зямліца на ім ня ле́пшая,—можа навет горшая, бо пры канцы шнура была страшэнная гара, дзе́ апроч грэчкі ды ярыцы нічога не радзіла, але на самым ве́рсе гэтае гары рос такі дуб, што аж дзівіўся народ: ве́ліч, таўсьціня, а сукі так разрасьліся, што здавалася, сьве́т-бы пад сябе́ хаце́ў падгарнуць.

З давён-даўна ўсе́ звалі яго: Дуб-Дзядуля.

Дык вось паслухайце, што мне́ пад гэтым дубам здарылася.

Раз уле́тку, ад цёмнага напрацаваўшыся, што ажно пот з мяне́ цурком каціўся, губы пасьмяглі, босыя ногі да крыві патрэскаліся,—зацягнуўся я не́як на гару да свайго дзядулі аддыхнуць у яго цяні. Толькі прылажыўся гэта я, уздыхнуў раз, другі і пачынаю драмаць... Ажна чую: ні то над галавой, ні то пад галавой не́хта таксама двойчы ўздыхнуў... Стаў я прыслухавацца: яшчэ і яшчэ ўздыхае, але так цяжка ўздыхае, што ажно за сэрца бярэ, блізу стогне... Перахрысьціцца хачу—рукі падняць не магу!.. Струхле́ў я—ляжу, чакаю, што будзе. Аж не́хта тут у вуха маё шэпча:

— Ня бойся, не палохайся, дзіцятка ты маё, не палохайся: я гэтак дыхаю, я гэтак уздыхаю, я—твой дубок старэнькі...

— Божа моцны! Што ты, дзядулька, як-жа гэта можа быць, каб дрэва ўздыхала ды гаварыла,—пытаюся ўжо сьмяле́й.

— Эх, дзіцятка, дзіцятка,—ізноў шэпча мне́ на вуха,—шмат чаго ты яшчэ ня ве́даеш, шмат чаго ня це́міш, але люблю я цябе́, шчыра люблю, як любіў тваіх бацькоў, дзядоў ды прадзедаў, бо не зазнаў ніколі крыўды ад вас, а толькі вякі пашанасьць ме́ў... Пара прыходзіць, дзіцятка ты маё, пара прыходзіць сказаць табе́ такое, чаго нікому яшчэ не казаў...

Але пакляніся, што споўніш маё апошняе жаданьне.

— Клянуся, дзядулька, клянуся, родненькі, споўню, усё споўню, — ізноў, дрыжучы ўве́сь, адказваю.

— Слухай-жа!—кажа Дуб-Дзядуля. Адкуль я тут узяўся і калі радзіўся, — ніхто дый я сам добра ня ве́даю. Помню толькі— змалку жылося нішто: сусе́дзтва — шмат лесу: свае радні цэлыя аколіцы,—хлапцы адзін у вадзін—дружныя, здаровыя; а тут да кампаніі зграбныя е́лачкі,—хоць звадлівыя, але сэрца добрага— сасонкі. Ляце́лі гады, як вашыя лятуць дні,—зьмяняліся вякі, як гады,—а я стаяў і рос,—рос і стаяў—крапчэў... Цераз буры,—як пад сяке́раю, шмат нашых клалася, але тыя, што асталіся,— яшчэ вышэй падымаліся. Находзілі навальніцы,—гінулі тыя, што ў не́ба глядзе́лі, а зьнізу падымалася моладзь; налятаў вятры, наганялі сьве́жага насе́ньня, і ўзрасталі сусе́дзі няве́дамыя, незнаёмыя... Так вякі ішлі, ажно мінула ўсё,—ажно прыйшло і на

тое, што з тутэйшых—даўне́йшых астаўся, як бачыш, адзін я. Праўда, ось глянь на захад: бачыш цёмную паласу? Але што гэта за ле́с? Сухарлявы, крывы, уве́сь у сукох—гнільлё не́йкае, ды толькі.

Сохну ўжо я. Каб хоць два, каб хоць год далі вы мне́ засілку—вадзіцы чыстае, здаровае,—можа-б я вам памятку пакінуў: новае пакале́ньне... Прысягнуў ты, дзіцятка,—дык дабудзь-жа ты мне́ цяпе́р гэтакае вадзіцы, пашукай, прынясі, карэньчыкі мае́ бе́дныя падлі...

— Добра,—кажу,—дзядулька, добра—будзь спакоен: дастану, прынясу—хіба згіну!..

Бе́г я, змарыўся,—ужо і самому піць зажадалася. Цямне́ць стала, а вады як ня відаць, так ня відаць. Бачу: не́йкая жонка—старэнькая, худзе́нькая прыгоршчамі зямлю носіць.

— Ці ня ве́даеш, бабулька, дзе́ тут блізка вады дастаць?—пытаюся.

— Хадзі за мной, сыночку, пакажу табе́ цэлае возера.

Усьце́шыўся я. Пайшлі; па дарозе пытаюся:

— Адкуль ты, бабулька, і як заве́шся?

— Тутэйшая,—кажа,—а завуся Праца, сынку, Праца.

Дзіўное, думаю, прозьвішча. Прыйшлі да возера,—вялікае, што вокам ня сьцягнеш, і хоць вада мутная, брудная,—кінуўся я піць. Сербануў раз—што гэта? Вада—не вада, хоць смак і знаны. Ага, успомніў я, як напрацуешся, ды пот, цякучы па брудным твары, лучыць у рот,—ось, як раз гэтакі смак! Пытаюся бабулькі.

— Праўда, сынку, праўда: пот. Паўнюсенькае возера людзкога поту...

— А нашто-ж ты зямлю прыгоршчамі носіш, ды кідаеш у гэтае возера?—пытаюся.

Глыбокае яно без канца, а трэба, каб заўсёды было поўнае; дык вось, як засыплю яго зямліцай, тады і поту мала трэба будзе людзём ліць.

Зьдзівіўся я, але ня было калі распытавацца, і пабе́г дале́й. Бе́г я, бе́г,—бачу ізноў возера—вялікшае за пе́ршае, але вадзіца ў ім такая чыстая, што ажно сьве́ціцца. Прыпаў я, пацягнуў—горкая, але то такая горкая, што піць нельга! Прышло мне́ на памяць, як аднаго году апошнюю скацінку з хле́ва вывелі... Скацілася тады сьлязінка і ў рот мне́ папала... ось, як раз гэтакі смак!.. Бачу, старэнькая нада мной стаіць.

— Хто ты?—пытаюся.

— Бяда, сынку, бяда. Ня пі, сыночку, гэтае вадзіцы, ня пі: досыць ты яе́ ўжо напіўся...

— А што-ж ты тут робіш?—пытаюся.

— Глянь, унь, на катлы вялікія, пад імі заўсёды агонь гарыць. Дзе́нь і ноч наліваю я ў іх з гэтага возера поўна сьлёз людзкіх і грэю, каб высахлі, аж пакуль пара ад іх не падымецца аж да не́ба!..

Зьдзівіўся я, але памчаў далéй. Сустракаю ізноў старэнькую жанчыну,—палівае яна зямлю з конаўкі

— Дай, бабулька, напіцца,—прашу яé.

— Ідзі,—кажа,—да возера.

— Падбягаю,—бачу: поўнае яно не вады, але віна чарвонага... Прыпаў, пацягнуў... Божа! крыкнуў я са страху: Помню, помню гэтакае віно: у губах яго было поўна,—вочы ім заліты... помню яго! Але-ж гэта ня віно, але кроў! Людзкая кроў!..

— Праўда,—кажа старэнькая, стоячы нада мной,—праўда, сыночку, людзкая гэта кроў, і вось мушу ўсё гэта возера конаўкай вынесьці і ўсю зямліцу паліць!..

— Хто-ж ты?—пытаюся.

— Цярпéньне, ціханька адказала бабулька.

Не азіраючыся, кінуўся я ад гэтага страшэннага мéсца. Чую: з боку нéйдзе бурчыць, пераліваецца, бяжыць, бы скачаць, ручаёчак жывéнькае вадзіцы. Я туды шукаць, аж тут калі блісьнé, трэсьне, заляскае,—здалося, увéсь сьвéт задрыжэў!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усхапіўся я, вочы праціраю, не магу да сябé прыйсьці... Ня чуў я, як бура найшла, як пяруны сталі біць, пакуль не дабраўся да майго дзядулі, пад якім я так моцна спаў... Працёр вочы, сон свой страшны ўспомніў, закалаціўся ўвéсь, зуб на зуб ня лучае... Гляджу: дзядулька мой бéдненькі ляжыць ціханька на баку...

З таго часу прайшло нéкалькі год. Ляжыць дзядуля на сваім мéсцы (сукі толькі паабразалі), а з-пад яго вылезьлі тры, хоць яшчэ тоненькія, але гладкія роўныя дубочкі...

Т. Гушча.



# АДДЗЕЛ II.

## Родны край.

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілéй ёсьць ў сьвéце
Божым
Гэтых сьвéтлых берагоў,
Дзé бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзé лясы-бары гудуць,
Дзé мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Гэтых гмахаў безгранічных,
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзé пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзé увосень плачуць лозы,
Дзé ўвясну лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?..
Гэй, адвéчныя курганы,
Сьвéдкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю, рукой
Вы раскіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Ды ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі,
І пуцінаю нярoўнай
Бяжыцё ў далячыню—
У бок Віліі чароўнай
І пад сьвéтлую Дзьвіну...
Край мой родны! Дзé у сьвéце
Край другі такі знайсьці,
Дзé-б магла так, поруч з
сьмéцьцем
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзé-бы об-руку з галéчай
Расцьвіцéў багацьця цуд
І дзé-б з долі чалавéчай
Насьмяяліся, як тут?..
Скрозь вяночкі дрэў вясёла,
Над мястэчкам ці сялом,
Божы цэрквы і касьцёлы
Ўзносяць вéжы к небясом.
Брацьця мае, Беларусы!
Ў страшнай кнізе людзкіх спраў
Мусіць сам Бог для пакусы
Гэты край наш адзначаў.
Тут схадзілісь ўсé плямёны
Спорку сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць
І самых нас ўзяць ў няволю,
Путы зьдзéку налажыць,
Кінуць ў цяжкую патолю,
Аб нас памяць ўсю замыць.
І лілася кроў нявінна,
Швэд набытак наш паліў,
І маскаль тут самачынна
Гвалт над намі утварыў,
І бяз жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку з ярынамі
Талачыў і драсаваў;
І на нашых станавішчах
Білісь Польшча і Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Ўзмацавалася Масква.
Толькі-ж, брацьця, край ня
згінуў,
Не пагнуўся яго стан,
І із нас душы ня вынуў

Ні маскаль, ні польскі пан.
Гэй, сусе́дзі, нашы брацьце!
Ня згубілі мы свой шлях,
Не ўламала нас няшчасьце,
Не сагнуў нас жыцьця гмах.

Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы—шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць.

Я. Колас.

---

## Нашая бацькаўшчына.

Шпарка бе́гаеш ты, шэры воўк! Дуж ты на ногі, ходак на бягню, цягуч у дарозе. Але дарма... Бо не аббе́гаць табе́, скараход-жывадзёр, за ўве́сь ваўчыны ве́к твой усіх прастораў старонкі нашае, не пратаптаці сьце́жачак па ўсіх лясох нашых драмучых. Не! Блудзіш і ты ў машкох-купінках нашых.

І ты, буцян магутнакрылы, бусел-чарнагуз! відзеў ты піраміды фараонаў эгіпецкіх, у шкляной, бліскучай, люстраной вадзе́ Ніла гістарычнага глядзе́ўся ты, прыгажун. Цераз нашага прадзеда, Дуная многаводнага, ляце́ў ты, даўганогі, і многа старонак з рознымі людзьмі ня нашскай ве́ры, і гаворкі, і аблічча відзеў ты. Але—дарма! Бо ніколі ня выхадзіць ні табе́, ні буцянятам тваім балот нашае зяме́лькі. Ніколі не накрасавацца табе́ бясконцай і неабгляднай удаўжкі і ўшыркі йстужкаю палёў нашых разнакалёрных, нашых лясоў зялёна-сініх, нашых рэчак ціхаводных, што вербалозам ды краскамі абрасьлі.

Бліскаеш ты, маланка-бліскаўка, скрозь усё не́ба божае бліскаеш, аж з краю ў край. Зьве́рху ўніз расьсякаеш ты, ня ўгле́дзіць калі, вялізарнае бяздоньне нябе́снае. А дарма... Бо ніколі не асьвяціць табе́ адразу старонкі нашае патаёмнае!

М. Гарэцкі.

---

## Прадзеды Беларусоў.

Беларускі Народ нале́жыць да вялікае славянскае сям'і народаў і дзяліўся не́калі на тры пляме́ньні: Крывічоў, Дрыгвічоў, Радзімічаў. Стараве́чныя славяне жылі ў Прыкарпацкім краі. Адгэтуль яны разышліся ўва ўсе́ стараны. Як помніць гісторыя, беларускія пляме́ньні займалі тыя самыя прасторы, якія займае і цяпе́р Беларускі Народ. Крывічы займалі вярхі Дзьвіны, Дняпра і Волгі. Гэта было найвялікшае плямя ня толькі з паміж беларускіх пляме́ньняў, але і з паміж усіх славянскіх пляме́ньняў. Яны дзяліліся на Палачан з г. Полацкам і Смальнян з г. Смале́нскам. Дрыгвічы занімалі раку Прыпяць і ўве́сь прастор між гэтаю ракою і Дняпром на ўсходзе; на заходзе яны займалі вярхоўе Нёмна

і Пінскія балоты. Называліся яны Дрыгвічамі таму, што жылі на нізкіх балоцістых мясцох (дрыгвах).

Радзімічы складалі самае невялічкае племя і жылі па рацэ Сожу.

Каб было дзе́ абараніцца ад не́прыяцеляў, прэдкі нашыя будавалі гарады і капалі роў, насыпалі вал, агароджвалі яго, а ў сярэдзіне ставілі хаты. Крывічы ме́лі Полацак, Барысаў, Ме́нск, Віцебск, Смале́нск і інш.; Дрыгвічы—Тураў, Пінск, Бе́расьце, Слуцак; Радзімічы ме́лі Гомель.

---

# Быт нашых прадзедаў.

## Будоўлі.

Нашы прадзеды будавалі свае́ хаты каля вазёр і рэк. Сяліліся досыць значнымі групамі на не́калькі се́м'яў. Харошых хат ў той даўны час беларусы ня ўме́лі будаваць. Адзін гісторык, што бачыў, у якіх хатах жылі нашыя прадзеды, называе гэныя хаты „бе́днымі хацінкамі“. Аднак ня толькі беларусы жылі ў бе́дных хатах, але блізу што і ўсе́ іншыя народы таго часу. У беларускай хаце ня было вакон: сьве́т праходзіў у хату цераз дзірку ў сьцяне́ або ў страсе́. Пасярод хаты стаяла пе́чка бяз коміна, а дым выходзіў цераз дзірку ў страсе́. З іншых будынкаў нашыя прадзеды ме́лі сьве́ран, гумно і хле́ў для жывёлы. Тут стаяў і азярод.

## Выгляд і адзе́цьце.

Старавечныя беларусы былі народам рослым і крэпкім, з сьветларусымі валасамі, з сінімі вачыма, з шырокім лобам. Мужчыны насілі бараду, жонкі — даўгія валасы, заплецены́я ў косы. Адзе́цьце выраблялі з скур і шэрсьці дзікіх зьвяроў, а так сама аве́чае воўны і лёну. Уме́лі валіць сукно і ткаць палотны. Адзе́цьце беларуса было бе́лым.

## Чым займаліся нашыя прадзеды?

З самых даўных часоў беларус быў земляробам. Зямлю ён любіў і працаваў над ёю з ахватаю, але ў той старавечны час працаваць над зямлёю было цяжэй: каб вырабіць поле, трэба было спачатку выкарчаваць і спаліць ле́с, узараць цаліну і толькі тады се́яць. Се́ялі тое, што і цяпе́р: жыта, авёс, ячме́нь, пшаніцу, грэчку, лён.

Беларусы разводзілі коні, рагатую жывёлу, аве́чкі, сьвінь-

ні і свойскіх птушак. Паша для жывёлы была агульнай, тады як зямлю ўраблялі, падчас, кожны гаспадар па-асобку.

У той час было многа дзікіх зьвяроў, якія псавалі палі і паядалі гаспадарскую жывёлу. Гэта выклікала ў беларусоў патрэбу бараніць сябé ад убыткаў.

У барацьбé з дзікім зьвéрам беларус зрабіўся добрым паляўнічым. З кап'ём (дзідаю) і лукам ён сьмéла йшоў на медзьвядзя, ваўка, дзіка, лася. Куніцу, ліса, бабра і птушак беларусы дабывалі балéй капканамі і сілкамі.

У рэчках і вазёрах была рыба: шчупак, плотка, карась, сом, мянтуз і г. д. Беларусы лавілі іх сéткамі, брэднямі, білі восьцямі.

Нашыя прадзеды былі добрымі зямцамі. Каля хаты, ў полі або ў лéсе на дрэве ставілі вульлі. З мёду ўмéлі варыць моцны напітак—„мёд". З воску з часам навучыліся рабіць сьвéчкі.

Збожжа малолі ў жорнах, якія складаліся з двох круглых і гладкіх камéняў. Ніжэйшы камéнь ляжаў у скрыні на ножках; у вéрхнім пасярэдзіне была дзірка, куды сыпалі зéрняты. Вéрхні камéнь круцілі, узяўшыся за ручку на ім. Гэта была цяжкая работа.

Пралі верацяном, бо прасьніцы яшчэ ня зналі. Ткалі на кроснах. Плялі рукавіцы і панчохі. Плялі і вышывалі вельмі прыгожыя паясы і йстужкі. Усім гэтым заняты былі ўзімку дзяўчаты і замужкі, а мужчыны ўзімку рабілі шчыты, мячы, дзіды, стрэлы, патрэбныя дзеля вайны з сусéдзямі, у якіх аружжа было ня лéпшае за беларускае.

## Сям'я.

З маладых гадоў бацькі прывучалі дзяцéй да працы, сьцюжы, сырасьці, вéтру. Узіму, прыкладам, дзéці хадзілі неабутымі. Прывыкшы да ўсяго, дзéці выраталі крэпкімі і выцяглымі людзьмі. Цяжкая праца ў полі ці на сенажаці ім была ні па чом. Бацька вучыў сыноў страляць з лука і валадаць мячом. Матка вучыла дачок прасьці, ткаць, вышываць і г. д. Сям'я жыла дружна. Бацька быў галавою сям'і, матка—сэрцам яé. Загадаў бацькі слухала ўся сям'я, і непакорных дзяцéй бацька мог выгнаць з дому вон. Нашыя прадзеды былі людзьмі гасьціннымі і з гасьцём абходзіліся як найлéпей, стараючыся яго накарміць і напаіць. Лічылася звычайным узяць у сусéда, калі ў самаго ня было чым пачаставаць гасьця. На сваёй зямлі беларус лічыў абавязкам бараніць чужога. Па прыродзе беларусы былі дабрадушнымі.

## Курганы, гандаль і водныя дарогі.

Аб тым, як жылі нашыя прадзеды, многа могуць сказаць курганы. Яны ў вялікім ліку раскіданы па ўсім прасторы Беларусі. Курганы насыпаліся над магілаю памéршага багатага ці вéдамага чалавéка. Цяпéр шмат кurганоў ужо раскапана і ў іх-

дамага чалавека цяпер ш.

знайдзена многа розных рэчаў, паложаных па старавечнаму звычаю ў магілу нябожчыка, бо лічылі, што і на тым сьвеце памершы і ёсьць і п'е і займаецца тымі-ж справамі, што й пры жыцьці. Сярод рэчаў, якія знойдзены ў курганох, ёсьць: шалькі з каменем для вагі, гаршкі, місы, рознае аружжа, косьці жывёлы і рыб, тканіна, бронзавыя, срэбныя і залатыя пярсьцёнкі, падвескі, бранзалеты, дыядэмы і інш. рэчы, вельмі прыгожыя каралі. Часьць гэтых рэчаў была прывознай, а часьць—выраблялася на месьце нашымі прадзедамі, якія, відаць, многае што ўмелі рабіць, і рабілі добра.

Прывознымі рэчамі былі найбалей прадметы раскошы і чужаземныя манэты. Гэтых апошніх у курганох знойдзена вельмі многа. Тут ёсьць і грэцкія, і арабскія, і індускія, і балгарскія, і вараскія, і нямецкія, і рымскія, і навет кітайскія манэты. Аб чымжа яны сьведчаць! Якою дарогаю яны лучылі да нас? Адказ на гэта зусім просты. Нашыя прадзеды вялі гандаль блізу з усім сьветам. Чужаземцам яны прадавалі свае тавары, як сыр'е, так і вырабы, ад чужаземцаў-жа куплялі іх тавары. Тавары або мянялі на тавар-жа, або прадавалі за грошы. Такім парадкам у нашых прадзедаў маглі быць манэты ўсіх краёў, з якімі вёўся гандаль. Для разьвіцьця гандлю у нашай старонцы былі у той час вельмі выгодныя варункі. Цераз Беларусь праходзілі дарогі, па якіх ішлі тавары з Заходу на Усход—з Эўропы ў Азію і наадварот. Гэтымі дарогамі, па якіх амаль ні выключна вазілі тавары, былі рэкі, вазёры і мары, бо на сухапуці перашкаджалі лясы і была небасьпека ад разбойнікаў. Па Дняпру, Прыпяці, Нёману, Дзьвіне і іх прытоках ішоў жывы рух тавараў, пагружаных на судны. Летапісец Несьцер у сваёй знамянітай летапісі называе гэтую водную дарогу, якая праходзіла цераз Беларусь і зьвязвала Эўропу з Азіяй, „вялікім водным шляхам з Варагаў (г. знач. Скандынавіі) у Грэцыю“. Варагі і Грэкі былі найлепшымі купцамі таго часу, у руках якіх быў гандаль амаль ні ўсяго сьвету. Дык няма дзіва, што нашыя прадзеды, пражываючы на вялікай воднай дарозе таго часу, мелі магчымасьць ня толькі гандляваць з усім сьветам, але і адчуваць на сабе ўплывы як заходняй так і ўсходняй культуры.

М. Кахановіч.

---

# Вера нашых прадзедаў.

Беларусы багацейшыя за ўсіх другіх славянскіх народаў сваймі песьнямі і лягендамі. Песьні гэтыя пяюцца ўжо тысячу гадоў і па іх можна прасачыць жыцьцё і веру беларусаў у паганскую пару.

Шмат было чаго незразумелага для нашых прадзедаў у прыродзе, і гэтыя сілы прыроды яны лічылі за багоў. Кланяліся

яны сонцу (Дажбогу), грому (Пяруну), порам году: вясьне́, ле́ту, восені і зіме́ (Лёлі, Цёці, Жыценю і Зюзі). Цэлы год перахадзілі ад аднаго сьвята да другога. Найбале́й было сьвятаў сонцу— Дажбогу.

Пе́ршым сьвятам была Каляда, каторая і цяпе́р сьвяткуецца толькі з дадаткам хрысьціянства, блізка што так, як тысячу гадоў назад. Беларусу здавалася, што сьве́тлы бог—Пярун ваюець з цёмным уладаром маразоў—Зюзею. Зюзя чуець, што, калі народзіцца Дажбог, дык прыдзе кане́ц яго панаваньню. Каб загубіць дзіця, ён робіцца медзьвядзём і з цэлым стадам ваўкоў (мяцелі-цаў) ганяецца за жонкаю Пяруна, Калядою, каторая сходзіць на зямлю радзіць Дажбога.

Беларус добра выяўляў бога зімы—Зюзю: ён сівы, з даўгой барадой, з босымі нагамі, у бе́лым кажусе, бяз шапкі, з зялёнаю булавою. Найбале́й Зюзя сядзіць у ле́се, але на пару заходзіць і ў вёскі. Як стукне сваёю булаваю, дык сьце́ны ў хатах пачынаюць трашчэць.

Пасьля Каляды сьвяткавалі Масьляніцу, а потым Радаўніцу. На Радаўніцу насілі, і цяпе́р яшчэ носяць, і пакідалі на могілках сваіх родных вараныя яйцы, бліны, спадзяючыся, што нябожчыкі ўстануць, каб падсілкавацца троху.

За Радаўніцай ішло сьвята Лёлі, альбо Лялі, багіні вясны. Гэта было заклінаньнем вясны. Сярод дзяўчат выбіралася самая харошая, яе́ убіралі ў бе́лую кашулю, прыбіралі веснавымі красками, садзілі на высокае ме́сца, потым дзяўчаты, узяўшыся за рукі, хадзілі навокал яе́ і пялі пе́сьні. Ляля дарыла іх вянкамі. Вянкі гэтыя хаваліся цэлы год, аж да новага Ляльніка.

Зараз пасьля Ляльніка, пачыналася сьвята Ярылы, сына Лялі і Дажбога. Ярыла, па загаду маткі, адчыняў вароты ў не́бе, і з таго часу пачыналася запраўдная вясна.

Дале́й ішло сьвята Сямік, калі Лёля і Цёця, змогшы цёмныя сілы, сходзяць разам на зямлю і прыбіраюць яе́ краскамі і зяле́нівам.

Скора пасьля Сяміка, ішла Русальная нядзе́ля. Русалкі, па паве́р'ю нашых дзядоў, былі душы маладых дзяўчат, якія самі адабралі сабе́ жыцьцё. Яны жылі ў рэках і вазёрах; часамі выхадзілі ў ле́с і гуталіся там на галінах дрэў. Калі ім удавалася залучыць да сябе́ каго-не́будзь з людзе́й, яны яго ласкаталі да сьме́рці.

Пасьля Каляды найбольшым народным сьвятам было Купальле. У ноч перад гэтым сьвятам ня толькі маладыя, а і старыя выхадзілі ў ле́с да ракі, або да ручая, раскладалі вогнішчы, скакалі цераз іх, пялі пе́сьні. Ве́рылі дзяды, што ў гэтую ночь цьвіціць папараць-кве́тка, або Пярунова краска. У гэтую ноч Пярун пасылаў на яе́ агонь і краска гэтая загаралася дзіўным сьвятлом. Хто здолеець знайсьці і сашчыпнуць гэтую краску, таму будзе ве́дама ўсё патае́мнае, ён будзе знаходзіць зарытыя ў зямлі багацьці, якія сьцерагуць злыя духі.

Багіню ле́та—Цёцю стараве́чны беларус выяўляў у выглядзе высокай, стройнай, прыгожай жанчыны, прыбранай сьпе́лымі каласамі.

Бог восені—Жыцень выяўляўся, як нізкарослы, худы дзядок, з даўгімі ўскалмачанымі валасамі і трыма вокамі. Яго справаю было даглядаць, каб дасьпявала збожжа на полі, каб усё зьбіралася ў пару.

У ле́се быў свой бог—Лясун, які любіў пужаць людзе́й і путаць ім сьляды так, што яны блудзілі і ніяк не маглі выйсьці з ле́су.

Бог вады называўся Вадзянік, а па хатах быў свой бог—Дамавік.

---

# Вясьнянка.

Ў чыстым полі, пры дарозе,
А зелен явар кудравы!
Пасьціла дзе́ўка тры стады коні,
А зялёны сад вішнёвы!
Пасьціла, пасьціла—крэпка заснула,
Крэпка заснула, коні не пачула,
Прачнулася—няма коні.
Дзе́ўка стала ды падумала:
„Куды ісьці коні шукаць?
Пайшоўшы мне́ цёмным ле́сам,
Цёмным ле́сам ваўкі зьядуць;
Пайшоўшы мне́ лужком-беражком,
Лужком-беражком замачуся;
Пайшоўшы мне́ калінавым мостам,
Калінавым мостам утаплюся;
Пайшоўшы мне́ дарогаю—
Дарогаю Севяране зьвядуць!“
Пайшла дзе́ўка пуцявінкаю,
Стрэла-ж яна трох малойцаў,
Трох малойцаў—рыбалоўцаў:
—„А вы, братцы-рыбалоўцы!
Ці ня відзелі тры стады коні?“
Адзін кажа:—„Я ня відзеў!“
Другі кажа:—„Я й ня чуў і ня бачыў!“
Трэці кажа:—„Я й чуў і бачыў,
Я й чуў і бачыў, і сам там быў!

Скажу дзе́ўцы дванаццаць загадак:
Калі адгадаеш, пакажу коні!
А што гарыць бяз полымя?
А што бяжыць бяз повада?
А што расьце́ бяз кораня?
А што цьвіце́—ніхто ня бача?
А што плача бяз голасу?
А што ўецца каля дрэўца?
А што йграе—сьлёз ня мае?
А што бе́ла ды ня бе́лячы?
А што красна ды ня красьнячы?
А што сіня ды ня сінячы?
А што чорна ды ня чэрнячы?
А што саладзе́й за салодкі мёд?
—„Ах, няхай-жа-ж я да ня бацькава,
Ды ня бацькава, а ня матчына,
Што-б я загадак не адгадала,
Не адгадала, не сказала:
Зара гарыць бяз полымя,
Вада бяжыць бяз повада,
Каме́нь разьце́ бяз кораня,
Папараць цьвіце́--ніхто ня бача,
Конік плача бяз голасу,
А хме́ль ўецца каля дрэўца,
Дудка йграе—сьлёз ня мае,
Ле́бедзь бе́лы, ды ня бе́лячы,
Сонца красна ды ня красьнячы,
Мора сіне ды ня сінячы,

Воран чоран ды ня чэрнячы,
Сон саладзе́й за салодкі мёд...“
—„Вось цяпе́р, дзе́ўка, пакажу
коні:
Тваé коні ў чыстым полі,
Ў чыстым полі на дуброве,
Чорным шоўкам папутаны,
Злотам-срэбрам памузданы;
Ядуць траўку - мядуніцу,
П‘юць вадзіцу ўсё з крыніцы;
Ядуць траўку зялёную,
А зелен явар кудравы!
П‘юць вадзіцу сьцюдзёную
А зялёны сад вішнёвы.

---

## Русальная песьня.

На Граной нядзе́лі,
На крывой бярозе,
Рана-рана, на крывой бярозе!
Русалкі сядзе́лі,
На дзе́вак глядзе́лі
Рана-рана, на дзе́вак глядзе́лі.
Дзе́вачкі—сястрычкі,
Дайце нам спаднічкі,
Рана-рана, дайце нам спаднічкі!
Малодкі лябёдкі
Дайце нам намёткі,
Рана-рана, дайце нам намёткі!
Правядзём Русалачку
Ад бору да бору,
Рана-рана, ад бору да бору!
Ад бору, да бору,
Ў зялёну дуброву,
Рана-рана, ў зялёну дуброву!
Прывядзём Русалку
У зялёнае жыта!
А ў зялёным жыце
Там русалцы жыці!
Рана, рана там Русалцы жыці!

---

## Купальная песьня.

Ішла Купалка сялом, сялом—
Купала, Купала!
Закрыўшы вочы пяром, пяром—Купала, Купала!
Сталі людзі дзівіціся:
Якія вы, людзі, дзіўныя!
Я-ж відзела дзіва дзіўне́йшае:
Што ў балоце на калодзе
Вясна-красна кросны ткала;
А рак-небарак цэўкі сукаў;
А плотачка скача, нітачкі вяжа;
А котачка ў лукошачцы пачыначкі ўé;
А мядзьве́дзь рыкае, дровы
рубае;
А камар пішчыць, ваду
ташчыць;
А муха-зладзейка абе́д вара,
А мышка на палічцы крупкі
дзярэ,—
Так ува ўсéй хатцы парадак
ідзе́! Купала! Купала!

---

## Веча і князі.

Ве́чам называлася зборка ўсіх выраслых грамадзян гораду і ваколіцы. Каб сабраць ве́ча, званілі ў звон у горадзе. На ве́чы

пастанаўлялі аб гандлі, аб торговай умове з іншымі гарадамі і народамі, аб вайне́, міры і г. д.

Дзеля арганізацыі збройнае сілы і камандаваньня войскам на вайне́, ве́ча абірала князя. У часе супакою войска часта ня было пад уладаю князя. Каб ня даць магчымасьці князю захапіць уладу ў сваé рукі, не́каторыя ве́чы, прыкладам Полацкае, не дазвалялі князю жыць у самым ме́сьце. Калі князь не падабаўся, дык ве́ча яго праганяла.

Былі ў тыя часы тры вялікія беларускія князьствы—Полацкае, Смале́нскае, Тураўскае і мноства малых, якія ўваходзілі ў склад гэтых вялікіх. Найвялікшім, найдужшым і найбале́й асьве́чаным было Полацкае князьства. Яно вяло даўгія войны з князьствам Кіеўскім і Ноўгарадам.

У другой палавіне дзесятага ве́ку князем у Полацку быў Рогвалад, а ў Тураве—Тур. Кіеўскі князь Валадзімер пасватаўся да дачкі Рогвалада, Рагне́ды. Рагне́да адмовілася высьці замуж за Валадзімера, кажучы „не хачу быць жонкаю рабыніча“ (матка Валадзімера была нявольніцай-рабыняй). Тады Валадзімер напаў на Полацак, забіў князя і сілком узяў Рагне́ду за жонку. Валадзімер потым саслаў Рагне́ду, з сваім сынам ад яé Ізяславам у горад Ізяслаў (цяпер мястэчка, вёрст 20 ад Ме́нску). З часам Ізяслаў стаў вялікім князем Полацкім.

---

# Над Нёмнам.

Ціха і плаўна ў даль коцяцца воды
Вольнага Нёмана, ў цёмную даль,
Толькі у часе глухой непагоды
З бе́рагу Нёман ня выйдзе амаль.
Ве́рбы і вольхі калышуцца глуха,
Сінія хвалі шумяць і бурляць;
Чуткай душою ў такі час паслухай,—
Здасцца, там гэтакі голас чуваць:
„Ге́й, ня дзівуйся, мой друже нядбалы,
Што я сягоньня так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне́ хмары навалай,
Пошасьць уе́лася ў матку-зямлю.
„Сумна мне́, сумна, што ўсё тут іначай
Не́калі бе́раг мой бачыў і знаў;
Іншы ме́ў выгляд,—ня гэткі жабрачы,
Іншы я плыт на плячох сваіх гнаў.
„Край, дзé жыцьцё я сваё пачынаю,
Шмат весяле́й прыглядаўся на сьве́т,
Пе́сьні і казкі інакшыя баіў,
Шчасьце цьвіло ў ім, як макавы цьве́т.

„Буйным жыцьцём усё чыста кіпе́ла,
Слава далёка за мора ішла,
Ворага кожны за пле́чы браў сьме́ла,
Це́мра чужынцаў ня страшнай была.
Панам быў дома і слаўным за домам
Мой патаптаны сягоньня народ;
Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам,
Роднаму слову ўме́ў кніжны даць ход.
„З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вальнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь, што ня ўладзіў,
Слухаў, што ве́ча яму звон казаў.
Чую, ах, чую цяпе́р яшчэ ясна
Той неўгамонны, расходзісты звон...
Сьціх, заняме́ў, аглушылі напрасна;
Ці адазьве́цца калі болей ён?..
„Так, так, мой дружа, іначай бывала,
Не называўся забытым мой край;
„Поўнач“ня раз у ім схаваў шукала,
„Захад“ знаў сілу яго не ў нарай.
„Га, а цяпе́рака што гаварыці?..
Ўсе́ мае́ скарбы намарна ідуць,
Жыта учора вывозілі віці,
Родныя хвойкі сягоньня плывуць.
„Людзі чужыя змагаюць мне́ грудзі
З новым парадкам, з адме́нным жыцьцём,—
Роднага-ж краю тутэйшыя людзі
Ў скуру чужацкую ле́зуць жыўцом.“
Гэтакі ў часе глухой непагоды
Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.
Сьціхне, і плаўна ўзноў коцяцца воды
Вольнага Нёману ў цёмную даль.

Я. Купала.

---

# Аповесьць

## аб паходзе Ігоравым, Ігора Сьвятаслаўлева, унука Але́гава.

(*Адрывак*).

... Ужо бо Сула не цячэ ручаямі фабрыстымі к ме́сту Пераслаўлю, ужо Дзьвіна балотам цячэ к тым грозным Палачанам, пад воклік паганых. Адзін толькі Ізяслаў, сын Васількавы, пазваніў сваймі вострымі мячамі аб шоламы Літоўскія. Перабіў славу дзе́ду свайму Усяславу, а сам пад чырвонымі шчытамі на крывавай траве́, пабіты літоўскімі мячамі, з хоцям лёг, а той кажа:

— „Дружыну тваю, княжа, птахі крыльлем апранулі, а зьвяры кроў памазалі!“

— Ня было тут брата Брачыслава, ні другога Ўсевалада: адзін ён выпусьціў жамчужную душу з храбрага це́ла цераз залатое ажарэльле.

Занылі пе́сьні, зачахла вясёласьць, трубяць трубы Гарадзе́нскія.

Яраслаўле і ўсе́ ўнукі Ізяслаўлевы! Апусьце́це ўжо сьцягі свае́! Пахавайце мячы свае́ пашчарбаныя! Вы бо сваімі нязгодамі пачалі наводзіць паганых на Рускую зямлю, на надзе́л Ізяслава, ад чаго і насільле пайшло ад зямлі Палаве́цкай.

У сёмы Траянавы ве́к жэрабе кінуў Усяслаў аб дзяўчыне, мілай сабе. Падпе́ршыся клюкамі, ён на кані паймчаўся да пе́раду Кіева і даткнуўся дзідай да Кіеўскага залатога пасаду. Ад іх скочыў зьве́рам дзікім, а поўначы з Бе́лгарада, ахутаўся сіняй імглой, а на раніцу, узьняўшыся, браму стракалам адчыніў Новуграду, разьбіў Яраслаўлеву славу і скочыў ваўком да Нямігі з Дутак.

На Нямізе снапы сьце́люць галавамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыцьцё кладуць на таку, душу ве́юць ад це́ла. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засе́яны, — засе́яны былі касьцямі сыноў рускіх.

Усяслаў-князь людзём суд судзіў, гарадом князёў надзяляў, а сам поначы ваўком гуляў. З Кіеву да пятухоў дасьцігаў Тмутаракані, вялікаму хорсу ваўком шлях перабягаў. Таму ў Полацку рана званы пазванілі к завутраньні ў Зоф'і Сьвятой, а ён у Кіеве звон чуе. Хоць і ве́шчая душа ў дзе́рзкім це́ле была, але часта бяды нацярпе́ўся. Яму пе́ршаму ве́шчы Баян і прыпе́ўку злажыў дасьціпную:

„Ні хітраму, ні быстраму,
Ні шпаркаму птаху
Ня мінуці божага суду“.

Пераклад **Я. Купалы**.

---

# Князь Усяслаў (1044—(1101).

Унук Ізяслава, князь Усяслаў здабыў сваёй крывёй, сваёй працаю славу Полацкаму князьству. Народ складаў аб ім казкі, пяяў пе́сьні, казаў прыказкі. „Усяслаў князь людзём суды судзіў, князём гарады парадкаваў, а ўначы сам ваўком рыскаў: з Кіева ён дасягаў да Тмутаракані да пе́ршых пе́ўняў, ваўком пераціна-ючы шлях вялікаму Сонцу — хорсу. У Полацку ў Сьвятой Софеі званы звоняць на завутраню, а ён у Кіеве званы гэтыя чуе. Хоць і вешчы дух у харобрым целе, але надта бяды ён відзеў“. Народ лічыў яго чараўнікам і даўгі час гэты князь аставаўся ў народных успамінках.

Спачатку Ўсяслаў жыў згодна з кіеўскімі князямі, але потым паміж іх пачалася барацьба за ўладаньне Ноўгарадам. Усяславу ўдалося ўвайсьці ў Ноўгарад і захапіць там шмат здабычы. Каб памсьціцца за гэта, кіеўскія князі згодзіліся паміж сабой напасьці сумесна на Усяслава. Яны сабралі вялікую збройную сілу і пашлі паходам на Менск, каторы у той час быў адным з багацейшых прыгарадаў Полацку. Забраўшы Менск, яны павялі далей свае войскі і сустрэліся з Ўсяславам на рэчцы Нямізе. Нядобра кончылася бойка для Ўсяслава: ён быў разьбіты. Большая частка Палачан лягла там. Хоць і ўзялі верх кіеўскія князі, але да далейшую барацьбу ў іх сілы не хапала і яны зазвалі да сябе Ўсяслава, каб зрабіць з ім згоду. Усяслаў з двумя сынамі і невялікаю дружынаю прышоў у кіеўскі лагер. Там яго, заместа пераговараў, схапілі разам з сынамі, закавалі, адвязьлі ў Кіеў і ўкінулі ў цямніцу пад вялікакняжацкім палацам. Але нядоўга прышлося яму там сядзець. Кіеўскі князь Ізяслаў пайшоў вайной на палоўцаў і быў разьбіты; з ганьбою вярнуўся ён у Кіеў. Тады кіяўляне прагналі ад сябе Ізяслава, вызвалілі з палона Усяслава і абабралі яго за князя. Не сядзелася Ўсяславу на велікакняжьскім кіеўскім пасадзе, цягнула да свае роднае Полаччыны і вось, цераз восем месяцаў, ён кінуў вялікакняжьскі пасад і вярнуўся ў свой Полацак.

Ізноў пайшло змаганьне Полаччыны з Кіеўшчынай. На кіеўскім пасадзе сеў працавіты і здольны князь Валадзімер Манамах і шмат бяды ён прынёс Полацкай зямлі. У 1084 годзе сабраў Валадзімер Манамах вялізнае войска і пайшоў з ім на Менск, узяў горад, спаліў і зруйнаваў яго да шчэнту. Гэтым паходам закончылася барацьба Ўсяслава з кіеўскімі князямі. Памёр князь Усяслаў, пракняжыўшы 57 гадоў.

Пасьля сьмерці Ўсяслава Полаччына пачала губіць сваю магутнасьць. Прыгарады началі адлучацца, сварыцца з Полацкам і паміж сабою. З гэтага скарысталі кіеўскія князі, яны нападалі на Полаччыну і руйнавалі яе. Гарады і вёскі апусьцелі. Людзей бралі ў палон і прадавалі ў няволю. Часамі народнай цярплівасьці прыходзіў канец, паднімалася паўстаньне. Народ праганяў чужынцаў. Кіеўскія князі самі сталі цярпець ад націску полаўцаў і перасталі нападаць на Полаччыну.

---

## Хрысьціянства.

Беларускія купцы спушчаліся па Дняпры да Чорнага мора і гэным морам даплывалі ажно да Царгораду. Рабілі нашыя прэдкі і паходы на Царгорад. З другога боку грэцкія купцы бывалі так сама часта ў Беларусі. Стыкаючыся з грэкамі, нашыя прэдкі патроху пераймалі ад іх хрысьціянскую веру ўсходняга,

грэцкага абраду. Таргавалі такжа стараве́чныя беларусы з заходнімі народамі. Ад гэтых народаў пакрысе́ пераходзіла да нас хрысьціянская ве́ра заходняга, лацінскага абраду.

Гэткім парадкам у 10 ве́ку яшчэ да хрышчэньня Кіеўлян князем Валадзімерам, у Беларусі ўжо былі хрысьціяне і навет былі цэрквы ў Полацку і ў Тураве.

Пасьля хрышчэньня Кіеўлян у 988, хрысьціянства ўсходняга абраду пашыраецца ў Беларусі барждэй, і так, памалу, ўве́сь беларускі народ стаў хрысьціянскім. Княгіня Рагне́да прыняла хрысьціянства, жывучы ў Заслаўі і стала манахіняй. Хрысьціянства нашыя прэдкі прымалі самахоць, бяз ніякае прынукі з боку князёў або чужнікоў.

Тыя з беларусоў, якія ране́й прынялі хрысьціянства лацінскага абраду, з часам так сама перайшлі да ўсходняга абраду, бо хрысьціян лацінскага абраду ў Беларусі было мала. Апрача таго, не́мцы былі лацінскага абраду. А як не́мцы пачалі нападаць на Беларусь, то нашыя прэдкі, ня любячы іх, ня любілі і іхняе ве́ры.

## Кніжная асьве́та.

З прыняткам хрысьціянства, у Беларусі пачала пашырацца асьве́та. Закладалі школы, у якіх вучылі чытаць, пісаць і лічыць. Духаве́нства павінна было быць пісьме́нным, дык наўпе́рад закладалі школы для дзяце́й, штовучыліся за сьвяшчэньнікаў, а потым і для іншых. Для багаслужэньняў патрэбны былі кнігі. Дзеля гэтага пры манастырох пачалі закладацца школы, у якіх вучылі чытаць і перапісаваць царкоўныя кнігі. Пісалі тады славянскімі літарамі, такімі, якімі цяпе́р друкуюцца царкоўныя кнігі пасла-вянску. Пісьмо гэтае выдумалі славянскія апосталы, браты сьв. Кірыла і Мяфодзій. Яны былі родам з города Салуня (цяпер Салонікі). Ёсць ве́сьці, што ў той час каля г. Салуня жыла часьць беларускага плямя Дрыгвічоў. Грэкі называлі іх Другувітамі. Гэтая частка Дрыгвічоў у VIII ве́ку адлучылася ад сваіх братоў з над Нёмана, Прыпяці і з сває́ бацькаўшчыны перасялілася на ўзьбярэжжа Мрамарнага мора, каля г. Салуня. У часы сьв. Кірылы і Мяфодзія Другувіты былі хрысьціянамі і ме́лі свайго япіскапа. Значыцца, сьв. браты Кірыла і Мяфодзій былі так сама беларусы, і пе́ршыя царкоўныя кніжкі перакладзены на тагочасную беларускую мову.

Асьве́та разьвівалася ў Беларусі борзда, і ў скорым часе былі у нас ве́дамыя далёка ў сьве́це сває́ вучоныя, кніжныя людзі. З кніжных людзе́й асабліва адзначаліся: у Смале́нску — сьвяшчэньнік (а якісь час і мітрапаліт) Клімент Смаляціч, у Тураве—япіскап Кірыла Тураўскі і ў Полацку князёўна Прадслава-Афрасіньня.

Клімент Смаляціч (жыў у 12 ве́ку) адзначаўся, як грамадзкі дзе́яч, палітык і арганізатар; япіскап Кірыла Тураўскі — як надзвычайна добры царкоўны аратар-прамоўца, а сьв. Прадслава—

Афрасіньня Полацкая палажыла вялікія заслугі пашырэньнем кніг у Беларусі.

*Сьв. Прадслава Полацкая.* Полацкая князёўна Прадслава радзілася ў пачатку 12 веку і прыходзілася ўнукай князю Ўсяславу - Чарадзéю. Яна была дужа харошая, і бацькі яé хацéлі выдаць замуж, але яна ўцякла ў манастыр да сваé роднае цёткі, што была там ігуменьняй. Як бацькі ні стараліся, не маглі ўмовіць дачку пакінуць манастырь. Прадслава ў манастыры пастрыглася пад імем Афрасіньні і адзначалася там сваёй пабожнасьцяй і стродкасьцяй жыцьця. Свой вольны ад малітвы час яна аддавала на перапіску кніг. Навакол яé пачалі гуртавацца людзі, якія любілі асьвéту; яна сама зьбірала ў манастыры перапісчыкаў і перапісчыцаў. Усё сваё жыцьцё аддала Афрасіньня на разьвіцьцё пісьмéнства, на падымак асьвéты ў родным краі. Пад старасьць яна паéхала ў Ерузалім, дзé, пажыўшы нéйкі час, памёрла.

---

# „Разбойнік“.

## I.

Бурліць вада, разьбіваючыся аб цьвярдыя ґранітныя грудзі камяня-разбойніка. А. ён стаў ваодаль бéрагу, пахінуўся супроць вады і быццам прыслухаецца, затаіўшы дух... І так ён тут, сярод жоўта-зеленаватых вод Дзьвіны, стаіць даўным даўно. Увясну пакрываюць яго воды і тады ён небасьпéчан для ганкоў, стругоў і лайб, гружаных збожжам і лёнам, каторыя часта, лучыўшы на яго, разьбіваюцца. На Сёмуху зазвычай па над вадой відаць толькі яго лысую галаву, а ў Пятроўку — ён па пояс стаіць у вадзé пахінёны наперад і моўчкі ўзіраецца ў нямую, шэрую даль і моўчкі чагось чакае...

Мабыць, стаяў ён такжа і ўзіраўся, калі сюдой вараскі род на маляваных „ладзьдзях“ пад камандай Полтэса, вікінга-князя, ішоў у сутокі Полаты з Дзьвіной, каб заснаваці там тын і зрубаці горад. Памятае ён, мабыць, старога Рогвалада і красуню Рагнéду з вольных дзён. Ня раз, мабыць, услухаючыся, лавіў ён гучныя зыкі полацкага вечавога звону ад Сьв. Софіі і горды гоман вольнага крывічанскага вéча. Ня раз аб яго ацяраліся ладзьдзі купéцкага адважнага люду, што йшлі нагружаныя воскам, мёдам ды няшчысьлёнымі „саракамі“ кунічымі і бабровымі ў Рыгу і на Гоцкі бераг і к хамаву плéмю з паклонам ад Крывічанскае зямлі і полацкага вольнага веча і ад залатога княжацкага пасаду і яго вéрнай дружыны—Русі, просячы на замéну гартоўных мячоў, каванага срэбра, літага золата і самацьвéтаў.

То былі часы, калі „нéмцу ў Русі, а Русічу на Гоцкім бéразе была адна праўда“.

Дно Дзьвіны золатам цякло, а берагі серабром былі мошчаны. А рубяжы адкрыты і паміж князёў ня было праўды. І чужацкія рукі выцягаваліся па золата і па волю крывічанскую. Ня раз Дзьвіна мутна цякла, ўскаламучаная капытамі літоўскіх коняў. Прыходзілі яны ў багатую старонку, як мядзьве́дзь да борці і ізе́рлі скрылі залацістага мёду і душылі пшчол. Ня раз працавітыя пшчолкі нанова выцягавалі вузу і налівалі соты, але бывала, што ўпадаў і гніле́ц у борць... Тады разьляталіся пшчолкі. А Дзьвіной снавалі, як павукі, людзі з даўгімі абасе́чнымі, двуручнымі мячамі, у чорных бурносах, з „няме́цкім“ бе́лым крыжам і апутавалі павучыньнем старонку, а па павучыньні тым паўзла „ганзіятыцкая“ арава...

І ня было Русічу праўды на Гоцкім беразе...

На грудзёх у „разбойніка“ шчэрбы і равочкі, кругам раскінутыя, а пасярод схімніцкі крыж. Гэта па сьме́рці Барыса, Гінвілавага сына, на спамін па душы яго, з блізкой баровай пустэльні, што была на пясчыстым узгорку, па той бок Дзісенкі, сівы мніх, прывёўшы каменаклёва, загадаў высеч, каб кожны, хто пае́дзе міма Дзьвіной, уздыхнуў да Бога, кажучы: „Помозі, Божа, рабу твоему князю Барысу“... Цяпе́р гэтыя пісьмёны зьлізаны разьранай Дзьвіной і ніклы толькі сьлед двох-трох літар віднée...

Плыла багатырская пе́сьня, і кроў, і сьлёзы з мутнай вадой Дзьвіны, а доля наша спала. Калі-ж яна прабудзіцца?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Даўно стаіць непадалёк ад бе́рагу гранітны каме́нь, і вада бурліць каля яго, быццам жалячыся чужаку, зане́сенаму з далёкае поўначы на крызе лёду, і даўно ўпорны чужак, пахінёны, прыслухаецца ў шэпты старонкі. Але народны сказ ня ве́дае аб ледавым пэрыодзе, і іншую повесьць перадае дзе́д унуку аб „разбойніку“.

## II.

— Калісь-то даўным-даўно, супроць таго ме́сца, дзе́ ўпадае Дзісенка ў Дзьвіну, на востраве пасяліўся асілак.

Быў гэта муж у сажань росту, нялюдзкі, дзікі і прагавіты. Няпраўдай і разбоем жыў. З кожнага судна, што йшло Дзьвіной, браў ён выкуп. А хто не захоча даць выкупу, таму разбойнік заступаў дарогу і, схапіўшы крэпкай рукоў за край судна, вываррочаваў і тавар і людзе́й у ваду. Нікому не даваў спуску.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раным-рана зазванілі ў сьвятой Софіі, у арліным гнязьдзе, на полацкім замку. Адклікнуліся ім званы ў Спаса і з княжай Белецкай сялібы. Паваліў народ на замак да сьвятое Софіі— сумны, не вясёлы.

Чаго-ж зажурыліся Палачане? Ці вораг непашчадны з цёмных пушч літоўскіх хлынуў, ці слабоды смале́нскія ўзбунтаваліся, ці Ольгавічы на Рагваложых унукаў паднялі меч? Ня вораг нахлынуў, і слабоды смале́нскія пад ласкавым ды пабожным князям

у послуху, і Ольгавы ўнукі не паднялі ме́ча на Рагвалодзічаў, а дачка князева Прадслава з сястрой і братам выяжджаюць у далёку старонку на паклон да гробу Хрыстовага.

Ужо ладзьдзі, выразаныя, пазлачаныя стаяць пры бе́разе, і трыццаць малайцоў-грабцоў сядзяць пры ясянёвых тачоных вёслах, і бе́лыя парусы, як ле́бедзі, выгнулі грудзі.

Пасыпалі Палачане дарогу княжне Прадславе, і сястры яе́, і брату Давіду, чарнобылем-зе́льлем, багаткамі пушнымі і шматхварбнымі кволымі краскамі ад сьв. Софіі да каванага мосту і ад мосту да бе́рагу. Благаславіў ўладыка і бацька-князь з княгіняю се́сьці ў ладзьдзю е́хаць у далёку дарогу.

Брызнулі вёслы сярэбранымі пацеркамі ўгару і паплыла княжна ўніз Дзьвіны ў сьвяту зямлю на малітву-паклон ад Полацкае зямлі, ад Крывічанскага народу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзіўны ты, сказе народны, вольны ты птаху! Ты як га пралятаеш ад сучаснасьці да мінулых вякоў... Ты мёртвыя каме́ні ажыўляеш і кладзе́ш ім у вусны думы сваé, павяраеш ім скрытыя надзе́і і жаданьні...

Не для цябе́, сказе народны, тораны шляхі, дзе́лены ме́жы! Ня знаеш ты вострага зубу усёпажыраючага часу, ані згладжваючага цалунку сьме́рці. Ты мёртвае ажыўляеш, забытае ўваскрасаеш, і волен тварыці дзівы. А калі дзе́ сьме́рцьцю ўсьне́ дух народны, там ты каме́ні ажыўляеш і адараеш іх прарочым галасам, і кажаш імісьці будзіці пабітых на духу, мерцьвякоў хадзячых.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Загадзя дачуўся разбойнік аб тым, штс е́дзе княжна ў далёкую старонку, і спадзяваўся ўзяць з яе́ багаты выкуп.

Раным-рана ўстаў таго дня разбойнік і, убрыўшы па грудзі ў ваду, пахінуўшыся напе́рад, глядзе́ў і ўслухаўся ўве́рх Дзьвіны вартаваў прыходу княжацкае ладзьдзі.

Адвячоркам, калі клалася даўгая цёмная засень на ваду ад крэпкіх дубоў, што дружнай грамадай абступілі высокі бе́раг Дзьвіны, пачуў ён гул далёкае дружнае пе́сьні грабцоў. А пачакаўшы, пе́сьню чуваць было бліжэй і бліжэй, і ўсё яна расла, набліжалася, а ў канцы, на павароце ракі, панад цёмна-зялёным крушыньнікам і вербалозам паказаліся бе́лыя грудзі парусоў, а за імі і залочаная, выразаная, кшталтам зьмяі, галава ладзьдзі.

Разбойнік ніжэй пахінуўся да вады, затаіў дух і чакаў. А калі ўжо зусім блізка была ладзьдзя, ён, як дзікі рысь, скочыў да яе́ і крэпкай каранастай рукой спыніў яе́ ход.

Змоўкла пе́сьня. Грабцы выпусьцілі з рук вёслы, і вочы ўсіх зьвярнуліся на княжну, каторая ў той час малілася.

Княжна згарнула малітвеную кніжыцу і, палажыўшы яе, устала; падыйшоўшы да разбойніка, адзвалася лагодным голасам:

— Хочаш водкупу? Пачакай, чалаве́ча, дам табе́ водкуп...

Разбойнік прыняў з ладзьдзі рукі.

— ...Дам табé водкуп багаты,—казала далéй сьвятая княжна, як буду сюдой варочацца назад...

Ладзьдзя паплыла з вадой міма вострава, а разбойнік ўсё стаяў пахінены напéрад, быццам услухаючыся і ўглядаючыся ўдаль; і так стаіць ён па сягоньняшні дзéнь, супроць таго мéсца, дзé Дзісенка злучаецца з Дзьвіной, подаль ад бéрагу вострава, каторы пазьнéй празвалі „Папоўскім“, затое, што багацьце і зямлю таго разбойніка воласьць аддала папу да цэрквы Ўваскрасéньня, што была па той бок Дзісенкі на пяскох.

**Власт.**

---

# Ліцьвіны.

Пéршыя вéсткі аб ліцьвінох сустракаюцца ў лéтапісях у X сталéцьці. Ліцьвіны займалі мéсца па рацэ Нёмну і яго прытоках і па Дзьвінé. Сялібы ліцьвіноў былі раскіданы то там, то гэнам сярод лясоў і балатоў. Невялічкі літоўскі народ распадаўся на шмат дробных пляменьняў: летголаў, земголаў, куронаў і прусаў.

Жывучы сярод лясоў, балот, вазёраў і рэкаў, адгароджаныя ад другіх народаў, ліцьвіны мусілі карміцца тым, што ім давала прырода. У рэках і вазёрах было шмат рыбы, у лясох—зьвяр‘я. Там, дзé пападаліся сухія кавалкі зямлі, ліцьвіны сéялі збожжа. Гарадоў у іх было мала; жылі яны ў вёсках, упраўляючыся старэйшым у родзе—кунігасам. Часамі асобныя літоўскія кунігасы зьбіралі войска і рабілі напады на сусéднія зéмлі, навет адважаваліся нападаць на такі багаты і моцны горад, як Рыга.

Дзякуючы таму, што ліцьвіны ня мéлі зносін з хрысьціянскімі народамі, сярод іх даўгі час дзяржалася паганская вéра. Ліцьвіны кланяліся сілам прыроды: сонцу, агню, вадзé, дрэвам, зьвяром. Самым галоўным богам быў Пэркунас, бог грому і маланьні.

Рэлігія ліцьвіноў была дужа падобна да рэлігіі ўсходных славянаў.

## Злучэньне Літвы.

Пакуль Полацкая зямля была магутнаю, дык Палачане часта рабілі напады на ліцьвіноў. Але векавітыя войны з кіеўскімі князямі аслабілі моц Полаччыны. Пад націскам нéпрыяцеляў шмат каму з полацкіх князёў з дружынаю прышлося ўцякаць у Літву. Жывучы ў Літвé, яны памагалі ліцьвіном тварыць войска і часам з літоўскай узброенай сілай хадзілі адваёўваць сваé, занятыя чужынцамі, зéмлі. Такім парадкам у ліцьвіноў ствараецца моцная ваéнная сіла, і яны прызвычаіваюцца ўмéшывацца ў справы беларускіх зéмляў. Зéмлі гэтыя, зруйнаваныя кіеўскімі князямі, падпадаюць пад залéжнасьць ад Літвы. У канцы XII сталéцьця Літва ўжо робіць напады на Полаччыну, каб прылучыць яé да сябé, сама падпадаючы пад культурны ўплыў беларусаў.

Многа прышлося змагацца ліцьвіном з сваім заходнім ворагам, не́мцамі. Не́мцы папалі сюды выпадкова: адзін гандлярскі карабе́ль прыбіла бураю да ўтоку Дзьвіны. Купцы спачатку навязалі гандаль з ліцьвінамі, потым туды сталі прыяжджаць і каталіцкія сьвяшчэньнікі, каб хрысьціць мясцовых жыхароў. Народ сьпярша аднёсься спагадна і да новае ве́ры і да прапаве́днікаў, але, ўбачыўшы, што ве́раю не́мцы прыкрываюцца, каб заціснуць іх мацне́й у сваé лапы, пачаў падымаць паўстаньні проціў не́мцаў. Ліцьвіны апускаліся у дзьвінскія воды, каб змыць з сабе́ хрысьціянства—няхай яно плыве́ вадой туды, адкуль прыйшло. Тады не́мцы абве́сьцілі крыжавы паход на ліцьвіноў. Для гэтае мэты быў заложан ордэн рыцараў-крыжакоў. Крыжакі мячом прымушалі ліцьвіноў прыймаць хрысьціянства, будавалі сабе́ моцныя замкі і усё болей і болей захоплівалі літоўскія зе́млі. Ліцьвіны былі за слабыя, каб перамагчы крыжакоў, і мусілі шукаць помачы на ўсходзе, у Палаччыне і іншых беларускіх зе́млях. З тага часу пачынаецца супольнае будаваньне літоўска-беларускага гаспадарства.

## Літоўска-беларускія князі.

Пе́ршым з літоўскіх князёў, які ўзяў уладу над Літвою ў сваé рукі, быў Мендоўг. Спачатку ён лічыўся старэйшым над другімі літоўскімі князямі, але гэтым не здаволіўся і пачаў крывавую барацьбу. Шмат князёў загінула ад рукі Мендоўга, і ён дабіўся таго, што ўсé князі пачалі зале́жыць ад яго. У часе барацьбы Мендоўг пасьпе́ў захапіць так званую Чорную Русь з гарадамі: Наваградкам, Слонімам, Гараднем і другімі і пасадзіў свайго падручнага князя ў Полацку. Як чалаве́к разумны, Мендоўг це́міў (разуме́ў), што самі па сабе́ ліцьвіны, як людзі цёмныя і дзікія, не маглі наладзіць гаспадарственага парадку ў Літве́ і ўвадзіў у сябе́ беларускія парадкі і ўве́сь гаспадарствены ўклад жыцьця, так што новае гаспадарства адразу стала літоўска-беларускім. Каб забясьпе́чыць сябе́ ад нападаў крыжакоў, Мендоўг хрысьціўся, хоць, запраўды, астаўся такім самым, якім і быў. Але вадахрышча не памогла Мендоўгу. Крыжакі, як ране́й, нападалі, так і цяпе́р гэта рабілі. Тады Мендоўг сабраў вялікае войска і так пабіў крыжакоў, што тыя даўгі час не адважываліся нападаць на Літву.

Мендоўг быў забіты князямі, каторыя былі ім не здаволены за тое, што ён адзін дзяржыць уладу ў сваіх руках.

Па сьме́рці Мендоўга, улада не́йкі час пераходзіла з рук у рукі, пакуль на князьскім пасадзе ня се́ў старэйшы сын Мендоўга, Войшэлк.

Пасьля князяваньня Войшэлка князем літоўска-беларускім стаў Гэдымін.

## Гэдымін.

Пры князе Гэдыміне беларускія зе́млі ўсё бале́й і бале́й адходзяць да Літвы, дзякуючы таму, што сам Гэдымін патураець

беларускім парадкам і з вялікай ахвотай прыймаець да сябе беларускіх людзей. Ствараецца магутнае Літоўска-Беларускае гаспадарства, у склад якога ўваходзяць так званая Чорная Русь (Горадзеншчына) і Полаччына.

Ня глéдзячы на розьніцу вéры, беларусы і ліцьвіны жылі ў згодзе. Гэдымін, хоць сам дзяржаўся паганскае вéры, не перашкаджаў кожнаму вéрыць, як ён хацéў. Гэдымін перанёс сталіцу свайго гаспадарства з Наваградку ў Вільню. Ён узмацаваў гэты горад, пабудаваў замкі і стараўся прыцягнуць сюды найболей насялéньня, асабліва беларусаў. Некаторыя лягéнды прыпісаваюць Гэдыміну закладзіны Вільні, але ёсьць пéўныя вéдамасьці, што Гэдымін прышоў ужо на засéленае мéсца. Самы назоў—Вільня—ня літоўскі, а беларускі; рака Вільля, ад якой бярэць горад свой назоў, палітоўску будзе Нэрыс.

Гэдыміну прышлося шмат змагацца з нéмцамі. Лівонскі і Тэўтонскі ордэны, прыкідаючыся, быццам хочуць шырыць хрысьціянства ў Літве, пачалі налягаць на Літоўска-Беларускія зéмлі. Гэдымін не хацéў вайны, стараўся ўсё залагодзіць мірам і пісаў папé, што ён ня вораг каталіцтва, сам гатоў прызнаць папу за бацьку, што ён сам пашыраець у Літвé хрысьціянства. Дастаўшы такое пісьмо, папа загадаў нямéцкім рыцарам спыніць вайну проціў Гэдыміна і адправіў да яго паслоў, якія мéліся хрысьціць яго і ўсю Літву. Гэдымін адказаў папскім паслом, што ён ніколі і ня думаў хрысьціцца і што яго пісьмо перакруцілі ў перакладзе лацінскія манахі.

Пры аблозе аднаго з нямéцкіх замкаў Гэдымін быў забіты.

## Зялéзны воўк.

Змоўк рог паляўнічы. І людзі і псы абступілі князя Гэдыміна. Забралі каня. Князь прылёг супачыць, як і быў ён, у зброі зялéзнай, на высокай гары ля Вялéйкі. У хатках убогіх ля бурнай Вяльлі сьпяць ціха ратаі-сяляне.

У лéсе дубовым пылае агонь,—там жрацы падліваюць жывіцы-смалы, вандалоткі кладуць хварасьціны. І глытае ахвяры Пярун...

Князь глядзіць: што за цуд—воўк зялéзны стаіць і блішчаць, як вуглі, яго вочы. Воўк завыў на усход, воўк завыў на заход і на поўдзен, на поўнач таксама. Ажно рэха трашчала у цёмных лясох, грымацéла павéтра наўкола... Воўк заляскаў зубамі, аж кроў пацякла. І нацэліў свой лук на яго Гэдымін. І страла за стралой загула, ня мінаючы кожная воўка. Пападаў князь у мэту надзіва. Толькі воўка ня брала страла,—толькі звон раздаваўся ў павéтры, нібы сталь аб зялéза зьвінéла страла і ляцéла уніз на камéньне. Апусьціў свой каўчан Гэдымін.—Што рабіць, о Пярун? Воўк разьюшаны лéзе на князя. Прытаіліся псы, паўцякалі ўсé служкі кудысьці. Князь адзін...

Воўк напéўна зарэжа.

Хутка сьмéрць. Князь хапаецца раптам за сэрца. І прачнуўся... Гэта-ж сон!.. Цішыня, мéсяц зьзяе на нéбе. І ваякі і слугі стаяць увакруг ды чакаюць прыказу ад князя...

Князь ад вéчнага вогнішча склікаў жрацоў і свой сон расказаў ім на дзіва. „Гэта воля багоў, адказалі жрацы аб будучыні вéстка сьвятая. Дык паслухай нас, князь-уладар, як тлумачыць трэ‘ вéстку нябёсаў.

„Над Вяльлёю узойдзе сонца-краса, ўстане горад вялікі, прыгожы. І да зор, да нябёс гмахі будуць расьці. І дыямэнт і мрамар заморскай зямлі заварожаць даліны і горы. І ўсé людзі сумéжных земéль плысьці будуць сюды, нібы хвалі. Пéсьні гораду будуць складаць, на паклоны багом сюды пойдуць. І ў абоймах Вяльлі, між лясоў і садоў, шмат вякоў будзе жыць гэты горад...“

Збудаваў Гэдымін на высокай гары аж да хмараў цагляна замчышча. І зьявілась гняздо тых магутных арлоў, што сталіцаю Вільню зрабілі.

**З. Бядуля.**

## Альгѐрд і Кейстут.

Пасьля Гэдыміна асталося сéмь сыноў, і Літоўска-Беларускае гаспадарства падзялілася спачатку на сéм асобных частак. Гэтакі падзéл аслабляў гаспадарства і даваў сусéдзям магчымасьць лёгка захапіць бліжэйшыя зéмлі. Але скора ўладу ў сваé рукі ўзялі два родных браты, князі Кейстут і Альгéрд. Альгéрд быў разумнéйшы за ўсіх братоў, чалавéк асьцярожны, здольны да гаспадарственае працы і скрыты. Кейстут выдаваўся шчырым, адкрытым характарам і адважнасьцю. Альгéрд быў жанаты з праваслаўнаю князеўнаю, і сам у тайнасьці быў праваслаўным. Кейстут усё сваё жыцьцё цьвёрда дзяржаўся паганскае вéры, за што яго вéльмі шанавалі ліцьвіны.

Альгéрд наступаў на Маскву і нéкалькі разоў біў маскоўскае войска. Альгéрд упраўляў усходняй часткай Літоўска-Беларускага гаспадарства і жыў у Вільні. Пры ім панавала беларуская культура. Урадовай мовай была мова беларуская.

Кейстут валадаў заходняй часткай злучанага князьства і мусіў заўсёды змагацца з нападамі тэўтонскіх рыцараў. Цяжкой стратаю для Кейстута была здача Коўні рыцарам.

Сын Альгéрда, Ягайла, стараўся захапіць уладу над усім князьствам у сваé рукі. Доўга змагаўся з ім Кейстут, аж пакуль той хітрасьцяю не захапіў старога князя разам з яго сынам у палон. Цераз нéкалькі дзён Кейстута знайшлі задушаным.

## Унія Літоўска-Беларускага гаспадарства з Польшчай (1386 г)..

У Літоўска-Беларускім гаспадарстве па сьмéрці Альгéрда пачаліся сваркі паміж яго сынамі. Альгéрд пасьля сябé назначыў за князя свайго старэйшага сына ад другое жонкі Ягайлу. Сыны ад пéршае жонкі не хацéлі пакарыцца Ягайле і яму цяжка было удзяржаць за сабой пасад. Асабліва вялікую вагу сярод народу

меў і быў для Ягайлы небясьпечным дзядзька яго Кейстут і сын Кейстута Вітаўт. Ягайла пачаў шукаць сабе апоры вонках 3) свайго гаспадарства.

У гэты самы час у Польшчы памёр кароль і не пакінуў пасьля сябе сыноў. Каралеўскі пасад мусіў перайсьці да маладое 13-х-годняе каралеўны Ядвігі. І вось, дзеля таго, што Польшчу і Літву злучалі агульныя інтарэсы: барацьба з крыжакамі, польскія паны, цемячы 4), што маладая каралеўна ня здоляе сама кіраваць гаспадарствам, пастанавілі выдаць яе замуж за літоўска-беларускага князя Ягайлу. За тое Ягайла абавязываўся прыняць каталіцкую веру сам і з усім народам, памагаць Польшчы і грашамі і войскам і навекі злучыць Літоўскае гаспадарства з Польшчаю.

Умовы злучэньня з Польшчай былі гэткія: каралём і вялікім князем у вабодвух гаспадарствах павінна быць адна асоба; пасьля Ягайлы—патомак яго і Ядвігі. Кожнае гаспадарства мае сваё асобнае ўпраўленьне, асобныя войскі, асобны скарб.

Пасьля уніі Ягайла прымушаны быў прызнаць вялікім князем літоўска-беларускім Вітаўта, які кіраваў гаспадарствам зусім незалежна ад Польшчы. Ён навет зьбіраўся каранавацца на літоўска-беларускага караля. Нямецкі імпэратар паслаў яму карону, але яе перахапілі палякі ў Кракаве і не прапусьцілі ў Літву. А Вітаўт у скорым часе памёр.

---

# Пачатак беларускага друку.

(6-га жніўня 1517 г.).

Беларускае пісьменства пачалося дужа рана, яшчэ з 12-га веку, але даўгі час ня было у нас друкаваных кніжак, а былі толькі пісаныя ад рукі. Дзеля таго, што пісьменых людзей тады было зусім мала, а ручны спосаб пісаньня кніжак вымагаў шмат часу і добрага накладу, — рукапісныя кнігі каштавалі вельмі дорага і былі бадай у вадных князёў ды багатыроў.

Такі парадак цягнуўся аж да 6-га жніўня 1517 г., калі вялікі беларускі пісьменьнік і дзеяч тых старадаўных часоў, доктар Францыска Ска-



Д-р Францыска Скарына.

рына - Полацкі пусьціў на сьвéт пéршую друкаваную беларускую кніжку.

Гэты дзéнь і лічыцца пачаткам нашага друку.

Доктар Скарына радзіўся каля 1490 году ў Полацку. Бацька яго быў купéц. Францыска навучыўся граматы ў Полацку, а потым нéйкім спосабам папаў у Вільню, калі мéў гадоў 13—14. Хлапéц ён быў добры і старанны і з Вільні здолеў папасьці у Кракаўскі унівэрсытэт. Прайшоў там вышэйшыя навукі і дастаў доктарскі дыплём. Адтуль ён перабраўся ў Прагу, у Чэхію, дзé было зручнéй працаваць, і пачаў перакладаць на беларускую мову Біблію. Пераклаў і выдрукаваў ён за 1517, 1518 і 1519 г. г. ажно 22 кніжкі старога завéту. Пасьля таго ён пераéхаў у Вільню.

У сталіцы ён залажыў друкарню ў доме бурмістра Бабіча і ў 1525 годзе выдрукаваў пéршую кніжку ў роднай зямлі—„Малую падарожную кніжыцу“ (для купцоў, падарожнікаў, каб мéлі па чым маліцца, чытаць пабеларуску і пазнаваць сьвятыя дні).

Друкаваў ён кніжкі у роднай мове з такою мэтаю: 1) каб народ паспаліты мог разумéць сьвятое пісьмо і 2) каб беларускія дзéткі мéлі па чым вучыцца чытаць.

---

на памяць

# Перапішчык.

На чыстым аркушу, прад вузенькім вакном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цьвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі зьвяроў
І птах нявіданых, спляцéньнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь—даволі ёсьць знароўкі,
Сваé шматфарбныя застаўкі і канцоўкі,
І загалоўкі ўсé,—няма куды сьпяшыць!
Парой ён спыніцца, каб лéпі завастрыць
Пяро гусінае, і гляне: сьвéтла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае ваконца
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачак плывé; шырокімі кругамі
У нéбе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,
Як жар гарашчымі; а тут каля вакна
Малінаўка пяé і стукае жаўна.
І ўзноў ён схіліцца, застаўку ўзноў выводзіць
Няяркім серабром; нячутна дзéнь праходзіць;
Ўжо хутка будзе ноч і пéршая гвязда
Благаславіць канéц прыгожага труда.

М. Багдановіч.

---

98.

# Літоўскі Статут

## (Беларускія законы)

Літоўскім Статутам называецца знамяніты зборнік даўных законаў Літоўска-Беларускага гаспадарства.

Законы гэтыя спрадвéку былі ў сьвядомасьці беларускіх пляме́ньняў; яны разьвіваліся, дапаўняліся і пераходзілі з рода ў род праз ужытак іх на практыцы.

У пачатку 16-га вéку нашыя выдатныя законьнікі сабралі іх, апрацавалі згодна з правам усіх эўрапéйскіх народаў і запісалі ў зручным для карыстаньня парадку. Скончылі яны сваю працу ў 1529 годзе.

Літоўскі Статут адразу здабыў сабé славу. Цераз год яго пераклалі з беларускае мовы на лацінскую, а цераз тры гады на польскую.

Дзеля некаторых зьмéн у гаспадарсьцьвеным ладзе стары беларускі Статут быў пазьнéй перагле́джаны. У другой рэдакцыі ён быў зацьвéрджаны на віленскім сойме ў 1566 годзе.

Люблінская вунія нашае бацькаўшчыны з польскім каралéўствам прынéсла, як вéдама, яшчэ большыя зьмéны ў праўных адносінах у Беларусі і Літвé. І вось Літоўскі Статут быу ізноў перагле́джаны асобнаю камісіяй пад старшынствам вéдамага канцлера Лявона Сапéгі і зацьвéрджаны соймам у 1588 годзе.

Статут 1588 году быў надрукаваны ў віленскай беларускай друкарні слаўных братоў Мамонічаў. Адна кніжка ёсьць цяпéр у Беларускім Нацыянальным Музэю Луцкéвіча ў Вільні.

Мова Літоўскага Статута служыць прыкладам урадовае беларускае мовы 16-га вéку, а ўвесь Літоўскі Статут ёсьць нязвычайна дарагой памяткай нашае слаўнае мінуўшчыны.

Літоўскі Статут сьвéдчыць аб высокім разьвіцьці беларускае культуры. Гэты зборнік законаў бараніў адзінства і самастойнасьць нашае бацькаўшчыны.

---

# Прыклады з Літоускага Статуту 1529-га году.

**Разьдзе́л пéршы, артыкул дзевяты: усіх у Вялікім Князьстве Літоўскім адным правам маюць суджоны быці.**

Тож хочам і ўстаўляем вéчнымі часы быці хованы, іж усі падданыя нашы, так убогія, яка і багатыя, каторага-бы-кольвек роду або стану былі, роўна а аднастайна тым пісаным правам маюць суджоны быці.

**Разьдзéл трэці, артыкул трэці: дзяржаней і чэсьці чужазéмцам ня маюць даваны быці.**

Тож шлюбуем і абяцуем, іж у зéмлях нашых таго Вялікага Князьства зéмль, і гарадоў, мéст, і каторых-кольвек дзéдзіцтв і дзяржаньня, і тож каторых-кольвек урадаў, чэсьцей і дастойнасьці жаднаму чужому, але толькі прыраджоным а тубыльцам тых зéмль нашых Вялікага Князьства вышэй мéненага будзем даваці і патомкі нашы будуць даваці ў дзяржаньне.

---

# Бітва пад Воршай.

(1514 г.).

Ой ў нядзéльку паранéньку
Ўзыйшло сонейка хмарнéнька,
Ўзыйшло сонейка над борам,
Па-над Сéлецкім таборам.
А ў таборы трубы граюць
Да ваяцкае парады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы дабываці;
А ці з поля, а ці з лéсу,
А ці з рэчкі невялічкі!
А ў нядзéлю паранéньку
Сталі хлопцы-пятыгорцы
Каля рэчкі на прыгорцы;
Гучаць раз з самапалаў,
З сяміплядых ад запалаў;
Б'юць паўсоткаю з гарматаў...
Масква стала наракаці,
Мéста Воршу пакідаці;
А як з Воршы уцякалі,
Рэчку невялічку праклінал:
„Бадай ты, рэчка, сто лéт высыхала,
Як нашая слава тутка прапала;
Бадай высыхала да сканчаньня сьвéту,
Што нашай славанькі ўжо нéту!
Слава Воршы ўжо ня горша,
Слаўся пан Астрожскі!

---

# Татарскі пастой.

Ў чыстым полі бяроза стаяла,
На бярозе зязюля кувала.
Годзе, годзе, зязюля, куваці,
Бо ўжо éдуць татары бярозу рубаці.
Ты, бяроза, хілява-бялява,
Чаму ў полі ты не вясёла,
Чаму, бяроза суха, не зялёна?
— Як-жа мнé зялёнай быці?
Пада мною татары стаялі,
Татары стаялі, гольле рубалі,
Гольле рубалі, карэнь выбівалі,
Крынічнай вады дабывалі,
Сваіх коні напавалі.

---

# Абарона Крычава.

Падыймаліся чорны хмары,
Нéба пакрывалі,—
Прыхадзілі злы татары,
Пад Крычавам сталі;
Запалілі стары Крычаў,—
Канцы запылалі...
Наш Івашка падымаўся,—
Людзі ў рады сталі.

Палілася кроў, зьмяшалась
З чорнаю зямлёю,
Злы татары падаліся
Уцякаць гурбою;
А Івашка гоніць, гоніць,
Голасна сьмяéцца,
Што татарва уцякае,
Аж хахол трасéцца!

---

# Бітва на Уле.

Быў пачатак 1564 году.

Вайна з Маскоўшчынай усхапілася з новаю сілаю.

Цар паслаў дзьвé арміі. Адну з іх, мéўшую 30,000 чалавéк, вёў з-пад забранага Полацка знамяніты ваявода Шуйскі, а другая, налічаўшая 50,000, пераважна коньнікаў, рушыла на Беларусь з-пад Вязьмы пад камандай князя Сярэбранага і казанскага царэвіча. Між Воршаю і Дуброўнаю яны павінны былі зыйсьціся, каб далéй ужо разам забраць Мéнск, Наваградак і слаўную сталіцу ворага Вільню.

Уся Беларусь дрыжэла ў страсе. Надзéя на падмогу польскага войска была невялікая, а для многіх і нежаданая з прычыны заўсёдных польскіх прычэпак, зьняважаўшых беларускі і літоўскі нацыянальны гонар. Здавалася, прыйшоў канéц незалéжнасьці Літоўскага (беларускага) гаспадарства...

Тады вялікі гэтман Мікалай Радзівіл, польны гэтман Грыгоры Ходкевіч і іншыя слаўныя мужы стаялі з войскам у Лукомлі, пад Віцебскам. Кожнае шчырае сэрца было поўна болю, жалю і крыўды. Ужо даўно за сталом у гэтмана, навет у вясёлым, завычай, канцы, дзé сядзéлі ротмайстры, ня было чуваць ня толькі гучнага сьмéху, але навет вясёлае гутаркі.

— Бацькаўшчына гіне...—цьвёрдым, але страшным голасам казаў Грыгоры Ходкевіч, на якога з вялікай пашанаю й надзéяй глядзéла ўся вайсковая моладзь;—масква паліць і руйнуець зямлю нашых магутных дзядоў, а панове ляхі... вось што робяць панове ляхі!

У яго руках быў ліст ад вéрнага слугі з Варшавы, і ўсé присутныя глядзéлі з усіх канцоў гэтманскага застольля.

Ён чытаў: „Азнаймую вашай міласьці з сойму Варшаўскага, што панове ляхове дзіўнымі рознымі прэтэкстамі хацéлі, каб у вéчную няволю сабé нас узяць; напéрвей, аднаé ляскі, аднаé пячаці, аднаго скарбу, аднаé канцылярыі дапіраліся; потым, калі таго давéсьці не маглі, каб усé нашы станове і ўраднікі пі-

саліся „маршалак зе́мскі каруны Польскае ў вялікім князьстве Літоўскім“, па таму-ж і іншыя ўсі ўраднікі, а кароль каб пісаў „кароль Польскі і зе́мль князьства Літоўскага“, чаго калі таксама даве́сьці не маглі, тады тое нам аднімаюць, чаго ім, Божа, не памажы, каб зараз у Польшчы на вялікае князьства паднашэньне было, а ў нас каб ніколі на князьства паднашэньня ня было. Так сама, каб соймы вальныя цераз тое ў нас ня былі, а толькі супольныя з імі... Чаго панове паслове нашы, дай, пане Божа, абы баранілі, яка-ж ёсць і надзе́я ў Бозе, што-ж і абароняць“...

Гул нездаволеньня каціўся далёка ў грамадзе́. Сьле́дам за гэтманам Ходкевічам і вялікім гэтманам усе́, як адзін, выцяўшы сябе́ ў грудзі, крычэлі:

— Ня будзе гэтага! Ня будзе.

— А цяпе́р, панове брацьце, на маскву!—падняўшыся ўва ўве́сь свой рост і гле́дзячы на Мікалая Радзівіла, — казаў Ходкевіч.

— На маскву! На маскву!—дрыжэлі ад крыку старадаўныя муры.

Радзівіл і Ходкевіч пільна сачылі за паходам арміі Шуйскага і ад сваé старожы ме́лі пе́ўную і частую ве́дамасьць. І калі Сярэбраны стаяў абозам за дзьве́ мілі ад Воршы, на рацэ Крапіўне, а Шуйскі быў пад Чашнікамі, у сяле́ Іванскім, вялікі гэтман з Грыгорам Ходкевічам, стольнікам Іванам Ходкевічам, з князямі: Богданам Саламе́рацкім, Раманам Сангушкаю, Багушом Карэцкім і іншымі надумаўся і шыбка зрыхтаваўся. То-ж ме́ў яшчэ выдатных ротмайстраў: Юрыя Зяновіча, Мікалая Сапе́гу, Івана Волмінскага, Юрыя Тышкевіча, Буркалаба і іншы цьве́т беларускага рыцарства. Узяў усяго толькі 4.000 найле́пшых коньнікаў, і ў сераду 26-га студня, чуючы, што не́прыяцель ад яго за колькі міль, рушыў з тымі рыцарамі і коньнікамі супроць яму.

Напе́радзе ішла рота пана Баркулаба і пана Бакіна, а як яны сустрэліся з маскоўскаю старожаю, на пасілак пайшоў князь Саламе́рацкі і пан Мікалай Сапе́га.

Падхадзіўшы к ме́сцу боя бліжэй і бліжэй, вялікі гэтман усё глыбе́й думаў сваю думу. Ён це́міў, што слабы супроць ворага, бо ме́ў перад сабою перадавы аддзе́л у 17—18 тысяч і 100 дзе́л (арудзьдзяў). А там яшчэ цягнуліся заднія, абозьнікі, якія таксама могуць пасьпе́ць на падмогу сваім...

Але сорам і ганьба, зробленыя асабіста яму і ўсяму беларускаму народу і яго імю адабраньнем Полацка і Полацкае зямлі (бо калі Полацак забралі маскоўцы, ён быў ваяводаю), запалілі сэрца гэтмана шалёным, пякучым агнём. Страшэнная жорсткасьць царскага войска, яго грабе́жства і зьдзе́кі над жыхарамі—стаялі ўваччу Радзівілу.

Пагодны, чысты зімовы ве́чар схінаўся над ле́сам і бязконцымі зарасьнямі кустоў, засыпаных сьне́гам. Маскоўцы, папярэджаныя старожаю, выхадзілі на поле і станавіліся к бою. Трывожны гул ляцеў па ле́се, а да яго каціўся шум. Па вузкіх сьце́-

жачках, рэдкімі радамі высыпалася з гарэхавых кустоў коньніца Радзівіла.

Зусім гатовая да бою маскоўская „кованая раць“ магла кінуцца напе́рад, нясучы страшную сьме́рць адважным, расьсе́яным коньнікам. Але Шуйскі, знамяніты ваявода, мабыць, баяўся лішніх страт ад бою ў ле́се. Ён чакаў... Вораг усё сыпаўся з ле́су і станавіўся ў баявы парадак... Урэшце загрыме́ла штось з узьле́сься, адзаду ў маскоўцаў, здрыгануўшы паве́тра магутным грукатам, і коньнікі Радзівіла ірвануліся напе́рад пе́ршыя, каб зьмяшаўшыся з не́прыяцелем, ня ме́ць страт ад таго грукату. Кінуўся, як віхор, бургграў Полацкі, а за ім гэткі-ж адважны Бако, побач Юрый Зяновіч, стараста Чачэрскі, і Саламе́рацкі-ваявода. Бой закіпе́ў, і яны з сваймі людзьмі не́калькі часу, як страшэнны прыбой хваль, з трэскам і рокатам узьляталі на моцную скалу маскоўскае пяхоты. Ды ня ўсюдых стаяла скала... Там-а-там мужасьць зьбіла стойкасьць; маскоўцы пахінуліся назад і адабралі у сваіх задніх людзе́й, прыпе́ршы іх к ле́су і кустом, магчымасьць страляць.

Узыйшоў ме́сяц... І Радзівіл пры яго сьвятле́ шле́ць новыя і новыя аддзе́лы коньнікаў, рэдкімі ланцугамі, але бяз концу выяжджаючых па тых сьце́жачках, сярод кустоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— „Шуйскі ранены!...“

Два словы переважылі ўдачу на бок яго ворагаў. Маскоўцы паддаліся значне́й, здрыгануліся, пабе́глі: „Сам Шуйскі ранены!“

А ў гэты час ме́сяц зьзяў поўным бле́скам, і пры яго сьвятле́ пераможныя коньнікі пяць міль, да глыбокае начы, гналіся за ўцякаючымі к Полацку варожымі астаткамі арміі няшчаснага Шуйскага. Гарачая людзкая кроў паіла сьцюдзёны шараваты сьне́г, а чорныя грудкі забітых парушалі начное хараство зімовага поля.

---

# Уцёкі Сярэбранага.

Лёгка дасталася перамога гэтману Радзівілу на рацэ Уле. Яго людзе́й было забіта 22 і ранена 700, а ўсяе́ варожае арміі як бы ня было ўжо на сьве́це. Самаго раненага Шуйскага, як потым даведаліся, нагнаў беларускі хлоп з недалёчкае вёскі, абрабаваны маскоўцамі, і засе́к яго сякерай да сьме́рці з страшэннай лютасьцю. Це́ла яго павязьлі потым у Вільню і пахавалі ў царкве́ Прачыстай, а на кані яго ўе́хаў у Вільню гэтман Радзівіл. Шмат было пабіта і другіх маскоўскіх, большых і меншых, ваявод, а ня столькі пабіта на сьме́рць, колькі абязьве́чана сяке́рамі лютых хлопаў з усіх спаленых вёсак ад Чашнікаў да Полацка і пабрата у гане́бную няволю. Тры тысячы хурманак з багатым дабром, аружжам і знарадамі дасталіся ў рукі знамянітай Ходкевічавай коньніцы. І вялікі гэтман Радзівіл захмяле́ў ад вай-

сковае ўдачы, — забыўся, як сам, так нядаўна яшчэ, быў моцна біты пад Полацкам. З грубай хвасьцю свайго ве́ку ён сказаў сярод ваявод і ротмайстраў (яшчэ ня ве́даушы аб сьме́рці Шуйскага):

— Мабыць, Шуйскі будзе сьвяткаваць масьлянку ня ў Воршы з сваймі гордамі, але ў Полацку з сабакамі!

Маскоўцы лічылі сабак нячыстымі, ніхто з іх не дакранаўся да сабакі голаю рукою, і гэтман хаце́ў наймацне́й зьняважыць сваімі словамі гонар ворага.

Але скромны Ходкевіч сказаў яму:

— Яшчэ Сярэбраны з сваім прыяцелем - мурзаю маець за сабак нашых людзей пад Воршаю...

Усе́ ўце́мілі боль і горкасьць слоў польнага гэтмана, і пастанова аб вайсковым паходзе пад Воршу была ўсімі горача прынята.

Што-ж тымчасам рабіў Сярэбраны і Казанскі царэвіч? Агаліўшы ўвесь край ад Вязьмы да самае́ Воршы, спаліўшы будынкі і дабро, пазабіваўшы тысячы нявінаватых мірных жыхароў, пазаганяўшы ўцале́лых у самыя лясныя не́тры на гібель ад каляднага марозу і нямінучага голаду, Сярэбраны з трывогаю чакаў ве́дамасьці ад Шуйскага. Ён мала спадзяваўся на стойкасьць свайго разбэшчанага войска. А ме́ў даволі, апрыч таго, клопату з нястачаю корму для коняй, бо ўсё было яго-ж людзьмі у безгалоўі папалена. Ве́дамасьцяй, тымчасам, ад Шуйскага як няма, так няма...

У пачатку лютага на злом карку уначы прыскакалі ў яго стаўку два чалаве́кі старожы з крэпка зьвязаным ганцом—беларусінам.

— Бяда, княжа!—валіць з-пад Чашнікаў літвы відзіма-нявідзіма,—сказалі яны;—ганца злавілі з лістом пад самаю Воршаю.

Дрыжачымі рукамі схапіў Сярэбраны паданы ліст.

Гэта была ве́дамасьць аб паражцы і сьме́рці Шуйскага, пасланая ваяводзе Аршанскаму Філону Кміце-Чарнабыльскаму польным гэтманам Грыгорам Ходкевічам наўмысьля так, каб яна трапіла ў рукі Сярэбранаму.

Хітрасьць удалася. Золак новага дня не засьпе́ў ужо спакойна стаячага маскоўскага табору; заме́ст яго быў вір і куламе́са ашале́лых людзе́й, замане́жаных коняй, паламаных хурманак, пакіданага дабра.—„Шуйскі разьбіты! Шуйскі разьбіты!“ — і тут два магічных словы сарвалі з ме́сца 50.000 загартованых у многіх страшных баёх коньнікаў і кінулі іх у жудасны віхор панічных, неразумных уцёкаў. А думкі аб коньніцы Ходкевіча, насядаючай адзаду, надавалі бягучым крыльле.

Сярэбраны ірваў на сабе́ валасы, расьсе́к колькі ахопленых панікаю галоў, але тое, што зрабіў, ня мог паправіць. Прачытаны ліст трэба-б было зьнішчыць, нічога нікому не сказаўшы. Ён сказаў бліжэйшым ваяводам: „Шуйскі забіты, Радзівіл ідзе́ць на нас“— і ўсё прапала. Калі-ж новая старожа прыбе́гла з ве́да-

масьцю, што людзі зялéзнага Ходкевіча ужо пасéклі перадавую маскоўскую старожу і зараз заскочуць за Крапіўну, каб перацяць дарогу адступлéньня на Смалéнск,—тады ніякая сіла ў сьвéце не магла зьдзéржыць армію, страціўшую вéру у свае́ сілы.

Усё пабéгла... толькі не Смалéнскаю дарогаю, а на паўдзён.

Грыгоры Ходкевіч не хацéў пачакаць польскія аддзéлы з-пад Барысава і разам з імі ўдарыць на Сярэбранага-князя. Дык-жа дорага аплаціўся яго нацыянальны беларускі гонар коштам беларускага селяніна. Армія маскоўцаў пабéгла, але ня была разьбіта да канца. Цяпéр ад Воршы і да Крычава лягла такая-ж „пасярэбраная“ пустыня, якая ляжала ад Вязьмы. Нікога,—ні старых, ні матак, ні дзяцéй не шчадзілі татары. Да астатняга зéрнятка выграбала й вымятала з сьвірнаў і з зямляных ямаў адступаўшая масква, бо ўвéсь абоз свой страціла пад Воршаю. Хто-ж з беларускіх хлопаў не хацéў паміраць галоднай сьмéрцьцю і не паказываў маскве́ сваéй хлéбнай ямы, таго каралі найгоршай сьмéрцью.

Цэлыя воласьці надоўга апусьцéлі.

**М. Гарэцкі.**

---

# Люблінская вунія 1569 году.

## Парадкі ў Беларусі да вуніі з Польшчаю 1386 г.

У старавéчныя часы ў Беларусі ўтварылася народная ўлада вéча. Вéча кіравала ўсім унутраным і вонкавым, грамадзкім і гаспадарсьцьвеным жыцьцём беларускага народу. Вéча абірала і зьмяняла князёў, судзіла людзéй, рабіла гандлёвыя ўмовы з іншымі гарадамі і народамі; яно-ж пастанаўляла аб вайне́ й міры.

У XIV вéку ўсé беларускія князьствы або самахоць прылучыліся або былі вайною прылучаны да новага Літоўска-Беларускага гаспадарства. Пéршыя літоўска-беларускія князі ўзгадаваліся між літоўскага народу. Ліцьвіны ня мéлі ўстаноўленых формаў народнае ўлады і дзеля гэтага не маглі працівіцца князьскай ўладзе. Дык літоўска-беларускія князі сталі самаўладнымі гаспадарамі. У прылучаных да новага гаспадарства беларускіх зéмлях гэныя князі адабралі ад вéча яго вонкавую ўладу. Ужо ўмовы з чужымі гаспадарствамі, вайна і мір залéжылі не ад вéча, а ад вялікага літоўска-беларускага князя. Адабраньне ад вéча яго вонкавае ўлады дало з часам магчымасьць вялікаму князю Ягайле самадумам зрабіць у 1386 г. вунію з Польшчаю.

Але унутраны парадак у беларускіх зéмлях і пры Вялікім Літоўска-Беларускім князьстве аставаўся даўнéйшы. Прылучаючы адно за адным беларускае князьства да Літоўска-Беларускага

гаспадарства, вялікія князі пакідалі ў ім усе старыя ўнутраныя парадкі. Гэныя беларускія парадкі вялікія князі пацьвярджалі выдаванымі беларускім зе́млям граматамі, у якіх яны казалі „мы старыны ня рухаем і навіны ня ўводзім". Ве́ча па даўне́йшаму кіравала ўнутраным жыцьцём. Беларускі народ, як і ране́й, аставаўся свабодным, хоць і дзяліўся ўжо на сялян і баяр. Баяры ме́лі некаторыя палёгкі за тое, што заўсёды абавязаны былі ісьці на вайну. Былі такжа „путныя баяры", якія павінны былі правіць дарогі. Сяляне не зале́жылі ад баяр. Сваёй маемасьцяй баяры часта зусім ня розьніліся ад сялян. У справах палітыкі, у справах гаспадарсьцьвенае вагі ме́лі вялікае значэньне багатыя князёўскія і баярскія роды (так званыя потым магнаты). З родаў гэных адзначаліся Сапе́гі, Хрэбтовічы, Тышкевічы, Кішкі, Радзівілы і шмат інш. У палітычных справах ад іх зале́жылі аднолькава сяляне і баяры.

## Як зьмяніліся ўнутраныя парадкі ў Беларусі пасьля 1386 г.

У Польшчы парадкі зусім былі йнакшыя, як у Беларусі. Паны і шляхта ў справах палітычных былі паміж сабою роўныя. Ад паноў-жа і ад шляхты вельмі зале́жылі сяляне.

Пасьля вуніі 1386 г. Літоўска-Беларускага гаспадарства з Польшчаю палітычныя правы беларускіх вялікіх паноў яшчэ павялічыліся, бо в. князі абіраліся, і ўлада вялікага князя стала абме́жанаю. Разам з гэтым пачынаюць з Польшчы йсьці ў Беларусь шляхоцкія ўплывы. Беларускія баяры (з часам яны па польскаму прыкладу сталі называцца шляхтаю) стыкаліся з польскаю шляхтаю. Баярам нашым падабаліся прывіле́і і правы польскае шляхты, і яны памалу таксама пачынаюць дамагацца зале́жнасьці ад сябе́ сялян і зраўнаваньня баяр ў палітычных правох з магнатамі. Прывіле́і гэтыя беларуская шляхта памалу здабывае. Кожная такая здабыча родзіць прагавітасьць да новых. Узьнімаецца заўзятая барацьба за шляхоцкія прывіле́і. Ідэю бацькаўшчыны шляхта забываецца, а прымае новую ідэю, ідэю шляхоцтва. Каб зусім зраўнавацца ў прывіле́ях з польскаю шляхтаю, беларуская шляхта дамагалася вуніі (злучэньня) з Польшчаю.

## Адносіны Польшчы.

Да вуніі 1386 г. беларусы і ліцьвіны жылі згодна ў адным гаспадарстве. З 1386 г. ліцьвіны становяцца аднэй ве́ры з палякамі. Адгэтуль палякі здабываюць уплыў у літоўскім грамадзянстве і скіровуюць гэтае грамадзянства проці беларусоў.

Сварка паміж ліцьвінамі і беларусамі вельмі шкодзілі сіле і магутнасьці Літоўска-Беларускага гаспадарства.

Кірункі палітыкі Польшчы і Беларусі былі зусім розныя. Польскія інтарэсы былі на захадзе, у Вэнгрыі, Чэхыі і г. д., а беларускія—на ўсходзе і поўначы (Лівонія). Дзеля гэтага, калі вя-

лікі князь літоўска-беларускі быў разам і кароль польскі, супольны гаспадар уцягаваў Літоўска-Беларускае гаспадарства ў чужыя яму інтарэсы на захадзе, і адначасна не зварочавалася тады ўвагі на нашыя ўсходнія ме́жы; выпушчалі для Літвы-Беларусі В. Ноўгарад, Лівонію, дапушчалі на нашую шкоду ўзмацаваўцца Маскоўшчыне.

Ад усяго гэтага Літоўска-Беларускае гаспадарства слабе́ла, і прыходзіў час, калі яно ўжо дзеля абароны ад Маскоўшчыны патрабавала помачы сусе́дзяў.

### Як была зроблена Люблінская вунія.

У 1569 г. у беларусоў цягнулася даўгая і цяжкая вайна з Маскоўшчынаю за Лівонію. Апрача гэтага былі напады крымскіх татар на паўднявыя провінцыі Літоўска-Беларускага гаспадарства. Тым часам шляхта бале́й думала аб сваіх прывіле́ях, чымся аб абароне бацькаўшчыны. Польшча ме́ла тады з Літвою-Беларусяй аднаго супольнага гаспадара Жыгімонта III Аўгуста, ад яе́ і павінна была-б прысьці падмога. Жыгімонт III Аўгуст быў апошнім гаспадаром з роду Ягайлавічаў. Палякі баяліся, што пасьля яго сьме́рці беларусы і ліцьвіны абе́руць сабе́ асобнага гаспадара і стараліся зрабіць вунію паміж Польшчай і Літвой-Беларусяй.

Дзеля гэтага быў згуканы зье́зд у Любліне. Але беларускія і літоўскія паслы на гэным зье́зьдзе, ня гле́дзячы на дамаганьне караля, палякоў і свае́ шляхты, не згадзіліся на вунію і пае́халі дамоў. Тады каро́ль пачаў прылучаць да Польшчы ўкраінскія зе́млі Літоўска-Беларускага гаспадарства. Ваюючы з Маскоўшчынаю, праганяючы з паўднявых зяме́ль татар, Літоўска-Беларускае гаспадарства не магло ве́сьці яшчэ трэцяе вайны з Польшчаю і прымушана было згадзіцца на вунію, якая і адбылася ў 1569 г. ў Любліне.

Паводле Люблінскае вуніі Літоўска-Беларускае гаспадарства траціла сваю незале́жнасьць, стваралася з Польшчы і Літвы-Беларусі адно суцэльнае гаспадарства пад назовам Рэчыпаспалітае.

Новае гаспадарства маець аднаго гаспадара, які абіраецца агульным соймам у Варшаве. Апрача гэтага, ад Літоўска-Беларускага гаспадарства аднялі ўсю Украіну і прылучылі да Польшчы. Гэтым, як казалі ў Любліне нашыя паслы, адразалася крыльле нашай бацькаўшчыне. Ране́й палякі ня ме́лі права купляць зямлі ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве і займаць там урадаў; па вуніі яны гэтае права дасталі.

Літоўска-Беларускае гаспадарства, хоць і ў зале́жнасьці ад Польшчы, істнавала яшчэ доўга пасьля Люблінскае вуніі. Ува ўсіх урадах гаспадарства, як і ране́й, ужывалася беларуская мова; інакш, як пабеларуску, пісаць было забаронена літоўскім статутам. І толькі ў 1697 г. спалячаныя паны пастанавілі перайсьці на польскую мову.

**П. Станіч.**

---

# Бе́расьцейская царкоўная вунія 1596 г.

Люблінская вунія клала кане́ц незале́жнасьці Літоўска-Беларускага гаспадарства, прымушала яго цягнуцца да Польшчы. Але вялікай перашкодай гэтаму станавілася розьніца ве́ры. У Польшчы панавала каталіцкая ве́ра, а ў Беларусі—праваслаўная. Паны і багатыя людзі прыймалі ахвотна каталіцкую ве́ру, бо яна давала ім розныя выгады, а просты народ аставаўся праваслаўным. Каталіцкую ве́ру ў той час правадзілі манахі-езуіты. Уся адукацыя была ў іх руках. Школы іхныя былі пастаўлены дужа добра і ўсе́, хто хаце́ў вучыцца, ахвотна туды йшоў. Такім парадкам, у скорым часе блізу ўся шляхта стала каталікамі. Праваслаўным аставаўся толькі просты народ і на гэта зьвярнулі сваю ўвагу езуіты. Але прымушаць людзе́й сілком перахадзіць у каталіцтва езуіты не хаце́лі, а ў школах просты народ ня ме́ў магчымасьці вучыцца, дык для зблізкэньня дзьвюх ве́р была прыдумана вунія. Думка аб вуніі і ране́й прыхадзіла ў галовы ле́пшым людзём Беларусі, бо яны відзелі, колькі цярпіць край ад рэлігійнае розьніцы. Праваслаўная царква ў тую ўжо пару была ў цяжкім палажэньні, бо каталіцтва з часу Люблінскае вуніі стала гаспадарсьцьвенай ве́раю. Праваслаўнае духаве́нства было бе́днае, мала адукаванае і не магло змагацца з езуітамі. Вунія давала прывіле́і вышэйшаму праваслаўнаму духаве́нству і раўняла праваслаўную ве́ру з гаспадарсьцьвенай-каталіцкай, пад умоваю прызнаньня папы галавою царквы.

Луцкі епіскап Кірыла Цярле́цкі і ўладзімерскі Іпаці Паце́й, падпісаўшы акт аб вуніі, пае́халі з ім у Рым да папы. Папа даў сваё благаслаўле́ньне і згоду на вунію. Жыгімонт III выдаў дэкрэт аб вуніі. Але шмат праваслаўных было абурана гэтым царкоўным злучэньнем. Тады быў склікавы сабор у Бе́расьці ў кастрычніку 1596 году. На гэным саборы прадстаўнікі царквы разьдзяліліся на дзьве́ партыі і кожны сабор адбываўся асобна і вынасіў анафэму адзін аднаму. Але усё-ж з таго часу пачалі лічыць вунію адбытым фактам. Вунія заме́ста згоды прынясла на Беларусь яшчэ большы разлад і барацьбу. Ня гле́дзячы на абяцанкі, уніяты ня былі роўнымі ў правах з лацінскім духаве́нствам.

З часам аднак вялікая часьць беларускага народу прыстала да вуніі. Як у 1839 г. вунія была скасавана, то часьць вуніятаў перайшла ў каталіцкую (лацінскую) ве́ру, а часьць у праваслаўе.

# Голад у 1601—1602 годзе.

(Сьпісана з Баркулабаўскае хронікі).

Рок[1]) 1601 быў неўставічны: пачалі жыта на хле́б жаці галодныя людзі прад Усекнаве́ньнем галавы сьвятога Іоана Прадце́чы,

[1]) Слова *рок* ужывалася ў старой беларускай літэратурнай мове магчыма пад уплывам польскае і ўкраінскае мовы. Магчымы тут так сама ўплыў свае беларускае провінцыяльнае паўдзённа-заходняе (Горадзеншчына) гутаркі.

а ў копы пачалі жыта жаці на сьвятога Сімеона Стоўпніка; і то было зе́рня вельмі мякка. А дажалі жыта перад Пакровам за 2 нядзе́лі [1]), бо дождж уставічне ішоў нядзе́ль 12. Яр пачала высыпавацісся а сьвятым Пятрэ,—па сьвятым Пакрове за дзьве́ нядзе́лі пачалі яр жаці; і то была зе́лена. А патом посьле сьвятога Сімеона Стоўпніка актабра 4 дня сьне́г вялікі выпаў...

Таго-ж року 1601, ме́сяца актабра дзесятага дня, цэлую нядзе́лю сьне́г сільны і кгвалтоўны ішоў, выпаў да паўгале́ні; такжа і бура сільная была. Тагды пшаніцы, ярыцы, авёс, грачыху і ўсю гародніну, вялікае множства ярыцы на палёх непажатыя, такжа і копы жатыя сьне́гам пазамятала мяце́ліца, іж было жаласна, страшна глядзе́ці і выпаве́дзіці ўздыханьня і плачу людзе́й убогіх, пашнікаў немае́тных. А так ляжаў той сьне́г 2 нядзе́лі аж да Дзьмітровы суботы; якаж з вялікіх маразоў рака Дне́пр быў замерз, і е́зьдзілі па не́м яка серад зімы. А патом за ласкаю ўсямілаасьцівага Госпада Бога для плачу і вялікага ўздыханьня сьне́г растаў і рака Дне́пр расплынуўся. А патом пачалі жаці-гараваці па сьне́гу ў стужу. Былі тож маразы вялікія, агне́ клалі, самі грэліся, іж страшна і жаласна было глядзе́ці: тры—два чалаве́кі на дзе́нь ле́два снапоў 40 нажнуць аўса альбо ярыцы, бо вельмі к зямлі прылягло. Людзі ўбогія яр на вясьне́ жалі-гаравалі, але ўжо толькі, для статку, а таго многа статкамі на вясьне́ самі гаспадары сваё збожжа травілі; макі, гарохі, бабы, проса, рэпа—то ўсё згола пагінула. А каторыя малацілі яр, зе́рня толькі знак, а калі зьме́лець, сьпячэць,—то ў пе́чы сьпячэцца, а з лапаты ў пе́ч ня зложыць; з пе́чы аж палоньнікам выбераць. Такжа і жыта вельмі было неўмалотна; а калі муку жытную ў хле́бе сьпякуць, то це́ста пе́чанае салодка, а за скарыну хаця ложкі кладзі, а ў пе́чы не пячэцца. Увосень аралі і жыта се́ялі каторыя старым жытам, то прэдсе ніўвашто, а каторыя жытам новым се́ялі, тыя ня жалі. Якаж дзьве́ долі тых людзе́й было, которых аральлі і ня се́яны былі. На ле́та купавалі жыта чве́рць [2]) па грошай 35 [3]), яры па гр. 40, пшаніцу купавалі чве́рць 40 грош., авёс па гр. 40, канапе́ль чве́рць40 грош., гарох чве́рць 20 гр.

А той гнеў Божы быў і непагода, пачаўшы ад Ме́нска да Полацка к Віцебску, да Воршы, да Мсьціслаўля, да Прапойска, да Рагачова, Магіле́ва, Любашаны. Патом у Рэчыцы, у Лоеве, у Кіеве, аж на Валынь добры ўраджай быў. А так патом многа множства людзе́й убогіх з голаду на ніз з жонамі і дзе́ткамі і з сям'ёю, што іж страшна было ня толькі відзеці, але трудна было і выпісаці, тоест з ве́рх з валасьці Шклоўскае, з Друцка, з Дуброўны, з Круглы, з Бабра, з Віцебска, з-пад Полацка, з-пад Ме́нска і з іншых многіх украін. Таго-ж року была зіма зла, сьнягі вялікія, і сільныя былі маразы. Многім людзём памаразіла

[1]) Нядзеля ў гэтым значэньні царкоўна-славянскае слова. Хроніку пісалі сьвяшчэньнікі, дзеля таго яго і ўжываюць.

[2]) Полёнізм, пабеларуску чэцьверць.

[3]) У 7—10 разоў даражэй супроць звычайнае цаны.

каму нагу, каму пальцы, другому від, вушы, нос, а другія з марозу памёрлі. А калі ўжо была вясна ў року 1602, той наход людзе́й множства пачалі ме́рці; па пяцеру, па трыццацёх у яму хавалі. Хворых, галодных, пухлых многае множства,—страх відзеці гне́ву Божага. А так пры вялікіх мястох чалаве́ка па аднаму ў яму хавалі, сьвяшчэньнікі правадзілі. Там-жа, каторыя ішлі на ніз, тыя ўсі там паме́рлі, мала се застала. А так ме́рлі адны пры ме́стах, на вуліцах, па дарогах, па лясох, на пустыні, пры распуцьцях, па пустых ізбах, па гумнах паме́рлі. Аце́ц сына, сын аццa, матка дзе́ткі, дзе́ткі матку, муж жану, жана мужа, пакінуўшы дзе́ткі свае́, розна па ме́стах, па сёлах разышліся, адзін другога пакідалі, ня ве́даючы адзін а другім,—мала ня ўсі паме́рлі. А калі той наход ля варот, альбо ў дому ў каго стоячы хле́ба прасілі, аце́ц з сынам, сын з аццом, матка з дачкою, дачка з маткаю, брат з братам, сястра з сястрою, муж з жаною, тымі словы мовілі сільне, сьле́зьне, горка мовілі так: „Матухна, зязюлюхна, вутухна, панюшка, спадарыня, сонца, ме́сяц, зьвёздухна, дай крошку хле́ба!“ Тут-жа подле варот будзець стаяці зраньня да абе́да і да палудня, так то просячы; там-жа другі пад плотам і ўмрэць.

Таго-ж року купавалі... капусты вядро кіслае 3 грошы. А калі варыва прасілі, тыя словы мовілі: „Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зе́рнетка, соўнушка, дай ложачку дзіцятку варыўца сырога!“

Таго-ж року 1602, з ласкі Божае, вясна пачалася добра, ніжлі да сьвятога Юр‘я ле́два штось жыта пасе́енае пачало з зямлі яўляціся, а другое ўсхадзіці, і то патросе; пачалі гараці на Страсной нядзе́лі, а некаторыя за сьвята патросе маку, пшаніцы пасе́ялі.

Таго-ж року на Страсной нядзе́лі ў сераду гром загрыме́ў ве́льмі грозны з дажджом і з бураю нямалаю. А то быў знак нядобры і праве злы, бо на дзесятай нядзе́лі таго-ж року 1602, у чацьвярток вялікі, страшны быў мароз: што было цьвятоў, то ўсё памаразіў. Праўда, пачатак быў грозны, а астатак плачлівы: што было гародных рэчай—капуста, бацьвіньне, цыбуля, макі, гарохі, ячме́нь, ярыца, то ўсё мароз пабіў, чаго з вялікім плачам было відзеці—тых людзе́й галодных, каторыя толькі гароды былі засе́ялі, а жыта не пачыналі. Увосень цана ўсяму збожжу была такова, як у року выш. апісан.

Таго-ж року 1602, увосень жыта пасе́янае вельмі было ўрунілася. З ласкі Божае восень была пагодліва і ўдзячна глядзе́ці,—было вельмі зе́лена. Такжа сяўба позная добра была. Таго-ж року 1602, вясьне́ і ле́це на людзі, з Божага дапушчэньня, хваробы вялікія, гаручкі, бягункі; па ме́стах, па сёлах многа малых памёрла...

---

Баркулабаўскую хроніку напісалі ў 1563—1608 г. праваслаўныя сьвяшчэньнікі сяла Баркулабага Быхаўскава паве́ту, у Магіле́ўшчыне, айцы Аляксе́й Мсьціславец і Фёдар Магіле́вец.

---

# Старое замчышча.

Старыя акопы зьняме́ўшы сьпяць у чорнай цьме́.

Каб ня мова людзкая, дык ніхто-б і ня ве́даў, што калісьці тут слаўнае замчышча князёў Саламе́рацкіх было, жыцьцё кіпе́ла. Грыме́лі гарматы, курыўся дым ад пораху, і лілася чалаве́цкая кроў. А ў сьвяты вялікія—хме́ль-віно ў чарах пе́нілася, ігралі гусьлі-самагуды, стогн стаяў ад гоману людзкога і многа-чаго дзе́ялася, што ўжо наве́кі пахавана для пазьне́йшых часоў.

А цяклі часы, упадалі на сілу магутныя і нечакана ўзнасіліся ўгару няпрыкме́тныя, уміралі князі слаўныя, выраджаўся княжэўскі род. Памёр маўклівы сівавусы Мсьціслаў, і асталася на ўве́сь род адна наступніца — дачушка яго дрыжоная, ненадзе́йная княжэўна Ганначка.

Прыгожа яна, як краска Божая, а розум дзявоцкі і сэрца ме́ла дзявоцкае...

Моліць Бога стары мніх Грыгор: „Удзяржы ўладу князёў маіх, прасьвятлі вочы княжэ́ўны мае́ на карысьць усіх радзімічаў...“.

І гаворыць мніх Грыгоры прыгожай Ганне-княжэ́ўне: „Ох, ты, маё дзіцянё, Божая служэбніца, а падданых сваіх заступніца, слаўная ты наступніца слаўных князёў Саламе́рацкіх, не дапускай ты к сабе́ паніча польскага, княжыча Ўладыслава Воебойскага, ня слухай ты салодка-атрутных прамоў спранджыстых вучылёў яго, беражы пасад прадзедаўскі, і ве́ру сваю сьвятую беражы.

Слухала мніха, ня гле́дзячы на яго, княжэ́ўна маладая.

І без адказу ішоў ён, стары, маліцца Богу ў ціхой царкве́, пабудаванай яшчэ старым князем Лукгвенем.

А княжэ́ўна Ганна часьце́й а часьце́й да сябе́ Уладыслава, княжыча Воебойскаго дапускаець, часьце́й а часьце́й яму ў вочы маладыя пазіраець...

Ня цьвёрда стаіць пасад князёў Саламе́рацкіх, ходзяць чуткі— маскоўскі ўладар сваю раць на Беларусь паслаў, пад старыя муры старага Саламе́рацка.

— О, Божа наш! О, княжэ́ўна мая!—стогнець мніх Грыгор. Няма ўжо яму на што спадзявацца.

Дарма! Усё кане́ц маець...

Сыплецца цэгла і пыл ідзе́ць над сьце́намі замчышча, гудам-гудзіць пад кулямі маскоўскімі Замковая Гара, заслаў дым усё поле вае́ннае, равуць валы, вайсковыя, ірзуць коні літоўскія, гудзяць званы хаўтурныя, ліе́цца кроў...

Плачуць маткі па сынох сваіх, а дзяўчыны плачуць па любых сваіх, туга вялікая агарнула дзяце́й Саламе́рацка, ліе́цца кроў...

А ў падзе́мным ходзе-лазе, з-пад родных муроў-скляпоў, у Цёмны-Ле́с нясуць княжну Ганну вусатыя, у контушах, дру-

жыньнікі княжыча Уладыслава. Пакідаець бацькаўскае гняздо астатняя галінка з вялікага радаводнага дрэва Саламéрацкіх князёў.

Неўзабаве. Вось ужо чутны плéскат і гоман ручая сьцюдзёнага, вось і дуб векавы, а каля яго ход - лаз падзéмны на зямлю выходзіць. Як самлéла княжна Ганна ў Замчышчы, так і цяпéр няпрытомна яшчэ. Але патроху - паціху расплюшчыла вочы дзявоцкія, памалéньку, са страхам, усё ўцéміла.

— Гэ - гэй! Стойце, стойце, пажджэце, ляхі!... чутна—задыхаўшыся, бяжыць нéхта ззаду. Аж гэта мніх Грыгор. Бяжыць угрунь, вочы гараць, бéлы сам як сьмéрць, у руцэ сьвяты крыж дзяржыць.

— Ці... ці ня... ці ня ўнучку слаўнага Лукгвéня, князя нашага, у стане ляхаўскім бачу я? Ці то праўда, ці здаéцца мнé, што зараньне так князéўна Ганна Саламéрацкая з роднага кута ў чужу - далёкую старонку ляціць?

— Маўчы, чарнéц! — прастагнала князéўна.

— Ня можна маўчаці мнé, бо не маўчаў я пад громы гармат і сьвісты куль на маскоўскіх і польскіх палёх з князем Лукгвенем і сынам яго Мсьціславам; на можна мнé маўчаць і перад іхнім дзіцянём.

— Куды бяжыш, князéўна? Яшчэ моцны муры Саламéрацкія, не паламаны паркан замковы, яшчэ ёсьць гарбузы і арэшкі на маскоўцаў у скляпох нашых і ня гнуцца яшчэ нашы людзі, князéўна! Многа скарбаў дзядоўскіх захована ў нас, ня мала золата і камéньня драгацэннага ў сьвятынях нашых, — адкупімся ад Маскоўшчыны, а не пабяжым шукаці помачы туды, куды дзяды нашы ня бéгалі і нам забаранілі...

— Манах! Маўчы! Уладыслаў мой любы абароніць спадчыну бацькоў маіх...

— Абароніць... Князéўна, князéўна! Так абароніць, што парушацца косьці князёў нашых у трунах і попел іх разьляціцца. Ня хочаць Польшча Беларусь-Літву сястрой роўнай лічыць, дык ня будзець ні Літвы ні Польшчы, а будзе магутная бесканéчная Маскоўшчына. Гора нам!

Не бяжы, князéўна! Адкупіся пакуль што ад маскоўскіх ваявод, а там што Бог сьвяты дасьць. А пакінеш Саламéрацк цяпéр ня будзе ўжо, ня будзе нашага незалéжнага Саламéрацка...

— Не... хлопча, гукні дружыну, вядзéце коні.—Ідзі, Грыгор.

Страшны стаўся мніх сівы. Высока ўзьняў сьвяты крыж, падняў рукі і на калéні зваліўся. Балюча, паглядзéў у сьлéд князéўне Ганне і на нéба зірнуў!

— Божа наш! крыкнуў ён.—Судзі нас, судзі мянé... Канéц нам. Наша князéўна пакінула нас, сплуталася з Польшчаю і Маскве́ аддала. Вунь склычыліся ў бягні валасы яé, дык няхай-жа расклычыць іх. Няхай расплутаваець вас, аж пакуль і мы з Масквою ды Польшчаю не расплутаемся.

Задрыжэла зямля, полымя шуганула з усіх бакоў, пад грукат гармат і стогны байцоў шухнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю на-скрозьдоньне.

М. Гарэцкі.

## Слуцкія ткальлі.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны бяздольныя узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Сваé шырокія тканіны
На лад пэрсіцкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяéцца поле,
Зіяе нéба з-за вакна—
І думкі ймкнуцца мімаволі
Туды, дзé расьцьвіла вясна,
Дзé блішча збожжа ў яснай далі,
Сінéюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.
Цямнéе край зубчаты бора...
І тчэ забыўшыся рука
Заміж пэрсіцкага узора
Цьвяток радзімы васілька.

М. Багдановіч.

## Мікітаў француз.

Гэта было 100 гадоў таму, у 1812 годзе. Што гэта было, я не сумляваюся, бо чуў ад старых людзéй, каторыя добра ўсé гэта вéдалі... Тады прахадзілі праз нашую старонку французы, ідучы на Маскву.

А як яны прахадзілі цераз Беларусь, то нашыя сяляне хаваліся ў лéс. Гэтак было і ў Слабодцы. Калі ўжо французы перайшлі, народ пачаў варочацца з лéсу і пустыя сьцюдзёныя хаткі напоўніліся людзьмі.

У Мікітавай хаце палéзла маладзіца пад пéч даставаць курыцу, каторая ўздумала квактаць аб гэтай пары,—ды як закрычыць:

— Ратуйце, людцы! француз пад пéчай!..

Узьняўся гоман. Сабраліся сяляне з тапарамі, з каламі, бабы— з качэргамі, кісялёўкамі і вілкамі, ды сяк-так выцягнулі з-пад пéчы зьбялéлага, як палатно, французскага салдата.

Людзі абступілі навакол француза і цікава ўглядаліся на яго. Нікому і ў галаву ня прыйшло, забіваць яго: тапары, калы ды качэргі пабралі яны, каб бараніцца, бо думалі, што гэта француз будзе нападаць.

— Але-ж ён спудзіўся, бядак!—зацéміў Мікіта.

А другія супакоіўшыся, пачалі жартаваць і сьмяяцца:

— Бачыце, якога малайца курыца высядзела!—сказаў адзін.

— Толькі худы вельмі!—дакінуў другі.

— Гэта маладзіцы на мéста Хвёдара мужык знайшоўся!— сьмяяўся трэці.

— Але ён пéўна галодны, бéдненькі!—забядавала баба.

— Пéўна, што галодны,—згадзіліся мужчыны.

— Ну, гаспадар,—зьвярнуліся да Мікіты: чым будзем гасьця частаваць?

— Што душа мае, тым і прымае.

Маладзіца, тая самая, што знайшла француза, паставіла на стол міску з вадой і накрышыла хлéба. Сéў Мікіта за стол і падаé лыжку французу, кажучы:

— Садзіся, чалавéча, пасілкуйся нашай стравай!

Француз маўчаў. Толькі вусны яго трасьліся. Многа цяжкога перажыў ён за гэты час. Раптам ён кінуўся перад сялянамі на калéні і расплакаўся.

Убачыўшы гэта, усé разам загаманілі:

— Уставай, уставай! Што там!..

І нéкалькі чалавéк, падняўшы яго, пасадзілі на ўслоне.

Плакаў француз таму, што ніколі ня ждаў, каб тыя людзі, каторых ён ішоў забіваць і забіваў, так абыйшліся з ім...

Вайна скончылася, многа, многа людзéй было перабіта, а ў Слабодцы ніхто і ня вéдаў, за што была гэта вайна.

— „Ня лéпей жывéцца нам і посьле вайны“.—„А французы добры народ“,—казалі старыя.

Француз не пайшоў дамоў: ён астаўся ў Слабодцы, памагаў Мікіце замéста сына ў рабоце, навучыўся гаманіць панашаму, лячыў людзéй, гуляў з дзяцьмі, і дзéці яго вельмі любілі і звалі „Мікітавым французам“.

В. П.

---

# Работа на прыгоне.

Добры наш пан, добры наш пан,
Добры да работы:
Ой, як займе з панядзéлка
Рабі да суботы.
А ў нядзéльку раненька
Усé званы звоняць,
А атаман з дзесятнікамі
Насіць снапы гоняць.
Ой, насілі, панасілі,
Сéлі спачываці;
Аглянуцца назад сябé,
Ажно сам пан скача.
Ды каго б‘é, каго лае,
Каго так пытае!
Ой, чаго-ж вы, хлопцы сéлі,
Чом вы снапоў не насілі?
Ой, тым-жа мы не насілі,
Што ўжо ніўка мокра.

## З работы.

Ішлі мы да двору зрана—паране́нька;
Ішлі мы са двору позьненька, пазьне́нька.
Шэрыя зязюлькі—ку-ку! ку-ку!
А мы, маладзе́нькія, ух-ту! ух-ту!
Лясавыя птушкі,—чырык! чырык!
А мы, маладзе́нькі,—кульгік! кульгік!
Дайце вы мне́ вольку, я ў зязюльках апынуся,
Дайце вы мне́ крылкі, я да птушак прылучуся!..

---

## Хаўтуры за прыгонам.

Шэра і аднастайна было наўкола. А ні жывое душы. Прыдарожныя бярозы бязуважна нудзіліся ў сваім срэбраным прыбраньню. На ўзгорачку у кусточку пырхала якая-сь азызлая птушачка з чырвоным волем.

У мутна-бяле́сых далях, за грабе́ньнем, курганьнем і гурбамі сьне́гу, маячылі зубчатыя сьце́ны, ве́жы замкаў, званьніцы, дзівосныя горы, агорнутыя вобалачкамі. Ды не́: мужыцкія хаты, як заве́яныя завірухаю грудкі гною, выплываюць здалеку, сярод адзіі нотных бяроз і калодзежных сох з вагамі. У спозьненай гаспадыні яшчэ ўе́цца сіні дымок над страхою. Дзьмухнуў адтуль ве́цер - прынёс пах смаленае бяросты, дыму і жыльля. Пуста на вуліцы, заваленай гальлём і карчамі з ляда. Пратоптаны вузенькія сьце́жачкі ад хаты да хаты, да паграбні і гуме́нца. Прывязаны за шулу конь жыда-перакупшчыка зусім не зважае ні на прае́жджага пана войта, ні на што іншае. Мятнулася з грэбенем і мычкамі лёну дзе́ўка і, спуджаная, таго-ж часу дзе́сь прапала. За вуглом стаяла грамадка мужыкоў з сяке́рамі за паясамі, у шапках-віславухах. Невясёла гаманілі аб не́чым з дзе́дам, што нёс у рэзгінях рыжую асаку.

Зазьвіне́лі, заскрыпе́лі палазы пад вазком, бліжэй, бліжэй, і ўсе́ мужыкі скоранька скінулі шапку да пояса.

— Дзе́нь добры, людзюхны!

— Добры дзе́нь пану войту.

— А дзе́ тут жыве́ць Тацяна Турботная?

— А вунацька тама, пане, тамацька на рагу, за крыніцаю жывуць Турботныя.

І колькі мужыкоў паслушна замахалі рукамі і аблавухамі і пабе́глі напе́рад паказаваць.

Нізкія хацінкі і пуні ўе́халі ў зямлю. Малюпаценькія ваконцы, як плямы на воку ў жаласнага старца, тускне́лі ў бе́дных сьлюдою, у багатыроў—мутным і таўстым бутэлечным шклом. Сала-

мяныя маты і падстрэшшы закурэлі. Хаты курныя, бяз комінаў, і дым пракурыў усé шчэлачкі. Стрэхі з нізкімі шчытамі і акапамі. Ня хата—стары грыб. Сьцéны закладзены саломаю, ці канаплянаю сувалкаю дзеля цяпла. Гэта дом прыгоньніка, панскага падданага, гэта яго зьвярынае логава.

Пад'яжджаючы да Турботных, войт няпрыéмна ўразіўся: на вуліцы, ля сьцяны стаяў царкоўны дзераўляны крыж.

— Хаўтуры ў іх. Дзіцёнак у Турбоціхі памёр,—сказалі войту.

Ён нізка нахінуўся і ўвайшоў у хату. Пéч была толькі зачынена, і éлкі дым яшчэ вісéў пад столяю і éў вочы. На лаўцы ляжаў пад бéлым грубым палатном, з вéнчыкам на галоўцы, зьсінéлы малéнькі дзіцёнак. Перад абразамі цéплілася жоўтым агоньчыкам чорная сьвéчачка—падарунак якога-нéбудзь дзядзькі Ярмолы, тутэйшага зямца. Пад палком брыкала ў саломцы цялё; запёртая пад пéчаю курачка сакатала. У запечак забіліся, як зьвяркі, дзéці—дзяўчынкі. Сядзéла ў кажухох нéкалькі спагадніццётак. Матка выла па дзіцяці.

А, мой-жа ты дзéтачка,
А, мой-жа ты галубятачка!
Я-ж цябé вынасіла, выхварала,
На прыгон у кашолцы насіла,
Сама жытца панскае жала,
Цябé снапочкамі ад сонца загараджавала.
А ты-ж мой дрыжоны сынулечка...
Хто-ж мянé пад старасьць прыглéдзіць,
Кавалачак хлéбца прыдбаець,
Хто-ж мнé прыгон служыць паможаць?

— Царства нябéснае,— пераксьціўся войт і ўздумаў адразу пачаць гутарку аб справе.

Бабы далі яму мéсца на лаўцы, змахнулі пыл хвартухом. Адна бабулька пачала гамаваць матку:

— Супакойся, мая любая. Няхай Бог крыець, як ты гаруеш, быццам па вялікаму. Бог даў—Бог узяў. Супакойся, рыбухна.

Неспадзяваная ўзьяўка войта ўразіла ўсіх і сьціскала. Усé чакалі.

Абчысьціўшы вусы ад лёду, Рымарчук ня зусім адважна і ня надта складна загаманіў:

— Вось што, Тацяначка. Трэба табé цяпéр-жа éхаць са мною ў князеў палац.

— Няшчасьцейка ў мянé, пане любéнькі... Аслабанéце, калі ласка панская. Ня вéдаю, на вошта я тамацька патрэбна ў гэткі час?

— Там... бач, мамкі патрэбны. Чалавéчае малако на лéкі ці што патрэбна,—няўдалымі словамі напалохаў ён баб.

— Ой, нéшта ня так, паночку даражэнькі; кажэце нам усю праўду.

— Рыхтуйся, Тацяна. Праўды вам заманулася. Можа траліцца ўсяго дзéнь які пабавіць, потым другую прывязуць.

Баба павалілася ў ногі.

— Паночку наш залацéнькі! Абаронца наш! Зьмілуйцеся нада мною. Дайце-ж мнé самой пахаваць майго дробненькага.

Войт змагаўся і ня вéдаў, як зрабіць. Здань панскага гнéву палохала яго. Надаўшы паважнасьці, Рымарчук злосна буркануў:

— Няма там чаго... Зараз-жа рыхтуйся!

Баба абхапіла яго ногі і завыла. Ён, нарэшце, выпрастаўся і закрычэў ужо грозна, як прызвычаіўся за шмат гадоў войтаўства. Але баба раптам перамянілася.

— Не паéду! Забéце, замучайце. Не паéду я... Не пайду ад свайго сыночка. Не аддам яго малачка на панскія лéкі. Не паéду!

Гэта было навіною Рымарчуку. І ён замяўся, ня вéдаючы, што рабіць.

— Ну, ну, ну...—казаў войт,—пакрычы, дурное бабства. Сяньня-ж увéчары прыяжджай, пасьпéеш пахаваць. Так мужыку скажы. Ён дзé?

— На прыгоне... У лéсе калоды валочыць на сплаў,—адказалі бабулі за яé, бо маўчала.

— Так і яму перакажэце.

Войт паéхаў. Па дарозе, воддаль ад цяжкога бачаньня, ён пачаў каяцца, што ня ўзяў адразу.—Ну, ды нічога; можа быць, прывязуць мамку з другога мéсца,—цéшыў ён сябé.

Насустрэчу éхаў хлоп з возам карчоў і, углéдзіўшы войта, клапатліва збачыў, тапіўся ў сьнéзе каля вязнучага каня і скінуў шапку. Сабачка яго заліўся ярым гаўканьнем і кінуўся да вазка.

Войт з здаваленьнем працягнуў па сабачцы бізуном і запахнуўся хутраю цяплéй.

Бязьлюднае сьнегавое поле ўзноў супакаявала, але зараджала ў глыбакосьці душы нязнаную нуду.

Закурылася мяцéліца...

**М. Гарэцкі.**

---

# Кірмаш у Несьвіжы.

## (З „Падарожы“ П. Шпілéўскага 1858 г.).

Кажучы аб Несьвіжы, няможна нічога не сказаць аб знамянітым яго к і р м а ш ы на М і х а л я. Гэтак завéцца кірмаш дзеля таго, што пачаў адбывацца пры Міхалю Радзівілу і даўнéй адбываўся на Міхалоўскай гарэ. Цяпéр ён бываець пад гэтаю гарою, пачынаецца 26 вéрасьня і цягнецца два тыдні. Сюды перасяляецца блізка што ўсё мéста і перакачовуюць мястовыя купцы і мяшчане з сваймі крамкамі. На працягу вярсты стаўляюцца розныя будкі і робіцца нéйкае часовае качэўе. Зьяжджаюцца гандляры й купцы з Пінску, Давыд-Гарадка, Глуска, Мозыра, Мéнска, Бярэсьця, Вільні, Кіева і Варшавы. Найболей жыды прывозяць красныя тавары,

шкло, фарфор, фаянс; пінчукі, мозырцы, давыдгорадцы і наагул паляшукі прывозяць бяз ліку вазоў вяленае ці капчонае рыбы, альнянога се́мя, шчэці, смалы, воску і вырабленых скур і падошваў. Між імі зьмяшчаюцца маскоўскія (вялікарускія) купцы і татары кле́цкія й ме́нскія. Тут-жа прымашчаваюцца з сваймі бударачкамі так званыя карабе́йнікі (таму, што ходзяць з карабамі)—з абразамі, бісюрам і калёрнымі паясамі. Наагул кірмаш несвіжскі даволі значны: ён для беларускага краю амаль ня тое самае, што ніжнегародзкі для маскоўскіх губэрняў. На гэты кірмаш зьяжджаецца су́седняе і навет дужа далёкае шляхоцтва, таксама засьцянковыя шляхтуны... Яны дужа цямкі [1]) на кірмашы: крычаць у балаганах, халяруючы [2]) плёскаюць далонямі ў тэатрах, блутаюцца нагамі ў скоках, п'юць рэчыцкія вымаразкі ў жыдоўскіх карчмах і расхаджаваюць па кірмашы з бізункамі, грэбліва паглядаючы на пасэсарчукоў (дробныя рандары хвальваркаў), якія сустракаюцца тут бяз ліку цэлымі грудамі і зварочуюць увагу на сябе́ кожнага сваймі даўгімі шарачковымі сурдутамі, з сотняю складачак на стане (таліі), вялізарнымі паркалёвымі каўне́рчыкамі, якія закрываюць вушы і тырчаць, быццам рогі, падстрыжанымі вусамі і з ме́сяц няголенымі падбародкамі.

Ня ме́ней зварочуюць на сябе́ ўвагу ўсякага й цыганы, што ходзяць з медзьвядзямі і гожанькія цыганкі, забаўляючыя кірмашовую грамаду рознымі фокусамі й скокамі.

Але цікаўне́й за ўсіх тут несвіжскія сяляне і сялянкі, якія адзначаюцца чыстаю вопраткаю й даволі самавітым выглядам. Яны ўжо ня носяць сьвітак і брудных лапцяў, валеных капялюшоў і намётак, а апранаюцца ў не́йкія капоты з сіняга сукна і суке́начкі з паркалю ня дужа пстрыкатага; замѐста намётак беларускіх, сялянкі носяць на галовах калёрныя хусткі, даволі хараша завязаныя над самым лобам і на патыліцы. А як зграбненькі, спрытны і рухлівы яны! Ня ме́ней за іх вёрткі і сяляне несвіжскія: усё народ ахайны, здаровы, бойкі і разьбітны, але не скандальны і ня дзёрзкі.

---

# Засьцянковы губэрнер.

(З „Падарожы" П. Шпіле́ўскага 1858 г.).

Застаўшыся ў засьце́нку (па дарозе з Барысава ў Ігумень), я пазнаёміўся з засьцянковым губэрнерам, ці шпэктарам.

Прачнуўшыся ўраньні, я быў надта зьдзіўлены гукамі, якія чуліся за сьце́нькаю майго пакою: букі-аз-ба, ве́дзі-аз-ва, глаголь-аз-га,—букі-он-бо... і г. д. Я папытаўся ў хурмана, што гэта? Хурман адказаў: „Губэрнер вучыць дзяце́й". Мне́ дужа захаце́лася

---

[1]) Цямкі—прыкме́тны.

[2]) Халяраваць—злавацца, звадліва крычаць, сярдуючы.

паглядзе́ць на гэтага губэрнера, і дзеля таго я сабраўся быў пайсьці ў суседні пакой. Аж губэрнер папярэдзіў мяне́ і сам зьявіўся да мяне́.

Гэта быў адзін з нікім неапісаных беларускіх тыпаў, які надта зьдзівіў-бы вас з першага знаёмства з ім.

Губэрнер быў даволі паджылы чалаве́к, высокага росту, тонкі, як пруток, з даўгімі валасамі на галаве́ і няголенаю з ме́сяц барадою; на ім быў не́йкі сурдут ці вэнге́рка, якая ле́дзь абцягавала яго мізэрнае це́ла, — з станам (таліяй) бязмалку на плячох, вузенькімі і кароценькімі рукавамі. Заме́ста ботаў на нагах яго былі чаравікі, прывязаныя к нагам вяровачкамі.

Ён адрэкамэндаваўся мне́.

З слоў яго я даве́даўся, што ён займаецца з сваймі гадунцамі ве́дамыя гадзіны; другім часам памагаець іх бацьком касіць, гараць, сячы дровы і г. д. Пэнсію дастае́ць з кожнае сям'і засьце́нка па адным, а многа па два рублі ў год, з дадаткам такога-сякога хусьця [1]).

Вось гэткі губэрнер, бывае, зжываець у засьце́нку ўве́сь свой ве́к, а часам пераходзіць з аднаго засьце́нка ў другі: гэта зале́жыць ад яго характару, а троху ад незаможнасьці засьцянкоўцаў, якія ня плацяць па ўмове.

Губэрнер, які жыве́ць ў вадным засьце́нку доўга, робіцца паважанаю асобаю: да яго, як навучонага [2]) чалаве́ка, прыходзяць раіцца; яму даручаюць казаць прамовы на ймянінах, на хаўтурах [3]) і г. д.; яго прымаюць сябром старыя людзі і іншы раз жэняць яго з дачкою якога бе́днага шляхціца...

Але й жаніўшыся губэрнер астае́цца губэрнерам да самае́ сьме́рці.

---

## Велічыня нашае Бацькаўшчыны.

Нашая Бацькаўшчына Беларусь—край не мале́нькі. Шмат культурных гаспадарстваў маюць зямлі ме́ней за яе́.

Калі захаце́ць перайсьці ўсю Беларусь пехатою, дык каб перайсьці яе з ўсходу на заход—трэба йсьці 5 тыдняў, а з поўначы на паўдня дваццаць пяць дзён (калі лічыць пераходу па 3 мілі ў дзень).

Раскінулася зямля Беларуская ад шырокае Дзясны-ракі ды Бранскіх лясоў аж да Бугу і Бабра, што за Гараднам і Беластокам, ад Латыскае зямлі ды Валдайскіх гораў аж да непраходных балотаў, што за Прыпяцяй, ды да Украінскіх шырокіх стапоў.

---

[1]) Хусьце, або хусты—у іншым ме́сцы скажуць „порце", а ў усходняй Магілеўшчыне і Смаленшчыне могуць сказаць „плацьце"; калі-ж дзе скажуць „бялізна" або „бельё", дык першае полёнізм, а другое маскалізм. Так-сама трэба лічыць маскалізмам і „плацьце".

[2]) Навучоны—вучаны.

[3]) Хаўтуры—пахоў, паховіны.

У сярэдзіне зямлі беларускай ляжаць мéсты: Мéнск, Магілéў, Слуцк, Полацак, Віцебск. А бліжэй да мéжаў ляжаць іншыя вялікія слаўныя мéсты: Вільня, Смалéнск, Гомель, Беласток і Горадзен. Усé гэтыя мéсты беларускія, бо ляжыць на беларускай зямéльцы і з яé жывуць.

Беларусь мяжуецца на ўсходзе з Маскоўшчынай, на паўдні з Украінаю, а на заходзе—з Польшчаю, Літвою, Латвіяй. Гэныя староны вéльмі вузкім паясом адлучаюць Беларусь ад Нямéччыны і ад мора.

**А. Смоліч.**

---

# Беларускія рэкі.

Са старонкі нашае выцякаюць важнéйшыя рэкі ў Эўропе. У Смалéншчыне з імшараў выцякае слаўны Дняпро; у яго ўліваюцца сотні і тысячы дробных рэчак, аж пакуль ён ня зробіцца шырокім і магутным. Тады да яго прылучаюць сваю ваду вялікія яго дзéці—Бярэзіна, што цячэ з лясістае ды пяшчанае Мéншчыны, Сож, што аж з-пад Смалéнска навыперадкі ляціць, каб абагнаць свайго бацьку—Дняпро, Прыпяць, што заліла сваёю вадою безгранічныя прасторы Пінскага балота, Дзясна, што лягла мяжою між Беларусяй і Украінай, ды ў высокіх берагох абмывае зямлю Чарнігаўскую з яé глыбокімі ярамі, сыпкімі пяскамі ды ліповымі гаямі. Напіўшыся ўдосыцьце вады беларускае, нясé ваду сваю Дняпро цераз Украіну ў далёкае Чорнае мора. З Украіны яму мала пажывы—нéкалькі невялічкіх рэчак. Усю сілу і магутнасьць сваю бярэ Дняпро з зямлі Беларускае.

А з лясоў Мéншчыны пасылае Беларусь у другі бок ганца,—сьвéтлы, чароўны Нёман; ён цячэ адтуль цераз зямлю Літвы і нéмцаў у Балтыцкае мора. Абвіўшы срэбным поясам багатую Навааградчыну, хаваецца ён ізноў у пушчах, аж пакуль ня выбяжыць адтуль за Горадзенскія палéткі. Тамака жджэ яго вялікі пасілак. З дзікіх балотаў, з-пад сьвятынь Жыровіцкіх плыве, парослая чаротамі, мнагаводная Шчара. Весялéй бéгчы Нёмну, і борзда ён падплывае да сьцéнаў старога беларускага Горадна. Прабéгшы яшчэ крыху, раптам заварочуе Нёман у бок, каб паглядзéць на харошыя Друскéнікі ды баржджэй сустрэцца з красуняй - Вяльльёй.

А тая прарэзала старасьвéцкую сталіцу вялікіх князёў нашых Вільню, ды, не зважаючы на цудоўныя горы Панарскія, на дубовыя гаі, бяжыць насустрэч роднаму Нёмну.

Сустракаюцца яны на зямлі Літоўскай, там зьліваюць свае воды і бягуць разам у Балтыцкае мора.

Да Стаўбцоў на Нёмне пабачыш толькі чаўны ды плыты. За Стаўбцамі ўжо лучаюцца другі раз і параходы; а ад Горадна ходзяць ужо вялікія параходы.

Яшчэ адну слаўную раку маюць беларусы—гэта Дзьвіну. Пачынаецца яна на самай далёкай поўначы, зьбірае ўсé рэкі і

рэчкі з лясоў Смале́ншчыны і Віцебшчыны, якія ня ўправіўся перахапіць сабе́ Дняпро. Поўнаводнай ракой падкочваецца яна да Віцебска, што параскідаў сваé бяз ліку цэрквы па зялёных узгорках, і далéй плывé да Полацку, што стаіць задуманы аб слаўнай сваёй мінуўшчыне. Нéкалісь поўна было на Дзьвіне чаўноў, багаты і магутны быў Полацак. Цяпéр абмялéла Дзьвіна, апусьцéў Полацак. Пацiху коціць сваю ваду Дзьвіна ў зямлю летгольцаў, латышоў да багатае Рыгі, да мора.

Рэкі для краю—ўсё роўна, што жыла для цéла чалавéчага. Па жылах цячэ кроў, а па рэчках перавозяцца ўсé важнéйшыя тавары. Па сваіх рэках беларусы сплаўляюць лéс і хлéб.

**А. Смоліч.**

---

# Народы Беларусі.

Ня зямлі беларускай жывéць народу нямала — міліёнаў 16 усіх будзе. Беларусоў будзе міліёнаў 12. Апрача беларусоў жывуць тут ліцьвіны, жыды, ёсьць крыху палякоў, старавéраў-маскоўцаў, нéмцаў, латышоў, татараў.

Ня ўсé беларусы вéдаюць, хто яны такія. Нашым краем даўгі час валадалі палякі ды маскоўцы, дык яны ўсé стараліся перарабіць нас на свой капыл: палякі-на палякоў, а маскоўцы-на маскоўцаў. Гэта-ткі ім удалося. Нашы тутэйшыя паны, шляхта, а часам і мяшчане па большай часьці завуць сябé палякамі; а яны папраўдзе беларусы. Затое ўсякіх чыноўнікаў ды іншых беларусаў, што паканчалі маскоўскія (расéйскія) школы ды прывыклі гаварыць памаскоўску, маскоўцы перацягнулі на свой бок; яны таксама не прызнаюцца да свайго беларускага роду і называюць сябé рускімі і чураюцца сваé роднае мовы. Папраўдзе маскоўцаў, або велікарусаў навет у гарадох вéльмі мала; на вёсцы сустракаюцца часамі маскоўцы — велікарусы - старавéры. Іх шмат ёсьць каля Гомеля і Дзьвінска.

Яны ўжо нéкалькі сот гадоў, як уцяклі да нас са свайго краю, бо іх там надта цiснулі за іхнюю вéру. У мéстах часам і ў дварох, можна сустрэць і праўдзівых палякоў. Яны пераéхалі калісь з Польшчы на службу да нашых вялікіх князёў. Вялікія князі параздавалі некаторым з іх вялізныя прасторы зямлі, і цяпéр яны лічаць, што гэта зямля польская. Але зямéлька нашая, як была, так і асталася беларускай, бо на польскага пана працаваў беларускі селянін-гаротнік.

Жыды перайшлі ў Беларусь з Нямéччыны ды Польшчы. Яны ўзялі ў сваé рукі ўвéсь гандаль і рамяство ў гарадох і мястэчках. На вёсках іх мала, бо там, апроч беларусаў, блізка што ніхто ня жывé. Беларусы бываюць праваслаўнай вéры або каталіцкай. Але якой-бы вéры ня быў беларус, ён усё роўна астаéцца беларусам, бо ён ім радзіўся.

Нéмцы таксама бываюць дзьвюх вéраў: лютэранскай і ката-

ліцкай. Але і тыя і гэтыя ўсё-роўна нéмцы, толькі тая розьніца, што адзін ходзіць у кірху, а другі ў касьцёл. Ніколі сябé каталік нéмец не назавé паляком, або француэам, бо нéмцы сьвядомы народ.

Трэба, каб і ўсé беларусы былі сьвядомымі беларусамі.

**А. Смоліч.**

---

# Нёман.

Ціха цячэ ў нас Нёман, ціха і сумна. Ня ймчыцца ён з рызыкай упéрад, ня шуміць, ня гудзé і ня пышыцца сілай, а памалу, ступою, ліéцца, як срэбра, па роднаму грунту. Чысты, як шкло, сьвéтлы, як дзень, сумны і харошы ліéцца-нясéцццца, сумуе-журбуе і ня можа расстацца з роднай краінай.

Міл яму ціхі гаёк каля лéсу, любы зялёныя доўгія ніўкі; мілы лясы, горы, вазёры, груды, сенажаці, люб яму і жоўты пясочак на ўласным бéразе. Пахаджае ён смутна па роднаму краю,—усё разглядае, з усім размаўляе, усё ціха жагнае. Падойдзе засмучаны к цёмнаму лéсу,—сьцішыцца, змоўкне, замрэ і абамлéе, а потым завéрнецца, падасца ўпéрад ды зьнікне ў лéсе. Там пагуляе, у цяньку супачыне, пагамоніць задумліва з éлкамі, соснамі, пазіхнé, устрапянéцца, ды выбяжыць у поле,—зазьзяе, як срэбра, заблішчыць-засьмяéцца на сонцы ды разьмéцца істужкай па квяцістаму лугу.

І куды-б не забéг ён, дзе-б не разьліўся — скрозь бяжыць за ім у сьлéд і мігціцца абапал зялёна - купчастая пушча. Лозы, алéшнік, касацісты дзягель, ажыньнік, маліньнік, аер з ачаротам,—усё пазрасталася, зьліпла, сплялося і стаіць над вадою разгатаю сьцяною. Сумны вярбняк, пастаўшы ў радок, параскідаў гальлё на ўсé бакі і нахіліўся на ваду, а тонкае вéцьце яго пазьвісала ўніз. Чырвоная каліна ірдзіцца на сонцы, трапéчацца лісьцё асіны ў павéтры, з кустоў выглядае пурышка і глядзіцца ў ваду, а па ўзгорках—магутна, як вéжы, уздымаюцца ў нéба дубы. Птушкі пяюць, конікі граюць і пчолкі гудуць, як арганы, у павéтры. І толькі вось там, дзé трапіцца плёса, дзé жоўтае поле пяску разьляглося,—толькі там гэта пушча нібы расступаецца, застаéцца пазаду як-бы дзеля таго, каб Нёман пабéгаў адзін, пагуляў на самоце.

**Я Лёсік.**

---

# Сож і Дняпро.

Сярод глухіх пушч, цёмных бароў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара, сівавалосага старца Рыдана. З канца ў канéц зямлі слыў Рыдан багацьцем нялічаным, а над усё багацьце славілася скрытая за дванаццацьма

дзьвярмі, дванаццацьма замкамі залатая Рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзьвéры і вынасілі тую карону на сьвéт, то, калі на сьвéце была ноч, яна днём станавілася, а калі была зіма, то перамянялася ў лéта; так зігацéла дарагое камéньне на Рыданавай залатой кароне. Завідавалі сусéднія валадары і князі гэтай кароне і пастанавілі дабыць яé ў Рыдана. Сазвалі варажбітоў і знахароў і загадалі ім прыдумаць спосаб, каб украсьці карону. Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры начы і прыдумалі разрыў-траву, каторай калі дакрануцца замкоў, то самі адчыняюцца, ды сон-траву, зярняткамі каторай калі пасыпаць, то ўсё навокал засыпае. Прыдумаўшы гэта, паслалі злодзеяў красьці залатую Рыданаву карону. Тыя, прыйшоўшы пад харамы,



**Дняпро блізка Магілèва.**

сыпнулі сон-зéльля, і ўся варта паснула; дакрануліся разрыў-травой замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яны залатую Рыданаву карону і пусьціліся назад.

Устаў раніцай сівы Рыдан, падыйшоў да вакна, ажно глядзіць: усé варты покатам сьпяць, увéсь народ у сьнé беспрабудным валяецца. І уцéміў стары адразу, што няма ў скарбцы яго залатое кароны. Падыйшоў ён тады да звана, вытнуў раз, вытнуў два, і разбудзіліся два Рыданавы сыны: Сож і Дняпро. Зьвярнуўся бацька да Дняпра і кажа: „вазьмі, сынок, сталёвую зброю, каваны мéч і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор: мо‘ дагоніш цякунцоў з каронай“.—Схапіўся Дняпро і барджджэй

пабе́г, а Сож астаўся пры бацьку. Се́ў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну: „прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Дняпро?“—Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа: „бе́гмя-бяжыць і не стаміўся яшчэ“ І другі раз кажа бацька: „прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай!“ Прылажыў сын да зямлі вуха і кажа: „бяжыць, але ўжо цяжка дыхае, шум зямлёй ідзе́. І трэці раз сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа: „гул зямлёй ідзе́ і крык вялікі!“ Тады ўстаў Рыдан з пасаду і кажа: „Бяжы-ж ты, сынку, імхамі-балатамі на падмогу яму, бо сам адзін не праб‘ецца ён праз скалістыя горы“. Пусьціўся Сож імхамі, балатамі на падмогу брату, а стары бацька сам астаўся ждаць сыноў. Доўга ждаў стары; не даждаўся, з маркоты вялікай пачаў плакаць: „бадай, нам, дзе́ткі мае́, сьлязамі разьліцца!“ Ды ўлучыў ён на такую часіну, што такі запраўды разьліліся сьлязьмі браты і стары бацька, і ў рэкі ўсе́ тры зьмяніліся. Дняпро плыве́ садамі ды лугамі, Сож—імхамі ды балотамі, а Рыдан—куды вочы глядзяць. А з таго часу ўсе́ сілы ляснога краю плывуць у чужое мора і там прападаюць...

**Власт.**

---

# Дняпроўскія парогі.

Мне́ хаце́лася азнаёміцца з ве́дамымі парогамі на Дняпры. „Найвыгаднéй вам е́хаць на плыце́, хоць гэта таксама нябясьпе́чна“, радзілі мне́. Я прыняў гэтую раду. Плыты спускаюцца з ве́рху Дняпра і йдуць бязупынна міма Смале́нску, Кіева, потым на дзе́сяць вёрст ніжэй Кацярынаслава прыстаюць ля Лоцманскай-Каменкі, каторая ляжыць на правым бе́разе Дняпра і адсюль ужо йдуць з „нізавымі“ лоцманамі. Нізавыя або вольныя лоцманы жывуць у сяле́ Лоцманскай-Каменцы і наймаюцца перавадзіць судны цераз усе́ парогі, блізка што да самага ме́ста Аляксандраўска, што трэба лічыць больш за восемдзесят вёрстаў. Па ступе́нях дазнаньня і спрытнасьці лоцманы дзе́ляцца на тры аддзе́лы; кажды аддзе́л мае над сабой атамана.

Большасьць лоцманаў—патомкі запарожскіх казакоў. Усе́ быццам падабраны: маладзе́ц на малайца.

Плыт лоцман вядзе́ць за якія-не́будзь невялікія грошы,—драбязу, бе́ручы пад увагу небясьпе́ку, і то грошы йдуць на ўсю лоцманскую сябрыну. Цераз парогі лоцман бярэцца плыць толькі калі пагода зусім ціхая.

— Скажэце, дабрадзе́ю, ці страшна пераплываць цераз парогі?—папытаўся я ў лоцмана.

— Страшна. Усякі раз, як я цераз іх іду, дык і ня е́м нічога: два дні плыву і хле́ба блізка што ні крошкі ў роце ня бывае. Страшна, панічок, ве́льмі страшна. Толькі вось колькі разоў я ўжо пераплываў, а бачыце, дагэтуль жывы і здаровы. Вы пе́ўна

пе́ршы раз е́дзеце цераз парогі. Дык я вам вось што параджу: калі наш плыт разаб'е́ць (ад чаго, ве́дама, крый Божа), дык вы асьцярожна спушчайцеся ў ваду і аднэй рукою кіруйцеся, каб ухапіцца за борт плыта, а другой абараняйце сябе́ ад udараў аб каме́ні, і гэтак плыве́це, пакуль ня сустрэнеце ле́пшага ратунку.

Калі ўме́еце плаваць—выратуецеся, калі ня ўме́еце—прападзіцё.

З гэтакаю прадасьцярогаю се́ў я на плыт. Лоцмана ня прышлося доўга чакаць. Ён стаў напе́радзе плыта, зьняў з сябе́ шапку, перахрысьціўся шырокім крыжам і падаў знак плытнікам, каб яны браліся руляваць. Плытнікі сталі па двух бакох сьце́рна (рvля), адзін наўпроці аднаго і пачалі рушыць сьце́рнам то ў вадзін бок, то ў другі: плыт, калыхаючыся па вадзе́, марудна йшоў уніз, у кірунку парога. Чым бліжэй ён падходзіў да парога, тым больш рабіўся чутным гуд вады, і тым большая небясьпе́ка ставала перад маймі вачамі. Цераз часіну мы ўжо былі на парозе, каторы празываецца Кадацкім. Наш плыт моцна скалынула і потым маланьнёй панясло па ўсіх чатырох прыступках парогу. Не пасьпе́лі мы ачуняць, як былі ўжо далёка ад парога, каторы ме́ў тры чэцьверці вярсты ўдаўжкі.

Пасьля Кадацкага мы прайшлі яшчэ тры парогі і, урэшце, убачылі парог Ненасыцецкі, самы вялікі і самы страшны. Ён цягнецца на пряцягу паўтары вярсты, а плыт бяжыць цераз яго адну часіну. Вось дык парог! Што перад ім другія! Не дарма лоцманы называюць яго Дзе́дам, а сяляне—Ненасыцецам.

— Чаму ён празываецца Ненасыцецам?—запытаўся я.

— Таму, што ніяк не насыціцца: е́сьць ды е́сьць, а ўсё не нае́сца. І чаго ён толькі не праглынуў. Раз ішла лайба з шклом і з вялікім званом, ды як ускочыла на каме́нь, што пасярод Ненасыцеца вытыркнуўся, дык людзі і агле́дзіцца не пасьпе́лі, як лайба разваліласяпапалам, а шкло і звон у міг паляце́лі на дно. Адразу ўсё пяском пакрыла.

— А шмат людзе́й гінець на Ненасыцецкім?

— І гутаркі няма. За тыдзень перад нашым выхадам на Лаханскім парозе разьбіла дванаццаць плытоў; наскочыла такая паласа ве́тру, ну й пачала насаджаваць плыты адзін за адным на скалы, ды так цэлых дванаццаць і насадзіла. І колькі народу тады пагінула. Мала й уратавалі.

Яшчэ здалеку ад парогу, чуцен быў яго страшны рык. Глянуўшы толькі на гэтае пе́кла, валасы на галаве́ дыбком сталі. Лоцман і дваццаць плытнікаў, на прыпадак няшчасьця, пачалі рыхтавацца. Усе́ паськівалі з сябе́ лішнія вопраткі, усе́ паздымалі з ног боты, і пачалі разьвітавацца адзін з адным і потым, стаўшы на кале́ні, усе́ сталі хрысьціцца і чытаць голасна малітвы. Усе́ зьбяле́лі, адзін лоцман быў спакойны. Сьцінуўшы боты і шапку, ён стаяў босы, у нагавіцах сіняга колеру, падпераэаны чырвоным паясом, у вышыванай кашулі. Ён стаяў наўпе́радзе ўсіх і моўчкі, адным рухам рукі, паказаваў ход плытнікам, каторыя працавалі

ля сьце́рна. І плыт, каторы гнала страшная сіла вады, шыбка нёсься проста ў самую сярэдзіну парога. Вось мы апынуліся ля самага страшнага ме́сца Ненасыцеца. Не́шта страшна трэснула, і наш плыт пачаў акунацца ў ваду. Ён усё ніжэй і ніжэй акунаецца, і вады на ім усё болей і болей. Яна ўжо да кале́няў, потым да пояса. Сэрца маё сьпярша дужа застукала, потым зусім замёрла: быццам хто яго сьціснуў у клёшчы і хоча вырваць з грудзе́й. „Браточкі, топімся!.. Божа даруй маёй душачцы!“—пачуў я ля сябе́. Але раптам плыт наш падняўся ўгару, выраўняўся, і мы цераз міг былі далёка за парогам. Я павярнуўся назад і ўбачыў адны толькі валы пе́ны на парозе; страшны рык парога здаўся мне́ цяпе́р рыкам разьюшанага дзіўства, каторае зьняце́йку выпусьціла сваю ахвяру.

Небясьпе́ка мінулася.

Эварніцкі.

---

# Вільня.

Хоць ляге́нда кажа, што Вільню залажыў Літоўскі князь Гэдымін, аднак у летапісях кажацца аб тым, што ў 1128 годзе віленцы выбралі сабе́ за князя аднаго з беларускіх полацкіх князёў—Расьціслава. Невядома, хто заклаў Вільню, але гэта было шмат ране́й за часы Гэдыміна, і Вільня была беларускім ме́стам. Навет, калі літоўскія князі перанясьлі сюды сваю сталіцу, большую частку гораду займалі беларусы. Тады гэта было вялікае, багатае і культурнае ме́ста. Гандлёвае жыцьцё біла крыніцай, было шмат розных школаў, друкарняў.

У XVII ве́ку беларускую культуру пачала выціскаць польская. З гэтага часу пачаўся заняпад Вільні.

Ляжыць Вільня ў катлі́не, акружанай з усіх бакоў гарамі. З захаду і паўдня ідуць Панарскія горы, а з усходу, ля самае Вільні высяцца пяшчаныя горы—Замковая, Трыкрыжавая і Бякішовая; на поўнач ляжаць Шашкавыя горы. Пасярод катліны цячэ Вяльля і тут у яе́ ля поду Замковае гары, упадае Вяле́йка.

У Вільні засталося шмат старасьве́тчыны. Цэлыя дзесяткі старасьве́цкіх касьцёлаў і цэркваў падымаюць сваé ве́жы над Вільняю.

Вільня была да апошніх часоў цэнтрам нацыянальнага беларускага руху. Тут выдаваліся пе́ршыя беларускія газэты і кніжкі, закладаўся пе́ршы тэатр беларускі і навуковыя таварыствы, а так сама і беларускія школы.

З Вільні разыходзяцца чыгункі ў пяцёх кірунках. Яны злучаюць Вільню простымі лініямі з Захадам і Паўднём Беларусі. Хвабрычная прамысловасьць у Вільні досыць разьвіта. Па гандлю гатовай адзе́жаю, футрамі, вобуем Вільня займае вельмі віднае ме́сца на ўсім усходзе Эўропы. Апроч таго, Вільня зьяўляецца

галоўным гандлёвым цэнтрам Беларусі і для іншых тавараў. Адгэтуль тавары разыходзяцца ня толькі па усёй Беларусі і Літве́, але навет і далéй за іх мéжамі.

Ваколіцы Вільні надта харошыя. Ад самага мéста ува ўсé бакі расьцягнуліся прадмéсьці аж да лясоў, што абкружуюць з усіх бакоў Вільню. Ужо і сярод лéсу вырастаюць вуліцы, кварталы і цэлыя новыя прадмéсьці.



**Ваколіцы Вільні.**

Адно з важнéйшых і старэйшых прадмéсьцяў, А н т а к о л ь, цягнецца на 6 вёрст уздоўж лéвага бéрагу Вяльлі.

З гораў, што акружуюць Вільню, адкрываюцца надзвычайна харошыя віды на мéста Вільню і на ўсю ваколіцу. На Замковай гарэ, дагэтуль ёсьць руіны замка, пабудаванага князем Гэдымінам.

З іншых харошых ваколіцаў Вільні трэба ўспомніць аб Панарскіх горах, Закрэце, Паплавах. Мала хіба ёсьць мéст, каторыя бы мéлі такія ваколіцы, як Вільня.

А. Смоліч.

# Замковая гара.

Над Вяльлёй ракой
Па гарэ крутой
Туман сьцéлецца;
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок,
Там віднéецца.
Слаўны Гэдымін,
Князь Літвы-ліцьвін,
Душа чынная,
Многа лéт таму,
У гэтым жыў даму
Са дружынаю.
Горда мур глядзéў
На зямлю, як лéў,
Сьцяной крэпкаю.
Не аднэй бітвы
Тут сыны Літвы
Былі сьвéдкаю.

Зыйшоў вéк, другі,
І князі, багі
Ўсё Літоўскія,
Уцяклі з зямлі,
І дзянькі пайшлі
Не такоўскія.
Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур,
Цэгла валіцца;
Навет гнёзды віць
Птушка не ляціць,
Знаць пужаецца.
А сівою мглой
Па гарэ крутой
Туман сьцéлецца;
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок
Там віднéецца.

**Я. Купала.**

---

# Вільня.

Вялізны горад, цéсна зьбіты,
Ўвéсь блéскам сонейка заліты,
Займаў узгоркі і нізіны.
Дамы цягнулісь, як віціны,
То ўдоўж, то ўпоперак радамі,
То закрываючысь садамі.
А між дамоў, як-бы срэдзь го-
рак,
Тых ручаінак сьвéтлы ворак,
Віліся вулачкі так, гэтак
Густою тканьню шэрых клéтак.
Ўгары, высока над дамамі
Пазалачонымі крыжамі
Блішчалі цэрквы і касьцёлы,
На сонцы зьзяючы вярхамі;
І гоман іх званоў вясёлы

Гудзéў над горадам магуча,
Прыéмна, гучна і пявуча.
Налéва, між гор крутабокіх,
У берагох сваіх высокіх
Па камянёх, як тая зьмéйка
Вілась шумлівая Вялéйка
І дзéсь—то нікла за гарою,
Крутнуўшысь хараша дугою.
А справа, ўніз, свабодным ўзма-
хам
Лягла другая рэчка шляхам,
Як-бы сталёвая пружына;
То Вілія — Літвы дзяціна —
Нясласся важна між абрываў
Бліскучай стужкай зграбных
зьвіваў.

**Я. Колас.**

---



# Пагоня.

Як толькі у сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Ўспомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях.
У бе́лай пе́не праносяца коні,—
Рвуцца, ймкнуцца і цяжка храпяць,
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!
У бязьме́рную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі—гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе́ шляхі вашы йдуць і куды?
Мо‘яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі у здагон,
Што забылі цябе́, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?
Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць...

**М. Багдановіч.**

---

# Ме́нск (у 1858 годзе).

Ме́нск—адно з ле́пшых ме́стаў Беларусі; ён большы і харашэйшы за Магіле́ў і Віцебск. За выняткам Трае́цкага прадме́сьця, Татарскага канца і некаторых глухіх завулкаў, у Ме́нску блізка што ўсе́ дамы каме́нныя, вуліцы шырокія і чыстыя. Раскінены

па горах, Ме́нск з усіх бакоў выглядае хараша, а асабліва з барысаўскага трахту, пачынаючы ад Камароўкі. Перад вамі расчыняецца панарама не́калькіх гораў, узгоркаў, круч, высланых градкамі красак, садамі, цяпліцамі, каторыя з усіх бакоў абмываець, як зьмяінка, Сьвіслач; яна ў адным ме́сцы то ліпне да ўзьбярэжнай і цячэ ціха і спакойна, то ў другім ме́сцы адкідаецца ў бок, чэзьне ў доле, а потым з гулам і каскадам выбіваецца йзноў і з ле́ннасьцяю пераліваецца цераз каме́нны ўзгорак. Усюды це́шаць вока будынкі то высокія і шырокія, то вузкія і даўгаватыя, з чырвонымі стрэхамі, як у сярэднія вякі, то, урэшце, чысьценькія, акуратненькія дамочкі, зялёныя, жоўтыя, з выразной агародкай, маляванымі ваконьніцамі. Наўпе́рад кідаюцца ў вочы гаі і прысады вялізарнаго ме́скага саду, потым будынкі Новага Рынку з яго квадратным бульварам, архірэйская царква, каталіцкая катэдра, Бэрнадынскі манастыр і гасьціны двор, скрозь які праглядаець драўляная Васкрасе́нская царква. Направа ад Высокага рынку ме́ста быццам разрываецца і чэзне ў даліне Нізкога Рынку, які закрываець Трае́цкая гара і валы старога замка. Урэшце, дале́й ад Трае́цкае гары, вы ўбачыце Сьвіслач, што раскінулася шырока і аперазала сабой некаторыя часьці Татарскага Канца і праваслаўны могільнік, Пярэспу, з яго каме́ннай царквой, з залатым купалам, бяз усякіх шпіцоў і ве́жаў.

П. Шпілѐўскі.

---

# Над Сьвіслачай.

Плаўна Сьвіслач-рэчка
Ў даль плыве́, бяжыць;
Над крутым абрывам
Панскі дом стаіць;
Зеляне́юць вольхі,
Па краёх ракі,
Высяцца над імі
Сумна Карзюкі.

Відзен горад здаля,
Горад Ме́нск стары;
Пнуцца важна к не́бу
Коміны, муры.
Гулка далятае
Дзікі сьвіст машын,
Ды прыпе́ўкі жабаў
З рэчкі і лагчын.

Я. Купала.

---

# На берагох Сьвіслачы.

Ліпень, жнівень і ве́расень я пражыў у Ме́ншчыне, на бе́разе Сьвіслачы...

Мой пісьме́ны стол стаяў каля вакна, каторае выходзіла ў сад; за плотам сада было поле, а за полем хваёвы ле́с.

Навакол далёка-далёка расьцілаецца роўнядзь, ціхая, вабкая, укрытая нівамі, лясамі і беларускімі вёскамі...

Ме́ншчына ляжыць трошкі больш на паўдня ад Масквы, а тым часам—паглядзе́це, якія пышныя дубы растуць у Ме́нщчыне, асабліва на лагчынах, што заліваюцца ў паводку вадою,—якія ліпы, якія вялізарныя бярэзіны! Граб зусім звычайнае дрэва ў лясох, дзе́ мясцовасьць бале́й вільготная, а хто бачыў яго пад Масквою? Вясна пачынаецца рана і ўся зьвініць ад гоману і пе́сьняў птушак самых разнастайных парод; зіма нясьцюдзёная, часам зусім бяз сьне́гу; ле́та гарачае, але яно асьвяжаецца такімі наваланіцамі з пярунамі, якіх я ня бачыў у Расе́і.



**Вясковая вуліца ў Наваградчыне.**

А якая тут восень, які ве́расень я правёў у Ме́ншчыне! Ве́расень—мой любы ме́сяц, але ў Расе́і звычайна псуюць яго дажджы, што ліюцца цэлыя тыдні, ве́цер і сьцюжа. А тут ў канцы ве́расьня я працаваў ля адчыненага вакна; не́ба было ўсё сіняе, бяз ніводнае плямачкі; цёплы паўднявы ве́трык чуць шастаў лісьцём яблын, а даўгая бе́лая павучына, якая няма ве́дама адкуль узялася, ціханька плыла ў паве́тры. А потым настаў ціхі, залаты ве́чар, такі ве́чар, што каб я мог, я спыніў-бы яго, ды зрабіў-бы бязконцым, і ўсё сваё жыцьцё любаваўся-б гэтымі ляснымі дарожкамі, бягучымі не́куды ў даль паміж соснамі, гэтымі махра-

стымі залаціста-жоўтымі бярэзінамі, што аж гарацьна фоне сасновага бору і стаяць непарушна, бы заварожаныя супакойнаю ўрачыстасьцю заходу сонца.

Такі край, як паўночная палавіна Ме́ншчыны, мог-бы пры падмозе чалаве́ка абярнуцца ў вадзін з найпрыгажэйшых краёў. Яго лясы і цяпе́р, калі іх не чапалі, маюць выгляд найпрыгажэйшых паркаў,—такія яны чыстыя і харошыя. Яго нівы ўраджайныя, дзякуючы ве́льмі добраму клімату і пры добрай гаспадарцы—маглі-б карміць вялікае насяле́ньне. Яго балоты, калі пакуль што



**Дуброва ў Наваградчыне.**

не даюць карысьці, нікому не замінаюць, а з часам дадуць найбагаце́йшы запас тарповага апалу, ня кажучы ўжо аб тым, што торп, прыме́шаны да пяшчанае гле́бы, утварае найле́пшае паляпшэньне зямлі.

Паглядзе́це хоць на гэтае: скрозь, каля поля, засе́янага грэчкаю, на краёх ле́су, каля лугоў, што залiваюцца ў паводку, стаяць вялікія цяжкія калоды. Гэта—старасьве́цкай будоўлі вульлі для пчол. Напару*), яны стаяць на зямлі, напару ўмацаваны на дрэве; іншы стары дуб бывае абве́шан гэтымі калодамі... Аб гэтых вульлёх, аб гэтых пчолах ніхто не клапаціцца. Літва і Беларусь з прадве́ку славяцца багацьцем пахучага мёду.

С. Меч.

---

# Мястэчка Мір.

(Па Шпіле́ўскаму).

Асталяваўшыся ў Беларусі, цыганы, хоць большасьць перахodзіла з ме́сца на ме́сца, выбралі сабе́ для заўсёднага жыцьця

*) Часамі.

мястэчка Мір. Тут яны мелі навет сваё ўпраўленьне. Кіраваў імі ababраны старшыня, яго потым навет каралём звалі. Абіралі старшыню на Мірскім полі, куды, звычайна, зьбіраліся цыганы з усіх канцоў Беларусі. Старшынёю абіралі цыгана сярэдняга веку, стройнага і багатага; яго і яго жонку (калі была) тры разы падымалі на руках угару, з крыкам, з плёсканьнем у ладкі, пасьля чаго к нагам старшыні клалі падаркі. Старшыня розьніўся ад рэшты цыганоў тым, што насіў жупан з адкладаным чарвоным каўняром, а паверх жупана, перакіненае цераз плячо джупло, г. зн. плётку з сярэбранай ручкай; апрача таго ён насіў высокую з футра шапку з чарвоным верхам, вышываную рознымі значкамі. Права старшыні было вялікае: ён сам судзіў вінаватых, толькі караў іх у быцьці абабраных старых, або падстаршыняў; найболей цыганы пападаліся ў зладзействе, асабліва ў канакрадзтве, дык найболей за гэта і распраўляўся старшыня. Калі каго-небудзь лавілі ў зладзействе, дык старшыня, разам з некалькімі падстаршынямі, ішоў у палатку вінаватага, забраўшы ў яго ўкрадзеную рэч, або каня, з жорсткасьцяй біў яго джуплом, але не за тое, што краў, а за тое, што ня ўмеў прыхаваць крадзенага; рэч прадавалі, а грошы браў старшыня на сваю і падстаршыняў карысьць.

Так упраўляліся цыганы ў канцы XVII, да палавіны XVIII веку. Іх паддзержывалі князі Радзівілы, а князь Караль Радзівіл даў старшыням прозьвішча каралёў; каралі маглі рабіць, што хацелі, без нарады з падстаршынямі.

Як прызываліся гэтыя цыганскія каралі, да нас не дайшло. Ведама толькі, што апошнім цыганскім каралём быў Ян Марцінкевіч. Гэты Марцінкевіч жыў надта пышна, даваў вялікія балі, на якія хадзілі вяльможныя паны, навет сам Караль Радзівіл. Марцінкевіч пабудаваў сабе ў Міры харошы палац і меў сабе цэлую сьвіту з цыганоў. Кажуць, што ён езьдзіў у размаляванай і пазалочанай карэце, на 12 конях, з кур'ерамі і коньнікамі. Калі ён ішоў куды-небудзь пехатой, дык, якія яму сустрачаліся цыганы, мусілі здалеку скідаць шапкі і ждаць, нахінуўшыся тулавам да палавіны, пакуль пройдзе Баця Ян.

З сьмерцяй Марцінкевіча кончылася цыганскае ўпраўленьне. Потым ім было загадана прыпісацца да мяшчан; хто гэтага не рабіў, таго судзілі, як бадзяку. Багатыя цыганы заняліся гандлем і рамёсламі, а бедныя пастарому пераходзілі з месца на месца. Галоўны іх промысел: кавальская работа, сьлясарства і канаводзтва. Яны ўмеюць лячыць коні і сяляне лічаць іх лепшымі канаваламі.

У пачатку XVIII веку па ўсёй Беларусі цыганы разьвялі суконныя, ткацкія і па вырабцы футраў хвабрыкі, каторыя былі слаўны на ўвесь край. Потым промысел гэты заняпаў і цяпер у Міры ёсьць толькі некалькі цыганскіх кроснаў. Кажуць, што ў

некаторых дамох і цяпе́р яшчэ берагуць астаткі старых мірскіх тканін.

У нашыя часы Мір самае звычайнае невялічкае мястэчка, якіх шмат у нашым краі.

---

# Тарпавое балота.

У нізкіх мясцох заўсёды зьбіраецца вада. Калі ве́рхні слой зямлі рыхлы, а ніжэй ляжыць гліна, тады вада у нізіне́ застоіцца і робіцца гразкае балота.

Сонца саграваець стаячую ваду куды бале́й, чымся ручай або рэчку, і ў бузаватай зямлі разрастаюцца расьціны. У цёплых старонах на балатох растуць дрэвы-волаты. У балатох вада пакрыта цінаю, а дзе́ сушэй—там мохам, асакою, кустамі і дрэвамі. Расьціны аднаўляюцца што год, а ўсё, што аджылося, зале́жваецца і памалу перагніваець.

Перагной расьцінаў перарабляецца ў рыхлую, бурую масу, а потым што год, ад цяжару новых слаёў, цьвярдзе́ець і робіцца чорным. Цераз не́калькі вякоў нізіна робіцца блізка што роўнаю, а на дне́ былога балота ляжыць торп.

Калі на пласты торпу лягуць новыя слаі зямлі, а пад імі, як пад прэсам, торп пралéжыць тысячы гадоў, тады ён зробіцца каме́нным вугалём, антрацытам і графітам.

Торп, каме́нны вугаль і антрацыт даюць вельмі добры апал для хвабрыкаў, заводаў, параходаў, паравозаў. Навет выявіць трудна, колькі каме́ннага вугаля паліцца на зямлі. Каб ня было ў зямлі гэтага, сабранага за шмат вякоў, апалу, даўно-б на зямлі павысякаліся ўсе́ лясы і сталі-б усе́ машыны.

Апрача торпа і каме́ннага вугаля, балоты даюць нам багатыя залежы зяле́знае руды. На балотнай вадзе́ заўсёды можна ўбачыць тонкія плёўкі розных колераў: гэта часткі охрыстага зяле́за. Разам з перагноем садзіцца на дно ў балоце і зяле́зная охра, з каторае робіцца балотная зяле́зная руда. Балоты, пахованыя пад зямлёю, даюць чалаве́ку нявычарпаныя багацьці; але пакуль гэтае багацьце зьбіраецца, ад яго бываець шмат шкоды чалаве́ку. Ад гніе́ньня на балоце падымаюцца розныя шкодныя для здароўя газы, і ў балотных мясцох людзі хварэюць ад трасцы і іншае хваробы. Але з гэтаю бядою чалаве́к умée змагацца: пракапаюць у балоце канавы, закладуць дрэнажы і высушаць балоты.

Нашыя Пінскія балоты займалі сотні квадратных вёрстаў; увясну і ўле́тку там ня можна было прае́хаць; народ і скаціна цярпе́лі ад векавітае хваробы. Нядаўна прарэзалі ўсюды каналы і пасушылі зямлю. Па каналах ходзяць цяпе́р парусныя судны і параходы; на ме́сцы балота-сенажаці, буйныя пашы, ураджайныя палі; аб хваробах і ня чуваць.

---

# Тураўская пушча.

Тураўская пушча, якая цягнецца на шмат дзесяткоў вёрст, як з поўначы на паўдня, так і з заходу на ўсход, прадстаўляе сабою, асабліва ў сваёй сярэдзіне, зусім някрануты чалавечаю рукою куточак Беларусі.

Узьлесьсі, вярсты на тры ў глыбіню бачылі чалавека! О тут відаць яго культурную руку і ўсе найважнейшыя месцы, пераз якія можна пераехаць, ці прайсьці, высечаны блізу дашчэнту, і толькі счарнелыя пні сьведчаць аб тым, што гэта быў некалі лес!... Дый які лес: паўтара сажня таўшчынёю!

Але багністыя нізіны і сярэдняя часьць пушчы, як сьвятыя, захоўваюць сваё дзявоцтва і гора таму рызыканту, які без патрэбных асьцярожнасьцяў адважыцца залезьці ў іх таямніцы. Ня кажучы ўжо аб гэткай драбязе, як мягчымасьць на кожным шагу шабоўснуць у сажнёвую глыбіню драўлянае парахні, што выработаліся ад падаўшых сталецьцямі і спакойна трухлеўшых дрэваў, як магчымасьць быць прыбітым падаючым сухастоем, на высокіх мясцох, або загразнуць у багне па пояс на нізкіх—рызыканту гэтаму пагражаюць і іншыя болей небясьпечныя непрыяцелі.

Ідзецё вы лесам, прыкладам нізіною, і выходзіце на пал, пакрыты асобнымі кустамі жоўта - зялёнае травы, купінамі—гэта тарпяное балота, якое яшчэ толькі фармуецца.

Калі вам трэба перайсьці на другі бок балота, ня раджу дзыгаць з купіны на купіну, а ляпей ідзеце ўва абход балота. Праўда, купіна выдзяржыць вагу вашага цела й толькі скаланецца і ўздрыгне ад злосьці і зьнявагі за вашую рызыку. Але сьцеражэцеся аступіпца! Памятайце, што балота ўмее ймсьціць! Вашыя ногі па каленкі ўгразнуць у ліпкую, густую, сьцюдзёную, як жаба, дрыгву. Не прабуйце выбрацца самі, а барждзжэй зьнімайце рог і гукайце на помач вашых спадарожных, а самі стойце непарушна. А калі вы новы тут і ня ведаеце характару гэтага балота—лёс ваш вырашаны, бо, калі вы захочаце выцягнуць з дрыгвы адну нагу й гэткім парадкам пераваліце ўсю вагу цела на другую, дык напаўзгніўшыя валокны травы, што год асядаючыя ў балота і служачыя ў гэтую часіну грунтам для вашых ног, ня выдзержаць вагі вашага цела, парвуцца, і вы ўгразьнеце яшчэ на чэцьверць, палавіну ў балота. Кожная ваша новая спроба выбрацца будзе зацягаваць вас такім парадкам у глыбіню балота, пакуль вы не загразьнеце ў ім з галавою.

Калі-ж вы будзеце стаяць непарушна, дык травяныя валокны пад вашымі нагамі ня будуць ірвацца, але ад вагі вашага цела пачнуць асядаць памалу, але няўхільна, уцягваючы з сабою і вас на глыбіню некалькіх сажняў. Балота вас засмокча!...

Гэткім парадкам, калі вы адны ў лесе,—вы згінулі, бо чакаць помачы няма адкуль: ніводзін чалавек не загляне ў гэты,

забыты Богам, куточак і ніхто ніколі не пазнае ме́сца і спосабу вашае сьме́рці!... О, балота ўме́е хаваць свае́ таямніцы!...

Але ня толькі смактуны-балоты лучаюцца ў Тураўскай пушчы: ёсьць яшчэ й ме́лкія балоты ў 1|2—1 аршын глыбіні. Тут, ве́дама, утапіца не́льга, але затое гэтыя балоты маюць шмат розных гадаў.

Ня мала нам даводзілася бачыць у гэтым ле́се і зьвяроў: лісіцы, ваўкі, медзьвядзі і навет дзікія вапры, былі аднэй толькі жывёлай, стварэньнямі, з якімі мы сустракаліся ў пе́ршы ме́сяц нашае работы.

**Р. Салоўкін.**

---

# Хаткі над возерамі.

У пачатку 50-х гадоў 19-га стале́цьця адным з паноў Р—скага паве́ту было адпушчана за асобныя заслугі на волю шэсьць сялянскіх се́м'яў. Закупіўшы, на дастаныя ад таго самага пана дзьве́ тысячы рублёў, жывёлу і аснуду*) сяляне пайшлі шукаць ме́сца, дзе́ можна было-б купіць зямлю і заснаваць гаспадарку.

Але, зьбіўшыся з дарогі і заблудзіўшыся ў не́трах пушчы, яны не маглі выбрацца з яе́ і, пагубляўшы ў дарозе вялікшую частку людзе́й, што сталі ахвярамі балот ды дзікіх зьвяроў, двое мужчын, дзьве́ жанкі і чацьвёра дзяце́й з дзесяткам вялікае жыве́лы, паўтузінам дробнае і з часткаю скарбу, пасьля страшэнных высілкаў, выбраліся на палянку над возерам.

Дале́йшыя спробы выйсьці з ле́су не давялі ні да чаго.

Абгаварыўшы гэткае палажэньне, людзі пастанавілі дачасу асе́сьці тут, тым болей, што як людзі, так і жывёла, зусім змагліся.

Збудавалі пе́ршую хатку і пуню, абгарадзілі плотам, засе́ялі лапінку зямлі і пачалі жыць, чакаючы падмогі звонку. Але праходзілі дні, тыдні й ме́сяцы, а падмогі ня было.

Так прайшоў год. Ніўка дала добры ўраджай; у возеры, рыбы, а ў ле́се дзічы было колькі ўле́зе, толькі не лянуйся, стаўляй се́ці ў ваду ды сільле ў ле́с—сыты будзеш.

Вырослыя людзі склалі дзьве́ сям'і, пабудавалі другую хату, падзялілі між сабою, што засталіся жывымі, чужых дзяце́й і ўжо чакалі сваіх. Патроху нарыхтавалася моцная гаспадарка.

Спачатку пасяле́нцы адчувалі нястачу солі, але калі за дзьве́ вярсты ад палянкі яны знайшлі салявую крыніцу і пачалі з яе́ вывараваць соль, на наш выпешчаны смак, досыць горкую і з моцным няпрые́мным пахам,—палажэньне іх моцна пале́пшылася і жыцьцё стала амаль што нармальным.

**Р. Салоўкін.**

---

*) інвэнтар.

# Барысаў.

У Барысаў вядзе́ць нязвычайна пяшчаная дарога, і дзеля таго скора ніяк не пае́дзеш. Нудна цягнуцца коні, як чарапаха, па глыбокіх пяскох. Гэтую няпрые́мнасьць можна даравяць хіба за тое, што абапал дарогі ідуць харошыя густыя сасновыя лясы. Яны цягнуцца да глівенскіх узгор'яў, якія закрываюць Барысаў з ме́нскага і йгуменскага паве́ту і робяць яго нябачным ля самае заставы.

Але як толькі падымецеся на гэтае ўзгор'е, вы адразу ўбачыце ўсё ме́ста, каторае, як поўвостраў, ляжыць на плоскай роўнядзі, падперазанае ракой Бярэзінаю і Схою што тутака-ж і ўліваецца ў Бярэзіну.

Перад вамі як быццам плаваюць па вадзе́ невялічкія драўляныя будынкі з нізкімі стрэхамі і бе́лымі комінамі, між іх ясна адзначаюцца вярхі царквы і касьцёла.

Зьяжджаючы ўніз, вы міма волі зьве́рніце ўвагу на прыстань, каторая ўся забудована прыгожанькімі дамкамі з правага боку Бярэзіны; на рацэ заўсёды поўна суднаў з разьве́рнутымі парусамі. На прыстані заўсёды гоман, куламе́са,—адзнака рухлівага гандлю.

Шмат усякага народу, бязконцыя рады калёсаў з таварам, гоман, крык, лаянка купцоў і тых, што прышлі няве́дама па што, дадаюць прыстані асабліва тыпічны выгляд і робяць з яе́ як-бы асобнае мястэчка. Прыстань злучаецца з ме́стам драўляным раскідным мастом.

Па другім баку ме́ста відаць рады гор і ўзгоркаў з нязвычайна бе́лым пяском; на іх, нале́ва, раскінены жыдоўскі могільнік, а направа—хрысьціянскі могільнік, уздоўж і навакол якога сьце́лецца шырокая паласа пожняў, якія ўвясну залівае Бярэзіна. Усе гэтыя ўзгоркі і горы акружаны як бы махрамі ве́чна-зялёнага бору, якога так многа, ёсьць ува ўсім Барысаўскім паве́це.

**П. Шпілеўскі.**

---

# Зварот да Горадна.

Узноў я тут! Цябе́ вітаю,
Мой родны, Горадзен стары;
Арлом па вуліцах лятаю
Да самай познае пары.
З цябе́ нацéшыцца ня можна
Пасьля разлукі ў тры гады;
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі, сады.
Хрыбты мастоў пераламаных,
Ахвяры скончанай вайны,
Як шкода вас, параскіданых,
Ўдалыя Нёмнавы сыны.

А ты... ты—Нёман бела-сіні,
Ой, як харошы-дарагі.
Старыя хвоі, як багіні,
Твае́ бароняць берагі.
На тым баку я бачу зоркі—
У зацішнай бе́днай нізіне́
Уляпілі цёмныя прыгоркі
Раём фарштадцкія агне́.
Вітай-жа, Горадзен, дзяціну
Тваіх муроў, твае́ ральлі,
Прытулак ціхі дай, як сыну,
Выгнанцу роднае зямлі.

**Краўцоў Макар.**

# Горадзен.

На высокім правым бéразе Нёмна, пры ўтоку р. Гараднічанкі, разьлёгся паміж лясістых глыбокіх яроў стары Горадзен. Гэта адзін з цікавéйшых і харашэйшых беларускіх гарадоў, астравок старое эўрапéйскае цывілізацыі сярод бесканéчных наднёманскіх пушчаў.

Горадзен ляжыць як раз недалёка ад таго мéсца, дзé Нёман, найбліжэй падыйшоўшы да рэк і вялікіх мазурскіх азёраў, што ляжаць у Прусах на бліжэйшай дарозе да мора, крута заварочуецца і цячэ ўжо далéй на поўнач у краіны літоўскія.

Асаблівай увагі варт стары замак Горадзенскі, пабудаваны ў XVI в. Стаіць ён у вясёлым мéсцы, на высокім бéразе Нёмна пры самым ўтоку р. Гараднічанкі, а ад мéста ён аддзéлены глыбокім ровам, цераз які перакінуты стары камéнны мост. Стромкія



**Горадзен.**

спады гары паабрасталі густым хмызьняком, а ўнізé плывé стары Нёман. З гары, з замку адкрываюцца цудоўныя віды ў далячыню на пяшчыстыя берагі Нёмна і ўзьбярэжныя хваёвыя бары.

Горадзен досыць прамысловае мéста. У ім ёсьць хвабрыкі, бравары, цагéльні. На Нёмне значная прыстань. Апроч таго шмат чыгунак і шашэяў, якія злучаюць яго з Вільняю, Беластокам, Варшаваю і іншымі мéстамі.

**А. Смоліч.**

---

# Зубры ў Белавежы.

Мы крыху супачынулі. Тым часам прыехаў лясьнічы, што паслаў лясьнікоў шукаць зуброў. Лясьнікі, ня ведаючы, дзе мы, маглі пагнаць статак у другі бок.

Па часінцы зьявіўся адзін з лясьнікоў.

— Хавайцеся, хавайцеся!—крычаў,—зараз тутісьці будуць.

Скочылі мы борзда за сосны, бо зубры запраўды йшлі.

Сьведчыў аб гэтым трэск сухога гальля, кустоў і дзярэўцаў. Калі-ж статак бяжыць сьпяшаючыся, дык падымаецца гук, што сярод цішы яго чутна за дзьве вярсты. Але гэты раз зубры йшлі паасобку. Наперад сярод парасьніку замігацелі дзьве чорныя тушы, якія то злучаючыся, то разлучаючыся надзвычайна шпарка беглі да нас. Былі гэта два старыя вялізарныя самцы, што лёгка было пазнаць з іх гарбоў і лобаў, надта зарослых даўгою поўсьцю, каторая зьвісала як даўгая барада пад санкамі. Угледзіўшы нас, а мо' зьнюхаўшы, яны раптам павярнуліся і прайшлі ў якіх паўтараста кроках ад нас, пераскакаваючы лёгка пераз паваленыя на зямлі дрэвы.

Таму, што за намі быў густы лес, яны скора згінулі з нашых вачэй. Пераз некалькі часу ізноў некалькі штук паказалася паміж дрэў, але яшчэ далей, чымся пярэднія. Прыгледзецца як мае быць да гэтых вялічавых жыхароў пушчы, мы маглі толькі ў канцы зьвярынца.

Спорны статак, які ўзрушылі лясьнікі, забіўся ў куток, пераз каторы мы як раз варочаліся дамоў. Пачуўшы, што нас гукаюць, мы лёдзь пасьпелі схавацца за дрэвы, як з усіх бакоў пасыпалася па некалькі штук. Былі там старыя самцы, маладыя бычкі і каровы з цялятамі. Неўспадзеўкі прылучыўся да іх статак аленяў, які таксама хаваўся ў гэтым зацішным кутку.

Мы былі пасярод цэлага зьвярынцу пушчы. Лёсыя лані беглі бяз толку, маркочучы, за імі пацягнуўся алень, павенчаны шырокаю каронаю рогаў.

Цяпер бег за імі важкім паўскачком адхінаючы абцяжараную галаву на хрыбет. Рука паміма волі шукала стрэльбы, каторую браць з сабою ў пушчу было забаронена. Цэлы карагод рушыўся ня далей, як на сорак крокаў ад нас.

Ніводзін стрэл не прапаў-бы дарма. Зубры, спалоханыя крыкамі лясьнікоў, каторыя забягалі ім дарогу, круціліся якісь час тутака каля нас. Малыя цяляткі, чорныя, як жукі, бязрогія, падобныя да галушачак, сьмешныя, з шырокім бяз меры лобам і перадам, а далей вузкім целам, сморгалі, як сарны, пераз ўсякія п рашкоды. Адна карова бегла ля самага частаколу і мы добра яе бачылі. Цяля яе ня толькі не аставалася, але яшчэ выпяраджала матку. Калі-б была раненая, дык магла кінуцца на лясьнікоў, каторых зубры меней баяцца, чымся людзей, што прыяжджаюць здалеку і ўбіраюцца ў незнаёмыя ім вопраткі. Наагул

зубры палахлівая жывёла, і калі ранены але́нь часта кідаецца на стральца, зубра, яшчэ прылучаны да статку, блізка што ніколі. Але старыя самцы, каторыя ходзяць паасобку, задзірыстыя, злыя і пастрашаюць небясьпе́чнасьцяй. Відаць, што старасьць, адлучэньне ад статка і заўсёднае адзінота робіць іх гэткімі хмарнымі і злымі.

Часамі, асабліва зімоваю парою, такі адзінокі зубра, станець папярок дарогі, быццам шукае прычэпкі, і не саступіць з дарогі ня толькі аднаму чалаве́ку, але і цэлай грамадзе́. Як толькі ўгле́-



З Белаве́жскае пушчы.

дзіць зблізку людзе́й, вазы і коні, дык пачынае ківаць сваёй вялізарнай, барадатай галавою, зіркаець крывавымі вачыма, глуха мурчыць, быццам храпе́ і хыркаець разам, і кідаецца, як сьляпы. Тады бяда, каго зачэпіць. Селянін з пушчы, е́дучы ўзімку саначкамі, як толькі заце́міць стаячага на дарозе зубру, барждждэй забягаець у ле́с, каб як можна дале́й аб'е́хаць асілка. Бываюць гэткія выпадкі, што зубра кідаецца зьняце́йку на лясьніка. Адна абарона, калі лясьнік ня мае з сабою стрэльбы, ці можа ня хоча страляць, — гэта ўцякаць навакол тонкага дрэва, зважаючы на павароты нападніка, і паварачаваючыся, як і ён. Навакол таўстае сосны, каторая закрываець рухі зьве́ра, ён лёгка дагоніць стральца, топча яго, разьмяжджаець сваймі раздвоенымі капытамі, потым ірве́ць на рогі і кідаець угару.

Адзін стары лясьнік, прозьвішча каторага ня ўспомню, апавядаў аднаму з нашых таварышаў, што на яго два разы накідаўся зубра. Раз ён схаваўся пад ляжачы пéнь і выцягнуўся ўздоўж, прыціскаючы, як мог, зьнітна цéла да пня. Зубра ня мог яго таптаць, таму, што ля пня была яма, ня мог таксама падкласьці пад яго рогаў. Разьюшаны зьвер нéкалькі гадзін не адыходзіў дд яго. Стары казаў, што яму здавалася, што ляжаў так цэлыя вякі. Другім разам ён уцёк спосабам, як аб тым вышэй сказана.

Калі туша зубры выглядае разам і вялізарнай і страшнай, дык і сіла яго ня мéншая. Аб гэтым сьвéдчыць прыпадак, які нядаўна быў у Будах. Сяляне, што сядзяць па вёсках, раскінутых па цячэньні рэчак і ручаёў, маюць нязвычайна добрую пашу,



**Зубры ў Белавежскаи пушчы.**

таму і жывёла там такая харошая, што ў другой вялікай гаспадарцы не знайсьці. Гэта асобная лесавая парода з высокім крыжам, нізкім пéрадам, з круглымі касьцьмі, парода мясістая і малочная, выгадаваная старанна, з вялікаю ласкаю. Таму, што некаторыя вёскі ляжаць напару на пяць, на шэсьць міль углыб пушчы і гаспадаром было далёка éзьдзіць па бугая, дык яны купілі ў складанку свайго вялізарнага бугая, каторы павінен быў стаяць у Будах. Але, на бяду, тут да самых Будаў прыпіраецца частакол зубровага зьвярынца. Бугай вырваўся ўначы, вывярнуў калы ў плоце, увайшоў да зьвярынца і сустрэўся там з старым адзінокім зубрам. Пачаўся бой, каторы бачылі разбуджаныя сяляне. Пробавалі навет перашкодзіць ім біцца крыкамі, паролі іх

друкамі, але нічога не памагала. Быкі то ўпіраліся лабамі, то адскакавалі адзін ад аднаго, каб пераз часінку кінуцца з новымі страшнымі ударамі. Цераз не́калькі часу бугай заваліўся. Сяляне паўцякалі, а зубра біў яго ляжачага, як ашале́лы. Назаўтрае ў дзе́нь знайшлі быка з распоратым брухам, з выплыўшымі трыбухамі, апрача таго, усе́ косьці на карку былі паламаты і разьмяжджоны. Гісторыю гэту расказаў мне́ малады лясьнік, што нас вазіў да Белаве́жы.

Цяпе́р ужо блізка што зусім няма медзьвядзёў у пушчы, але я чытаў не́калі, што зубра, зачэплены медзьвядзём, лёгка з ім спраўляўся. Затое тры, а навет два ваўкі брали цераз які час самага дужога зубру, бо адзін скакаў яму на лоб, другі, карыстаючы з часіны, стараўся вырваць яму бок і выпусьціць трыбухі. Але статкі зуброў ня баяліся ваўкоў, хоць-бы пасьля Грамніц, калі ваўкі злучаюцца грамадою.

Зубра беларускі падобен да амэрыканскага бізона. Розьніцца толькі ад яго ме́ншаю галаваю і ме́ней шырокім пе́радам. Ён такі самы гарбаты, але не на толькі. Касмацьцё на хрыбце́ таксама маець ме́ншае і не такое густое, затое ён даўжэйшы і дужэйшы ў задзе. Па вазе, мне́ здае́цца, наш зубра ня ўступаець Амэрыканцу, але і не перавышаець яго. Уступаець толькі лічбаю, бо бізонаў на высокіх і нізкіх стэпах ёсьць яшчэ сотні тысячаў, лічба зуброў не перавышае шэсьцісот штук. Разводзяцца яны дужа няскора, бо цяляты ссуць надта доўга. Трыгодні вялізны бык мусіць згінаць пярэднія ногі, каб дастаць да вымені маткі, а ўсё сьсе́ць. За няме́цкаю ўладаю лічба гэтых зьвяроў на толькі зьме́ншылася, што баяліся, каб яны зусім не перавяліся.

**Г. Сянкевіч.**

---

# Магіле́ў.

Ігнат любіў гэтае ціхамірнае тыпова-беларускае ме́ста. Любіў яго ціхія завулкі сярод сонных садоў і мале́нькіх дамкоў аб адзінаццатай гадзіне ціхога ве́чара ўле́тку. Любіў магіле́ўскага ўрадніка ў жаўтава-бе́лым з няпрыкме́тнымі плямкамі на грудзёх кіцелю, ве́даў, што ў таго ёсьць ахвота загаварыць з прые́жджым, добра апранутым чалавекам, і для таго ахвотна *зюкаў* з ім аб жыцьці дробнае магіле́ўскае шляхты у знаёмых абодвум ваколіцах і засьце́нках (адкуль новы прыяцель - урадні́к і сам родам), і разам з ім ганіў і хваліў магіле́ўскіх жыдоў. Любіў часам падзівіцца на клум жыдоўскай вуліцы, дзе́ вас палічаць за важнага купца і па заслузе ацэняць вашу адукацыю, уборы і ве́даньне эўрапэйскае палітыкі. І любіў сядзе́ць у садзе на лавачцы, сярод кустоў акацыі, высака на кручы, і адтуль любавацца на Няпро, лупалаўскія хаткі і садочкі і залаце́ючыя далі на захадзе сонца. Цямне́ець, сьцюдзяне́ець. Загаманілі па дарожках гулянь-нікі, завухала аркястровая музыка. За плотам, на адхоне дарогі,

каля тумбаў, зьбіраліся хлапцы-галузы, крычалі пажыдоўску і пабеларуску, а сярод іхнай кашы нейкі мужык спакойна стаяў, слухаў музыку і ўвесь гам і маўкліва дзіваваўся на ўсё і на гуляючых паноў—адзінокі тут у сваёй белай кароткай сьвітцы з даматканым паясом і ў белай маргелцы.

М. Гарэцкі.

---

# Цёмны лес.

По ўсёй Амсьціслаўшчыне, Гаршчыне, аж у канец Галыншчыны цягнецца Цёмны Лес.

Імшары непралажыя, мярлогі зьвярыныя, званы падзёмныя, пяяньне сьвятое пад зямлёю ў скляпох старадаўнешніх, князёўскіх, пахаваных там ад вока людзкога на векі-вечныя.

— Го-го-го!—гудзіць у ноч глуха-нема Цёмны Лес. Скрыпаюць дрэвы хворыя, бахаюць вобзем з гукамі жудкімі. Стогнуць дзяды лесавыя. Рыскаюць спуджаныя зьвяры, уцякаючы ад новага чалавека, ды яшчэ болей смуцяць глухі, смутны лес. Пачаў адбівацца ад лесу новы чалавек. Ня прыходзяць ужо пад дубы тысячагоднія, многабачыўшыя пытацца аб долі-нядолі старонкі роднае.

Стогне лес.

Зарастае багна. Дарма, што пільна так беражэць яго лес да часу астатняга. Адылі яшчэ цурчаць лесавыя цурочкі, цуркі і цэлыя ручаі сьцюдзёныя з Лоз Савіных, Машкоў Салаўіных, Залужжа, Чартаўшчыны, Гайка і ўсяго Лесу Цёмнага.

Прыгожа там увясну, калі дрэвы ўва ўсё зялёнае ўбіраюцца, у вопраткі дзіўныя апранаюцца, калі аборкі ў лядзе красачкамі пахучымі і кволымі ўсьцілаюцца, калі лозы сівымі пушыстымі пупышачкамі вабяць дзікіх пчолак з усіх бакоў. Калі паветра цёплае, лёгкае.

— Я-куб! Я-куб! — суміцца голасна зязюлечка. Ды ня проста зязюлька шэрая: ў даўныя часы тое зьдзеілася, што матка ў зязюлю перакінулася і адгэтуль чакаець да сябе сына Якуба, што ўкраў яго Паганы Цмок, страшны зьмей і занёс у няволю, у гаспадарства сваё падземнае, падводнае.

— Я тут! Я тут! — чуецца ёй зьнеткуль здалеку другая зязюлька, можа сын Якуб. І яшчэ званчэй-гучней нясецца па ўсім лесе кукуваньне безнадзейнае; Хараша тады ў Цёмным Лесе.!

А страшна там увосень цёмную, калі лес стогнець, а ваўкі выюць, скігочыць няма ведама хто, быццам душаць каго, быццам ведзьмакі хаўтуры спраўляюць па кім. Жуда вялікая на сэрцы паднімаецца.

М. Гарэцкі.

---

# Полацак.

Харошыя і любыя, а разам з тым балючыя ўспаміны абуджае Полацак у сэрцы беларускім. Горад гордае Рагнéды, якая не хацéла разуць нагі кіеўскаму князю, горад Усяслава Чарадзéя, найслаўнéйшага з князёў беларускіх, горад вялікае багамоліцы Афрасіньні заснуў на даўгія вякі. Ня зьбіраецца шумнае вéча, ня плывуць чаўны беларускіх купцоў полацкіх у варажскае мора; дый купцоў беларускіх у Полацку ўжо даўно няма. А званоў сьв. Софіі даўно ўжо ніхто ня чуў ня тое што ў Кіеве, а навет куды бліжэй—па мястох і вёсках беларускіх.

Полацак, старэйшае з мéст беларускіх, ляжыць ля Дзьвіны, на правым яé бéразе пры ўтоку р. Полаты. Даўнéй гэта быў вельмі багаты горад. Яшчэ ў XII вéку ён вёў шырокі гандаль з нямéцкімі краямі і славіўся сваім багацьцем.

Было тады ў Полацку два з а м к і—вéрхні і ніжні. Стаялі яны на узгорку, на лéвым бéразе Полаты пры яé ўтоку. У вéрхнім замку былі княжыя палацы, стаяў старасьвéцкі сабор сьв. Софіі.

Полацку прышлося шмат перацярпéць за свой даўгі вéк. Ня раз зьніштажалі яго пажары, ня раз пусьцéў ён ад чумы ды халéры, ад голаду, а найгорш даводзілася яму ў часы маскоўскіх нападаў. У канцы Полацак так змалéў, што у 1780 годзе ў ім заставалася ўсяго каля 1000 жыхароў.

Цяпéр Полацак зрабіўся самым звычайным павéтавым мéстам, якім ён астаéцца і дагэтуль. Жыхароў у ім каля 30 тыс. чалавéк, хвабрык і заводаў вялікіх няма.

**А. Смоліч.**

---

# Полацак.

(*На матыў песьні Губера*)

Даўны час мінуўся. Славу замяло.
Вéча занямела. Як і ня было...
Полацак вялікі—змогся. Супачыў.
Волі крывічанскай—быццам і ня сьніў.
Справа пахавана. Курганы маўчаць.
Полата з Дзьвіною грозна ня бурляць.
Ціха яны плачуць: гэй, мінуўся час,—
У цяжкой няволі Полацак пагас...

**М. Г.**

---

# Віцебск.

Над Дзьвіною, дзé, зьвіваючыся на днé глыбокіх яроў, у яé ўпадае р. Віцьба, стаіць стары Віцебск. Гісторыю гэты горад мéў багатую і цікавую. Так сама, як і шмат іншых беларускіх гара-

доў, заложаны Віцебск не за памяцьцю гісторыі. Быў ён найболей зьвязаны з Полацкам, але ў некаторыя часы быў у залéжнасьці ад Смалéнску. Віцебск вельмі доўга бараніў сваé незалéжнасьці.

Аб сьцéны грозных замкаў віцебскіх ня раз разьбілася чужазéмная навала.

Віцебск спрадвéку быў жывым гандлёвым горадам. Заўсёды мéў ён гандлёвыя зносіны з Рыгаю і іншымі заходнімі гарадамі. Гандаль гэты моцна ўзбагачаваў насялéньне, а зносіны з Заходняй Эўропаю высака падымалі яго з боку культурнага. Але векавітыя войны з Маскоўшчынай моцна падрывалі дабрабыт Віцебску.

Цераз Віцебск цяпéр праходзяць дзьвé зялезнадарожныя лініі, шоса і на р. Дзьвінé ёсьць вялікая прыстань. Гандаль Віцебску цяпéр значна вырас. Ён зьяўляецца складачным мéсцам тавараў, якія раздаé на мястэчкі і гарады суméжных павéтаў. Найбалéй таргуе Віцебск лéсам і лёнам, якія адпраўляе ў Рыгу і заграніцу, а часткаю і збожжам. Апроч таго Віцебск таргуе гатовай адзéжаю ў досыць значным разьмéры.

Хвабрычная прамысловасьць Віцебску мае значныя разьмéры. На хвабрыках яго працуе каля 2000 чал. Хвабрыкі віцебскія найболей невялікія; з іх трэба адзначыць—картонную хвабрыку, нéкалькі табачных, досыць вялікую хвабрыку акуляраў. З рамёслаў моцна разьвіта кравéцтва.

---

## Замайжанскі кірмаш.

Перад кірмашным днём тут звычайна служаць усяночную і ходзяць на ваду. Шмат хто з багамолаў, не чакаючы ранічнае ймшы, кладуць перад чудатварным абразом жмéню воўны, лёну, нéкалькі яéц, або лапатку мяса і, лічачы сваю ахвяру споўненай, ідуць дамоў. Другія-ж, асабліва старцы, бавяць ноч пад голым нéбам, паляць ламы—і тады кірмаш мае выгляд цыганскае стаянкі.

Узышло сонца і асьвяціла паляну, на каторай раскінуўся замайжанскі кірмаш. Шмат сёлета сабралася людцоў пакланіцца абразу Маці Божае. Асабліва сьмягнуць „руху вады“ зьнямоглыя друзлыя бабулькі: яны бесперастанку поўзаюць на калéнях навакол царквы і бесперарыўна шэпчуць малітвы, памінаючы імéньні сьвятых. Рэшта, каго доля яшчэ ня дужа пакрыўдзіла, сéлі на лавах, на плоце, на калёсах, на цментары.

Чым вышэй падымаецца сонца, тым балéй народу прыбываець, тым балéй павялічаваецца куламéса, гоман. Натоўп сунецца з усіх бакоў. Бабы з труднасьцю праціскаюцца паміж калёсаў, коні і балаганаў. Усé апранены пасьвяточнаму,

Гадзін у 8 паказаліся ўсім знаёмыя калёсы бацюшкі. Таўпа рассуваецца, здымаець шапкі і кланяецца.

У павéтры пранёсься пéршы ўдар званоў і далёка аддаўся па гаю за ракой і па лугох.

Багамолы бесперастанку рушаюцца: адны ўпе́рад, другія ўзад, адны аддалі сваé ахвяры—паставілі сьвéчкі і йдуць упéрад і нясуць у руках воўну, лён, або пару яéц. Перад абразом гарыць шмат сьвéчак рознае вартасьці. Прыслужнік не пасьпяваець тушыць і вымаць абгаркі. За шэптам малітваў і стукам багамолаў, блізка што, ня чутна голасу сьвяшчэньніка і двух дзякоў, якія ніяк ня здолеюць наладзіць на свой голас падуросткаў і дзяцюкоў, якія ім падцягваюць.

На амбоне стаяць братчыкі з мяшкамі ў руках. Іх абавязак такі: зьбіраць, разьбіраць па гатунках і складаць у мяхі ахвяры багамолаў. Ня ўсé могуць даціснуцца да абраза Божае Маці і дзеля таго здалеку кідаюць цераз галовы багамолаў жмéні лёну, кускі палатна, і братчыкі стараюцца ўсё гэта злавіць улёт і пакласьці ў мяшок. Вось запяялі: „Табé пяем“... Усюдых чутны словы: „ачысьці грахі нашы, прасьці нéмашчы нашы! Мікола сьвяты! Юры—угоднік Божы!“

Стараста на амбоне з працягненымі рукамі усім цéлам упіраецца ў народ, адпіхаець яго, хапаючы разам з тым перасыланыя з задніх радоў сьвéчкі і ахвяры. Цесната натолькі павялічваецца, што шмат хто крычыць: „ай-ай! Божанька, Божанька, пусьціце на сьвéт Боскі!“

А. Пшчолка.

---

# Смалёнск.

Смалéнск стаіць на высокім, зрэзаным ярамі, лéвым беразе Дняпра. Калі ён быў заложаны, нямавéдама. Ад самага пачатку сваé гісторыі Смалéнск быў бойкім гандлёвым пунктам. Як раз у ім крыжаваліся дзьвé важнéйшых дарогі ўсходу Эўропы:—адна з Варагаў ў Візантыю і другая з усходу,—з-за Вамі ў Нямéччыну.

Многа пацярпéў Смалéнск у працягу ўсяé гісторыі.

Цяпéр Смалéнск адзін з найпрыгажэйшых і найцікавéйшых гарадоў Беларусі. Мéста гэтае перахавала гэтулькі памятак слаўнае беларускае мінуўшчыны, як можа ніякае другое. Праўда, большаю часьцю яны ляжаць у руінах. Але гэтыя руіны павінны быць бязьмéрна мілымі і дарагімі кожнаму беларусу.

Сьцéны смалéнскія надаюць гораду шмат хараства; на іх перахавалася яшчэ шмат вéжаў. З вéжы, якая называецца „Весялухаю“, адкрываецца цудоўны від на мéста і яго ваколіцы.

З гандлёвага і прамысловага боку Смалéнск не адзначаецца. Абслужвае ён толькі бліжэйшыя павéты сваé краіны. Хвабрыкі яго невялікія—нéкалькі аляярняў, табачная хвабрыка, гарбарня, бровар. Моцна ажыўляюць зялéзныя дарогі, якія з Смалéнску разыходзяцца ў 5-х кірунках. На Дняпры ёсьць значная прыстань.

Пераз самы Смалéнск і пераз іншыя станцыі ў яго павéце, вывозіцца шмат лясных матар‘ялаў, дроў, а так сама і хлébных грузаў. Гэта паказавае, што гаспадарка ў павéце стаіць ня кéпска.



А. Смоліч.

# АДДЗЕ́Л III.

## Варшава.

(Пер. з польскае хр.).

Шмат гадоў назад паміж рэкамі Пiлiцай, сярэдняй Вiслай, Бугам i Нарваю была глухая пушча. На высокiм бе́разе Вiслы, там дзе́ цяпе́р стаiць Варшава, з даўных часоў жылi ўжо людзi. Ме́ста было выгоднае i ўсё болей цягнула людзе́й. Ня было чаго баяцца пагiнуць з голаду, бо ле́с быў повен рознае зьвярыны, рака—рыбы. Цяпе́р выкопаваюць на Празе i Грохаве урны з попелам тагочасных жыхароў, бо тады яны былi паганскае ве́ры, каторая вымагала, каб це́лы памёршых былi спалены, а попел звычайна зьбiралi ў гаршчок i закопвалi ў зямлю.

Дагэтуль ня пе́ўна, калi ме́ста дастала назоў Варшавы. Кажуць так: Варшава ўзяла свой назоў ад чэскае сям'i Вершаўцаў, каторых выгналi з Чэхii; яны схавалiся ў Польшчы, дзе́ iх звалi Варшамi. Адзiн з iх, будучы кракаўскiм кашталянам, заклаў ме́ста i прадме́сьце. Ме́ста ён назваў Варшаваю ад свайго iмя, а ў памятку роднага ме́ста, прадме́сьце—Прагаю. Было гэта ў канцы XII-га ве́ку.

Пе́ршыя пе́ўныя ве́сткi аб Варшаве маем толькi у 1313 годзе. Спачатку ўладарамi там былi Мазаве́цкiя князi, i толькi ў XVI ве́ку яна перайшла да Польскага Гаспадарства.

У Варшаве любiў жыць Жыгiмонт-Аўгуст; жыла там у сваé дзявоцкiя гады Ганна Ягайлянка; ме́ста ўсё расло, рабiлася вялiкшым. Асаблiва скорым стаў гэты рост, калi каралём стаў Жыгiмонт Ваза.

Калi на Польшчу ў 1655 годзе напалi Швэды, тады Варшава большасьцю пагарэла i абязьлюдзела. Мор на людзе́й i разьлiў Вiслы дадалi бяды. Пад кане́ц XVII ве́ку ме́ста пачало йзноў расьцi, але йзноў гэтаму перашкодзiла другая швэдзкая вайна, пры Аўгусьце Саксонскiм; другiя смутныя выпадкi ў канцы XVII ве́ку таксама не давалi ме́сту разьвiвацца.

Ме́ста пачало расьцi, як мае быць, толькi ў мiнулым стале́цьцi. Яно разрасталася па абодвух бакох Вiслы, больш на паўднёва-захад. Будавалiся зяле́зныя дарогi, зьезд к Вiсьле́, былi праве́дзены трамваi, вадаправоды, каналiзацыя, электрычнае i га-

завае сьвятло. З кожным годам прыбывалі ня толькі новыя будынкі, навет—цэлыя вуліцы.

Насялéньне Варшавы павялічваецца, мала не хапае да мілiёна. Рамёслы красуюць; гандэль усё болей разьвіваецца.

Цяпéр у Варшаве ёсьць музэі, выстаўкі абразоў, нéкалькі тэатраў, унівэрсітэт, політэхнікум, консэрваторыя, вялікія друкарні і кніжніцы.

---

# Бабуся.

(З натуры).

Восенны дзéнь адходзіў на супачынак, пачынаўся вéчар. Нéба, — як гэта часта бывае ў восенную пару, — зацягнута было сівымі калматымі хмарамі; з поўначы дуў сьцюдзёны, войстры вéцер.

Я йшоў па вуліцы аднаго ўкраінскага мястэчка. Насустрэч мнé паўзла, апіраючыся на сукаваты кій, старэнькая, бéдная жанчына. Яна апранута была, ў нéйкае запэцканае брудам шкумацьцё, ад якога цягнуліся па вéтры, як павучыньне, выпацканыя ніткі. Ногі яé, замéста чаравікаў, былі акручаны каравымі анучамі і абмотаны вайлаком, галаў яé пакрывала брудная хустачка, болей падобная да анучы, якою добрыя гаспадыні дастаюць гаршкі з пéчы, чым да жаноцкага ўбору. Глéдзячы на бéдную жонку, здавалася, што гэта не чалавéк ідзé, а паўзé нéйкі калматы страшок, якога выпусьцілі на вуліцу, каб палохаць людзéй.

Пераз дзіры і распоркі лахманоў вецер, ня маючы перашкоды, бяз усякага жалю рэзаў худое, жоўтае цéла бабулькі, і яна ад сьцюжы дрыжэла, як асінавы ліст у нягоду. Сівая, як хваёвы мох, галава бабусі, твар у зморшчынах, выпучаны паміж лапатак на сьпіне горб з добры бохан, запаўшыя глыбака пад лоб вочы,—усé гэтыя дары жыцьця сьвéдчылі, што ўладарка іх надта многа гадоў ужо працавала і на працягу свайго жыцьця бачыла бяды ды смутку.

Параўняўшыся са мною, жонка глянула ў мой бок сваймі падсьляпаватымі вачыма і, схінуўшы галаў, пакорліва сказала:

— Пахвалёны, паночку.

— Навéкі,—адказаў я. Па яé прывітаньні я дагадаўся, што жанчына гэта мусіць быць з нашае старонкі, з Беларусі роднай; і каб зусім упéўніцца ў гэтым, папытаўся:

— Скуль ты, бабуська?

— З Горадзеншчыны, паночку, з пад самагэ Ваўкавыску,— адказала яна.

— Як-жа ты сюды папала?

— А гэтак, паночку: упіхнулі мянé ў Баранавічах у вагон дый прывязьлі ў Харкаў, а стуль прыгналі сюды да мястэчка. Казалі, што тутака будзе добра жыць.

— Што-ж, не ашукалі?—дапытаваўся я.

— Гдзе́-ж там,—скардзілася старая,— якое нам тут жыцьце! Пойдзеш старцаваць [1]) і нічагусенькі не дастанеш,— заўсёды з пустою торбаю прыходзіцца варочацца дамоў. Ужо другі дзе́нь і расіначкі ў роце ня было. Хоць памірай з голаду, — жалілася жонка.

— А чаго было, бабуська, забівацца ў чужы край; ці-ж не ляпе́й было-б астацца на бацькаўшчыне і там чакаць сьме́рці, — сказаў я.

— Ай, паночку, хіба мы па сваёй ахвоце вышлі з бацькаўшчыны; нас сілком з хат павыпіралі. На Спаса прыскакалі да нас казакі, падпалілі вёску і давай бізунамі нас гнаць у Расе́ю... Ось паглядзі, паночку, які мне́ гасьцінец гіцлі на памяць пакінулі.—І бабуся, раскрыўшы сваё рызьзё, паказала на це́ле шнур ад нагайкі.

— Дык ось якімі ласункамі нас з бацькаўшчыны сюды зманулі,—даканчыла старая сваю са мной размову і пацягнулася дале́й, бразкаючы сваім кіем па бруку.

— Куды-ж ты, бабуська, сьпяшаешся? — папытаўся я ўжо ўздагон.

— А пайду ў цэркаўку ды памалюся Божухну, каб барджэй сьме́ртухну за мной прыслаў: мо' на тым сьве́це будзе ляпе́й, — кінула мне́ старая ў адказ, адходзячы.

Мо' пераз гадзіну якую або трошкі бале́й, я варочаўся дамоў тэй самай вуліцаю, на якой сустрэў, ідучы ў мястэчка, бабусю-уцякачку. Недалёчка ад таго ме́сца, гдзе́ мы з старою размаўлялі, я ўгле́дзіў гурток людзе́й, якія стаялі паўкругам ля самага раўчака, што йшоў з краю вуліцы. Хоць ужо пачынала цямне́ць, але яшчэ добрыя вочы дасканальна маглі разгле́дзіць абрысы людзе́й і па іх тварах дагадацца, што яны не́чым устрывожаны, перабіваюць адзін аднаго і, ківаючы галавамі, паказваюць пальцамі на не́шта калматае, што ляжала ўздоўж раўчака. Па усім было відаць, што тут здарылася не́шта. Падходжу і я да гуртка і пераз жывую сьцяну людзе́й ле́дзь-ле́дзь прабіваюся да раўчака; пачынаю разглядаць ляжачае шкумацьцё і... Божа мой! што я бачу: у брудзе ляжыць бабуся-уцякачка! Моцна сьціснутыя губы і ве́кі, скамяне́лы твар, выцягнутыя ўздоўж це́ла рукі сьве́дчылі, што жыцьё ўжо пакінула яе́.

— Такая яе́ доля,—сказаў не́хта з чарады.

— Мусіць паме́рла з голаду,—адазваўся другі.

— Ішла бабка з царквы, — пачала расказваць адна дзяўчына, — паскаўзнулася, бабухнула ў раўчак і адразу Богу душу аддала. Даль-бо, праўда: ўсё сама сваймі вачыма бачыла.

Паміж гуртка пайшлі перасуды ды спрэчкі, як, што і адчаго здарылася з бабусяю-ўцякачкаю гэтакая цяжкая прыгода.

---

[1]) Старцаваць—чыста беларускае слова, значыць тое самае, што у некаторых мясцох „жабраваць".

А бабуся ляжала выцягнуўшыся ў раўчаку, і труп яé здаваўся цяпéр даўгім, даўгім; сьмéрць выцягнула яé, быццам хацéла зраўняць з другімі, каб хоць па сьмéрці яна не асталася ў крыўдзе і займала толькі мéсца, колькі займаюць другія.

Падыйшлі два паліцэйскіх з цясакамі пры баку і з кнігамі запісаў пад пахамі. За імі зараз пад‘ехала калымага, запрэжаная благім, аблéзлым канём. Палажылі труп бабусі на воз і павязьлі ў паліцыю на дазнаньне. Пераз часіну-другую ад‘яжджаючая калымага шчэзла ў цямноце, людзі моўчкі разыйшліся, і на вуліцы ўсё сьціхла; толькі нéйдзе далёка, далёка, у цéмры ночы, нéхта, голасам поўным жалю і нуды, пяяў:

Адным-адна яна жыла
Ускрай чужога поля;
На гасьцінцы, упаўшы, памярла,
Цяжка яé доля.!
Як хавалі, плахтай чыстай
Воч ёй не закрылі;
Бяз пацераў прад Прачыстай
У дол апусьцілі.

Ідучы дамоў, я доўга думаў аб бабусі-уцякачцы і, здавалася мнé, што ў сьмéрці яé вінна ўсё мястэчка, усé тыя людзі, што так пільна рупяцца толькі аб саміх сабé.

**Кандрат Лéйка.**

---

# З Фінляндыі.

## I. Вадаспад Іматра.

Апісаць Іматру, гэту вялічыню і разгон бушуючае вады, трудна. Трэба яé бачыць сваймі вачыма, каб пераканацца, як тут усясільная прырода паказала сваю моц, выкапаўшы ў камéннай гары канаву-грамадзіну і кінуўшы на ёй расшалéлыя хвалі ракі Вуоксы.

Рака гэта, падплываючы к таму мéсцу, дзé б‘é сам вадаспад, patроху звужаваецца і, напатыкаючы пад сабою камéнныя глыбы, пачынае грозна клякатаць, як-бы глуха клясьці, што ён асьмéляваецца спыняваць разгон і прастор. Але ўсё-ж-такі гэты прастор што раз вузée, спад што раз рабіцца болей усхоным, вадзé прыходзіцца прабіваць сабé дарогу ў камéннай скалé, і тут гэта рака пачынае ўжо бязпамятна, бязуважна, апрамéтна кідаць свае буйныя хвалі, шумéць, стагнаць дзіка, жудка. Прад сабой бачыш ня звычайную ваду, а бéлую, як сьнéг, кіпучую пéну. Хваля ўскакавае на хвалю, гоніць, прэ, пераганяе; тая тую кідае ўгару цэлай пякéльнай гарой, разаб‘é ў пух, у пыл, скруціць, зьвéрне; ізноў тая тую кіне ўвысь, як-бы грозячы самому сонцу; тая тую абыме шалёным абняцьцем, здушыць, скруціць, ізноў пусьціць, ліне і ізноў

так далéй хваля за хваляй, а ўсё з грозным шумам, дзікім рогатам, жудка, магуча. Аж, вось, выбіўшыся ізноў на большы прастор, Вуокса пачынае цішэць, як-бы пераводзіць дух пасьля такога шалёна-п'янага разгула барацьбы.

У фінскім народзе аб гэтым мéсцы ходзіць такая лягéнда. Непадалёка ад вадаспаду стаяла на востраве ракі Вуоксы няпрыступная крэпасьць, каторую фінскі народ пабудаваў, каб загарадзіць дарогу і не дапускаць маскоўцаў у Фінляндыю. Адзін раз: даўно ўжо, даўно,—на гэтую крэпасьць маскоўцы такі напалі і хацéлі яé ўзяць. Доўга-доўга бараніліся фіны, запёршыся ў ёй, але нéпрыяцель быў дужэйшы, і прыйшлося здацца. Маскоўцы са злосьці і дзеля помсты, што крэпасьць доўга ім не паддалася, забралі ў няволю ўсіх адважных яé абаронанікаў, павязалі і, пасадзіўшы на чаўны, ня даўшы ні вёслаў, ні рулёў, пусьцілі чаўны ў вадаспад Іматру. Пераз нéкалькі часін не асталося й сьлéду ад сьмéлых ваякоў. З таго часу, як кажуць мясцовыя людзі, часта ўначы выходзяць з вады гэтыя нявінна загубленныя душы, блудзяць па бéразе і пужаюць ваколіцу сваім страшэнным стагнаньнем і нараканьнем, як-бы прыпамінаючы жывым пакалéньням аб сваёй страшэннай крыўдзе.

Пераз самы вадаспад перакінут вісячы зялéзны мост, і мы па ім маглі перахадзіць на абодва бокі бушуючае Іматры і, чапляючыся па вострых засéках камéннае скалы, узірацца ўніз, услухавацца ў клякатаньне вод. Глядзіш, слухаеш, і штосьці незразумéла-зводнае прыковуе цябе да гэтае апрамётнае вады. Забываешся на сьвéт, на людзéй, на жыцьцё, на долю, а ўсё глядзіш і слухаеш, слухаеш і глядзіш... Да познае ночы мы тут прасядзéлі, а як надыйшла пара падумаць аб супачынку ды павароце дамоў, дык так не хацéлася раставацца, як-бы тут нéшта сваё дарагое, роднае кідаў.

## II. ВЫБАРГ.

Горад Выбарг і крэпасьць пабудаваны ля Фінскае затокі, на гарыстым камéнным мéсцы. Ваколіцы яго вельмі прынадныя і харошыя. Займае ён прастор немалы, толькі будоўлі яго ня надта згушчаны і вуліцы параскіданы. Стары гэта ўжо горад, многа ў сабé мае памятак, даўно ўгаслага ваéннага жыцьця, і на камéнных узгорках выглядае, быццам яго тут выкавалі, узьнясьлі камéнныя рукі. Драўляных дамоў бадай зусім няма. Вуліцы забрукаваны ўсé. Навакол чыстата, парадак, спакой. Піўной, карчмы, старца, п'янага хулігана ня знойдзеш; калі дзé які рэстаран і ёсьць, дык і той без гарэлкі. Затое мы часта сустракалі над дзьвярыма такія надпісы, як прыкл.: школа, гімназія, рэальная школа, хаўрусная крама, хаўрусны банк і г. д. Аглядаючы горад, зайшлі мы ў фінскі музэй. За невялічкую плату—па 25 пэні (каля 10 кап.) з чалавéка—аглядзéлі усé сабраныя тут фінляндзкія асаблівасьці—ад найдаўнéйшага часу да нашых дзён. Бачылі мы

там вопраткі, аружжа, старыя грошы, абразы харошыя, вырабы з камня, гліны, мéдзі, зялéза і г. д. Цікавы вéльмі аддзéл, дзé сабраны ўсé патрэбныя прылады вясковага хатняга жыцьця фінскіх сялян. Многа бачылі мы там рэчаў вельмі падобных да вырабаў нашых беларускіх земляробаў, як, прыкладам, начоўкі, ступа, кросны, лыжкі і інш.; ня відаць было толькі сахі і бараны. Сам музэй збудаваны хораша,—мураваны, у тры павéрхі.

З музэя пайшлі мы на ўзьбярэжжа фінскае затокі. Кінуўшы вокам на памятнік Кнутсону, які змагаўся за незалéжнасьць Фінляндыі, пайшлі мы назад на станцыю.

Я. Купала.

---

# Успаміны з паéздкі ў Фінляндыю.

## У дарозе.

У палове сакавіка, перад ад'éздам у Фінляндыю, прышлося пабываць у Вільні і Мéнску. Нішто: дожджык трусіць; зіма старая кранулася з мéсца, толькі астачы сьнéгу дзé-ня-дзé ляжаць па стрэхах. Балотца, праўда, плывае па вуліцах, але ня так ужо блага, можна з бяды чакаць лéпшага часу—вясны.

А вось сéлі ў цягнік і пераз ноч з Вільні ў Пецярбурзе апынуліся. Або... якая страхата! Пéкла страшнае: чалавéк чалавéка, ў поруч ідучы, ня бачыць: туман, дождж, імгла нéйкая ліпкая, клéйкая чалавéка абсядаець. Людзі панурныя, згнобленыя, паморшчаныя, як тры дні ня éўшы, кудысь ідуць, éдуць, сьпяшаюцца.

Лéдзь здолелі перавясьці клумкі з аднаго вагзалу на другі і ўскочыць у вагон.

Éдзем у Фінляндыю. Кандуктар вéтла правярае білéты. Вагоны чысьценькія, мéншыя за нашы, толькі вокны непамéрна вялікія, а ў іх пераз усю вялічыню ўстаўлена толькі адна шыба—гэта, каб рамы шмат мéсца не займалі і каб, як хто éдзе ў Фінляндыі, мог як найболей убачыць край і яго людзéй.

Цягнік бяжыць крыху барджэй, як у Расéі. На станцыях задзéржаваецца карацéй.

У вагоне éдзе нéкалькі фінаў-мужчын і адна жонка з дзяцьмі. Усé сьветларусыя, вочы сінія, нізкі лоб, куксаваты твар, здаровыя. Цікавасьць, ці ўсé фіны такія? Жанчына вышла з вагону вады ўзяць; дзіцянятка пачало плакаць, мужчыны ўсé цопнуліся дзіця забаўляць, адзін навет узяў на рукі.

Пéўна фіны дзяцéй любяць; у нас так пасажыры ня дбаюць аб чужых дзяцёх.

На станцыях стаіць шмат возьнікаў, коні ўсé невялічкія каштанаватыя, санкі маляваныя розна, малыя, харошыя; возьнікі адзéты ў шэрыя самадзялковыя марынаркі і порткі, на галовах шапкі баранковыя, пацягнены шэрым сукном, з вушамі, з патыліцы—цёплы брыль і з пераду брыль; агулам кажучы шапка выглядае, як каптур.

Зіма цьвярдая, сьнéгу многа, кажуць—па Вялікадні за тыдні два зіма толькі кранéцца. Во як позна; у нас ужо цяпéр на прагалачках трава зелянéе. Мы чулі, што ў Фінляндыі цяпéр найлéпшы час для тых, хто хоча супачыць, або палячыцца, бо прымаразкі яшчэ стаяць, а сонейка ўжо сьвéціць, цёпла, павéтра здарова, і спакойна старонка. Праўда, пераз вокны вагону—па Пецярбурзе Фінляндыя нам выдаéцца, як іншы нéйкі сьвéт. Сьнéг—бéленькі ўсё пакрывае, сонца па ім густымі касулькамі коўзаецца; лéс і лéс, як вокам сьцягнуць.

Даліны з горкамі перамéняваюцца, скалы вісяць, а раўніна замéрзлых вазёраў вылынае.

Трэба вéдаць, што Фінляндыя—гэта старонка лясоў, вазёр і скалаў. На аднэй станцыі цягнік задзéржаўся на нéкалькі часін, каб у буфэце, калі хто хоча, закусіў. Высыпаліся і мы з вагону. Станцыя вельмі чыста. Два сталы хораша засланы, застаўлены ядой, якую толькі здумаць: там і мяса, і рыба, яйкі, сыры розных гатункаў, малако, гарбата, квас, піва. Як толькі падходзіш да стала, мусіш заплаціць марку, фінскую манэту вартасьці 38 капéяк. Пасьля калі хочаш, éж, колькі душа прымае, а не—крошку палажы на зуб—плата аднолькава: там жыватоў людзкіх ня мéраць,—такі звычай укараніўся пéўна дзеля таго, што ніхто з фінаў ня мае ў натуры сваёй, каб карыстаць болей за тое, чым плаце. Фіна ня трэба пілнаваць, ён сам у сябé стаіць на варце. Дзеля таго на станцыі фіны ядуць памалу, не сьпяшаючыся, як у сябé ў хаце за сталом.

Але было нéкалькі расéйцаў, дык тыя завіхаліся каля яды, ажно папацéлі. Аб сабé трудна сказаць: ляпéй відаць з боку, аднак мушу прызнацца, што добра такі пасіленай вярнулася ў вагон, ажно цяпло па жылах разышлося,—весялéй стала; усé закускі былі вельмі смачныя...

Прыéхалі да гораду „Віпуры“, памаскоўску Выбарг, гэта найбліжэйшы вялікі горад у Фінляндыі ад Пецярбургу. Не задзéржаваемся ў Віпуры—адкладаем гэта на пасьля—з паваротам, бо цяпéр маем яшчэ праéхаць нéкалькі станцыяў, а адтуль хурманкай да аднаго гаспадара у нéйкую вёску Лоттоло. Да аднаго тамашняга гаспадара далі нам адрэс—казалі танна бярэ, яда гаспадарская, добрая, здаровая, так што можна супачыць і паправіцца, а разам з тым прыглéдзіцца да вясковага ў фінаў жыцьця.

Мусім гадзіну чакаць на іншы цягнік, каб éхаць далéй. Аглядаем вагзал нова пабудаваны: вельмі харошы — як палац выкаваны з шэрага камéньня. Адразу відаць, што фінскі народ дэмакратычны: стараецца, каб усé былі роўныя, дзеля таго на вокзале 1, 2 і 3-я клясы ўсé аднолькавыя: такія самыя крэслы, такія самыя сталы, такая самая чыстасьць усюды; ня то што ў Расéі: у пéршай клясе крэслы аксамітныя, канапы плюшовыя, а ў трэцяй—сьмéтнічак...

Купілі кніжку з фінскімі і маскоўскімі словамі, будзем з помачай кніжкі гаварыць, бо як бачым, фіны памаскоўску ня цé-

мяць, хоць і блізка жывуць, а мы—беларусы народ далейшы ад фінаў і мала ведамы, дык нас яны і пагатове ня ўцемяць.

Перасел̍і ў іншы цягнік. Едзем. Лес і лес: нідзе людзкіх сяліб ня відаць. Вучымся словы: хлеб—пафінску „лейпа“, масла —„войта“, малако—„майта“. Хоць каб крыху падвучыцца, а то чаго добрага не разгаворышся з фінамі і прыдзецца хоць назад аглоблі павярнуць. Пры навуцы час праляцеў борзда, і не аглед̍зіліся, як прыехалі ўжо на сваю станцыю.

## На станцыі Ганільля.

Цягнік задзержыўся; ледзь толькі мы выскачыць, ды ўраднік пошту аддаць—здолелі, як машына ўжо засьвістала і пайшла. Станцыя малая; ніхто ня прыехаў, апрача нас. Вечар блізка, а да таго Лоттоло, куды нам трэба ехаць, яшчэ вёрст дванаццаць. Якую тут раду чыніць, каб каня дастаць? Шукаем у кніжцы, як будзе пафінску конь; нашлі: „хэвонен“. Хай сябе і хэвонен, але далей што? Ажно бачым паводаль нейкі чалавек на воз жбаны ад малака пакуе. Мы да яго: і рукамі, і нагамі, і носам гамонім, выкручаваем, паказаваем на мігі, што нам патрэбна хурманка. Чалавек уважна паўглядаўся на нашы гігі—мігі, нешта забарматаў па свойму і пайшоў кудысь спакойна.

Думаем: справа благая—яму не да нас—сваю работу пеўна мае. Вярнуліся на станцыю; пераз ваконца сівенькі ўраднік у вакулярах выдае газэты; дзетак як жмыру набралася; кожнае падходзе радоўкаю, хораша паклоніцца, возьме газэціну, узноў паклоніцца і выбягае з станцыі. Куды-ж ізноў да так занятага чалавека падыходзіць і дурыць галаву, ды яшчэ ня ўмеючы гаманіць пафінску. Як тут даць рады? Ажно дзьверы скрып—той самы чалавечак, у каторага мы пыталі, ды яшчэ з нейкім высокім ні то ўраднікам, ні то панам хораша ўбраным, ідзе—на нас рукой паказавае. Пан падышоў да нас і, вельмі дрэнна памаскоўску гамонячы, папытаўся чаго нам патрэба. Значыцца, той чалавек, аб каторым мы думалі, што і ўвагі на нас не зьвярнуў, пабег па гэтага пана і прывёў, каб ён з намі разгаварыўся. Мы сказалі, што нам патрэбна хурманка; пан растлумачыў чалавеку пафінску, а той зараз узноў кудысь схаваўся. Пераз часін дзесяць пад‘ехаў малады хлапец. Пан нам сказаў заплаціць тры маркі — цана сталая. А той чалавечак, што гэтанькі фатыгаваўся для нас —і ў наш бок не глядзеў — узноў свае жбаны пакаваў у воз, не чакаючы ніякога дзякуй. Усе фіны такія, як мы пасьля праканаліся. Кожны фін лічыць абавязкам сваім, а ня ласкай—памагчы бліжняму ў патрэбе.

Мы селі ў санкі, падзякаваўшы фінам за іх увагу для нас і паехалі. Зараз зьвярнулі ў права. Пачаўся лес. Дарожка вузенькая адна толькі ішла, каторай мы ехалі, а так ні дарожкі, ні сьцежачкі, ні сьледу людзкога. Ось крый Бог, завея, а чалавек мала абазнаны з месцам папаўся, ды зьбіўся з дарогі — аман у

гэтых лясох. Дзіўны край, думаем у душы, а вочы з цікавым пералякам разьбягаюцца ўвокал. Хочацца як найшырэйшы абраз гэтага фінскага ле́су захаваць для ўспаміну ў часіны вольныя ад працы . . .

Наш хурман сядзіць, як шэры каме́нчык, твар сьцюдзёны спакойны, сьве́тлыя вочы нярухома глядзяць на скалы. Дасталі цуке́ркі, пачаставалі фіна. Узяць—узяў, але не́як машынальна, як-бы то яго нічога не абходзіла.

Пачало цямне́ць. Ле́с ані крышку не зьмяніўся, толькі здалёк паказаўся чарвоны вугол не́йкай будыніны.

— „Лоттоло“,—ткнуў пальцам возьнік.

Мы ажно прыўсталі на санках. Конік борзда ўзьбе́г на горку; перад нашымі вачыма вылынаў хвальварачак; дом вялікі ў цёмна вішнёвы колер вымаляваны; вокны вялікія з зялёнымі вакяніцамі; сам дом на два канцы; ганак ашклёны, на гарэ такія-ж вялікія вокны і малы ганачак; дале́й будынкаў з восем увокал параскіданы.—„Дзяў, дзяў“, выскачыўшы, пераняў нас сыты, мале́нечкі жоўценькі сабачка. Гэткія самыя сабачкі блізка што ў кожнага гаспадара мы пасьля сустракалі; чуткія яны, зьвяглівыя, але ня кусаюцца.

Ад‘е́хаўшы з поў вярсты, мы ўзноў такі-ж самы хвальварачак угле́дзілі, а там—справа, зьле́ва—на вярсту, а то і дале́й, і бліжэй усё хвальваркі і хвальваркі. Дарожка—вуліца пайшла крута, так што блізка міма ўсіх сяліб прышлося праяжджаць. Сэрца—тук—тук—адзывалася мацне́й каля кожных варот; зда́ецца казала тут—тут задзе́ржымся, але возьнік, непарушна се́дзячы, дале́й вёз і дале́й. Дарожка вузенькая то ўправа, то ўле́ва паварочавала; адны сялібы хаваліся за горкамі, другія—выхіляліся з-за далінак. Перад сабой убачылі мы за якую вярсту вельмі харошы дом на гарэ, пасярод высокіх дрэў. Дом усё блізіўся і блізіўся, а мы набіралі пе́ўнасьці, што дык-жа там жыве́ Кюмеляін, да каторага е́дзем. Ужо, па праўдзе сказаць, навет смакавалі, як гэта будзе цёпла, добра і хараша. Раптам хлапе́ц скруціў уле́ва на малы панадворак пад паве́тку.

— „Кюмеляін!“ паказаў рукой на шэры дом у другім дзядзінцы возьнік. Зразу спужалася думка, хоць дом Кюмеляйна вельмы добры быў—проста хвальварковы нашага багаце́йшага шляхціца. Няма чаго чакаць—хоцькі ня хоцькі вылазім, хоць усё паглядаем яшчэ на гэны харошы дом, каля каторага мы пе́рш былі пе́ўны, што задзе́ржымся; стаіць ён усяго ад нас на якіх крокаў сорак і як-бы дражніцца. „Вязі, вязі!“ не́шта ў нутры быццам просіць возьніка. Але ён ужо з нашымі клумкамі стаіць на парозе і чакае, пакуль мы не падыдзем, каб разам увайсьці ў хату.

Адчынілі дзьве́ры; увайшлі; хата цёплая, відная, прасторная міла прывітала нас. Людзі за столом сядзяць, каву з булкай п‘юць. Машына краўцоўская стаіць, сталярскі варштат. Пачынаем гаварыць; ніхто ні слова бачым ня це́міць; у кніжцы пачы-

наем шукаць слоў фінскіх: натыкаемся, як пафінску будзе туз званковы, як называюцца розныя дарагія віны, як лёкай, але як папрасіцца на начлéг—такіх слоў няма; мусіць то кніжка толькі для вялікіх паноў пісана. Толькі малая поўтарагодняя дзяўчынка, здаéцца, найлéпш нас цéміць: засьмяялася, кіўнула галоўкай, узяла ад нас цукéрак, смокча і зычліва ў наш бок паглядае. А так—усé спакойна сядзяць, ядуць, як-бы ня чужыя падарожныя людзі сюды ўвайшлі, а толькі крыху сьцюдзёнае пары пераз адчыненыя дзьвéры ўвярнуло і ўсё тут. Адно да аднаго толькі часамі памалюсеньку скажа якое слова. А тут цямнéе; думаем: возьнік зараз ад'éдзе—начуй пасьля хоць у лéсе.

Пачынаем мігамі паказаваць на ложак — што хочам спаць, на хлéб на сталé—што хочам éсьці. Нічога! Проста людзі нéйкія бязбожныя, бяз сэрца, ані варушацца з мéсца. Адно бабы памалу кратаюцца каля гаспадаркі: адна нéшта пачынае варыць, другая вышла з вёдрамі па ваду.

Як-жа тут вам паказаць яшчэ, думаем, што мы хочам у вас застацца? Плацім возьніку і паказаваем, махаючы рукамі: Ганільля, Ганільля, — значацца — éдзь сабé, éдзь, а самі сядаем на сваé куфэрачкі і мігамі кажам, што на іх будзем спаць. Жанчына, што вышла з вёдрамі, вярнулася, падыйшла да старога дзядулі і нéшта сказала, на нас глéдзячы. Тады старэнькі ўстаў, узяў нас за рукі, нéшта па свойму загаманіў і павёў нас з хаты пераз сéнцы ў другі канéц дому.

Адчыніў дзьвéры і мы ўвайшлі ў два пакоікі чысьценькія, цёпленькія, як вулькі пчаліныя; сьцéны выклеены сіняй папéрай, падлога памалявана, камоды, крэслы стаяць, на сталé настольнік, у вокнах завéсы. Бухае агонь у пéчах, адна жонка ложка нам сьцéле, а другая—нясé каву, масла, пірагі, вароныя яйкі. Вады прынéсьлі мыцца, ручнікі чыстыя павéсілі; відно, што ўсё нарыхтована ўжо для нашага начлéгу.

Яшчэ не пасьпéлі мы пасілкавацца, як увайшла бабуля, прывіталася з намі памаскоўску, ды кажа: „Кюмеляйны па мянé прыслалі, каб з вамі разгаманіцца, бо яны ня ўмéюць памаскоўску, а я дзéсяць гадоў таму назад служыла ў Пецярбурзе за кухарку—дык крыху прылажылася“.

Зараз уся сямéйка Кюмеляйнаў сабралася. Мы ўсé пасéлі, бабулю пасадзілі па сярэдзіне, дзядуля падкінуў у пéчку дроў і пачалася гутарка. Найпéрш гаспадары сказалі пераз бабулю, што годзяцца, каб мы ў іх жылі, абяцалі тое, а тое даваць éсьці і толькі, а толькі назначылі плаціць. Цана была такая малая, што прышлося толькі зразу згадзіцца на яé і хораша падзякаваць. Пасьля расказалі колькі ў іх сямéйцы чалавéк, і хто дзé жывé. Давéдаліся мы, што старшы сын у Амэрыцы, паказалі нам яго фатаграфію. Бацька, гэты самы дзядуль, аб каторым ранéй успаміналі, стукнуўшы пальцам у патрэт сына: „Хюве пойка!“ сказаў,—харошы хлапéц, значыцца. Малéнькі хлопчык Таўно, думаючы, відаць, нам дагадзіць, спранжыновага ваўчка, пусьціў. Пры-

не́сьлі цуке́ркаў поўную тале́рку, бо, як пасьля даве́даліся, стары Кюмеляін дзяржыць краму. Бабуля каваліха адвітаўшыся, запрасіла да сябе́ ў госьці, а калі патрэба будзе аб чым пагаманіць, то каб па яе́ падсылалі мы, але хіба такой патрэбы ня будзе, сказала на астатак, бо ве́рнецца дачка Кюмеляйна, што пае́хала ў мястэчка, а яна ўме́е крыху гаманіць памаскоўску: у іх з Харкава ле́тась жыла не́йкая пане́нка—Мар‘я Васілеўна, дык ад яе́ Мары навучылася.

Праўда, і стары дзядуль Янко не́калькі слоў уме́ў памаскоўску, ды відаць яшчэ хаце́ў павучыцца, бо ходзячы па пакоіку, тыкаў пальцам у кожную рэч і выпытаваў: „рускі?“ Мы казалі: пе́ч, стол, лямпа, крэсла; а ён нам кожную гэткую рэч называў пафінску. Пасьля—на дабранач, сказаў: „Хювэсті!“—значыцца—ўсяго добрага, і вышаў.

## У Кюмеляйна.

Назаўтрае нас абудзіла сонечная раніца. Выглянулі мы пераз вакно—ле́с блізка стаяў,уле́ва—заме́рзлае возера. Вуліцай—хлопчыкі і дзяўчынкі з кніжкамі ў торбачках у школы бе́глі. Мары, вярнуўшыся з мястэчка, прасунула галаву пераз дзьве́ры: „хуомэнта„—добры дзе́нь аддала і стала пытацца: „кофе, кофе? хоцэте? хоцэте?“ Мы патакнулі галавой, што хочам. На тацы, накрытай сарвэткай, прыне́сьлі каву, жбанок паранага, гарачага малака, яйкі, масла і смажаную кабаніну з бульбай паранай.

Пасьне́даўшы, мы вышлі абгле́дзіць будоўлю і ўсю гаспадарку Кюмеляйна. Хата, дзе́ самі жывуць Кюмеляйны, у каторай учора мы былі, але ў такой тарапаці добра ўсяго не разгле́дзілі—на падлозе, чатыры вялікія вокны, пяць вузенькіх драўляных ложкаў стаіцьна вішнёва памаляваных, на нач яны расьцягаваюцца—шырокімі робяцца. У старых—коўдры аўчынкамі падбіты, у маладых—вайлаковыя.

Дзьве́ шырокія нізкія бэлькі ідуць пераз усю хату: адна—уздоўж, другая—упоперак; на іх ве́шаюць вопраткі, калыскі, кладуць гаспадарскія прылады, як сяке́ры, сьвідры, гэблі; у покуцьцю дзьве́ да сьцяны прыбітыя шафкі, у іх ляжаць кніжкі, газэты.

Такая ў старане́ ціхая вёска, як Лоттоло, мае два разы на тыдзень пошту; кожны гаспадар выпісавае газэту, а то і дзьве́; каторая газэта дарагавата, то згавораваецца двох—трох суседзяў, што бліжэй жывуць ад сябе́, і выпісаваюць газэту супольна. Чалаве́к, сумысьля наняты круглы год, прыносе пошту два разы на тыдзень; разам з тым ён прадае́ маркі, адкрытыя пісулькі, забірае напісаныя лісты.

Цікавы такі фінскі паштальён як раз ось прышоў. Вялікая раме́нная торба набіта туга газэтамі, лістамі; развозіць ён гэту газэту на „ке́лках“.

Ке́лкі—гэта такія саначкі: два зяле́зныя палазы з паўтрацьця аршына ўдаўжкі; на палазох умацована крэсла, на каторае па-

штальён кладзé сваé клумкі, сам апіраецца на поручні крэсла і станавіцца нагамі на палазы: аднэй нагой полаз падпіхнé, каб кéлкі крануліся з мéсца. А як у Фінляндыі дарога ня роўная— з горкі на горку, то як дзé разгоняцца такія кéлкі, дык шпарчэй за шыбкага каня бягуць. Шмат фінаў на торг, вагзал, да царквы гэтак éдзе. Жонку навет часта, або дзіця—пасадзіць на крэсла, сам стане на палазы і гайда ў дарогу; пад горку, праўда, прыходзіцца аднэй нагой падпіхаць, але за тое з горкі як ляціць!

Паштальён прывёз газэту, ліст з Амэрыкі ад сына Янко, выпіў кавы і паéхаў на кéлках далéй. Мы кончым абглядаць хату. У шафцы шмат кніжак гаспадарскіх. На мéсцы нашага ложачніку—каля парогу—стаіць шафка з судзьдзем: ісподкі, кубачкі, талéркі, паўміскі, вільцы, толькі чарак няма, бо фіны ня п'юць ніякіх напіткаў. Найцікавéйша—пéч: вялікая, высокая, ажно пад столь, толькі адзін кот туды можа ўзьлéзьці, а фін, хоць і мае зіму ў паўтара раза даўжэйшую і сьцюдзянéйшую, чымся ў нас, аднак на пéч ніколі ня лéзе. Падпéчку таксама няма,—куры зімуюць разам з скацінай у хлéве. У пéчы фінляндка-гаспадыня паліць раз у дзéнь—зраньня; нічога ў ёй ня варыць, толькі хлéб, або пірагі пячэ. Усéнек жар выграбаецца ў прыпечак; прыпечак у сярэдзіне пусты, зьвéрху накрыты таўстой бляхай з фаéркамі; да жару дроў падкідаецца, на фаéркі ставяць гаршкі, варыцца страва. Пад прыпечкам ніколі агонь ня гасьне, кава пераз увéсь дзéнь стаіць гарачая. У фінляндцаў ёсьць звычай кожнага прышоўшага чалавéка пачаставаць кавай. Усё роўна як наш чалавéк, увайшоўшы ў чужую хату, зараз закуравае люльку, так у фінаў сьвéжы чалавéк зараз сядае за стол і каву п'é.

Сéнцы на падлозе, пры сéнцах камора таксама на падлозе, пры сьцéнах каморы пароблены палічкі, прыстолкі, панасыпаныя крупамі, мукой; вада ў цэбры стаіць, абрусікам накрыта; ганак— з лавачкамі. Напроць хаты стаіць з ганачкам сьвіран даўгі, разьдзéлены на нéкалькі перагародак; да кожнае з іх вядуць асобныя дзьвéры. У ваднэй перагародцы фін хавае збожжа, у другой— куфры, вопраткі, у трэцяй—ложкі, дзе ўлéтку сьпяць; болей на хатнім панадворку нічога няма; на другім у поруч панадворку стаяць: вазоўня, стайня, хлéў. У хлéве Кюмеляін мае шэсьць каровак, бычка, двое цялятак; у малым хлéўчыку—з дзéсяць авéчак. Скаціну даглядаюць толькі жанкі; мужчыны—коні. Кароў кормяць трасянкай, у каторай болей сéна, чымся саломы, бо сенажацяў маюць фіны даволі, а збожжа сéюць нямнога—трудна там зямлю адваяваць у скалаў і вазéраў. Пояць скаціну ў хлéве пойлам: вада, падкалочана мукой. Ваду на саначках з недалёкае студні падвозяць: адна жанчына саначкі цягне, другая—падпіхае.

Мы жонкам на падмогу падасьпéлі—саначкі ажно забурчэлі.—„Харасо, харасо! хваліць нас Мары. Напаіўшы, пачалі кароў часаць зграблямі. Каровы так прывыклі, што самі выцягаваюць шыі яшчэ здалёк.

Хлéў мае тры вокны ашклёны. Падсьцілаюць жывёле насу-

шаным улéтку торпам. Узімку толькі гэты торп рэжуць у адумысловай сячкарні. Мы і торпу памаглі нарэзаць. Жанкі — як мага—разгукаліся. І дачка Кюмеляйна Мары завéцца і нявéстка—Мары. А муж Мары—значыцца сын дзядуля Янкі—завéцца Іван. Іван тут-жа каля коняў пахаджае. Пытаем, а ці б'юць у вас мужчыны жонак?—„Эй - эй—не - не“,—адказаваюць з нéйкім ні то дзівам, ні то страхам: як-то мужчына асьмéліўся-б на жонку руку падняць?

Пасьля, як мы ўбачылі, фіны таксама і дзяцéй ніколі ня б'юць. Дзіця проста ня цéміць, што гэта знача, калі на яго замахнуцца, або дзіцяці пагразіць. Толькі-ж і дзéткі, праўду сказаць, іншыя зусім там, як у нас: дзіцяці навет у галоўку ня прыходзіць, каб яно магло старшага не паслухаць, або са старшым дражніцца.

Пасьля абглéдзілі мы яшчэ лазьню, пафінску—„саўна“. Стаіць за гародам; ніштo хатка—з комінам, з вокнамі; у сярэдзіне палок зроблены. Пéч камéнная, яé награваюць, пасьля мокрымі вéнікамі пырскаюць на распаленае камéньне, пара бухае і лазьня гатова. Фін вельмі любіць лазьню; парыцца ў ёй разоў тры на тыдзень; навет дзяцéй малых-аднагодкаў з сабой забірае. Парачыся, фін ня раз выскача на мароз, астыне, пасядзіць на сьнягу, ды ўзноў у лазьню і гэтак гартуюцца. Фін дроў не шкадуе, бо мае лéсу даволі.

Саўна яго ўжо ад паўдня паліцца каб да вéчара добра нагрэлася.—„Саўна! саўна!“ кожны раз дзядуль Янко нас заахвочаваў у лазьню. Мы са сьмéхам пыталіся: што, дзядуль, ізноў лазьня?“—Ю - ю - ю!“—алé, алé, адказаваў, сьмяючыся.—„Хюве! Саўна!“

## Нядзéля.

Дзядуля Янко сядзіць у вадным кутку і чытае біблію ўчуткі, а Мома—цётка дзядулі, аб каторай ужо і сьмéрць забылася—гэталькі мае гадоў бабуля — у другім куточку ня чытае, а пяé ўчуткі з бібліі. Голас выходзіць ні то з-пад зямлі, ні то ката ў мяшку, але ніхто ня сьмéе закпіць з бабулі; я ня вытрывала, і—каб не засьмяяцца, лéдзь уцякла з хаты.

Жанкі ідуць на сход таварыства біблійнага. Моладзь робіць платныя вечарынкі, з каторых даход адкладаецца на новую школу ў Лоттоло. Хочуць зрабіць сад пры школе, каб дзéці заахвочаваліся і ў сябé садзілі дрэўцы, бо дагэтуль у Фінляндыі няма садоў—клімат надта суровы. Аднак некаторыя садовыя дрэвы маглі-б і тут радзіць. Дык усё сяло Лоттоло хоча і ў сябé ў будучыне завéсьці сады.

Аднаé нядзéлі папрасілі мы каня, каб паéхаць да кірхі (царквы), Іван закратаўся; сам прыбраўся ў сівую вопратку суконную. Мнé далі суконныя барлячы, рукавіцы. Паéхалі. Дарога санная—як люстра...

Да мястэчка Яські 14 вёрст. Лéс і лéс. Вёска Лоттоло ўдаўжкі вёрст з восем цягнецца. У Фінляндыі няма такіх вёсак, як

у нас. Там каля скалаў асобна сялібы папрычэплены; па сярэдзіне напару ляжаць возеры; адны да адных е́зьдзяць у госьці на чаўнох.

Прые́халі ў Яські. Вялікі зяле́зны мост перакінены пераз раку Вуоксу. Рака быстрая; ніколі не замярзае. Бе́рагам рэчкі конікі пастаўлены, панакрываны цёплымі гунькамі, ядуць аброк з торбаў. Да коняў фінскіх — не падходзь: надта злыя — гатовы ўкусіць; большая часьць—каштанаватыя.

Увайшлі ў кірху. Напалена цёпла. Сама кірха чысьценькая—ле́тась толькі аднавілі. Уся застаўлена лаўкамі. Народ — земляробы, ніводнага капялюха ня відаць. Жанкі найбольш у бе́лых хустачках, у чорных бурносах. Мужчыны ў шэрае сукно апранены. Большая часьць фінаў сьве́тла-русыя, крэпкія, здаровыя, шчокі румяныя; маладыя хлапцы нізка стрыгуць галовы; старыя мужчыны носяць валасы даўгія пад скобку, як нашыя паляшукі, напе́радзе—разьдзе́лены.

У кірсе ўсе́ пяюць псальмы. Фіны ўсе́ лютэраны. Адзін пастар адпраўляе імшу пры аўтары, апранены ў даўгую чорную сукню, як ксяндзоўскую сутану, толькі з хвалдамі на плячох. Сам барадаты, таўсты. Другі—з амбоны казаньне гаварыў; гэты — голены—падобны да ксяндза. Народ — як сьцяна спакойна слухае, ані вокам ня міргне́—і не спазнаць, што ў яго на душы робіцца, аб чым ён думае... Пяюць страшэнна нудна, аднастайна, як скала стогне, калі ў яе́ разьме́рна біць молатам. Ажно галава закруцілася нам, ня прывыкшым да такога пяяньня.

Як вышлі па набажэнстве, дык кожны адразу ў санкі се́ў і „но, кося, да хаты!“ Крамы ў сьвята зачынены, піўных — няма, гарэлкі—ані званьня.

У нашага каня адляце́ла падкова, як толькі з вярсту ад‘е́халі ад Яськаў. Іван зараз завярнуў каштанчыка; зае́хаў да аднаго каваля—няма ў хаце́, зае́хаў да другога—няма; тады павярнуў у права і пае́халі мы да вёскі за вярсты дзьве́ ад Яськаў—да сваякоў Кюмеляйна. Там нам зараз далі кавы; каню прыбілі падкову. Крыху пагрэліся. Пе́ршы раз сустрэлі такога фіна: стары—гадоў 60, відна бывалы і мову маскоўскую добра ўме́е, але не хаце́ў гаманіць памаскоўску,—сказаў, што ня любе. Мы яму растлумачылі, што мы не маскоўцы; паглядаў на нас зычліва, прасіў е́сьці, піць, але гаманіць — не гаманіў — роўна запрысягнуў гэтай мовы ня ўжываць. Адвіталіся і ўжо ўва ўсёй спраўнасьці пае́халі.

Трэба ве́даць, што фін вельмі ацэнявае тую карысьць, якую прыносе яму конь і дзеля таго, як сябе́ самога, так даглядае каня. Пугі—ніколі ня ўжывае. Конь падкаваны, вычышчаны, накормлены, накрыты, стайня цёплая.

## Фінскі народ.

Фінляндыя гэтак сама ляжала паміж двума дужымі суседнімі гаспадарствамі, як і нашая Беларусь.

Адзін сусе́д супольны быў і нам, і фінам — гэта Расе́я. Другім сусе́дам у нас была Польша, а ў Фінляндыі—Швэдзія. Фінаў, як і нас, то адзін дужы сусе́д браў у свае́ зяле́зныя рукі, то другі. І абодва сусе́ды паводле свае́ сілы і змогі стараліся быць дабрадзе́ямі—апякунамі. Швэдзія ране́й стала панам у Фінляндыі; фінская шляхта памалу паперамяняла свае́ прозьвішчы на мане́р швэдзкіх і ашвэдзілася. Мовы свае зараклася, пачала гаманіць пашвэдзку. Ураднікам туды і дарогу лёс клаў, каб у дужэйшага шукаць нагарод, чыноў і высокіх пэнсій. Духаве́нства таксама стала на старане́ дужэйшых. Адзін народ толькі, учапіўшыся сваймі ніўкамі да цьвярдых скал, астаўся ве́рным прадзедавай мове і прадзедавым звычаям. Ён, зьліўшыся ў вялікую аднастайную народную масу, зажыў асобным сваім жыцьцём.

Фін, гле́дзячы ў дны сваіх чыстых вазёраў, на сьве́тлае сіняе не́ба, на яве сьніў аб долі ле́пшай; у казкі, пе́сьні ўплятаў сваю мінуўшчыну, слаўных дзядоў сваіх рыцараў, пе́сьціў нясьмяротнымі ўспамінамі ў сваіх сэрцах.

Гадоў сорак таму назад уся інтэлігенцыя сьмяялася, як над не́чым дзяціным, нязграбным і вельмі неразумным, над старадаўнай фінскай мовай. Але сыны фінскага народу, дабіўшыся да сьвятынь вышэйшае школы, дастаўшы вышэйшую навуку, сказалі: не! Мы не дзеля таго дабіваліся аб сухім хле́бе і вадзе́, каб потым вам, паны, яе́ прадаваць за срэбнікі Юды! Мы—сыны мужыцкага народу, мы—ўнукі дзядоў—рыцараў земляробаў, каторыя адкладалі саху на бок, пакідалі дзе́так галодных, хапаліся за ме́ч і баранілі перад швэдамі незале́жнасьць свае́ роднае старонкі; аб іх сьве́дчаць нашы цьвярдыя скалы, аб іх пяюць нашыя народныя пе́сьні. Мы праўнукі іх, мы з народу і застанёмся з народам!

І пайшлі да сваіх бацькоў, матак, сёстраў, братоў з жывым сьвядомым словам: мы фіны—сумаляйны (значыцца: жыхары балотаў, возераў), мы любім свае́ балоты і возеры, скалы і горы, мы да іх падобны, наша мова да іх падобна. Мы—як усё цэлае—прадстаўляем характэрны цікавы куток і народ між іншымі краямі і народамі.

І фіны ўзяліся сьвядома да працы. Не адзін з торбай на плячох пайшоў па краю зьбіраць пе́сьні народныя, казкі, ляге́нды. Як толькі гэты матар‘ял быў сабраны і надрукаваны, шляхта ажно зьдзівілася вялікаму багацьцю душы народнай.

Бяздонным жаралом паэзія біла з пе́сьняў, з казак, з ляге́нд; зяле́зная сіла і любоў да роднага краю з народных твораў вызірала. Тады ўце́мілі, што гэта ня гульня, што з гэтай сілай трэба лічыцца. Вось дзе́ пан і гаспадар краю: земляроб, што сэрцам прыпаў да каме́ннае гле́бы і працай любоўнай просіць ад яе́ хле́ба.

Фінляндзкі народ цяпе́р займае пачэснае ме́сца паміж культурнымі народамі. Фінляндзкі унівэрсітэт што год з сваіх сьце́н выпушчае маладую армію сыноў земляробаў, каторыя ідуць у

народ і працуюць з забыцьцям шчасьця свайго я. Народу шчасьце—іх шчасьце. Фінляндзкі народ пе́ршы ў Эўропе прызнаў роўныя правы жанчынам. Жанчына — матка — сьвядомая фінляндка патрыётка — яшчэ ў калысцы пачне́ навучаць сває́ дзе́ткі любіць родны край, родны народ, любіць і паважаць справядлівасьць роднага народу. І ніякая сіла перарабіць цяпе́р фінскі народ на іншы капыл — ўжо ня здолее, бо сьвядомасьць народу, культурнасьць яго—стаяць вышэй за ўсякія сілы.

**Цётка.**

---

# Тэнеко і але́ні.

У школу з аднаго паўночнага ме́ста прывязьлі хлопчыка; яму было гадоў дзе́сяць, але па росьце ён здаваўся не старэйшым за шэсьць гадоў. Гэта быў мале́нькі самае́д. Апрануты ён быў у два але́ніх кажухі, сшытых разам: ніжэйшы, поусьцю да це́ла, быў заме́ста хусьця; другі, поўсьцю да гары, быў кажухом; шапка і боты, былі таксама з але́няе скуры. У гэтай вопратцы ён быў, як таўстое пале́на ў мяшку; толькі адзін адкрыты твар паказаваў, што гэта не́шта жывое. Ён быў дзікі і маўклівы; за тры дні сябры і начальства ле́дзь даве́даліся толькі, як яго клікаюць. Звалі яго Сьцяпан Тэнеко, г. зн. Лісічка. Другое гэтае імя было паганскае, самае́дскае, але ён вельмі любіў яго і ахвотна адзываўся, калі яго звалі Лісічкай.

У школе ён з усяго дзівіўся і ўсяго баяўся: пастаяць яго дзе-не́будзь—стаіць, пасадзяць—сядзіць, а сам з ме́сца не скранецца. Хлапцы спачатку сьмяяліся з яго, тузгалі яго, а потым пачалі яго жале́ць. Памалу ён пачаў прывучацца да тутэйшага жыцьця, толькі вучыцца яму было цяжка.

Аднаму з вучыцялёў яго знаёмы прыслаў гасьцінца—пару але́няў. Ве́дама, што Тэне́ку ніхто аб гэтым не сказаў. Раз ён, як звычайна, е́зьдзіў на лыжах і не́як асабліва расхадзіўся. Раптам з адчыненага хле́ва паказалася галава але́ня з вілаватымі рагамі. Тэнеко глянуў, уталопіўся, стаў і ня ве́рыў сваім вачом; потым застагнаў цяжка, хрыпата, як каршунё кінуўся да хле́ва, абшчаміў рукамі шыю але́ня, цалаваў, лашчыў, гладзіў па поўсьці і ўсё не́шта гаманіў пасамае́дзку; а сам плача ў два цуркі; пабачыў другога але́ня—тое самае. Каб добра нагле́дзіцца на але́няў, ён спрытна ўзяў іх пад морды і вывеў з хле́ва, паставіў побач, стаў перад імі, глядзіць ім у вочы, і кажа ім не́шта ў роднай мове, і плача ад смутку і радасьці. З таго часу ён стаў суміцца і задумавацца. Ён зусім кінуў вучыцца, а калі яго прымушалі ўзяцца за кніжку, ён бачыў у ёй заме́ста букваў вілаватыя рогі і вочы; заме́ста ўсякага выясьне́ньня яму чулася хорканьне але́няў. Ён ізноў палюбіў адзіноту, перастаў сябраваць з хлапцамі. Прыйдзець да хле́ва, станець ля але́няў, моўчкі лашчыць іх, цалуець, а потым прытуліцца да іх і задумаецца. Дзе́ці ба-

чылі гэта, і яны не сьмяяліся з малéнькага самаéда: яны цéмілі яго сум і жалéлі свайго малéнькага таварыша.

---

# На Віціме[1]).

Адзін ў зялéзнай дамавіне[2])
Ляжу бяз дум, ляжу бяз слоў,
Ня маю сноў, ня бачу сноў,
Няма бажаньняў і ў спаміне.
Навокал хлюпае вада —
Ракі нявéрнай дар няшчыры;
Наўсьцяж зьвініць, як сьпéвы ліры,
Пасьпéшных хвалек чарада.
Часамі ў шчылінку зірнé
Касулька сонца, зéлень[3]) бора,
Між гор скалістая разора,
А ў ёй шумлівы вадаспад,
Заімкі бéднай вокны хат,
Рыбак у чоўне прамільгнé, —
Нішто ня вабіць больш мянé.!
Плыву адзін у дамавіне, —
Здаéцца стыгне ў жылах кроў!
Так голы куст ў глухой цясьніне,
Між шчэбняў скал, ў прытулку соў,
Бяз дум і слоў памалу гіне.

**А. Гарун.**

---

# Нарымскі край.

Прыéхаў да нас шаман[4]), каб у гаспадара юрты дачку ад хваробы адратаваць—памірала ўжо яна. Дзеля гэтага прыéзду ўсé выпілі, — і гаспадар, і гаспадыня, і хворая... Навет малыя дзéці сербанулі, а шаман гэты, вéдама, найбалéй за ўсіх. Аднак, ня глéдзячы на выпітае, нуда ўсіх брала. Дзéнь выдаўся вéтраны, мяцéльны. Стаяць тры нашыя юрты ў сьнегавой пустэлі; а навокал усё бушуе; ні праходу, ні праéзду няма; замяцé нас завірухаю, замéрзьнем мы; ці што—ратунку ня будзе ні адкуль.?

Дрэнна! Ня тое, што страшна было,—не, ужо да ўсяго прыўыклі мы, а так нéшта ўнутры пачынала пасосаваць. А тут яшчэ гэтая хворая стогне. Толькі гляджу я—устаў шаман, узяў свой бубéн (бяз бубна ён кроку ня ступіць), выцяў у яго і запяяў. Даўгую нéйкую, дзіўную пéсьню зацягнуў. Ні складу ў ёй, ні ладу

---

[1]) Віцім—сібірская рэчка.
[2]) У віціне на рэчцы.
[3]) Маскалізм, пабеларуску—зялéніва.
[4]) Чараўнік.

ня было, але затое сэнс яе́ дужа цікавы. Казалася ў гэтай пе́сьні аб тым, што зямлі ле́пшай за Нарымскі край, ува ўсім сьве́це нідзе́ не знайсьці. Чаго толькі тут няма: мох сьце́лецца, журавіны —аж не абабраць, навет бярозка—і тая расьце́; у рэках рыба вядзе́цца; што год два разы птушкі вялікімі стадамі праносяцца; самае-ж галоўнае ўпрэжныя сабакі і але́ні. Іх шаман асабліва старанна абсмакаваў. Ну, тут шмат яшчэ чаго ў гэтай пе́сьні было; навет і на тое шаман не забыўся, што вось не задоўга Іван Мацьве́іч—скупшчык тутэйшы—прые́дзе, гарэлкі і тытуну прывязе́. Каротка кажучы, з якога боку не падхадзі—усё Нарымскі край неспадзявана добры. Гляджу я—шаман ад пе́сьні бале́й, чымся ад гарэлкі, сп'яне́ў, усе́ павесяле́лі, гаспадар навет з не́йкай пагардай на мяне́ ўзіраецца: бач, значыцца, якая наша старонка!

**М. Багдановіч.**

---

# Жыцьцё ў Гамэрфэсьце.

Уле́тку мале́нькае ме́ста Гамэрфэст [1]) выглядаець вясёла і ажыўлёна; у працягу не́калькіх ме́сяцаў у ім перагасьцюець блізу 200 суднаў, часткаю нарвэскіх, часткаю чужазе́мных. Яны прывозяць муку, пяньку і г. д., а бяруць узаме́н рыбу, ворван, скуры паўночных але́няў, гагачае пе́р'е, лісіц і руду. На драўлянай галярэі, што йдзе навакол усіх магазынаў, можна бачыць усякія ўборы, чуць усе́ мовы поўначы. Купе́ц сам сядзіць заўсёды на галярэі; на галаве́ ў яго шапачка з ме́ху лясное выдры, за вухам пяро; ён бесьперастанку перабягаець ад рахункаў да сьвірна і назад. Цяпе́р час працы. Ад гэтых трох, ці чатырох ме́сяцаў яго рахункаў і запісаваньняў зале́жыць удача ўсяго году. Потым ён выпраўляець судны у Шпіцбэрген і груз рыбы ў Гішпанію і Партугалію. Уве́сь дзе́нь праходзіць у бесьперарыўных занятках.

Цераз густы туман і вобалакі, каторыя звычайна пакрываюць гамэрфэскае не́ба, раптам зірне́ць харошая каса сонца, у далі выясьняюцца горы з іх сінімі брыжамі і з іх мігаючымі вярхамі; мора, якога не кране́ ве́цер, сьце́лецца як срабранае між ме́стам і скаламі,—як гэта цудоўна і прыгожа! Адзін раз, у жніўні ме́сяцы, у поўнач з вышыні скалы, якая высіцца, як шпіц ве́жы, я ўбачыў сонца ўва ўсёй яго пышнасьці. Мора зьзяла сьвятлом; пара адсьве́чавала лазурай, як далёкі гарызонт паўдзённых старон, а сонца паміж сьце́наў скал, быццам паснулае ў сваёй гранітнай пасьце́лі, было падобна да крышталёвага кубка. Як толькі настаюць гэтыя харошыя дні, ува ўсім ме́сьце пачынаецца рух. Кожнаму хочацца нагле́дзіцца на гэтае рэдкае, так скора зьнікаючае зьявішча. Але гэтыя дні вясёласьці рэдкі; імглісты туман пакрываець сінь не́ба; мароз пачынаецца сярод прынаднейшага ле́та, скора адзін па адным чэзнуць чужазе́мныя караблі, гандлёвыя дамы замыкаюцца, занядкі спыняюцца, усё сьціхаець.

---

[1]) Гамэрфэст—самае паўночнае ме́ста ў Норвэгіі.

Настае́ць зіма. І якая зіма.! Ночы без канца, чорнае не́ба, заме́рзлая зямля. У 12 гадзін па паўдні ў сьне́жні ме́сяцы трэба зусім падыйсьці да вакна, каб прачытаць колькі радкоў. Ува ўсіх дамох з раньня да ве́чара паліцца лямпа, і няма бале́й ніякіх радасьцяў, ніякага жыцьця, ніякіх навін. Пошта, якая павінна прыходзіць тры разы ў ме́сяц, зьяўляецца абы-калі. Тыя, што е́дуць па швэдзкіх горах, часта задзе́ржаваюцца ўночы і бурнай дарогай; тыя, што е́дуць з Дронтгэйма морам, сустракаюць яшчэ вялікшыя перашкоды. Ме́ста становіцца асобным сьве́там, адлучаным ад ўсяе́ зямное кулі. Людзі, якія жывуць тут, шукаюць усякае магчымасьці, каб паце́шыць чым сябе́. Яны складаюць суполкі, каб даставаць якія-не́будзь кнігі. Але чытаць уве́сь час пры сьвятле́ лямпы немагчыма, і яны, сабраўшыся, бале́й гаманяць, гуляюць у карты і г. д. Аднэй з найвялікшых прые́мнасьцяў для жыхароў робіцца беганіна на лыжах. Як толькі чуць праясьне́ецца не́ба, жыхары Гамэрфэсту, прывязаўшы к нагам драўляныя лыжы, выпраўляюцца бе́гаць па скалах і горах, на якіх глыбокі сьне́г зараўняў усе́ шурпатасьці.

У канцы студня яны пачынаюць шукаць на не́бе пе́ршых бле́скаў сонца, каторае так даўно ўжо схавалася ад іх. Сьпярша паказваецца ў змрочным вобалачку чырванаватае сьвятло: з радасьцю вітаюць яго людзі. Гэта вяшчун сонца, якое йдзе́ць ізноў ажывіць зямлю і людзе́й. Пе́ршы, хто ўбачыць гэты радасны знак, крычыць аб гэтым і усе́ бягуць на ўзгорак. Дзе́нь гэты— сьвята для ўсяго ме́ста. Памалу гэтае чырвонае сьвятло дужэець; нявыразная лінія робіцца шырокім кругам, пераразаючым вобалакі. З кожным тыднем ён падымаецца ўсё вышэй над горызонтам і астае́цца там, пакуль тры ме́сяцы, адзін за адным, не прасьве́ціць паўночным людзём.

(*Са сборніка Груббэ*).

---

# Сярод лёду.

Амэрыканскае „Таварыства паўночных мораў“ пастанавіла паслаць карабе́ль на адзін з полюсаў. Выбралі карабе́ль „Надзе́ю“, самы найле́пшы карабе́ль Таварыства.

У канцы чэрвеня карабе́ль выйшаў з Сан-Францыско; цераз два тыдні ён прайшоў цераз Бэрынгавую пратоку і выплыў на шырокі прастор акеяну, дзе́ ўжо здалеку паказаваліся абрысы пе́ршых крыгаў лёду. Сонца асьвячала іх, і яны плылі ў яго косах, празрыстыя, як-бы абломкі срэбных вобалакаў, паварачуючыся да сонца сваймі войстрымі брыжамі, на каторых то гарэлі, то гасьлі яркія бле́скі.

Каманда карабля, сабраўшыся напе́радзе, моўчкі прыглядалася да гэтага прыгожага і грознага зьявішча. Карабе́ль, ідучы з усяе́ пары сярод яснага, бескане́чнага прастору вады, здаваўся

малéнькім жуком, які ляціць на сваю пагубу. За ім аставаўся толькі ўсьпéнены сьлéд па вадзé і чуць бачны вобалачак дыму.

Калі карабéль паплыў паміж высокіх крыгаў, зьбялéла над ім сінь нéба, а горызонт заслаўся лёгкаю імглою.

Каманда чула сябé добра, бо таварыства не шкадавала грошай на выправу карабля і назначыла усім падвойную пэнсію.

Над архіпэлягам лёдаў насілася імгла; а ён калыхаўся з боку ў бок, як грамады бéлых, пераступаючых з лапы на лапу медзьвядзёў; лёд грукатаў, стукаючыся крыга аб крыгу. Гэты гул, гэты злавéшчы змрок рос, перамагаў, набіраўся сілы, як прастор вады рабіўся вузéйшым, аж перайшоў ў бесьперастаны гук, каторы, хоць і ад малéнькага вéтру, рабіўся страшным рыкам. Плёсканьне цяжкіх і прыдушаных валаў здавалася ляканьнем клыкоў шалёнага зьвéра.

Праход сярод лёду зрабіўся такім вузкім і так часта мяняў свой кірунак, што карабéль выкручваўся сярод лёду такою дарогаю, што калі старшы афіцэр, зарысаваў яé на карце, дык выйшаў збор ламаных лініяў, надта падобных да арабскага пісьма. Капітан блізу што ня сходзіў з свайго мастка: ніхто ня бачыў, калі ён спаў. Нéкалькі часу карабéль пасуваўся напéрад, крышачы мéншыя перашкоды, абмінаючы большыя, аж урэшце задзьмуў вялікі вéцер, і лёд напёрся дужэй. Карабéль, зачыніўшы сабé паварот, уціснуўся ў невялікі басэйн, што зробілі цэлыя палі лёду, прыпёртага да сябé бакамі. Цéча падхапіла карабéль і разам з тымі крыгамі панясла яго на паўноч.

Нёсься к зімé, і яна сьпяшалася на яго сустрэчу. Сонца мала паказавалася; панавала там ноч, ня толькі цёмная, колькі даўгая; сьцюжа ўсё балéй і балéй дадзявала. Вільготныя канаты мачтаў і рэі сталі цьвярдымі, як палкі; палуба пакрылася коўзкаю шалупою лёду, каторую кожную раніцу трэба было адчышчаць секачамі. Матросы цёпла апрануліся. З усіх бакоў дзьмулі прыкрыя вятры. Мора калыхалася несупакойна і падымала ўгару карабéль і лёд. Каманда бесьперастанку жыла у трывозе за долю карабля. Нарэшце разышлося абараняючае поле лёду, і крыгі з шалёным гулам кінуліся на карабéль. Куды ня кінь вокам, адусюль яны падыходзяць. „Надзéя“ нéкалькі часу ішла сярод іх, крышачы лёд і топячы яго пад собою; але змаганьне не магло быць даўгім.

Лёд, як-бы толькі цяпéр падсьцярог карабéль, кінуўся на яго. Крыгі, горы лёду лéзьлі сабé на хрыбты, прабіваючыся з шалёным парывам да нешчасьлівага карабля. Вінт і машына даўно ўжо сталі; карабéль рушыўся пад усьціскам вéрхняй сілы. Ён то занураўся ў глыб сярод аглушаючага грымоту покаючага лёду, які згрудзіўся навокал яго і з злавéшчым трэскам высоўваў напéрад свае шчарбатыя, сіва-бéлыя лапы і пастрашаў зьніштажэньнем; то йзноў выперты на самы вéрх, стаяў, як крэпасьць у аблозе, навокал каторае ў сьціснутым боі браліся разьюшаныя

ледавікі. Выкінуўся карабе́ль урэшце на бе́раг вялізарнае крыгі; павaліўся на бок, як выкінены морам кіт.

Удар быў такі страшны, што матросы павыскакавалі на лёд і з нямым страхам глядзе́лі, што будзе дале́й і толькі сьвісткі афіцэраў і гняўлівая каманда капітана паставіла іх на свае́ ме́сцы.

Аднак, карабе́ль быў уратаваны. Яшчэ не́калькі часу штурмаваў яго лёд, але дарма, бо ня мог ні разьбіць ні перахінуць вялізнае крыгі. Ад трасяніны ён трохі выпрастаўся; а калі вечарам ве́цер сьцішыўся, усё ў адну часінку застыла ў такім палажэньні, у якім застала яго цішыня. Як вокам міргнуць, густая вада, поўная іголак лёду, зьлілася ў адну паласу. Мёртвая цішыня і цямнота сярод бе́лае пары лягла над бе́лым лёдам і ўмёрзшым у ім караблём.

В. Серашэўскі.

---

# Кара-ханым [1]).

## I.

Ахмэтка быў надта галодны. Ён заўсёды хаце́ў е́сьці і заўсёды думаў аб ядзе́. Ня было такога дня, каб мале́нькі башкірскі малайка 2) ня мучыўся ад голаду. Ды і ўсе́ малайкі галадавалі, асабліва ўзімку, калі ўсе́ выраслыя мужчыны выхадзілі з Юсбашавай і карміліся па вёсках, а ў Юсбашавай аставаліся толькі старыя, жонкі і дзе́ці. Ах, якою страшною парою была зіма! У Ахмэткі сьціскалася ад страху мале́нькае дзіцячае сэрца, калі ў паве́тры пачыналі круціцца пе́ршыя зімовыя мухі—сьняжынкі. Ох, ён добра ве́даў, што будзе пасьля. Яму заўсёды здавалася, што зіма—гэта сьме́рць, сьцюдзёная і галодная, калі ўсё заве́ецца глыбокім сьне́гам, калі дзьме́ць сьцюдзёны ве́цер, і калі ваўкі абступалі навокал башкірскую вёску і вылі ўсю ноч. Ваўкі таксама страшна галадавалі ўзімку і вылі з голаду. Ахмэтка часта прыслухаўся да гэтага ваўчынага выцьця, і яму здавалася, што гэта выюць не ваўкі, а галодныя людзі. Яму і самому хаце́лася выць.

Калі Ахмэтцы было надта дрэнна, ён стараўся думаць аб тэй шчасьлівай пары, калі ён будзе вялікім башкірам. О, ён тады будзе рабіць усё тое, што рабіў яго бацька Карагуз. Як толькі налятуць на зямлю бе́лыя мухі, вялікі Ахмэтка выйдзець з Юсбашавай. Няхай старыя, жонкі і малайкі дохнуць з голаду, ён пракорміцца дзе-не́будзь ля расе́йцаў. Добра быць вялікім... А калі прыдзець вясна, ён ве́рнецца ў сваю вёску і будзець грэцца на сонейку, хадзіць па гасьцёх, красьці коні і біць жонку. Усё гэта рабіў яго бацька Карагуз.

---

[1]) Кара-ханым—чорная жанчына.
[2]) Малайка—хлопчык.

Гэтая зіма выдалася Ахмэтцы асабліва цяжкаю. Гэтакага голаду яшчэ ня было. У ле́ташнія гады мужыкі няма-няма, а ўсе́ прыцягнуць зьне́дкуль мукі, або цэлага каня, а сёлета ніхто нічога не прывазіў, бо быў недарод, і па расе́йскіх вёсках таксама быў голад. У хатцы Карагуза, што стаяла з канца вёскі, ня было чаго е́сьці яшчэ з восені, да замаразкаў. Старая бабулька Туктай казала:

— Будзем паміраць... усе́ будзем паміраць.

Кожную вясну ўся вёска толькі й думала аб Джаіку (пе́ршы злодзей у вёсцы), і усе́ казалі:

— Вось прые́дзець Джаік і ўсіх накорміць.

Звычайна Джаік прыяжджаў на крадзеным кані, рэзаў яго і частаваў усю вёску. Джаік быў байгуш, г. е. кутнік: ён быў голы, як бізун, але ён любіў карміць другіх. Украдзе́ць, а ўсё-ткі другіх накорміць. Сёлетняй вясною толькі й гаманілі аб Джаіку. Вось прые́дзець Джаік і ўсіх накорміць. Джаік украдзе́ць каня і ўсіх даволі пачастуець. Ай, як добра пад'е́сьці гарачага махана (вараная каніна), салмы, (макароны з конскім мясам) і бішбармоку (вараная коніна з клёцкамі). Але Джаік вярнуўся без каня. Ён прыйшоў уначы пехатою, хворы і сам галодны. Цэлую зіму ён прасе́дзіў у вастрозе, збыўся з сілы і нічога ня мог дастаць. Спрабаваў па дарозе ўкрасьці каня, але яго злавілі, ababілі і выпусьцілі ле́дзь жывога. Вёска ўзьбядавалася. Апошняя надзе́я прапала. Другія башкіры і ня думалі варочацца дамоў, дый ня было пашто.

Джаік прыйшоў да старой Туктай і сказаў:

— Я паміраю, старая... Лячы мяне́; а вылячыш—я ўкраду трох коняй і ўсіх накармлю.

— Добра, я цябе́ вылячу, Джаік,—адказала бабуля.

Яна кожны дзе́нь расьцірала хворага, паіла яго не́йкімі зёлкамі, а Джаік ляжаў у хатцы Карагуза і толькі стагнаў...

II.

Прыйшла запраўдашняя вясна. Паварочаліся ў Юсбашаву ўсе́ мужчыны башкіры, большасьць пехатою. Вярнуўся і Карагуз. Ён быў такі самы, як і ўсе́, абадраны, галодны і злы і найпе́рш накінуўся на Джаіка.

— Ты чаго тут расьцягнуўся, дармае́д?—ускінуўся Карагуз.

— А я пайду, Карагуз. Мне́ ляпе́й. Прыхадзі на пачастунак...

Джаік зусім ня ве́даў дзе́ і як ён дастанець гэты пачастунак, але калі пасуліў, дык трэба старацца.

Яму пашчасьціла.

Раз ляжыць Джаік ля прызбы і бачыць на вуліцы е́дуць калёсы, а на калёсах сядзіць не́йкая паня. Уся вёска ўшчупянулася. Звычайна ніхто не заяжджаў у гэтую забытую Богам вёску, навет начальства і тое абмінала, а тут е́дуць калёсы, а на калёсах—паня. Малайкі зараз абступілі іх і закрычэлі праразьлівымі галасамі:

— Кара - ханым! Кара - ханым!..

Малайкі яшчэ першы раз убачылі жонку, апранутую ўва ўсё чорнае.

Башкіркі звычайна насілі калёрныя паркалі, або якія стракатыя рызінкі.

Прыежджая паня шукала старасты, і калёсы сталі ля башкірскае хаты без страхі, з адным вакенцам і драўляным комінам. Паня зьдзівілася, што ў старасты ды гэткая хата, а яе возьнік расталкаваў:

— Усе башкіры гэтак жывуць, панечка. Голыя, як бізун.

Яшчэ болей зьдзівілася Кара - ханым, калі даведалася, што ўва ўсей вёсцы няма ні хлеба, ні малака, ні курэй. Усё прышлося прасіць у муллы. Але і башкіры зьдзівіліся ня меней, калі даведаліся, што Кара - ханым прыехала адчыняць тут школу. На што ім школа? А пасьля, чаго гэта здоляе навучыць жонка? У татарскіх школах вучаць муллы. Башкіры доўга гаманілі, крычалі, спрачаліся, урэшце прыйшлі да муллы, каб парадзіцца з ім.

У яе ёсьць папера, — адказаў мулла. — Няхай адчыняець. Толькі прымушаць хадзіць у сваю школу ня мае права. Няхай ходзіць туды той, хто захоча. І вучыць яна будзе адных дзяўчатак.

Кара - ханым пражыла ў Юсбашавай некалькі дзён і абыйшла ўсе башкірскія хаты. Чым бліжэй яна знаёмілася з іх жыцьцём, тым балей дзівілася, як гэта могуць жыць людзі пры такой абставе. Заместа хат стаялі нейкія халупкі, блізка што ўсе бяз стрэхаў, з драўлянымі комінамі і бяз усякіх прыбудовак. Ніякіх гародаў не вялося. Хаты былі пустыя ўсярэдзіне. І апрануты былі башкіры абы як. Галодныя дзеці проста плакаць яе прымушалі сваім канючаньнем аб хлебе, быццам яна папала ў нейкае гаспадарства голаду. Усё, што было пры ёй з еміны, яна параздавала ў першы дзень. Асталася ў яе адна гарбата.

А колькі было хворых па хатах... Кара - ханым хадзіла і нешта запісавала. Жудасная галіта выміраючае башкірскае вёскі зусім яе зьнемарасьціла.

— Якая ім тут школка, панечка, казаў возьнік, каторы глядзеў на башкіраў, грэбліва, як на лянуцькаў і зладзеяў.

— Працаваць ня хочуць, дык, вось і мруць з голаду. Дзяцей, пеўна, шкада, як яны румзаюць галодныя. Але ім ня школа патрэбна, а каб хлеба прывязьці, адзежыны якое.

Кара - ханым думала, што ўсё-ткі школа найпатрабней. Навет няпрыемны выпадак, каторы здарыўся ў часе яе быцьця ў вёсцы, не пераканаў яе. Вось што вышла. Яна пражыла ў Юсбашавай цэлы тыдзень і ўжо сабралася выяжджаць, як да яе прыйшоў Джаік і сказаў:

— Кара-ханым, ты бачыла, як галадуюць башкіры, а заўтра паглядзі, як яны частуюцца... Будзе вясёла. Джаік цэлага каня зарэжаць...

Вучыцелька зацікавілася. Можна астацца на адзін дзень.

Назаутрае, непадалёку ад башкірскага могільніка, гарэла

вялікае вогнішча і ля яго зышліся ўсе́ башкіры з вёскі. Усе́ чакалі чым будзе частаваць Джаік, каторы запрасіў на гэты пачастунак усю вёску. Калі прыйшла Кара-ханым з сваім возьнікам, Джаіка яшчэ ня было, і толькі кіпе́ла вада ў двух катлох

Скора падыйшоў і Джаік. Ён нёс разам з Карагузам мяса вось-вось зарэзанага каня. Чарада башкіраў вохнула. Але́й за паўгода ніхто ня е́ў сьве́жага мяса, а тут цэлы конь. Уся вёска нае́сцца.

— Глядзі, Кара-ханым, хваліўся Джаік.

Вучыцелька была ўве́сь час башкірскай чэсьці. Каніну зварылі ў двух катлох. Гэта быў махан. Як самае смачнае, у канцы падалі конскія кішкі, з конскім лоем усярэдзіне. Але гэты ласонік (ласунак) маглі есьці толькі адны башкіры; ён быў падобны на каўбасу з гуммалістыкавага пажарнага рукава. Вучыцельцы не спадабаўся парадак частаваньня: сьпярша е́лі адны мужчыны-башкіры, тое, што аставалася пасьля іх, е́лі жанкі, і толькі аб‘едкі гэтых аб‘едкаў даставаліся дзяцём. Трэба было паглядзе́ць, як кідаліся на іх малайкі, усё роўна, як галодныя сабакі.

Яны вырывалі кускі адзін у ваднаго, дзёрліся паміж сабою, верашчэлі.

— Ох, і глядзе́ць на іх нудна! бурчэў возьнік, — Пара нам, паня, выяжджаць.

Калі Кара-ханым вярнулася на сваю кватэру, дык даве́далася, што конь возьніка прапаў. Было пе́ўным, што Джаік украў яго і зарэзаў. Вознік надта а надта раззлаваўся і страшыў, што аддасьць пад суд цэлую вёску.

— Казаў-жа я пані... А я яшчэ стаю і гляджу, як яны майго ўласнага каня пякуць. Гэта Джаіка работа. Я з ім судзіцца буду. У вастрог пасаджу...

— Я табе́ заплачу за каня, супакойна адказала вучыцелька. — А хто ўкраў каня, мне́ усё роўна.

## III.

Увосень у Юсбашавай адчынілі школку для дзяўчат. Спачатку паступілі ўсяго дзьве́ дзяўчынкі. А калі Кара-ханым адзе́ла і накарміла іх, дык уся вёска скранулася. Назаўтрае да школы доступу ня было. Адразу было прынята трыццаць дзяўчатак, болей ня было ме́сца. Маткі цягнулі сысуноў і не маглі ўце́міць, чаму іх ня хочуць прыняць у школу. Башкіраняты — хлопчыкі таксама абураліся. Чуць ня вышла бунту. У школу пралё́з-ткі адзін Ахмэтка, каторы ўзяўся насіць ваду, прыбіраць усё і вартаваць школу. Праўду кажучы, ён у пе́ршы дзе́нь прыладзіўся ўкрасьці у Кара-ханым ножніцы, галёшы і парасон; але яна і не паказала, што заце́міла гэта і сказала хлапцу:

— Я не хачу думаць, што гэта ты, Ахмэт, зробіў?

— Не, гэта ня я, Кара-ханым. Гэта зробіў нядобры чалаве́к.

— Ве́дама нядобры... Калі ты можа даве́даешся, хто гэты

благі чалаве́к, дык мне́ нічога аб ім не кажы. Уцэ́міў? [1]). Мне́ будзе няпрые́мна ве́даць, як яго завуць.

Ахмэтка навет ня ве́даў, што яму і думаць аб Кара-ханым. Відаць яна а нічагусенькі ня цэ́міла. Ён цягнуў усё, што пападала ў вочы, і маніў у вочы вучыцельцы бяз усякага сумле́ньня. Раз ён папаўся з крадзенаю рэчаю, але й тады Кара-ханым нічога не сказала яму.

— Яна такая самая сьляпанда, як старая Туктай! рашыў ён. Толькі тая балюча б'е́цца палкай.

І ўся Юсбашава думала блізу што тое самае, да муллы Місая ўлучна. Зусім дурная гэтая Кара-ханым... Толькі вось кормiць дзяўчат і адзяваець. Ляпе́й-бы хлапцоў карміла. Старая Туктай хадзіла паглядзе́ць, што робіцца ў школе і дзівілася. Дзяўчат вучылі чытаць, шыць, плясьці.

— Адкуль ты, Кара-ханым? пыталася старая.

— Я здалеку, бабуля.

— Чаго ты да нас прыйшла. Бе́дных і галодных усюды многа...

— Прыйшла я да вас таму, што другім бе́дным хто-не́будзь ды памагае, а вам ніхто.

Старая Туктай нічога ня цэ́міла. Кара-ханым пасадзіла яе́ за стол і дала ёй гарбаты.

— Ня цэ́міш, бабуля?

— Не, ня цэ́млю...

— Я табе́ расталкую... У мяне́ была вялікая бяда. У мяне́ было двое дзяце́й, і Бог узяў іх да сябе́!

— О... о!... жале́ла старая.—І нашых малаек Бог бярэць.

— Але... Я думала, што бале́й і жыць ня варта, што ляпе́й самой паме́рці. А потым паехала да вас і бачу, што я тут патрэбна. Ах, бабулечка, я памірала; душой памірала і ўваскрэсла. Наш Бог загадавае ўсіх любіць, а любоў—жыцьцё...—Я прасіла ў Бога сьме́рці, а Ён загадаў мне́ жыць...

Бабулька Туктай усё-ткі нічога ня ўцэ́міла. Яна ве́дала толькі свайго Аллаха, каторы шле́ць людзём цяжкое жыцьцё. Мулла Місай добра ве́даець, чаго хочаць Алах.

І ўся вёска таксама ня цэ́міла, чым ёсьць Кара-ханым, і што ёй задумалася вучыць, адзяваць і карміць башкірскіх дзяўчатак. Гаманілі часамі, ці не чараўніца яна,—ніяк не маглі прывыкнуць да яе́ чорнае вопраткі. Але тут ужо заступіўся мулла Місай. Ён чытаў папе́ру, з якой прые́хала Кара-ханым і навет размаўляў аб ёй з самім вураднікам.

Школьны будынак быў дрэнны, і Кара-ханым паставіла новую вялікую школу з комінам з цэглы і з шклянымі вокнамі. Страха была зяле́зная, панадворак быў абгароджан высокім плотам, на панадворку яшчэ былі гаспадарскія будынкі, а за пана-

---

[1]) Зацэ́міць—заўважыць, заме́ціць; прыцэ́міць,—прыкме́ціць, уцэ́міць—зразуме́ць.

дворкам быў адгароджаны вялікі пляц пад гарод. Башкіры кожны дзе́нь хадзілі глядзе́ць на новыя будынкі і дзівіліся.

— Шмат грошай у Кары - ханым,—гутарылі яны паміж сабой.

## IV.

Кара - ханым робіла проста дзівы. Сьпярша, ёй з ме́ста прывялі дзьвюх кароў і трох коняй, а потым яна панакупляла па расе́йскіх вёсках аве́чак, курэй, качак і гусе́й. Гаспадарыў той самы возьнік Маце́й, у каторага башкіры зье́лі каня. Ён са сваёй старой жонкай пераехаў да Кара - ханым. Потым Кара - ханым засадзіла вялікі гарод. Пад яе́ даглядам усю вясну працавалі вучаніцы. У Юсбашавай ніколі ня было ні воднага гароду і башкіры ня ве́далі, што гэта: бульба, цыбуля, капуста, гуркі. Башкіры яшчэ часам, ходзячы па расе́йскіх вёсках, е́лі розную гародніну, а башкіркі дале́й сваё вёскі нідзе́ ня былі.

Дзеля спробы Кара - ханым узяла ў арэнду дзе́сяць дзесяцін зямлі і засе́яла яе́ пшаніцаю, жытам, аўсом, ячмянём і просам. У полі працаваў найболей Маце́й, а ў помач яму Кара - ханым нанімала падростаў—малаек.

— Вялікая з іх карасьць,— бурчэў Маце́й.—Яны накормяць... Самі дык сабе́ і хунта зямлі не ўзаруць.

— Малайкі навучацца й будуць сваю зямлю араць.

Уся Юсбашава цэлае ле́та сачыла за Кара - ханым і ў кане́ц зьдзівіліся, калі ўвосень у яе́ было ўжо ўсё сваё: бале́й за дзесяць ягнят, маладзе́нькая цялушка, з трыццаць маладых курак, гусі, качкі. А з гарода колькі набрала рознае гародніны, а з поля збожжа, аўсу, проса.! Усяга запасу павінна было хапіць школе блізу што на цэлую зіму.

Аб познай восені, як толькі выбеліўся пе́ршы сьняжок, у школу прыйшоў Джаік. Яго й пазнаць было цяжка; худы, зьбяле́лы, ён ле́дзь дзяржаўся на нагах. З паўгода ён прасе́дзіў у турме́ за пакражу каня, а потым яго йзноў білі. Усё няшчасьце было ў тым, што правая рука Джаіка задзеравяне́ла, і ён болей ня мог красьці.

Калі Кара - ханым вышла да яго, Джаік сказаў:

— Кара - ханым, Джаік усё жыцьцё сваё краў... Джаіка ўсё жыцьцё білі... Джаік і твайго каня тады ўкраў... А цяпе́р Джаік паміраець з голаду, вазьмі яго да сябе́ вучыцца. Прыяцеля кожны любіць, а ты не́прыяцеля пажале́й.

Кара - ханым падумала і сказала:

— Я не магу прыняць цябе́ ў школу, Джаік, бо мая школа для дзяўчат. Я цябе́ вазьму вартаўнікам...

Джаік надта ўсьце́шыўся. У яго ніхто ані саломінкі не ўкрадзе́ць. Джаік ве́даець, як крадуць, і нікога блізка не падпусьціць. Джаік сам цяпе́р будзе лавіць злодзеяў. Маце́й пабурчэў, але потым згодзіўся з паняй: ніхто ляпе́й ня ўпілнуе, як былы злодзей. Гэты ўпілнуе. І, запраўды, Джаік ад сэрца ўзяўся за варту і це-

раз тыдзень прывёў за вуха Ахмэтку, каторы з прызвычкі ўкраў паўхунта гарбаты.

— Вось, Кара-ханым, злодзей... Джаік яго ўжо пакараў.

— Я цябе́ не прасіла гэтага, Джаік,—адказала Кара-ханым, і навет засердавала.—Ён яшчэ ня це́міць, што дрэнна робіць. Вырасьцець вялікі, дык уце́міць сам.

Ахмэтка страшна плакаў і навет укусіў за руку Джаіка, а потым прыйшоў увечары да Кара-ханым і сказау:

— Ахмэтка ня будзе бале́й красьці, Кара-ханым... Калі мале́нькі Ахмэтка быў галодны, у ім сядзеў вялікі злы чалаве́к. У Джаіку таксама.

Прайшло тры гады. Школа усё была. Гаспадарка ўжо павялічывалася. Ды і па башкірскіх дварох дзе́-ня-дзе́ можна было заце́міць не́йкую гаспадарку. Там мале́нькі гародчык, там куры, там аве́чкі. Нічога раптам не рабілася, а ўсё паціху. Башкіры ўсё-ткі ня це́мілі, што за чалаве́к Кара-ханым, а бале́й за другіх не разуме́ла старая Туктай. Яна ўжо не магла хадзіць і ляжала ў сваёй хатцы і супакойна чакала сьме́рці. Па начох Туктай блізу што зусім ня спала. Ляжыць і думаець. Думала яна бале́й аб Кара-ханым, каторая прысылала ёй гарбаты, малака і бе́лага хле́ба. Раз, калі Ахмэтка прынёс ёй е́сьці, яна сказала:

— Скажы Кара-ханым, што старая Туктай заўтра памрэць. Няхай прыдзець Кара-ханым. Мне́ трэба з ёй пагутарыць.

Кара-ханым прыйшла ў той самы дзе́нь.

— Кара-ханым, мае́ вочы ўжо ня бачаць цябе́,—загаманіла Туктай, але бачыць цябе́ маё сэрца. Я заўтра памру... прыйдзе пара, і ты памрэш. Што тады будзе́ з тваёй школай?

— Прыдзець другая Кара-ханым і будзець тое самае робіць.

Старая Туктай уце́міла ўсё, і яе́ зацямне́лыя вочы заплакалі. Яна вошчупкам знайшла руку Кара-ханым, прыціснула яе́ да свайго сэрца і сказала:

— Нахініся да мяне, Кара-ханым, я цяпе́р уце́міла ўсё...

Калі Кара-ханым нагнулася, Туктай прашапаце́ла:

— Я цяпе́р ве́даю ўсё, усё. Цябе́ паслаў да нас Алах, Кара-ханым. Таму ты прыйшла да башкіроў, а не да сваіх.

— Бог адзін для ўсіх, бабулечка,—адказала Кара-ханым.

— Не, не... я цяпе́р ве́даю ўсё.

**Мамін Сібірак.**

---

# Пад зямлёю.

(*Серафімовіча*).

Кле́тка з скрыготам толькі што падышла зьнізу. З яе́ вышла двое работнікаў, каторыя спрытна выкацілі вагончык, поўны вугалю.

— Сядайце.

„Кожны дзéнь тысячы людзéй гэтак спушчаюцца“, праляцéла ў мянé ў галавé, я ўлéз у клéтку, сéў на кукярэчкі і сьцісьнуўся ў камок. Да мянé прысунуўся мой таварыш, і мы запалілі сьвéчкі.

— Паны, дзяржэцеся далéй ад сьцяны! — Закрычэў нéхта нахінуўшыся да нас.—Клéтка з бакоў адчынена і йдзéць шчытна па йзрубу; захопіць руку—адарвéць, плячыма прыхіліцеся, з плéч кусок вырвець.

Мы, падцягнулі рукі, ногі і плéчыну, каб быць як магчыма далéй ад праклятых сьцéнак.

— Ну, пара!

Нас падкінула і наўпраціў чаканьня стала падымаць угару. Але клéтка стала, на сэкунду павісла над цёмным правальлем, паляцéла раптам уніз, роўна, не здрыгаючыся. Людзі, балькі, вокны, трубы, усё адразу, быццам яго падхапіла страшная сіла, панясла ўгару і схавалася ў цямноце.

Мнé здалося, быццам я аглох. Раптам нас штурханула, нашая клéтка стукнулася аб нéшта і стала, на глыбі 60 сажняў пад зямлёю. Мы вышлі сьпяшаючыся і з палягчэньнем пачулі пад нагамі цьвярды грунт. Навокал было цёмна і ніяк ня можна было разглéдзіцца. Чарвоныя агні лямпаў дымілі, калыхаліся і не маглі змагчы цéмнь. Людзі быццам вырасталі з цямноты і прападалі, як толькі рабілі нéкалькі крокаў у бок.

Здалеку пачуўся гуд вагончыка, каторы бéг па рэйках. Ён усё зближаўся. Стала чутна, як стукаець капытамі конь, але ў гэтай цéмні а нічагусенькі ня было відаць. Толькі калі па гуку здалося, што вагончык зусім налéз на нас, перад самымі нашымі тварамі паказалася конская морда, потым хрыбéт, а за ёю скрыня на колах. З яé саскакнуў работнік і са сьпéхам пачаў адвязаваць гужы. Нéкалькі чалавéк, што стаялі побач, укацілі вагончык у клéтку.

Штэйгер насьпéх зьбіраў пустыя вагончыкі, якія павінны былі йсьці за вугалём. Мы залéзьлі ў вадзін з вагончыкаў. У ім было, як і ўсюды навокал, брудна, склізка і вільготна. Дно і сьцéны былі ў ліпкім балоце, каторае прыставала да вопраткі, грызла скуру на твары і руках.

— Рушся!

Гэта была нязвычайная падарожа. Мы ня бачылі ні скляпéньня, ні сьцéнаў, толькі чулі роўны стук капытоў. Здавалася быццам мы з гоманам і трэскам таўкліся на адным мéсцы.

— Асьцярожна.!

Мы прыгнуліся. Полымя сьвéчкі ў мянé выцягнулася, на сэкунду пасьвятлéла, і мы ўбачылі над самымі нашымі галавамі робры і выступы камéннага скляпéньня. Каб хоць на паўцалі падняць галаву, дык зьнясло бы чэрап. Колькі часу мы éхалі, — ня вéдаю, але зьняцéйку нашыя вагончыкі са стукам, налазячы адзін на адзін, сталі. Напéрадзе замігцéў чырвоны агоньчык лямпачкі.

— Што гэта?

— Разьмін,—супакойна адказаў штэйгер, падходзячы да нас з лямпачкай на даўгім дроце,—цягнік з вугалём ідзé на сустрэчу.

Мы выходзім, і з вялікай прыéмнасьцю пацягіваемся ўсім цéлам.

— Ці далёка ён яшчэ?—А ня чуваць.—А éхаць нам яшчэ многа?—Ды ўжо поўдарогі зробілі. Цяпéр яшчэ крыху праéдзем, а далéй пехатой ісьці прыдзецца.

Пачалі чакаць. Навокал усё тая самая панурая, маўклівая ймгла. Побач, лéдзь цямціцца [1]) ў цямноце, стаіць бяз руху конь, спусьціўшы галаву. Я чую, як мянé аж да касьцéй праймаюць дрыжыкі. Павéтра усё насыцілася параю. Дый ня дзіва; вада цячэ са сьцéн, зьвéрху, бяжыць тонкімі ручаёчкамі, як з разсохлай бочкі, і яé дзéнь і ноч адкачуюць. Цяпéр толькі я зацéміў, што цéмнь пры агні ня зусім чорная, а аддаéць шыза-сіняватым водценем. Гэта—дым. Яго поўна ўва ўсіх праходах, ён лéзець у нос, у горла, асядаець на лёгкіх. І гэта, ня глéдзячы на тое, што ў каменаломе пастаўлéны вялікай сілы венцілятары; цяга іх чуецца ў павéтры, асабліва ў вузкіх праходах.

— Ня чуваць нéшта,—кажа штэйгер.

Я ня бачу яго твару, але мнé здаéцца, што ён хоча сказаць, што нéшта нядобра. „Можа якая бяда, абвал, чалавéка забіла і ён ляжыць там“.

— А часта тут людзі гінуць?

— Ды лічы, што кожны тыдзень каго-нéбудзь ці прыдушыць, ці заб‘éць, альбо вадою заліéць. Дзён дзéсяць назад аднаму чэрап разьбіла.

Урэшце мы зышлі, штэйгер робіць нéкалькі крокаў у бок і асьвячаець лямпачкай вузкі праход у сьцянé ў палавіну чалавечага росту.

— Нахінайцеся, калі ласка, ніжэй,—кажа штэйгер. — Цяпéр нам трэба пехатой ісьці.

І, сагнуўшыся чуць ня ў два разы, ён ступіў у гэтую хмурную дзіру і скора пайшоў, слаба бліскаючы з-за сябé лямпачкай.

Я таксама сагнуўся і пайшоў за ім, нізка сьпусьціўшы сьвéчку. Унізé заблішчэла вада. Калéні маé чуць не дакраналіся барады, і я ішоў, цяжка дыхаючы.

Доўга мы йшлі гэтак. Сярэдзіна балéла і здаéцца ня можна было балéй умарыцца, як нéдзе напéрадзе пачуўся глухі стук. Скрозь густую цéмнь замігацéлі агні лямпаў.

Скляпéньне зьніжалася ўсё балéй і балéй. Урэшце, штэйгер апусьціўся на калéні і папоўз на руках, і мы таксама, і цераз часіну дапаўзьлі да таго мéсца, дзé выбіраюць вугаль. Вялізны пласт вугалю ў паўтара аршыны таусьціні залёг тут, сьціснуўты зьнізу і згары пародамі каменя. З усіх бакоў слаба сьвятлéлі агні лямпаў, і там а тут цямцéліся скорчаныя хвігуры людзéй, што

---

[1]) Цямцéцца—віднецца.

працавалі моўчкі. Паветра, поўнае гары, дыму, чалавечага поту, было цяжкае, моцна нагрэтае. Стук сякер, шаманьне абсыпаючагася вугалю, частае дыханьне працуючых людзей поўнілі гэтае падзямельле. Усе працавалі моўчкі, бяз гоману і песьняў.

Вязкі, глухі стук разьнёсься ля мяне, і ў той самы міг куча аскробкаў вугалю абсыпала мне твар, балюча разьсякаючы скуру. Я адкінуўся ў бок. Крокі тры ад мяне, работнік падрубаў пласт вугалю каб аддзяліць яго ад нізу. Ён ляжаў на левым баку і з высілкам махаў даўгою сякераю, цяжка здрыгаючыся ўсім сваім целам. Урэшце, прарубаўшы зьнізу даўгую шчэліну, ён сеў, сьпусьцішы галаву, і выцер бруднаю рукою пот. Твару яго я ня мог разгледзіць, але бачыў, як прыліпала да яго цела мокрая ад поту і вады кашуля.

— Зьмітра! — пачуў я блізка, і голас адразу замёр глуха. — Ідзі, ці што?

— Зараз! — пачулася зьнедкуль з цямноты.

Чапляючыся за навісаючую столь, прыпоўз у чорнай і мокрай кашулі дзяцюк, сеў побач, скорчыўшыся, стаў уганяць цяжкім молатам зялезныя кліны паміж стольлю і пластом вугалю, каб аддзяліць вугаль ад каменю. Як бы вяшчуючы што благое, аддаваліся гэтыя ўдары, заганяючы кліны ўсё глыбей у рашчэліну. Я неяк неспакойна чакаў, што будзе.

Раптам дужы грукат і трэск затрос падзямельлем. Нешта цяжкое і нязграбнае перавярнулася. Усё закалыхалася, быццам зьбіралася рухацца. На тым месцы, дзе капаўся работнік, чарнела глыбокая пустата, і перад ёю ляжаў пласт вугалю ў некалькі сот пудоў вагаю.

— Іншы раз, як валіць пласт, — прагукаў, папраўляючы кнот у сваёй лямпе, зарубшчык. — Верхні пласт лопнець, асядзець, падпоркі разьнясець у трэскі, усю выемку з усім народам і пакрыець. А што, пан, напалохаліся? — дадаў ён і ўсьмяхнуўся. — Мы, што ўжо прывыклі, а часам жуда бярэць.

Ён забраў кайло і лямпу, папоўз далей, лёг на бок і йзноў пачаў забіваць шчаліну. Да адбойшчыка падпоўз, цягнучы за сабою санкі, новы работнік, і яны разам, моўчкі сталі накладаць вялізныя кускі вугалю.

Адзін работнік, надзеў лямец, паправіў яго на грудзёх, потым стаў на рукі і, падагнуўшы галаву, з цэлай сілы пацягнуў вяроўку. Але нялёгка было скрануць з месца цяжкія санкі. Рукі і ногі коўзаліся па мокрай падлодзе. Ён чапляўся за што папала, шукаючы дзе-б можна было ўпёрціся і торгаўся то ў вадзін, то ў другі бок, як конь, каторы ня можа пацягнуць цяжкі воз.

Цераз некалькі часін мы ізноў ішлі, нагнуўшыся, назад. Мы паварочавалі некуды ўправа, потым улева, стукаліся галовамі, хлёпалі па вадзе, і я ня ведаў, скуль і куды мы йдзём, і дзе выхад.

Доўга йшлі мы гэтак; пеўна зробілі некалькі вёрстаў.

— Можа хочаце паглядзе́ць конскія стайні? папытаўся штэйгер.

— Трэба паглядзе́ць.

Штэйгер адчыніў у сьцяне́ невялікія дзьве́ры. Нас адразу абдало гарачым духам гною і конскага поту. Мы ўвайшлі.

Блізка што 70 коняй стаялі ў стойлах. Іх было слаба відаць у цямноце. Іх тут надта добра кормяць і ня мораць працай, але большасьць з іх сьляпыя. Коні скора трацяць зрок у цямноце. Я прыслухаўся: яны роўна, дужа жвалі се́на, і я прыпомніў поле, зару ўве́чары, распрэжаны воз ля дарогі. Бе́дныя коні! Яны ніколі ўжо ня ўгле́дзяць сонца, зяле́ніва, стэпаў і паложаць сваé косьці ў гэтых змрочных падзяме́льлях.

Мы вышлі на ме́сца падымку. Падышла кле́тка. Усе́ се́лі і скора пляцок з людзьмі і ўсім, што на ім было, як га прапала ўнізе́, а мы часіны са дзьве́ прабылі ў поўнай цямноце, быццам ня рушаліся. Са скрыготам і гудам стукнулася кле́тка аб перакладзіны, і мы вышлі на сьве́т Божы.

М. Серафімовіч.

# На Каўказе.

Ад Зялезнаводзку да Кіславодзку, як кажуць, вёрстаў шэсьцьдзесят. Тымчасам, калі сярод высокіх гораў дождж і сьцюжа, там у К. зьзяець яркае сонца, курортная публіка гуляе ў лёгкіх ле́тніх вопратках. Ужо на паловіне дарогі, за Пяцігорскам, значна сьвятле́й і цяпле́й; адтуль відаць у бок К. далёкі сьве́тлы край не́ба, сіне-залаты, пагодлівы. Скрозь таўстую, запыленую шыбу вагона дзіўлюся, як мільгаюць бе́лыя мазанкі, плятні вінаграднікаў. Ад высокіх закурэлых комінаў цэмэнтнага заводу цягнік крута загібае ў ле́вы бок, адкуль выплывае харошае ме́ста Пяцігорск, раскіданае ў глыбокай лагчыне, па бакох шумнай горнай рэчкі сярод пяцёх гор. Па шырокай вуліцы, па чорных засохлых камкох гразі варушыцца даўгі абоз; пара за параю дыбаюць сівыя, крутарогія валы, цягнучы даўгія, вузкія драбіны з чалаве́чай хвігурай пад вялізарным, абвіслым брылём [1]). Па гэтай вуліцы, па ліпкай гразі, у сьве́жае, яшчэ цемнаватае раньне, ці па е́дкаму пылу пад сьпякотай, маршыраваў не́калі са сваймі салдатамі вялікі паэта, крычэў тут з тугою: напра-ва! нале-ва! рады-ы ўздвой! У тутэйшым сквэру ўдзячныя, хаця-ж і ня знаючыя ве́ршаў яго, патомкі паставілі яму нязграбны памятнік: на камяні, у задумнай нібы-то позе, сядзіць, рукою падпёршыся, афіцэр з калмыцкім тварам і валавокім поглядам. Ён павінен глядзе́ць ў той бок, дзе́ ў ясную пагоду за больш сотні кілёмэтраў блішчыць у не́бе срэбрам дзіўная, райскага хараства, гара над гарамі Эльбрус. Такое найме́ньне далі ёй за яе́ дзьве́ макаўкі; у перакладзе з тузе́мнага

[1]) Брыль—капялюш.

яно знача—„Дзявоцкія грудзі“. Улéва ад яé цягнецца галоўная хрыбціна гораў, бéлая, як крыгі сьнéгу, срэбраная, сярод срэбрана-сініх вобалакаў. Як іншы сьвéт відаць у далёкім нéбе.

Прыéхаўшы ў К., мы пайшлі цераз парк, харошы нязвычайна восенным сумам і адміраючаю, маркотнаю красою. Узьлéзлі за мéстам і паркам на Чырвонае Камéньне і сéлі.

Прыгожае вокала было перад вачмі. Выяўце сабé засохлы калюжысты шлях, неналаджаны пасьля вялікага дождджу. Цуркі бéглі ў розныя бакі і прамылі вузкія і глыбокія равочкі, што цяпéр абрасьлі ўжо мураўкаю. Павялічце гэтую частку шляху ў міліёны разоў: пабачце ў калюгах горад з бéлымі і чырвонымі стрэхамі; замéста мураўкі лічыце чорны лéс,—і тое вялізарнае, чароўнае вокала будзе перад вамі.

М. Гарэцкі

---

# Беларусы на Амуры.

Прышлося мнé ў 1910 годзе пабываць сярод беларусоў, якія шукаючы куска хлéба, заéхалі аж на Амур. Хоць сьпярша цяжка было ім, але цяпéр разжыліся крыху, дык толькі туга па роднай вёсцы і старонцы часам заядае,—а так, нішто.

Вёска Рагачоўка знаходзіцца за 135 вёрст ад губэрскага мéста Благавéшчанска. Недалёка ад гэтай вёскі плывé вялікая рака Зéя, лéдзь не такая, як і Амур. Гэта рака і, ўцякаючая ў яé, рэчка Галубая многа памаглі рагачоўскім сялянам падняцца на ногі і крыху разбагацéць. Кожнае лéта сплаўляюць яны ў мéста дрэва і смалу, якую ўзімку самі гоняць. Прывыклі яны ўжо і да клімату сыбірскага і да сыбірскае гаспадаркі. Зямля тут добрая, узгоркаватая, дзеля гэтага збожжа ня так вымярзае. Сéюць балéй за ўсё пшаніцу. Жыта і ўсялякая другая азіміна вымярзаюць, бо сьнéгу ў Амурскім краю бывае зусім мала, а маразы ўзімку вялікія.

Нашыя беларусы, éдучы на Амур, пакінулі ў роднай старонцы свае драўляныя сохі, а тут купляюць амэрыканскія зялéзныя плугі. Чуць ня ў кожнага гаспадара ёсьць свая машына, жачка, бо сярпом сам многа не сажнéш, а наняць няма каго: кожны мае ў волю зямлі і кожын хоча працаваць сам для сябé.

Сяляне ў Рагачоўцы—каталікі. Маюць яны ў сваёй вёсцы драўляную капліцу, у каторай можа стоўпіцца 300—400 чалавéк. Бéдная гэта капліца! Звон вісіць на дрэве, а ў сярэдзіне, апрача часовага аўтара, нічога няма.

Недалёка ад Рагачоўкі ёсьць другая беларуская вёска—Сярэбранка. Як у Рагачоўцы, так і ў Сярэбранцы сяляне—магілéўцы, з аднаé вёскі Рудні, Гомельскага павету. Сярэбранцы прыéхалі на 5 гадоў пазьнéй за Рагачоўцаў, а к таму да Рагачоўкі ім усяго толькі 8 вёрст, дык на дзьвé вёскі завёўся толькі адзін шынкар, але на шчасьце шынкар за паўгода прадаў усяго толькі 5 вёдраў

гарэлкі і, бачачы, што з торгу ня толькі ня выплаціць сялянам арэнды, але і сам не патрапіць пражыць, зачыніў шынок і больш, здаецца, ніколі ня вернецца.

Тут, у гэтай вёсцы Сярэбранцы, давялося мне пачуць, як сяляне, сабраўшыся ў чыстую і прасторную хату, пялі пабеларуску „Ах, мой Божа, веру табе...“

Усе, старыя і малыя, мужчыны і жанчыны, хлапцы й дзяўчаты пялі гэтую песьню напамяць і дужа складна,—выдавалася, што песьня гэта выходзіць з адных грудзей...

**А.**

---

# Індыя ў няволі.

Індыя—гэта край, каторы ляжыць на самым паўдзённым беразе Азіі. Старонка гэта багатая, з даўных часоў вядомая ўсяму сьвету. У Індыі ёсьць самыя багатыя капальні дарагіх камянёў; зямля дае вялізарныя ўраджаі ўсякае збажыны.

Даўней індусы былі народам, або, ляпей, народамі незалежнымі, мелі сваіх князёў і сваё незалежнае палітычнае жыцьцё, але багацьці краю прынаджавалі з даўных часоў іншыя гаспадарствы, і троху-патроху Англія патрапіла заваладаць Індыяй. Даўгія гады ангельцы былі благімі гаспадарамі ў Індыі: глядзелі, каб толькі як мага балей зьдзерці падаткаў, а аб народзе, які дабываў гэтае багацьце, мала рупіліся. І вось за сотню блізка гадоў сваё грабежнае гаспадаркі ангельцы давялі індускі народ да апошняе галіты. З гэтай прычыны ў 1857 годзе індусы ўзбунтаваліся. Паўстаньне было страшэннае, народ кідаўся на пэўную сьмерць, абы толькі не цярпець яшчэ страшнейшага жыцьця. Тады ангельскі ўрад уцеміў, што так далей гаспадарыць няможна, і зрабіў шмат дробных рэформаў (перамен). Гэта народ супакоіла. І пераз 50 гадоў усё йшло гладка й добра. Але некалькі гадоў таму назад пачаўся ў Індыі нацыянальны рух. Зьявіліся патрыоты, кяторыя пачалі жадаць балей правоў для свайго загнанага народу.

Як усе народы Азіі (прыклад, японцы—і іншыя), так і Індыя наладжавае ўсё жыцьцё сваё на новы лад. Паміж народам шырацца новыя думкі. Даўгое паднявольнае жыцьцё абрыдла індусам, і яны, яшчэ нядаўна жадаўшыя аўтаноміі (самаўпраўленьня) пад уладай Англіі, цяпер хочуць здабыць сабе поўную незалежнасьць.

Каб змагчы ангельцаў, індускія правадыры навучаюць сваё грамадзянства ня купляць ангельскіх тавараў, рабіць агульныя забастоўкі, усякім спосабам шкодзіць прадстаўнікам ангельскага панаваньня і г. д.

Народ так і робіць.

За гэта ангельскі ўрад цяжка ўсіх карае, рэдактароў інду-

скіх газэт і грамадзкіх працаўнікоў садзіць у турмы і ссылае ў ссылку. Але цяпе́р ужо гэта не памагае.

Уся Індыя пры цяпе́рашніх варунках—гэта край аднаé беднаты. Англе́льскі ўрад рупіцца толькі, каб удзе́ржыць парадак і аўторытэт закону, але грамадзяне пры гэтым парадку ды пры вялікіх падатках паміраюць з голаду. Усюды можна спаткаць грамады людзе́й, голых і высахшых з голаду, якія чакаюць сьме́рці дзе-не́будзь пад плотам ці каля бітае і харошае дарогі, пабудаванае за вялікія грошы на кошт гэтае самая гале́чы, не папытаўшыся ў яе́.

І. Буда.

---

# Прырода Заходняе Эўропы.

Нідзé на ўсёй зямной кулі няма гэткага вілаватага, парэзанага затокамі марскога бе́рагу, як у Заходняй Эўропе; нідзé так ня кідаюцца ў вочы, як тут сьляды ўпорнай шматгодняй барацьбы мора з мацярыком; яно тут ахопляваець сушу з трох бакоў, сваймі валамі вырэзаваець берагі, прамываець нізіны, адрываець кускі сушы ад мацярыка, робіць узьбярэжныя астравы, урываецца ў мацярык вялікімі і малымі затокамі; а мацярык у свой чарод, быццам з высілкам, падымаецца горнымі хрыбцінамі, урэзаваецца ў мора скалістымі мысамі, аб уцёсы каторых тысячы гадоў разьбіваюцца пе́наю марскія валы. Нідзé горы, даліны і марскія берагі ня злучаліся так карысна для чалаве́ка, як у Заходняй Эўропе. Мора дзе́ліць яé на не́калькі вялікіх паўастравоў, на поўначы грэець яé сваймі цёплымі це́чамі, на паўдні бароніць ад палючае афрыканскае сьпякоты. Горныя хрыбціны, што йдуць па ёй удаўжкі і ўшыркі дзе́ляць яé на не́калькі абласьцяў. Роўнядзі і даліны, адгароджаныя горамі ад сьцюдзёных вятроў, багаты рознымі расьцінамі. Горы заўсёды памагалі жыхаром Заходняе Эўропы бараніцца ад ворагаў; мора, каторае ніколі не замярзаець, памагала зносінам розных народаў паміж сабою.

І няма чаму дзівіцца, што ў Заходняй Эўропе багатыя староны рана насяліліся, што там рана паскладаліся розныя гаспадарствы, вырасьлі багатыя ме́сты, разьвілася прамысловасьць, мораплаваньне, адукованасьць і мастацтва.

Сіпоўскі.

---

# З дарогі.

Стукае машына; калышацца вагон; е́ду ў чацьве́ртай клясе пераз Няме́ччыну. У вагоне публіка—усё не́мцы: работнікі, дробныя мяшчане, адзе́ты чыста, гукаюць ціха, зважна, ня кураць. На ўсе́нек вагон толькі дзьвé лаўкі стаяць ля сьце́н, а так вагон уве́сь пусты; публіка стаіць, або сядзіць на сваіх багажох. Цягнік

(поезд) у тры разы шыбчэй ляціць, чым у нас. На станцыях задзе́ржуецца на часіну, пасажыры ле́дзь пасьпе́юць ускочыць у вагоны, а машына ўжо дале́й прэцца, як разгуляны ве́цер у полі.

Пераз вакно відно няме́цкія вёскі і поле. Божа, што за лад!— завідна шэпчаш да сябе́ чалаве́к: ува ўсіх вёсках брукаваныя вуліцы, дамы харошыя, сады чысьценькія, гародчыкі ўробленыя і нідзе́ ля хаты ні дрыврвотні ня відно, ні лужы пры карыце і навакол уве́сь панадворак градкамі абкопаны; на градках—засе́яны краскі, засаджана варыва, і пераз панадворак толькі бягуць вузенькія сьце́жкі.

Дзе́ткі чыстыя, адзе́ты, абуты ідуць у школу.

Дарогі, дарожкі ўсе́ шашэйны, на іх масты зяле́зныя, з абодвух бакоў абсаджаны ігрушамі, яблынамі, сліўкамі. Ніхто там гальля не ламае, садовіны ня йрве. Праўду сказаць, закон няме́цкі добра сьцеражэ гэтых дрэваў: прыкладам, падарожны, ідучы, можа зье́сьці колькі хоча, але няхай толькі спрабуе хоць адзін яблык палажыць у кішэнь, зараз заплаціць вялікую кару, або сядзе ў арэшце.

Нідзе́, е́дучы пераз Няме́ччыну, ня ўгле́дзіш жывёлы на полі. Усюды сенажаць упагноена і густой шчоткай высыпаецца трава. Не́мец, заміж нашых трох кароў, дзяржыць толькі адну; затое круглы год корміць яе́ ў брод гатовым кормам. Хле́ўчык сьве́тлы, чысты, на падлозе, праве́траны. Жывёла шчоткай вычасана і— такая кароўка дае́ ў тры разы бале́й малака.

---

Зачыняю змучаныя вочы і бягу думкай у родну старонку да вас, кароўкі нашыя палаве́нькія, замучаныя голадам...

Кажуць людзі, што адзін раз у год, на куцьцю, ў дванаццаць гадзін уначы жывёла гаманіць людзкім языком.—Гаспадарыку, суседзе, пайдзі да хле́ва і паслухай, што табе́ твае́ кароўкі скажуць.

## З Няме́ччыны.

Хоць доктар забараніў задзе́ржавацца на дарозе, казаў проста е́хаць на мора, але я ня вытрывала, каб не паглядзе́ць на горад Дрэзна. Вельмі харошы горад ля ракі Эльбы.

Суботні ве́чар перад урачыстым сьвятам. Званы гудзяць. Кірхі стаяць побач з касьцёламі. Іду на пляц тэатральны: з аднаго боку—каралеўская катэдра, уся прыбрана разьбой, з другога— вельмі харошая будоўля тэатра і з трэцяга—вялізны палац „Цвінгер“—музэй.

Заўтра пайду туды глядзе́ць Сыкстынскую Мадонну. Сядаю на лаўцы, гляджу на творы рук людзкіх. На душы стае́ сумна і радасна, надзе́я жыцьця змагаецца з страхам сьме́рці. Не́ба чыстае, па ім плывуць стады бе́лых аве́ц—вобалакаў, такія самыя, як калісь, калі я мале́нькай дзяўчынкай была і гусі ганяла ў поле, ня ве́даючы яшчэ нічога аб сьме́рці.

Думкі сілай цінснуцца да галавы: „Жыць, жыць!“ „Памрэш— нейкі жалосна слабы голас адказавае з хворых грудзей.

Ах, чаму я ведаю аб сваёй хваробе! Варта было мучыцца, дабівацца, вучыцца, каб цяпер сьвядома ўміраць. Ха, ха, ха...

Старая маці ўбіваецца, прадучы кудзельку, як неасьвечаная прастацкая думка, навет ня можа абхабіць тае далі, на каторай цяпер плача дачка адыначка; але беднае, старое сэрца чуе, і пеўна так сама плача.

О, мамачка, чуе твая душа, справядліва, як калісьці чула, калі я была сьмяротна галодна, і ты мне зашывала залатоўку ў цьвікель сарочкі, каб паслаць пераз людзей, што ішлі у Кальварыю.

. . . . . . . .

Мамачка, павароту не... Сьмерць блізка...

## Нядзеля 10 гадз.

Мамка, ужо маё сэрца чуе, што ты супакоішся. Я ўжо абышла берагі Эльбы і цяпер пайду ў музэй глядзець на ўвесь сьвет слаўныя абразы.

Музэй яшчэ зачынены, народу шмат. Усе, як відно, мяйсцовыя, чужынцоў мала.

Культура!! Тут работнік часьць свайго сьяточнага дня праводзе, гледзячы на несьмяротныя творы.

Работніку, і ты, кожын просты чалавеча! У сэрцы тваім крыецца доля сусьветнага змаганьня—яна гэта і творыць хараство жыцьця, з яе то і родзяцца у суме сусьветныя геніі людзкасьці.

Музэй адчынілі, народ рассыпаўся па залі і, абвіслая целам, нейкая клустая жанчына, учапіўшыся за падпаху высокаму мушчыне—арыстакрату, голасна крытыкуе маляванкі. Дзьве паджарыя французіцы шпарка абягаюць залі, здаецца, быццам яны іх абнюхаваюць—выляцяць пасьля на вуліцу, забалбочуць... ніякае вялікае творства ня ў сілах задзяржаць гэтых жвавых малодумных у сваім жыцьцявым бегу жывёлін. Калматы абарваны ў кутку сядзіць малады хлапец і ніто булгар, ніто якое іншае, нацыі вачыма ўпіўся у тыцыянаўскага „Фарысея“. Расказала-б, апісала-б гэты абраз, каб льга было словам абняць той прастор у ім векавога дабра і зла.

Душа мая яго цеміць, але вусны ня ў сілах выказаць, толькі родзіцца думка:

— Бачу, як абквечанымі палямі, у далёкім часе ідзе малы хлопчык—дзіця. За сінім небам ад нізін зямлі зьбіраюцца хмары... гром у патайне грыміць. Дзіця адно ў полі... Страшная бура, ідзе, зьбліжаецца... з дзіцяці вырастае чалавек—волат аж пад самае неба...

Гэта самая думка... а абраз зусім іншы.

Сыкстынская Мадонна маляванка—абраз сусьветнае славы, для маей душы ня мае чароўнага слова. Яшчэ калісь, як была я ў Рыме, каля твораў Рафаэля прайшла з сэрцам супакойным,

за тое перад Анджэло Буонароті і Леонардо да Вінчі аняме́ла ўсімі сваймі чуцьцямі, думкамі скле́пілася і стаяла гадзінамі акамяне́лая з дзіва...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзікія горы, скалы, кручы, пропасьці: птушку кінуць—здае́цца не даляце́ла-б, забілася-б; а машына ляціць берагам гор—то ўскакавае, то выскакавае з тунэляў, глуха скрыгіча, віхры гудзяць у пасіве́ўшых мохам тхланях. Паразрываныя хмары таўкуцца на не́бе; сьцюдзена і людзі несупакойна сядзяць на лаўках, зараз будзе тунэль Сэнготарскі, найдаўжэйшы на сьве́це. Розумам ніхто не баіцца пераз гэты тунэль е́хаць, аднак чуцьцём, як і я, так і другія бачаць перад сабою ў сваіх думках высокую дзікую сьцяну, пакрытых ве́чным сьне́гам Альп; а за гадзіну, ці за дзьве́, наш цягнік, як рабак, упаўзе́ у не́тра гэтых сьнегавых гор і выйдзе толькі з другога боку Альпаў, дзе́ зусім іншы характар краю; кажуць, што там ужо гарачыня, цытрыны сьпе́юць, мігдалы цьвітуць, а з гэтага боку пуста, дзіка, глуха, ле́дзь пачынаецца кане́ц зімы.

Мы ўжо ў тунэлі, электрычнасьць гарыць; тук-тук машына стукае востра, ірве́ шпарка, во-во здае́цца, калі ня вырвецца ў гэту часіну на прастор, то разарве́цца на кускі, разьляціцца, задушыцца.

Часьць пары пранікае ў вагон; блядыя твары пасажыраў у мутным сьвятле́ двояцца; людзі глядзяць, па сабе́ стараюцца адзін у ваднаго адгадаць думкі. „Гг-ух гг-ух“ уздыхнула лякаматыва, знаць ужо вырвалася на волю.

Праляце́лі Альпы; баюся адчыніць вочы: людзі, а як гэта усё казкі, мана, што вы мне казалі... а я—хворая, сухотніца, адна ў маткі, мне́ патрэбна цяпло.., мора... Страшна...

**Трыест.**

Мамачка, хачу не́шта табе́ сказаць, але не паве́рыш так адразу пасьля маіх лістоў, дай хіба вушка: мамачка, нідзе́ так ні хораша, як у нас. Прыкладам, калі сядзім мы з табою на нашым прыгорачку ў даліне, ля рэчкі, бягуць загоны сівога аўсу;— уздоўж ручаю ляжыць палоска бе́ла-рожавае грачыхі і ніжэй вусаты ячме́нь упіраецца пазалаце́ўшымі загонамі ў канюшыну. Або як паша сінімі краскамі кідаецца на сонцы. Чарвоныя шчаўі бягуць ме́жамі. Мядункі, смалянкі, іскры гудзяць пчолкамі; купальскае зе́льлечка навокал пахне, сіняя мацердушка ў купінах крые сваé ле́кі; сардэчнікі чырвонымі ніткамі пераскакуюць ручайкі, а васількі ў нашым жыце!

Тут накшая краса, там накшая, а ў нас, мамачка, яшчэ накшая—свая мясцовая.

**Цётка.**

———

# Парцэляна.

Дзьве́сьце гадоў таму назад жыў у Саксоніі здольны хімік Бэтгер.

Адзін раз ён жартаваў у вясёлай кампаніі, што можаць алавяны гузік перарабіць на сярэбраны ці на залаты. Цяпе́р бы людзі ўуце́мілі, што ён жартуець і высьмяялі-бы яго. Але тыя паве́рылі яму і сказалі аб яго словах эле́ктару Яхіму, каторы ў той час быў гаспадаром у Саксоніі. Той загадаў папрасіць да сябе́ хіміка.

— Чуў—сказаў ён—што, ты чалаве́к вучоны і сваю адумысловасьць добра ве́даеш.

Бэтге́р усьце́шыўся, чуючы гэтакую хвалу ад эле́ктара, і пакланіўся нізка і ве́тла.

— Кажуць яшчэ—казаў дале́й уладар — што ты ўме́еш рабіць золата.

— Не, пане, адказаў Бэтгер,—гэтага ня ўме́ю; гэтага ніхто з людзе́й ня ўме́е. Золата гэта коў, каторы выпрабляе сама прырода, які захован у зямлі сярод граніта і скалаў; рабіць яго не́льга.

— Але-ж ты сам нядаўно расказаваў уве́чары сваім прыяцелям, што ўме́еш рабіць золата, сам хваліўся.

— Я толькі жартаваў, найясьне́йшы пане! — адказаў Бэтгер.

Але эле́ктор, які жадаў ме́ць у сваіх руках чалаве́ка, што ўме́е рабіць блізка што з нічога гэтакі дарагі коў, ня так лёгка хаце́ў адмовіцца ад думкі зрабіцца найбагаце́йшым у сьве́це гаспадаром.

— Мой даражэнькі,—сказаў ён—я бачу, што ты сваю ве́ду хочаш сабе́ задзяржаць, каб для са́мога сябе́ золата рабіць. Але аблічыўся: я твой пан і ўладар і тое, што ты ве́даеш, таксама маё.

Зараз-жа замкнулі Бэтгера ў ве́жы, дзе́ былі пастаўлены розныя пе́чы для плаўле́ньня, рэторты, рознае судзьдзё, і князь яму сказаў, што ён ня выйдзе адтуль, пакуль ня зробіць золата.

Хімік быў у безнадзе́яньні, бо добра ве́даў, што золата ня зробіць, і думаў, што да канца жыцьця яму прыдзе́цца прасе́дзіць у няволі.

Што дзе́нь прыхадзіў эле́ктар і пытаўся:

— Што, ужо надумаўся, ужо вырабіў золата?

Дарма небарака валіўся яму ў ногі і бажыўся, што гэта немагчыма.

Князь не хаце́ў яму ве́рыць і дзяржаў у няволі.

Каб ня так нудзіцца, а разам, каб і скарыстаць з сваé няволі для вучонае працы, Бэтгер рабіў усякія пробы ў няволі.

Варыў і ператапляў разныя масы, аж нарэшце ў яго вышла бе́лая, харошая, на палавіну прасьве́тная маса. Ён папрасіў гукнуць эле́ктара. Той прыбе́г, вясёлы, бо думаў, што хімік, занудзіўшыся ў няволі, выкажаць яму, як рабіць золата.

— Найясьне́йшы пане! — аказаўся Бэтгер да князя—ня выш-

ла, праўда, золата, але вось маеш не́шта добрае, ад чаго твой край забагаце́ець.— І паказаў яму кусок парцэляны.

Электар, здаволены, што не́шта дарагое будзе ме́ць у сваіх руках, выпусьціў хіміка на волю і скора была пабудавана пе́ршая хвабрыка парцэляны ў Мэйсене. Тады яшчэ парцэлянавае судзьдзе было вельмі дарагое, і толькі багатыя людзі маглі яго ме́ць; цяпе́р няма такога дома, дзе́ ня было-б тале́ркі, хоць з благога гатунку парцэляны, або фаянсу.

Шмат часу ране́й за Бэтгера, кітайцы ўме́лі вырабляць парцэляну і ўме́лі маляваць яе́ ў розныя колеры. Кітайская парцэляна і пяпе́р яшчэ лічыцца надта дарагім судзьдзём, якое ня ўсюды сустрэнем.

Каб вырабіць ле́пшы гатунак парцэляны, патрэбна дарагая парцэлянавая глінка, якое ня так і многа знаходзіцца ў граніце, або ў іншых скалах; ме́люць яе́ мягка, мяшаюць з гіпсам, а потым то рукамі, то на ганчарным станку вырабляюць судзьдзё.

Потым яго сушаць на лёгкім паве́тры і яшчэ перапалююць у парцэлянавых пе́чках на вольным агні. Дале́й апускаюць у жыдкую, надта мягка зьме́леную парцэлянавую масу, і яшчэ раз на самым гарачым агні перапалююць. Ад гэтага выходзіць паліва, катарае дадае́ць парцэляне харошы бле́ск і прасьве́тнасць. Найле́пшы гатунак парцэляны, гэта тая, каторая, калі ёю стукнуць аб сталь, дае́ іскры

---

# Мора.

Мора пе́ніцца і зьліцца [1]),
Нясупынна коціць валы,
Быццам з злосьцю хоча ўпіцца
Сілай моцнай сваёй ў скалы,
Каб зьвярнуць усе́ цьвярдыні,
Ды разьбіць усе́ прашкоды,
Ды разьліўшысь на раўніне,
Ўраз здаволіцца свабодай.
Але моцна стаяць скалы, —
Адбіваюць усе́ напоры
Буйных хваляў й дзікіх валаў,
Што іграе імі мора.

**Цішка Гартны.**

---

# Губка.

Губка да таго дзіўная жывёла, што яе́ даўгі час лічылі расьцінаю; яшчэ й цяпе́р у ёй прыце́мляваюць [2]) падобнасьць з рась-

---

[1]) Русыцызм,—пабеларуску—злуе́цца.
[2]) Прыкмячаць.

цінаю. Калі яе́ адарваць ад марскога дна, яна пасоўваецца сама па сабе́, што можа робіць толькі жывёла. Апрача таго, калі спаліць кусок губкі, то мы пачуем пах паленае косткі ці воласу, чаго ніколі ня бывае, калі гарыць расьціна.

Зьяўляюцца губкі на сьве́т Божы гэткім спосабам: увясну, уле́тку і з пачатку восені на старой губцы зьяўляюцца круглыя вурганкі. Патроху яны пакрываюцца сьлізьзю, па каторай разьсе́яны мале́нькія валасочкі ці, як іх называюць паве́ялкі або ве́йкі. Нараджоныя губачкі, здае́цца, толькі таго й чакалі: зараз-жа яны аддзяляюцца ад матчынага це́ла, і, скоранька шаволячы ве́йкам, плывуць у мора. Гэтак плаваюць яны ад 2 да 8 дзён; потым яны прычапляюцца да якое-не́будзь падводнае скалы, скідаюць з сябе́ ве́рхнюю скурачку, пакрытую валасочкамі, растуць і самі ўжо разводяць сям'ю.

Увясну, уле́тку і з пачатку восені—у цёплую пару году наванароджаным губкам жыве́цца лёгка. Але ў канцы восені чулая скурачка маладзе́нькае губкі, каторая дзяржыцца за це́ла маткі, ня можа абараніць яе́ ад сьцюдзёнае марское вады.

Схавацца куды-не́будзь у цяпле́йшае ме́сца ім няма як, бо самі яны яшчэ ня могуць перасоўвацца, матка таксама ня мае магчымасьці іх абараніць, і яны напе́ўна, памёрлі-б, каб другая маці - прырода не заапекавалася імі. Губкі, што радзяцца ў канцы восені, пакрываюцца ўжо на сьлізяй, а моцнаю рагавою скаралушчаю, падобнай да панцыра.

У ёй яны спакойна чакаюць вясны і тады ўжо пачынаюць сваё новае жыцьцё.

Чым-жа жывіцца губка? — А вось як! У кожнай губцы можна прыце́міць шмат дробных равочкаў ці трубачак, якія праходзяць пераз це́ла губкі па ўсіх кірунках. Апрача таго, у ёй ёсьць яшчэ адна вялікая трубачка. Адзін раз у ваду, дзе́ была жывая губка, кінулі не́калькі кусочкаў карміну (хварбы)—і што-ж угле́дзілі? Крупкі гэтае хварбы ўваходзілі ў вузенькія равочкі губкі, прахаджаваліся па ўсіх частках яе́ це́ла, а потым выходзілі адтуль цераз вялікую трубачку, але ўжо былі другога колеру.

Напе́ўне такім самым спосабам губка ўбірае ў сябе́ пажыву, каторую знаходзіць у марской вадзе́. Вада ў губцы перасоўваецца,—хоць сама жывёла на выгляд спакойна,—дзеля таго, што сьце́нкі трубачак пакрыты ве́йкамі, як це́ла execution нованароджанае губкі; гэтыя ве́йкі шаволяцца і гоняць ваду куды трэба.

Але тое, што мы называем губкай, ня ёсьць самая жывёла, а толькі шке́лет яе́. Сама жывёла—гэта сьлізь, каторае з усіх бакоў акружае губку, пакуль яна жыве́ ў вадзе́. Вучоныя называюць гэткую жывую сьлізь с а р к о д а ю.

Губкі жывуць блізка што ўва ўсіх морах, але часьце́й за усё на вялікай глыбіні. Там яны моцна прырастаюць да скалаў і трэба шмат сілы і вёрткасьці, каб іх знаходзіць. Гэтым займаюцца найбале́й арабы і грэкі, дзеля таго што самыя ле́пшыя губкі знаходзяцца ля берагоў Грэцыі і Малое-Азіі. У чэрвені ме́-

сяцы е́дуць лаўцы на мале́нькіх чаўнох досыць далёка ў мора. Каб можна было прыцеміць на дне́ мора губкі, выбіраюць пагоду, кад вада ў моры была супакойная і прасьве́тная. На ве́дамым ме́сцы вадалазы з кошыкам ля паяса, кідаюцца з чаўноў у мора і сьпе́шна рэжуць з скалаў губкі. Губкі так борзда растуць, што пераз два гады на тым самым ме́сцы, можна йзноў іх лавіць. Калі губкі зьбяруць, то іх раскладаюць на бе́разе ў ямах з вадою і топчуць іх нагамі, каб вышла з іх уся чорная сьлізь і тады яны робяцца куды мягчэйшымі і чысьце́йшымі. Самы ле́пшы гатунак мочаць ў воцэту, каб з іх вышла ўся вапна.

**Вэбэр.**

---

# Каралі.

На дне́ акеану растуць цэлыя лясы караляў: чорныя галіны гэтых дрэў з каме́ню сплятаюцца з чырвонымі, бе́лымі і шараватымі. Цікаўне́й за усё, што гэтыя лясы, што напару цягнуцца на не́калькі тысяч вёрстаў, зроблены малюсенькім зьвярком — паліпам.

Арганізацыя це́ла паліпаў самая простая—рот і жывот. Усё роўна, як мягкая торбачка, у сярэдзіне пустая. Вышэйшая частка яго абкружана вяночкам з не́калькімі радамі прыгожых зубочкаў. Зубочкі патрэбны паліпам, як нам рукі каб е́сьці.

Ле́дзь толькі мора прынясе́ да паліпаў пажыву, — зусім няцямкія [1]) для нашых вачэй расьціны і жывёла, зубочкі зараз жа сьціскаюцца і шлюць пажыву ў рот і жывот. Перасоўвацца і шукаць сабе́ пажывы паліпы самі ня могуць,—яны ўве́сь час застаюцца, прычэпленымі на адным ме́сцы.

Жывёла гэтая нічога ня чуець і ня бачыць, але чуе сьвятло.

Калі не́ба ясна, калі на ім няма ані вобалачка і мора супакойна, зубочкі на вяночку расхінаюцца, быццам малая жывёлінка хоча адчуць усю прые́мнасьць пагоды; наадварот у буру і ў навальніцу ўсе́ часткі паліпа сьціскаюцца.

Але гэтая мале́нькая, нешчасьлівая, як нам можа здацца з пе́ршага разу, жывёла—бяз ног, без вачэй, бяз слуху, жывучая нязвычайна. Хоць бы іх палажыць у гарачую ваду, ці замаразіць, адрэзаць ім іх рукі—зубочкі на вянку—усё гэта для іх нічога. Адыйшоўшы, паліп зараз-жа прыймаецца е́сьці, а адрэзаныя зубочкі (шчупальцы) скора вырастуць. Аднак прэсная вада і паветра для іх атрута. Ад пе́ршага і другога паліпы гінуць.

У вядомую пару на це́ле паліпа з бакоў вырастаюць вурганкі, з іх потым робяцца маладыя паліпы; апрача таго матка пускае з сябе́ сок, у каторым ёсьць шмат вапны. Сок гэты скора цьвярдзе́ець і гатова калыска для маладога паліпа. Калі маладзе́нькі паліп падрасьце́ ён робіць тое самае, што й яго бацькі— будуець для сваіх дзяце́й прыпынак.

---

[1]) Напрыкме́тныя.

Гэта цягнецца доўга—не́калькі гадоў і, урэшце, з скалы, на марскім дне́, з няцямкага з пачатку прадзеда роду паліпа, падымаюцца цэлыя пні караляў, якія раскідаюць на ўсе́ бакі свае́ прыгожыя галіны. Урэшце, калі паліпы выходзяць ужо на ве́рх вады, жывёле няма як жыць у атрутым паве́тры і яна гіне.

Паліпы борзда гінуць і іх дом—караль застаецца пустым.

Гэтак ідзе́ цэлыя тысячы гадоў; няма нічога дзіўнага, што будоўлі паліпаў займаюць вялізарны прастор і часта робяць шкоду, а то й згубу суднам.

У ціхую пагоду каралевыя лясы, ці, як іх завуць, рыфы можна прыце́міць па бе́лай пе́не каля іх, але ў вялікі вал іх нялёгка заце́міць; на гэткія рыфы часта наяжджаюць караблі і перарэзуюць сабе́ дно.

Вэбэр.

---

# Альпы.

Усюды ў Альпах дужа ве́дамы ве́цер, які заве́цца фе́нам. Гэта гарачы паўдзённы і паўдзённа-ўсходні ве́цер, каторы дзьме́ць з гарачых пескавых стэпаў Афрыкі. Фе́н заце́мляваюць найчасьце́й узімку і з пачатку вясны, а ўле́тку пераважна ў высокіх мясьцовасыцях Альпаў. Уначы гэты гарачы ве́цер дзьме́ць часьце́й, як у дзе́нь. Яго папераджаюць надта прыгожыя атмасфэрныя зьявішчы; на паўдзённым небасхіле паказуюцца лёгкія стрыкатыя вобалакі, каторыя задзе́ржуюцца на вярхох гор. Сонца заходзіць на чырвоным не́бе бяз усякага бле́ску і, пасьля гэтага, доўга яшчэ вобалакі маюць яркі пурпурны колер. Ноч душна-гарачая, расы няма, і толькі, часам, рве́ць прахалодлівы ве́цер.

Ме́сяц абкружаны чырвоным туманным сьвятлом, а зоркі блішчаць ясьне́й і пераліўней, чымся звычайна. Паве́тра робіцца надзвычайна прасьве́тным, дзеля чаго горы здаюцца бліжэй, як звычайна, і ўся глыбіня ляндшафту прыймаець сінявата-лялёвы адце́нак. Чуваць далёкі гоман лясоў на ўзгор'ях, а ручаі плюскочаць асабліва моцна, бо цёплы ве́цер распусьціў шмат сьне́гу. Пасярод начное цішыні зда́ецца, што к долу йдзе́ць гаманлівае несупакойное жыцьцё.

Пачынаець дзьмуць ве́цер, спачатку сьцюдзёна і сурова, асабліва ўзіму; потым наста́ець цішыня. Гэта вяшчуны фе́на. Пасьля ў дол лятуць гарачыя патокі паве́тра, каторыя часта пераходзяць у буру. Такі ве́цер цягнецца два, або тры дні з нязвычайнаю сілаю: дрэвы ламаюцца і коцяцца з гор, абламаваючы кавалкі скалаў, каторыя засыпаюць ручаі, з будынкаў віхор зносіць стрэхі.

Гэткі ве́цер маець вялікі ўплыў на жывёлу і на людзе́й. Спачатку ён дражніць нэрвы, а потым расслабляець ўсё це́ла. Жывёла тужліва шукаець прахалоды, тым часам, як фе́н сушыць ёй горла і лёгкія. У ле́се і на полі ня відаць ніводнае птушкі.

У такі ве́цер усюды ў пе́чках тушаць агонь. Па некаторых лагчынах ходзяць па домах асобныя даглядні, каб праве́рыць, ці затушаны агонь, бо ад мале́нькае іскры можа быць пажар.

Ня гле́дзячы на нябясьпе́чнасьць ад фе́ну, яго сустракаюць увясну з радасьцяй, бо пасьля яго ў Альпах гіне шмат сьне́гу і лёду і ўсё навокал перамяняецца.

За не́калькі тыдняў да пачатку зімы, у лістападзе, часам ідзе́ць сьне́г і бываець мароз ад каторага ручаі пакрываюцца тонкім слоем лёду, а кусты—інеем. Але ўсё гэта таець ад сонца. З часам, як дзе́нь караце́ець, сьне́г і лёд астае́цца на зямлі дале́й. Пе́рш засьцілаюцца сухія сенажаці ў цяні, потым сонечны бок і усе́ узгор'і. Ве́цер здзьмухаваець сьне́г і засыпаець усе́ лагчыны мягкай пялёнкай. Усе́ зьвяры баяцца выхадзіць з сваіх нор, бо не адважаваюцца ступаць па мягкай бе́лай сьнегавой пасьцілцы. Але ўжо ў чародную ноч усё гэта перамяняецца. Удзе́нь цяпло, а ўначы сьцюдзёны паўночны ве́цер робяць сьне́г зьнітным [1]) і ледзяністым, так што назаўтрае косы сонца асьвятляюць цьвярды бліскучы панцыр. Чатырахногія могуць ужо хадзіць па зьнітнай вярхніне і бе́гаюць уначы па гарах і па далінах.

Маразы аднатонна цягнуцца ў горнай вобласьці цэлыя дні і тыдні. Жыхары далін бяруцца за сяке́ры і на санёх выяжджаюць у ле́с, бо ў значнай часьці Альпаў можна вазіць дровы толькі па зімовай дарозе. З грукатам валяцца е́лкі і букі; сьсе́чаныя камлі, як страла, лятуць па ўсхоных [2]) горах; крэпкія коні цьвёрдаю ступою йдуць па горах і ледзяных шчэлінах у вёску.

Уначы раздае́цца голас лісіцы ў кустох, а ўдзе́нь брэшуць у ле́се ганчакі і чуваць стрэлы ў пустэльнай цішы. Толькі калі не́калі праляціць цяце́ра і сьвішчаць аляпка, а ў ле́се вясёла пяе́ць горны зяблік.

Цёплыя гарачыя патокі паве́тра вяшчуюць вясну і памагаюць сонцу сарваць сьцюдзёнае накрыцьце з зямлі; але ў смутныя, хмарныя дні новая мяце́ліца йзноў, засыпець ўсё сьне́гам, хоць і на короткі час. Дзе́ разьбіты зімовыя зяле́зьзі [3]), новы сьне́г ня мае сілы. Дрэвы і кусты сярдзіта страсаюць з сябе́ вялізную ношу, а зяле́ніва пераз сілу йрве́цца вонкі [4]) за сваймі бе́лымі, жоўтымі і сінімі краскамі. Воды журчаць і плюскочуць спачатку толькі адну, або дзьве́ гадзіны ў самую цёплую пару дня, але потым патокі цякуць усё даўжэй і даўжэй, а ўрэшце—бязупынку ў дзе́нь і ўноч. На ўсхоных сьце́нах скал з грукатам адломаваюцца ледзяныя стаўбы вадаспадаў і рынаюцца ў глыбокае ложа. За ім саскоўзаваюць па скале́ ледзяныя крыгі, пад каторымі вада прарыла сабе́ дарогу, і бесьперарыву раздае́цца трэск ад разламаваньня тысячы ледзяных аскялёпкаў. Да гэтага прылучаецца

---

[1]) Зьнітны—шчытны, шчыльны.
[2]) Усхоны—стромкі, круты.
[3]) Зяле́зьзе—кайданы.
[4]) Вонкі—вон, на двор.

глухі гуд лавін і гром ад поканьня горных ледавікоў. Дзятлы, чорныя дразды, сойкі, сарокі, шпакі, арлы, совы, зязюлькі, рабцы з чырвонымі нагамі і глушцы, сьвішчуць, крычаць, каркаюць і стукаюць на разныя галасы. Скора да птушак прылучаюцца кажаны, куніцы, варклівыя барсукі, конікі, вужы, кабылкі, жукі, шмялі, пшчолы, восвы — усé яны падаюць свой голас разам з свойскай і горнай жывёлай: коні іржуць, быкі мычаць, сабакі брэшуць, куры квокчуць; чутны званкі статук, пéсьні дзяцéй і пераклíканьне горных пастухоў.

Фéн, сонца і дождж зносяць з зямлі сьнегавое накрыцьце ўсюды відаць сьляды сьмéрці і зімовага сну. Але ў нéкалькі дзёні усё робіцца зялёным, пачынаючы ад узьбярэжжа ручаёў і далінаў.

Улéтку і ўвосень для жыхароў самым страшным зьяўляецца разьліў горных ручаёў, памясцоваму рунзы. Гэтыя разьлівы страшнéй за буры і лавіны, каторыя звычайна ня шкодзяць у глыбокіх рашчэлінах і далінах. Калі ўлéтку або ў восень раптам узьнімецца навальніца, то ручаі ў нéкалькі гадзін, робяцца шырокімі патокамі, каторыя з грукатам лятуць уніз па ўсхоных выступах гор.

Такі паток часам маець 60—100 футаў глыбіні. Вада, што назьбіралася навéрсе гораў, са страшэнай сілай адрываець вялікія кускі скал, валочыць за сабой дрэвы, камéньне, пясок і зямлю. Гром ад гэткага патоку, стук камéньня далёка аддаéцца ў горах і наводзіць жах на людзéй. Усé з рыдлёўкамі і лапаткамі сьпяшаюцца да грэбляў, каб прашкодзіць іх прарыву і адвясьці ваду. Усякі, хто толькі ўмée ўпраўляццца з лапатаю, бярэцца памагаць бараніцца ад разьяронае стыхіі. Крыкі, стогны, клíканьне людзéй зьмéшаваюцца з трэскам аскялёпкаў скал. Хто хоць адзін раз бачыў гэтае страшнае зьявішча, ніколі яго не забудзецца.

Самыя багатыя пожні ў нéкалькі гадзін пакрываюцца слоем пяску і камéньня 10—15 футаў увышкі.

Яшчэ страшнéй за паводку бываець абвал гор. Такія абвалы часта хаваюць пад сабою цэлыя вёскі. Адзін пастух нéйкім дзівам выратаваўся ў часе аднаго страшнага абвалу.

Вялікі адломак скалы прываліўся да яго хаткі і такім парадкам абараніў яго ад граду камéньня. Бéдны чалавéк пражыў у сваёй хатінцы нéкалькі мéсяцаў, бяз сьвéжага павéтра і сьвятла, карміўся толькі запасам сыру. Штодня ён з безнадзéяньнем рыўся ў сваёй хмарнай турмé. Урэшце ён пачаў сачыць за дарогай па якой бéгла вада, і, цераз нéкалькі тыдняў, шчасьліва прабіў рыхлае мéсца ў камéннай кучы. Змучаны працай, голадам і страхам, абдзéрты і паранены, пастукаў ён у дзьвéры свайго дома ў даліне, дзé жонка і дзéці лічылі яго памéршым.

# Астатняя лекцыя.

(Апавяданьне малéнькага Альзасца).

У гэту раніцу я дужа спазьніўся йсьці ў школу і баяўся, што на мянé будуць сварыцца, а найгарэй, што пан Гамэль сказаў нам, што папытаецца нас аб дзеясloўных прымéтах, а я ня вéдаў навет пéршага слова. На часінaчку мнé прышла думка прапусьціць лéкцыі і падацца ў бок палёў.

Пагода была такая цёплая, такая ясная! Чутно было, як сьвішчуць дразды на ўзьлéсьсі і як на сенажаці Рыперта, за пільняй практыкуюцца прусакі. Усё гэта мнé было мілéй, як правіла аб дзеясloўных прымéтах; але я мéў цьвёрдасьць удзéржыцца і скоранька пабéг у школу.

Праходзячы ля магістрату, я ўглéдзіў, што народ задзéржуецца перад дошкай з афішамі. У працягу двух гадоў мы мéлі толькі благія навіны, і я падумаў, прамінаючы:

„Што-ж там яшчэ?“

Аднак, калі я бягом прахадзіў пляц, каваль Вахтэр, каторы тут стаў, каб прачытаць афішу, крыкнуў мнé:

— Не сьпяшайся так, малы; ты заўсёды пасьпéеш прыйсьці ў тваю школу.

Я падумаў, што ён сьмяéцца з мянé, і увайшоў, зусім задыхаўшыся на малéнькі панадворак пана Гамэля. Звычайна, у пачатку лéкцыяў, бываець страшэнны гоман, які чуваць навет на вуліцы, як адчыняюць і зачыняюць пюпітры, лéкцыі, каторыя паўтараюцца на ва ўвéсь голас, з заткнёнымі вушамі, каб ляпéй навучыцца, і стук вялікае лінéйкі вучыцеля па сталох:

— Цішэй троху!

Я карыстаўся з гэтага гуду, каб заняць сваё мéсца не зацéмленым; алé ў гэты дзéнь усё было супакойна, як у сьвяточную пару. Пераз расчыненае вакно, я ўглéдзіў маіх таварышаў, якія ўжо пазаймалі свае́ мéсцы, і пана Гамэля, каторы хадзіў упéрад і ўзад з сваёй страшнай лінéйкай пад пахай. Трэба было адчыніць дзьвéры і ўвайсьці сярод глыбокае цішыні. Выяўляеце сабé, які я быў чырвоны, і як я баяўся. І нічога. Пан Гамэль паглядзéў бяз злосьці і сказаў мнé дужа ласкава:

— Ідзі скарэй на сваё мéсца, мой Пранук; мы ўжо сабраліся пачаць без цябé.

Я ўзглабаўся на лаўку і зараз-жа сéў за свой пюпітр. Аднак, крыху апомніўшыся ад страху, я зацéміў, што наш вучыцель быў у сваім добрым даўгім сурдуце з плісіраванай манішкай і ў чорнай вышыванай шоўкам шапачцы, што ён надзяваў толькі у часе равізіі і пры раздаваньні надгарод. Урэшце ўся кляса выглядала нéяк нязвычайна і сьвяточна. Але што мянé найбалéй зьдзівіла, гэта—што я ўбачыў у глыбіне́ залі, на лаўках, якія звычайна былі пустымі, сядзéлі сяляне, маўклівыя, як і мы, стары Гаўзэр, астатні мэр, астатні паштальён, і потым яшчэ нéкалькі асоб. Увéсь гэты

народ выглядаў сумна; а Гаўзэр прынёс з сабой стары лемантар, абадраны па берагох, каторы ён дзяржаў разьве́рненым на сваіх каленях з вялікімі акулярамі на страніцах.

Тымчасам, як я з усяго гэтага дзівіўся, пан Гамэль падняўся на катэдру, і мягкім голасам, якім ён толькі уме́ў, нам сказаў:

— Мае́ дзе́ткі, астатні раз я з вамі займаюся. Ёсьць загад з Бэрліну, каб вучыць толькі паняме́цку ў Альзасе і Лётарынгіі. Новы вучыцель прые́дзець заўтра. Сяньня ваша астатняя ле́кцыя францускае мовы. Я вас прашу слухаць уважна.

Не́калькі гэтых слоў мяне́ ўзварушылі. Ах, нешчасьлівыя, вось што казалі афішы пры магістраце!

Мая астатняя ле́кцыя францускае мовы....

А я толькі троху ўме́ў пісаць. Я нічога бале́й не навучыўся. Павінна так і астацца! Як я шкадаваў аб згубленым часе, аб праміненых ле́кцыях, калі шукаў гнязьдзе́чкі, або коўзаўся на Саары [1]). Мае́ кніжкі, якія ўве́сь час былі зьнялюбе́лымі, цяжкімі, каб іх насіць, мая граматыка, сьвяты закон—мне́ здаліся цяпе́р старымі прыяцелямі, з каторымі мне́ так цяжка будзець разлучыцца. Таксама як і з панам Гамэлем. Думка, што ён выяжджаець, што я ня ўбачу яго бале́й, прымусіла мяне́ забыцца ўсе́ кары, усе́ ўдары лінейкай.

Бе́дны чалаве́к!

Гэта на чэсьць свае́ астатняе ле́кцыі ён апрануў свае́ ле́пшыя сьвяточныя ўборы і цяпе́р я ўце́міў, чаму старыя сяляне з вёскі пасе́лі ўглыбіне́ залі. Здавалася, што яны шкадуюць, што не хадзілі часьце́й у гэтую школу. Гэта быў як-бы спосаб удзячнасьці нашаму вучыцелю за сорак гадоў яго працы, і бацькаўшчыне, якую яны згубілі.

Я яшчэ раздумаваўся, калі я пачуў, як называюць маё імя. Прыйшла мая радоўка [2]) адказаваць. Чаго-б я ня даў, каб магчы сказаць да канца ўсё гэтае прыкрае правіла аб дзеяслоўных прыме́тах, голасна, выразьліва, без абмылак; але я зьмяшаўся на пе́ршых словах, і стаў ківаючыся над лаўкай, з сэрцам, якое калацілася, не адважаваючыся падняць галавы. Я пачуў пана Гамэля, каторы мне́ сказаў:

— Я ня буду сварыцца на цябе́, Пранучок, ты сам сябе́ пакараў... вось і ўсё. Уве́сь час казалі сабе́:—Га, я маю даволі часу. Я навучуся заўтра.—Цяпе́р ты бачыш, што вышла... Ах, гэта было вялікае няшчасьце для нашага Альзаса—адкладаньня навукі назаўтрае. Цяпе́р гэтыя людзі, там, маюць права сказаць нам:—Як! Вы хочаце быць французамі, а ня ўме́еце ні гаманіць, ні пісаць у вашай мове.—Ува ўсім гэтым, мой бе́дны Пранук, ты ме́ней за другіх вінаваты. Кожны з нас мае шмат чым дакарыць сябе́.

Вашыя бацькі мала клапаціліся аб вашай адукацыі. Ім прыямне́й было пасылаць вас рабіць зямлю, або на ільняныя хва-

[1]) Саара—рака ў Альзасе.

[2]) Радоўка--рад. чарод. колея.

брыкі, каб ме́ць на не́калькі грашэй бале́й. А я сам, ці ня маю чым дакарыць сябе́? Ці-ж я не пасылаў Вас часта паліваць мой сад, заме́ста працы ў школе. А калі мне́ хаце́лася йсьці вудзіць фарэлі, ці-ж я задумаваўся адпускаць вас?

Гэтак пераходзячы ад таго да сяго, пан Гамэль пачаў казаць аб французскай мове, адзначаючы, што гэта самая харошая мова на сьве́це, самая чыстая, самая грунтоўная: як трэба яе́ берагчы, ніколі не забывацца, дзеля таго, калі народ упадаець у няволю, а не забыўся сваé роднае мовы, ён дзяржыць у сябе́ ключ ад няволі. Потым ён узяў граматыку і прачытаў нам нашую ле́кцыю. Я дзівіўся, бачачы, як я ўсё це́млю. Усё, што ён казаў, давалася мне́ лёгка. Я думаю таксама, што ніколі я так добра ня слухаў, і ніколі ён не ўкладаў гэталькі цярплівасьці ў сваé тлумачэньні. Можна сказаць, што бе́дны вучыцель хаце́ў перадаць нам усю сваю ве́ду, усё ўлажыць у нашыя галовы за адзін раз.

Ле́кцыя кончылася, перайшлі да пісаньня. На сягоньня пан Гамэль прыгатаваў для нас зусім новыя прыклады, якія напісаў харошым круглым характарам пісьма: Францыя, Альзас. Францыя, Альзас. Трэба было бачыць, як кожны стараўся, і якая цішыня! Нічога ня было чуваць, апрача скрыпу пёраў па папе́ры. Напару ўляталі жукі; але ніхто іх не заце́мляваў, навет самыя мале́нькія, каторыя выводзілі сваé палачкі ад усяго сэрца, пе́ўныя, што і гэта не́шта французскае. На страсе́ школы ціха вулькалі галубы, і я сказаў сабе́, слухаючы іх:

— Ці ня прымусяць вулькаць паняме́цку і іх таксама.?

Ад пары да пары, калі я паднімаў вочы ад маé страніцы, я бачыў пана Гамэля нярухомага за яго катэдрай, пільна разглядаючага ўсé рэчы навакол, быццам ён хаце́ў адбіць ў сваім поглядзе ўве́сь мале́нькі будынак школы. Падумайце, у працягу сараку гадоў, ён быў тут на гэтым ме́сцы, з панадворкам перад сабою і клясаю, каторая блізу не зьмянялася. Праўда, лаўкі і пюпітры замасьліліся і павыціраліся ад ужываньня; арэшнік на дварэ буйна разросься, хмѐль, які ён пасадзіў, абвіваў вокны блізка да страхі. Як кроілася сэрца ў гэтага бе́днага чалавека пры думцы, што ўсё гэта трэба пакінуць і чуць крокі сваé сястры, каторая хадзіла па пакоі на гарэ, каб замкнуць яго скрынкі, бо ён павінен быў выехаць заўтра з гэтае стараны назаўсёды.

Адылі [1]) ён ме́ў адвагу працаваць як звычайна у клясе. Пасьля пісаньня, у нас была ле́кцыя гісторыі; потым малыя прапяялі разам *ба*, *бэ*, *бі*, *бо*, *бу*. Там, у глыбіні залі, стары Гаузер усклаў сваé акуляры, і, дзе́ржачы ле́мантар абе́дзьвюма рукамі, вымаўляў голасна разам з імі. Відаць было, як ён стараўся, яго голас дрыжэў ад узварушэньня, так было сьме́шна на гэта глядзе́ць, і мы гатовы былі разам і сьмяяцца і плакаць. Ах, я буду памятаць гэтыя астатнія ле́кцыі.

Тым часам гадзіньнік на царкоўнай ве́жы празваніў паўдня.

---

[1]) Адылі—аднак.

У гэтую самую часіну, трубы прусакоў, каторыя варочаліся з вучэньня, прагучэлі пад нашымі вокнамі... Пан Гамэль падняўся ўвесь зьбялелы за сваёй катэдрай. Ніколі ён не здаваўся мне такім вялікім.

— Мае даражэнькія,—сказаў ён,—мае даражэнькія, я... я... Але нешта душыла яго. Ён ня мог зьвязаць сваіх слоў.

Урэшце, ён павярнуўся к дошцы, узяў кусок крэйды і, націскаючы з ўсяе моцы, ён напісаў як мага вялікімі літарамі:

„Няхай жыве́ць Францыя!“

Потым стаў там, прыхінуўшыся галавой да сьцяны, і ня гукаючы, зрабіў рукой нам знак:

„Годзе, ідзе́це сабе́!“

**Альфонс Додэ.**

---

# У афрыканскіх людаедаў.

Дарога была далёкая, і мы крыху шкадавалі, што нам не ўдалося суняцца ў папярэдняй вёсцы. У Муэнэ Пірмы прышлі блізу што папоцемку, папоцемку пазнаёміліся з старым каралём, па прозьвішчы якога звалася і вёска.

Вось мы наапошку ў людае́даў. Але часы зьмяніліся навет для іх. Стары кароль прымаў нас ўжо ня з дзідай у руцэ, са страхам, адбітым у вачох. Папоцемку я ня мог разгле́дзіць рысаў яго твару, толькі бачыў яго чорную высокую фігуру ў паклонах бесьперастанку і чуў яго голас, перарываны што часіну угодлівай усьме́шкай: „хі, хі, хі!“ Сьме́х гэты ме́ўся азначаць радасьць з прыбыцьця гасьце́й, але паказаваў несупакой. Я падумаў, што дзядок, даючы волю сваім прызвычкам, купляе ад пары да пары, у найвялікшым сакрэце, нявольніка і робіць сабе́ з яго смажаніну пад натуральным сосам, дзеля чаго сумле́ньне яго ніколі ня бывае́ць чыстым, і вось чаму ў кожным бе́лым ён бачыць судзьдзю, які прыяжджае з ме́ста, каб зрабіць з ім апошні абрахунак.

Стары кароль ня сьме́ў навет адразу се́сьці пры нас. Толькі калі малы Тамаш супакоіў яго, што мы прышлі ні на якія суды, ён зрабіўся крыху сьмяле́йшым, але і тады гасьцінасьць яго не адыходзіла далёка ад прыніжэньня.

Я спадзяваўся быць сьве́дкаю рашчуляючай сцэны сустрэчы бацькі з сынам, тымчасам, Тамаш і бацька ле́дзь зьвярнулі ўвагу адзін на аднаго. Я ня пе́ўны навет, ці сказалі яны сабе́ „ямбо!“ ці толькі кіўнулі галовамі.

Пасьля мне́ растлумачылі місіянэры, што нэгра наагул без прыраўнаваньня бале́й шануе́ць матку, чымся бацьку, аб якім проста кажаць: „мужык мае́ маткі“.

Тамаш чакаў толькі нашага дазвале́ньня, каб пабе́гчы прывітацца з маткай; назаўтрае ён пачуў сябе́ запраўды шчасьлівым, калі мы падаравалі яму для маткі харошую паркалёвую хустку з адбітымі на ёй чырвонымі павукамі.

Яшчэ нашая палатка не раскінулася як мае быць, яшчэ не запалілі агню, як бацька Муэнэ сваймі ўласнымі рукамі прынёс нам піць. Ве́даючы ад місіянэраў, што ён частаваў іх не́калі з людзкога чэрапа, я папоцемку старанна абшчупаў судзіну, якую ён мне́ падаў, і толькі пераканаўшыся, што гэта гарбуз, а не галава, нахінуў яе да роту.

Быў у ім лясны мёд, вельмі сцюдзёны, але ў ім было гэтулькі жужлаў, што я яго адхінуў з агідай, рухамі даючы пазнаць гаспадару, каб захаваў гэтыя ласонікі сабе́. Затое, піцьцё „помбэ“, якое было ў другой судзіне, здалося мне́ не́чым раскошным. Пасьля двух, навет трох паходаў я засьмягнуў надзвычайна, вось чаму я ня мог даўгі час адарваць вуснаў ад судзіны. П‘ючы, я разам сьцішаў і смагу і голад. Помбэ смакам сваім нагадавала рашчыну, а таксама і жур, якім жывіцца наш люд. Колеру гэтага піцьця я ня мог разгле́дзіць, бо ў тую часіну ён мала мяне́ цікавіў, як і тое, што ад пары да пары цераз маё горла перасуваліся не́йкія камкі няве́дамага мне́ пахаджэньня. Таварыш мой частаваўся не гарэй за мяне́; Муэнэ, угле́дзіўшы гэта, быў вельмі здаволены, што нам угадзіў, пачаў падскокаваць, як Давід, перад Аркай, паўтараючы: „Помбэ мсурі. Помбэ мсурі!“.

І праўда, ніколі ніякае піцьцё не адсьвяжала нас так скора; мы толькі не маглі ўце́міць, як гэта нэгры ўпіваюцца гэтым помбэ, каторае ёсьць нішто іншае, як рашчыненае рэдка це́ста. Прагнаўшы смагу, мы ўзяліся за абе́д, а пасьля даве́даўся да нас Муэнэ-Пір. Ён прышоў у нашую палатку разам з двума сынамі; старэйшы сын, нэгра гадоў за дваццаць, адзначаўся запраўдным харaством і разумным выглядам твару. Ён ме́ўся прыняць уладу пасьля бацькі, а наш Тамашок быў, Бог ве́дае, каторым дзіцём па чароду.

Як слузе́, нашаму Тамашу навет ня прышло ўдум увайсьці ў нашую палатку; было там і так даволі цёмна, бо апрача нас і нашых трох гасьце́й падыйшоў яшчэ і Пранук, каторага мы гукнулі [1]), як перакладчыка. Два сыны се́лі побач Пранука на зямлі, бацька на маім палявым ложку, і пачалася гутарка, што часіну перарываная крыкамі зьдзіўле́ньня пры разглядзе розных эўрапэйскіх прыладаў. Стары бый ме́ней выдзержаны за сваіх сыноў, бо хапаўся за галаву, стукаў лыткай аб лытку, пішчэў і захадзіўся сьме́хам над кожнай незнаёмай яму рэчаю.

Цяпе́р толькі я мог добра да яго прыгле́дзіцца. Быў гэта чалаве́к гадоў шэсьцьдзесяцёх, або бале́й, высокі, плячысты. Насіў невялічкую сіве́ючую бародку, чупрына яго, крыху радкаватая напе́радзе, рабіла як-бы вал з воўны на галаве́. Твар несупакойны, з векавітай усьме́шкай, не рабіў прые́мнага ўражаньня. У носе і ў вушох ня ме́ў ніякіх брындзюлек. Сыны яго былі толькі падперазаўшыся па бёдрах, ён-жа быў апранены ў не́шта

1) Гукнуць—паклікаць; гукаць з кім—гаварыць з кім; гукаць каго—клікаць каго.

падобнае да кашулі з жаўтаватае тканіны, з якое ангéльскія жаўнéры носяць мундзіры ў гарачых краёх. Наагул выглядаў ён вельмі брудна.

Я пачаставаў яго віном, але калі потым, наліўшы другую чарку, падаў яé наступніку, стары адразу адабраў яé ад сына і выпіў сам.

---

# Жыцьцё беларусоў у Амэрыцы.

У пачатку ды пасьля Руска-Японскае вайны эміграцыя з Беларусі—Мéншчыны, Горадзеншчыны і наагул з нашых родных краёў прыняла, як вéдама, пошасны характар; спачатку паéхалі жыды, ратуючыся ад ваéннае службы або ад самадуму вураднікаў. За жыдамі пайшлі нашыя сяляне зарабіць у Амэрыцы, каб можна было паправіць сваю бéдную гаспадарку,—збудаваць новую хату, а на‘т і прыкупіць лапіну зямлі. Гэтак éхалі, ня сьціхаючы, да пачатку Эўрапэйскае вайны і, карацéй кажучы, éхалі, пакуль пушчалі éхаць.

Апынуўшыся на тэрыторыі Злучаных Гаспадарстваў бяз вéданьня ангéльскае мовы, найчасьцéй у вялікіх мястох, з звычаямі вясковага жыцьця, часамі зусім няпісьмéнныя, натуральна павінны былі сяліцца паміж сваіх жыдоў.

Але таму, што жыды жывуць найчасьцéй у вялікіх мястох, як Нью-Йорк і Чыкаго, дык і нашыя беларусы туляцца паміж жыдоў. (Нялішнім будзе зазначыць, што вельмі шмат хто навучыўся жыдоўскае мовы і зжываюцца даволі дружна). Апрача Нью-Йорку, у якім жывé балéй як 15 тысячаў, што працуюць найчасьцéй у кравéцкай індустрыі, шмат жывé ў Чыкаго, працуючы ў вéдамых Чыкагскіх рэзьнях, значная лічба працуе на сталелітных заводах Пітсбургу, ў Дэтроіце на самаходных хвабрыках і іншых заводах; вельмі шмат пасялілася ў нова-ангéльскіх гаспадарствах Конэкцікут і Масечузэц, дзé займаюцца ў папéрна-ткацкай прамысловасьці, на цэмэнтных і цагéльных заводах, ў лясістых мясцовасьцях Канады, на чугунках, у рудніках, капаюць канавы, пракладаюць падзéмныя чугункі, будуюць дамы, дастаюць руду, займаюцца сéльскаю гаспадаркаю, ў кожнай галіне ёсьць добрыя спэцыялістыя, якія прынясуць шмат карысьці нашай Беларусі.

Працуюць беларусы ўва усіх галінах прамысловасьці, праходзяць практычную шхолу абсалютна ўва ўсіх майстроўнях, ёсьць свае́ каапэратывы, як краўцоў у Бронзьвіле (ваколіца Нью-Йорку), сталяроў і цéсьляў, дома-будаўляны і г. д. Большасьць працуе вельмі цяжка; Амэрыка цягне пот і кроў усіх, хто лучае да яé, бяруць за сваю катаржную працу зусім мала і ня надта-ж цéшацца, калі ўзяць пад увагу, што самая цяжкая і трудная праца робіцца беларускімі эмігрантамі. Працуюць цяжка, зарабляюць у прыраўнаньні з каранными амэрыканцамі непадобна мéней; тлума-

чыцца гэта тым, што нашыя землякі вельмі мала цікавіліся работніцкім рухам, ня ўходзілі ў саюзы, а праца неарганізаваных аплачуецца куды ніжэй, як арганізаваных работнікаў; неарганізаваныя бязьлітасна эксплёатуюцца рознага гатунку цёмнымі асобамі. Амэрыкаю беларусы ня вельмі ўжо й здаволены. Гэта можна бачыць з таго, што шмат якія жывуць па нéкалькі дзесяткоў гадоў у Злучаных Гаспадарствах, але гэтак сама далёкія ад амэрыканскае культуры, як кожны беларус Мéнскае ці Горадзенскае губэрні, 95 процэнтаў ня ўмéюць ангéльскае мовы, ні грамадзкім, ні палітычным жыцьцём ня жывуць, ды ня цікавяцца, вéчна думаюць аб доме, лятуцяць, каб як хутчэй вярнуцца да сваіх родных палёў, пры пéршай магчымасьці пакінуць Амэрыку і скіруюцца да сваіх родных гнёздаў.

У культурна-асьвéтным жыцьці нашыя беларусы пайшлі ня вельмі далёка; пасьля ўсерасéйскае рэвалюцыі, крыху пачалі задумавацца аб тым, каб як папоўніць сваю бéдную адукацыю, наадчынялі розных школаў аж да унівэрсытэту і рамéсьленых майстроўняў.

Аб беларускім руху вельмі мала вéдалі, што дзéецца ў нашай роднай старонцы, бо толькі ў апошнія часы пачалі даставаць вéдамасьці пераз Рыгу, Коўню й Бэрлін, давéдаліся якое вялікае гора выпала на нашую Бацькаўшчыну.

С. О. **Бубéшка.**

---

# Пéршы даляр.

Усякаму добра вéдама, як цяпéр éдуць людзі на заработкі ў Амэрыку, а калі адтуль варочаюцца, то сваім харошым убраньнем і грашмі, падахвочуюць другіх, і, такім парадкам, людзі бесьперастанку éдуць і éдуць.

Вéдама, што ня ўсім роўна ўдаéцца: бываюць такія, што проста там, за морам, яго доля вырасла. Паéдзе, пабудзе нéкалькі гадоў, заробіць грошы і, вярнуўшыся дамоў, купіць які хвальварак і зробіцца панком. Але мнé прыходзілася бачыць і такіх, што набéрацца бяды, трудоў і ўсякага няшчасьця і рад-бы вярнуцца, але часта няма за што.

Прабаваў і я шукаць долі за морам і раскажу, як мянé прывітала Амэрыка, калі я толькі прыплыў туды.

Прыéхаў я ў адно невялічкае мéста Нью-Іоркскага гаспадарства, дзé мой брат працаваў у вугальных шахтах. Сустрэў ён мянé дужа добра.

Увéчары купілі мнé работніцкую адзéжу і лямпу, што там работнікі ў шахтах пад зямлёй носяць на галавé і сьвéцяць сабé.

На заўтрае рана павёў мянé брат з сабою на работу, дзé сам працаваў, паказаць, як трэба рабіць у шахтах. Калі нас спусьцілі як у студню, можа на паўсотні сажняў углыб, дык я пачуў, што маё сэрца нéяк сьціскаецца ад страху і цяжкога падзямéль-

нага духу. Прайшлі мы пад зямлёй, норамі, вярсты са дзьве́, пакуль дасталіся на ме́сца, дзе́ брат працаваў.

Прыйшоў англіец; пачалі работу. Брат разьбіваў каме́ньне з вугальлем, каме́ньне адкідаў на бок, а вугаль нагружаў у ваганэтку. Англіец тым часам выкруціў у сьцяне́ дзірку, запхнуў туды, хвунтаў можа з пяць, пораху, работнікі забілі пяском дзірку і ўцяклі ўва ўсе́ бакі з крыкам „fair“ (агонь)! Зараз раздаўся гук, як гром, і паваліў цёмны сьмярдзючы дым; у гэтым дыме працавалі ўве́сь дзе́нь.

На другі дзе́нь пайшоў ужо я сам сабе́ работы шукаць. Спусьціўся ў шахту, стаю, аж не́йкі паляк кажа: — ідзі да мяне́ рабіць, калі хочаш дастаць работу. Пайшоў я. Аж у яго, дзе́ ён робіць, мокра, вада лiе́цца зьве́рху, у гарэ шчыт ня моцны; каме́ньне вывалюецца. Пачалі мы стаўляць стоўб, каб падпе́рці шчыт, аж як адваліўся каме́нь, як даў мне́ па руцэ, дык кроў і палілася. І цяпе́р ёсьць рубе́ц на руцэ.

Прышоў я дамоў на кватэру, завярце́ў руку, і моцна занудзіўся, што гэтак адразу не ўдалося. Пайшоў, пасядзе́ўшы троху, на вуліцу, пачаў хадзіць па ме́сьце, аж бачу, на сьцяне́ вялізны маляваны аркуш папе́ры з нарысаванымі на ёй усялякімі зьвярамі. На вуліцы нікога ня было: усе́ людзі знаходзіліся пад зямлёй на рабоце. Толькі дзе́-ня-дзе́ баба якая пройдзе; ды паравыя машыны каля шахтаў чухаюць — выдыхаючы камкі бе́лага, як хмаркі, дыму і пары. Здавалася, што гара, як жывая, дыхаець.

Стаю я і ўглядаюся на тую папе́ру са зьвярамі і думаю сабе́, пе́ўна тут які зьвярынец. Аж выйшаў з дзьвярэй не́йкі нізенькі чарнамазы чалаве́к і пытае́цца ў мяне́ папольску, чаму я не на рабоце? — Ня маю работы, — кажу я яму. — А можа хочаш у мяне́ сягоньня ўве́чары зарабіць даляр? — Добра, — кажу я.

Тады ён павёў мяне́ ў сярэдзіну, паказаў мне́ свой цырк, дзе́ было шмат усякіх зьвяроў і кажа: — Толькі што ў мяне́ здох тыгра, а мне́ трэба ме́ць уве́чары тыгру на паказ, то я цябе́ адзе́ну ў скуру тыгры і ўпушчу ў гэтую кле́тку; ты хадзіць павінен на руках і на нагах і ляжаць так, каб выглядала якбы і запраўды быў тыгра, а за гэта дастанеш даляр.

Я паглядзе́ў у тую зяле́зную кле́тку, куды я павінен быў увайсьці тыграм. Там ніякага зьвяра ня было. Падумаў я крыху і згадзіўся.

Пад ве́чар мяне́ пачалі абцягаваць скураю тыгры, але ўсё так было добра зроблена, што мне́ добра было хадзіць на руках і нагах, і я ўсё мог бачыць. Прыйшла пара; упіхнулі мяне́ ў кле́тку, увайшоў я, пастаяў крыху, пацягнўўся, як мяне́ вучы
рабіць, і прыступіў бліжэй да кратаў, за каторымі стаяла ў
многа людзе́й, якія пачалі тыцкаць у мой бок пальцамі і
дзіўшыся ў мяне́ не́шта голасна гукалі. Калі я прыблізіў
крат, то ўсе́ борзда адхінуліся, відаць, перапалохаліся.

Якое-ж маё было рашчараваньне, як я аглянуўся
ўбачыў, што ў маёй клетцы ляжыць у кутку вялізны, к
ле́ў і так страшна ўглядаецца сваімі бліскучымі вачамі ў

Я гэтак спалохаўся, што ня мог устоіць на руках і нагах і паваліўся пад краты. Сэрца маё забілася, як птушка ў сілé, валасы пачалі лéзьці пераз скуру навéрх, а ўсё цéла пачало дрыжэць, як у вялікі мароз, уваччу зрабілася цёмна.

А лéў устаў, пацягнуўся і падходзіць да мянé. У мянé душа самлéла. Ляжу і ня дыхаю. І зрабіўся я ў гэты час з тыгры ня болей як чарвяк.—Ну, канéц мнé ўжо,—думаю сабé. Хацéў крычаць, але ня мог... Так, як хто сьціснуў мянé за горла. Чую, ужо лéў дакрануўся да мянé сваёй касматай грывай, ужо прылажыў сваю касматую морду мнé да шчакі. У мянé і духу няма... Аж чую, кажа мнé лéў на вуха:

— Ці гэты гад і табé плоціць толькі адзін даляр?

Тады пачаў я ізноў жыць.

У 12 гадзін ночы мянé разьдзéлі, далі мнé даляр, і я пайшоў дамоў.

**Аўрэйцэвіч.**

---

# Школа ў Беларусі да рэволюцыі.

## БІРКА.

### І.

Слова „бірка“ цяпéр забываецца, а ў старыну яго добра вéдаў кожны няпісьмéнны аконам, войт, ці лясьнік і кожны панскі прыгоньнік-мужык. Біркаю называлася палачка ці кавалачак шчэпкі, на якой нарэзы сьвéдчылі, хто колькі прывёз коп сéна ці вазоў жыта, хто колькі вывез з лéсу калод ці паставіў шурак дроў. К канцу 19-га сталéцьця бірка ў Беларусі блізка што зьвялася. Яна баўталася яшчэ толькі пры кавалку сукна ў сукнавальні, пры аўчынах у дубцы ці пры бабскіх матках у сінéльніка, каб па ёй, па нарэзах, пазнаць, чыё сукно, аўчыны ці маткі.

Можна ўважаць за пéўнае дзікунства выдумку асмолаўскага вучыцеля завéсьці бірку ў школе. Але вучыцель гэты надта здаволіўся ад свайго пляну і ажыцьцёвіў яго з налéжнай старанасьцю.

Пёкшы бульбу ў позны піліпаўскі вéчар, ён пры гарачым сьвятлé ад жару ў пéчы выстругаў ножыкам брусочак у паўлокця ўдоўжкі і ўпалец угрубкі. З кожнага боку зрабіў па тры нарэзы, налічыўшы да дванаццацёх. Цыфра да 10 азначалася лічбаю нарэзаных палачак, а 10—крыжыкам. Потым праці нарэзаў напісаў 12 беларускіх слоў, самых няпрыгожых для яго обмаскаленага вуха, а паімéнна: 1) як, 2) дык, 3) хай, 4) ёсьць, [illegible]няма, 6) нічога, 7) ён, 8) казаў, 9) але, 10) дабрыдзень, [illegible]обра, 12) дрэнна.

Пéршыя тры словы сурова забараняліся для ўжытку, пачы[illegible] з пéршага аддзялéньня, пéршыя шэсьць—з другога, а ўсé [illegible]як і наагул уся беларуская размова—у трэцім аддзялéньні.

Ураньні, на другі дзе́нь, як пачалі прыходзіць вучанікі, вучыцель стаў ля дзьвярэй і чакаў.

— Дабрыдзень!—сказала акуратная лясьнікова дачушка, бе́ленькая, бе́ленькая дзяўчынка, вучаніца з трэцяга аддзяле́ньня.

Настаўнік нічога не адказаў і прапусьціў лясьнічышку міма з насьме́шлівым паглядам.

Калі ўсе́ дзе́ці сабраліся, калі дзяжурны прачытаў „Цару нябе́сны“ і ў клясе стала ціха, настаўнік выйшаў на самы пасярэдак хаты, падняў бірку над галавою і сказаў гэткую прамову:

— Слухайце, дуб'ё! Як я ня ўчу вас гаварыць правільна,— вы ўсё якаеце і дыкаеце. Але я дам вам рады і навучу вас,—вырасшы падзякуеце мне́. Ве́дайце, што з той мужыцкай, хамскай мовою, якую вы ўме́еце ад сваіх матак і бацек, нідзе́ няма ходу, ні ў салдатах, ні на службе ў сьве́це, нідзе́. Бацькі вашы няўчоныя, дык і ня дзіва, а вас-жа на тое школяць, каб у людзі хоць троху вывесьці. Тымчасам, вы ніяк не адвыкаеце ад хамства. Во, да прыкладу, Маня Лясьнікова... Бацька яе́ пры панох часта бывае, у сьве́це быў, гаворыць нішто сабе́, і сам прасіў, каб я Машу навучыў-ткі гаварыць правільна. Тымчасам, яна сяньні прышла і бухнула мне́: „Дабрыдзень!“ Як трэба?—грозна падыйшоў ён да зьбяле́лай, аж пасіне́ўшай ад страху дзяўчынкі.

Тая маўчала.

— Ну?!

У яе́ накруціліся сьлёзы, яна ўтупіла вочы. Уся кляса замёрла.

— Ну?!

— Мама папросту гаворыць...—прашаптала лясьнічанка і сударжна захліпала. Яна баялася, што за гэта вучыцель не дапусьціць да экзаментаў.

— Ах, ты, дура паласатая!—сказаў на яе́ вучыцель так, як навучыўся гаварыць, пабыўшы „ў сьве́це“.

— Слухайце-ж дале́й, дуб'ё!—узноў зьвярнуўся ён да ўсіх дзяце́й.—Вось вам будзе добрая цацка. Пакуль што я вызначыў дванаццаць благіх слоў. Як ад іх адвучу, тады адмяню на другія. Хто пе́ршы скажа ў клясе адно з гэтых слоў, гле́дзячы ў якім аддзяле́ньні яно ўжо забараняецца, таму даю бірку. Калі ён хоча адчапіцца ад яе́, няхай перадасьць таму, ад каго сам пачуець забароненае слова. У каго бірка застане́цца к абе́ду, той застае́цца без абе́да, у каго застане́цца к канцу дня, той застае́цца сядзе́ць у клясе да ве́чара. Цяпе́р навучэцеся тых слоў, якіх трэба высьцярагацца. Для усіх аддзяле́ньняў: як, дык, хай. Скажэце ўсе́ па колькі разоў гэтыя словы, ну!

— Як, дык, хай! Як, дык, хай! Як, дыкхай, якдыкхай, якдыкхай, якдыкхай—усё шпарчэй і галасьне́й чулася ў клясе. Адны хыкалі, быццам кашляець аве́чка: дыкк, дыкх... адны гаўкалі, як ганчакі ў ле́се: яўк, яўк, яўк! адны разагналіся на ўсю сілу і чахалі, быццам колы пад вагонамі на ўсім ходзе поезда: дыкхта, дыкхта, дыкхта!..

Вучыцель пагуляваў сярод клясы з прыемнасьцю і лёдзь хаваў сьмех. Навет шмат каму з хлапцоў зрабілася вясёла ад гэтае вучыцельскае выдумкі, і яна ім не здавалася страшною, бо кожны спадзяваўся лёгка сьпіхнуць яе з рук.

— Ціха-а!..

Усе змоўклі. Тады настаўнік падыйшоў да першага аддзяленьня і спытаўся парасейску ў краўцовага Іванькі:

— Ён бег, як заяц... Ну, скажы, як ён бег?

Настаўнік спадзяваўся пачуць жаданае „как“, але Іванька скокнуў з лаўкі, стаў, троху задумаўся, ня ведаўшы добра, чаго ад яго хочуць, а потым бойка і вясёла крыкнуў тонкім галаском з-пад лаўкі:

— Нехта бег, як заяц!

Усё трэцяе аддзяленьне і некаторыя хлопцы з другога зарагаталі. Настаўнік зморшчыўся.

— Ах, ты, ёлуп!—сказаў ён на Іваньку.

— Ну, якія простыя словы забараняюцца ў вашым аддзяленьні, пералічы, га?

Але як ён ні чапіўся да яго, Іванька цьвёрда маўчаў, як слова заняме́ў. Настаўнік пакруціў яго крыху за вуха і кінуў.— Ну, ты,—зьвярнуўся ён да другога, да Панаські Міхасёнка.

— Як здыхаў!—адказаў той.

Уся кляса зарагатала, асабліва дурнаваты Міхалка з трэцяга аддзяленьня. Калі троху сьціхла, вучыцель абвёў вачмі дзяцей, і шмат рук узьнялося ўгару ў знак веданьня. Ен гукнуў тады колькі хлапцоў з трэцяга аддзяленьня і даручыў ім навучыць першагоднікаў, якіх слоў ня трэба казаць, каб не схапіць біркі ў рукі, а сам заняўся тым-жа спосабам з другім і трэцім аддзяленьнем. Бірку аддаў лясьнікоўне за „дабрыдзень“.

II.

Той, хто ўчыўся ў асмолаўскай школе граматы за гэтым панам настаўнікам, або гаспадзінам вучыцелем, пеўна, да самае сьмерці будзе ведаць, што за штучка была бірка, яго выдумка. Адно шчасьце, што пажыла яна нядоўга, да Вялікадня ў тым годзе.

Колькі з-за яе пралілося горкіх дзяціных сьлёз, колькі выдзерта віхроў, пабіта рук лінейкамі, намуляна бедных кален гарохам і колькі сварак адбылося між самымі блізкімі таварышамі.

Яшчэ ў першым-другім аддзяленьні можна было выкруціцца ад боскай кары. Рэдка заставаліся малыя без абеда з біркаю ў руках за якое-небудзь „дык“ або „няхай“. Але астатні год—прост хоць у пятлю галавою. Здаецца, так стараліся ўсе гаварыць правільна, але кожны-ж Божы дзень у нечых руках заставалася „дудка“, як жартам празывалі бірку.

І панавала над беднымі „простамоўнымі“ дзеткамі страшная бірка, як біч божы. Іншы раз пакараныя вучні з пужлівай пытлі-

васьцю доўга ўзіраліся на гэты кавалак палкі з усіх бакоў, нічога асаблівага ў ім не знаходзілі, але яшчэ болей набіраліся дурнога ўпуду ў адносінах да яе́. Бірка увасобілася ў дзяціных думах у розныя страшныя абразы. Ме́ншыя дзе́ткі прост ве́рылі, што ў палцы сядзіць злы дух, запраданы чараўніку-вучыцелю, і толькі з няволі, баючыся, дакраналіся да яе́ і з агідаю бралі яе́ ў сваé неразумныя ручкі.

І хто-б мог рахаваць, што бірка загіне так-жа неўспадзе́ўкі, як і звалілася на дзяціныя вучнёўскія галовы; што кане́ц яе́ будзе бясславўны, а для настаўніка навет дужа прыкры. Толькі шкада, што загубіўшы бірку, загубіў і свой атэстат аб навуцы Міхалка, дурнаваты хлапе́ц, надта дрэнны, слабы вучанік, але добры чалаве́к і шчыры таварыш. Вучыўся ён, нябога, здае́цца, гадоў пяць ці шэсьць, у кожным аддзяле́ньні се́дзячы па два гады, а ўсё з-за таго, што ніяк ня мог наламацца „паправільнаму“. Ня дзіва, што выпадалі такія дні, калі бірка не выходзіла з яго рук. Міхалка зрабіўся з-за яе́ папіхачом навет першагоднікаў, асабліва тых, чые́ бацькі пабывалі „у сьве́це“, а гэта, значыцца, самых сваволных і зласьлівых дзе́так. Навет мале́нькі Лявонька колькі разоў усунуў вялікаму Міхалцы ў рукі праклятую бірку, пакуль не пераве́рыўся, што сьме́ху ў гэтай справе зусім мала, бо Міхалка плакаў. Што-ж! ня кожнаму дзіцёнку, як Лявоньцы, могуць прывазіць з кірмашу кніжкі з размалёванай у розныя калёры вокладкай. Але вучнёўская чэрнь гэтага разуме́ць не хаце́ла і сваім рогатам патурала выдумцы настаўніка, калі бе́дны Міхалка стаяў ля пе́чы на кале́нях і з біркаю ў руках, як пабожны пан у касьце́ле са сьве́чкаю. Міхалка быў адзін з сваім горам, і сэрца яго краілася ад крыўды. Бацькі ўдаму і тыя крычэлі на яго, што дрэнна вучыцца,—каб яны самі ве́далі, спрабавалі, як гэта лёгка наламацца гаварыць папанску.

Настаўнік ня любіў Міхалку за тое, што Міхалка не прызнаваў ніякае далікатнасьці ў размове.

Ён так затукаў хлопца, што бе́дны вучанік згубіў надзе́ю здаць экзаменты. На тым грунце і адбыўся бунт, у рэзультаце якога пагінула бірка. Інача́й Міхалка, як думалі ўсé вучанікі, ніколі-б не адважыўся на падобнае грубіянства.

Пачалося з драбніцы.

— Да сьвіданьня! — казалі вучанікі, ідучы дамоў. І ў гурбе ціха жартавалі: „Да сьвістаньня“! Таго шэпту настаўнік ня чуў. А Міхалка ці-то жартам, ці то здуру бракнуў пад самым носам вучыцеля: „Да сьняданьня, гаспадзін вучыцель“.

— Застане́шся да цёмнага! — зьдзе́ржыў яго настаўнік,—маеш бірку.

— За што? Я ні ў чым не абмыліўся! — стаў хныкаць хлапе́ц. Вучні застанавіліся.

— Ну, йдзі ды бале́й ня дурэй,— наўзьдзіў зьмякчыўся настаўнік гэтым разам і пусьціў Міхалку.

Як на тое ліха, быццам чорт уле́з у хлопца. Ён выскачыў

з таварышамі на вуліцу, забыўся аддаць бірку, і тут прыставіў яе́ к лобу, скрывіўся, знамяніта прадставіўшы настаўніка, і сказаў:

— Да сьняданьня, гаспадзін вучыцель!

А ня ўглѐдзіў бе́дны, што ня ў клясе быў настаўнік, а выйшаў сьле́дам паглядзе́ць, як будуць расходзіцца. Пабачыўшы, як дражніцца нялюбы яму вучанік, ён счырване́ў прост на каліну, адылі раптам падскочыў да яго і даў моцнага каршня. Міхалка зарыўся носам.

— Давай кніжкі! Давай кніжкі! — хроп настаўнік і выдзіраў кніжкі з яго абпэцканай торбачкі.

Адабраньне кніжак азначала тут самы гане́бны абшыд. Кар'е́ра Міхалкі гінула, стараньні пяцёх гадоў прападалі марна, без аніякага пасьве́дчаньня.

Тады хлапе́ц як-бы здурэў. Схапіўся на ногі, паставіў бірку на кале́на і з шалёнай злосьцю, пераламіў яе́ — раз! потым: адзін кане́ц папалам, другі кане́ц папалам. Патрышчыўшы, схапіў кавалкі і кінуў на дрывотню. Усе́ скамяне́лі. А Міхалка заплакаў і пайшоў дамоў са школы астатні раз.

І ўжо пасьля гэтага настаўнік новае біркі не зрабіў і аб Міхалцы ніколі не спамінаў.

**Максім Гарэцкі.**



# ЗЬМЕСТ.

## АДДЗЕЛ I.

## АДДЗЕЛ II.

## АДДЗЕЛ III.

